

Новае папаўненне калгаснай сям'і — брыгадзір трактарнай брыгады Міхаіл Вайняловіч (злева) і Мікола Грыб, якія ўступілі ў калгас імя Ільіча Мінскага раёна пасля рэарганізацыі МТС.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



5 (63)

Май,

1958.

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-8-54.

Рукапісы не вяртаюцца.

АТ 04662. Здадзена ў набор 1. IV.58 г. Падпісана да друку 5.V.-58 г. Заказ 195.

Фармат паперы $70 \times 108/_{16}$. Друк. арк. 10. Вуч.-выд. арк. 12. Тыраж 12.000 экз. Цана 4 руб.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Ніл ГІЛЕВІЧ

# МАЙ



Адзвінеўшы ледзянымі крыгамі,
Уляглiся рэчкі ў берагі.
Прывітаны радаснымі крыкамі,
Бусел робіць першыя кругі.

Даль, прамытая дажджамі цёплымі,
Ясным вырысам зноў лашчыць зрок.
Краскі яркія на ціхім поплаве
Усміхаюцца яшчэ здалёк.

Ты ідзеш абсохшаю абочынай
Пакланіцца руням маладым.
Над палямі—жаўранкі нязмоўчныя,
Над дубровамі—зялёны дым.

Адусюль нясе знаёмым водарам —
Мілым сэрцу водарам вясны.
Адусюль плывуць яе мелодыі —
Крык, і смех, і звон, і гул лясны.

На душы—прасторна, лёгка, весела:
Май ідзе па ўсім зямным шары!
І ва ўсіх краях твае равеснікі,
Незнаёмыя твае сябры.

Гэтак сама радуюцца зелені,
Сонцу яснаму над галавой,
Небу сіняму, палям засеяным,
Шэпту ліўняў з лісцем і травой.

Як і нам, з усіх грымот ім хочацца
Толькі той вясёлы слухаць гром,
Што пупышцы памагае лопацца,
Каб хутчэй раскрылася лістом.

Алесь АСІПЕНКА

# ВЯСНОВЫЯ МАТЫВЫ

Рэпартаж

### Размова па шчырасці

За акном рагатала завіруха; насміхалася з бюро надвор'я, якое аўтарытэтна дакляравала вясну з другой паловы сакавіка. Халодны, парыўны вецер кідаў цэлыя прыгаршчы калючага снегу, надакучліва стукаў аканіцай. Траскучы мароз размаляваў шыбы дзівоснымі ўзорамі нянаскіх кветак, прыпудрыў іх густым пластом інею.

У пакоі зрабілася цёмна. Хтосьці неахвотна ўстаў, павярнуў выключальнік. Невялікая электрычная лямпачка разагнала па закутках шэрыя вячэрнія прыцемкі. Адразу стала відаць, што ў пакоі вельмі накурана; бурыя клубы тытунёвага дыму важка плавалі пад столлю, шызай смугой засцілалі твары людзей.

Калгаснікаў сюды сабралася шмат: у маленькім пакойчыку старшыні калгаса недзе было павярнуцца. Людзі сядзелі на мяккай старэнькай канапе, на крэслах, стаялі, прытуліўшыся адзін да другога. У пакоі вісеў шматгалосы гоман, хоць гаварыць стараліся па парадку. Але дзе там утрымаешся, калі размова закранае кожнага з тых, хто выпадкова ці не выпадкова трапіў у цесны старшынёў пакой.

Народ тут сабраўся цікавы. За сталом у доўгім да пят кажусе важна сядзіць старшыня калгаса Міхаіл Андрэевіч Жарэбчанка. Ён толькі што прыехаў з раёна, на вялізным каўняры яго кажуха яшчэ нават не растаў снег. Старшыня аднак паспеў ужо далучыцца да дружнай кампаніі курцоў і, мусіць, болей другіх надыміў, бо курыць ён, проста скажам, не ўмее.

Прыхіліўшыся да вушака, стаіць высокі, прапахлы бензінам і мазутай брыгадзір трактарнай брыгады Мікалай Кавалёў. На канапе, па-дзявочаму, бачком, сядзіць Антаніна Буднікава, камсамольскі сакратар. Непадалёку, асядлаўшы крэсла, узацяжку курыць намеснік старшыні калгаса Іван Рыгоравіч Карповіч. На краі стала з паперамі ў руках прымасціўся аграном Іван Ануфрыевіч Равінскі. Тут жа інструктар райкома камсамола Аркадзь Кабрусеў, калгасны заатэхнік Марыя Казлова, трактарыст Валянцін Цішкоў і другі трактарыст Дзямід Нікіфаравіч Цітарэнка.



Гутарка то патухае, то зноў загараецца вясёлым агеньчыкам спрэчкі. Сёння яна кружыцца вакол адной тэмы: рэарганізацыі машынна-трактарнай станцыі. Здаецца, усё перагаворана, усё абмеркавана, але зноў і зноў людзі вяртаюцца да гэтай надзённай і вельмі цікавай тэмы. Падыходзяць да яе з розных бакоў, стараюцца з розных пунктаў глянуць на справу, асэнсаваць велічнасць і мудрасць партыйнага рашэння, знайсці адказы на ўсе пытанні. Толькі правільна ўсё асэнсаваўшы, можна свядома і горача брацца за справу. Дык лепш усё абмеркаваць, пра ўсё пагаварыць і дагаварыцца, усё прадугледзець, на ўсё даць правільны адказ. Таму так заўзята і шчыра гавораць людзі.

— Ты, Дзямід, спрачаешся тут, даказваеш, што МТС вялікія заслугі мае. А я табе такі выпадак раскажу, — зацягнуўшыся дымам, кідаецца ў вір спрэчкі намеснік старшыні калгаса Іван Рыгоравіч Карповіч. Дзямід Цітарэнка добра ведае, які козыр прыгатаваў намеснік старшыні, але ён маўчыць і толькі ледзь усміхаецца сінімі добрымі вачыма. — Дык вось, не стала неяк у нас святла. Не помню, сапсавалася там што ці на станцыі нас адключылі, а толькі спыніліся раптам маторы. Гэта здарылася якраз надвячоркам, калі трэба было кароў паіць. Прыбягаюць да мяне дзеўкі. Так і так, значыцца,

**Перад выездам у поле.** Злева направа: сакратар камсамольскай арганізацыі Антаніна Буднікава, брыгадзір трактарнай брыгады Мікола Кавалёў, ветэрынарны ўрач Ала Смірнова, заатэхнік Марыя Казлова, старшыня калгаса Міхаіл Андрэевіч Жарэбчанка, аграном Іван Ануфрыевіч Равінскі абмяркоўваюць план веснавых работ.



выручайце, Іван Рыгоравіч, жывёла няпоенай застанецца. Што рабіць? Раптам чую, затарахцеў трактар і змоўк. Я на вуліцу, дзеўкі за мной. Падбягаю да трактарыстаў. Абодва нашы, вясковыя, помню, як яны яшчэ хлапчукамі па вуліцы бегалі.

«Хлопцы, — прашу я іх, — памажыце гору, накачайце вады са студні».

Сядзяць хлопцы, пакурваюць і ні з месца. Хоць на калені перад імі станавіся. Дзеўкі мае таксама хорам іх просяць. Ну, дык на тых яны наогул нуль увагі.

«Ці маеце, — кажу, — сумленне? Трыста кароў няпоеныя застануцца. Чорт жа яе ведаў, што электрычнасці не стане. Гэта ж цяпер да паўночы не ўправішся, а вам работы на некалькі хвілін».

«Нам, — адказваюць яны мне, — да вашых кароў ніякай справы няма. У нас свой план ёсць, і за яго мы галавой адказваем».

«Хлопчыкі, — малю я іх, — дык хіба ж мы не ў адной дзяржаве жывем, хіба не аднаго дамагаемся? Каровам жа няма справы да таго, што яны ў вашых планах не прадугледжаныя. Яны піць хочуць».

«Яно і сапраўды так, але ж у нас сваё начальства ёсць, і як яно на наша самаўпраўства паглядзіць, таго мы не ведаем, — гавораць яны мне. — Ды і як вы нам за гэтую працу запішаце? Нормамі яна не прадугледжана. Потым перавыдатак гаручага ў нас будзе».

«Я, хлопцы, — кажу, — на ваш рахунак запішу колькі хочаце гектараў мяккага ворыва, толькі выручыце».

Усміхнуліся трактарысты.

«Ты, — кажуць, — нас на злачынства штурхаеш. Вазьміце дазвол у дырэктара МТС, або хоць у брыгадзіра, дык мы ўсю ноч гатовы ваду качаць».

Намеснік старшыні калгаса раптам звяртаецца да брыгадзіра трактарнай брыгады:

— Было такое, Мікола, ці не?

Брыгадзір Мікола Кавалёў неахвотна ківае галавой у знак згоды, але тут жа стараецца растлумачыць, што трактарысты маглі накачаць вады і без асобага дазволу. Нічога ім за гэта не было б, хоць, вядома, дагавор, — аснова ўсяго.

— Горш таго, — падхоплівае аграном Равінскі. — Дагавор быў законам. А глядзіце, як ён складаўся. Там усялякіх работ было патроху: і ворыва, і культывацыя, і сяўба, і зябліва, і жніво, і малацьба. А што яшчэ трэба было рабіць, гэта ўжо звышпланавае выкананне і плаці прагрэсіўку. А хіба ў гаспадарцы ўсё прадугледзіш, што сёння важней зрабіць, а што заўтра. Вось і атрымлівалася, што тэхніка багатая, перадавая, а выкарыстоўвалася яна няпоўнасцю і часта не на галоўных участках.

— Гэта праўда, Ануфрыевіч, — падтрымала агранома заатэхнік. — Партыя заклікала нас, жывёлаводаў, дагнаць Амерыку. МТС нас абыходзіла, трактарамі мы не карысталіся, а яны нам вось як патрэбны. Яшчэ толькі праект аб рэарганізацыі МТС паявіўся, а мы і то палёгку адчулі. Вось сёння Якаў Кабаеў на трактары сілас вазіў. Глядзіце, наколькі лягчэй даяркам.

— Цяпер, калі мая машына загразне, — смяецца старшыня, — дык без спрэчак будзеце выцягваць з гразі.

Жарэбчанка жартаўліва грозіць у бок механізатараў пальцам. Усе пры гэтым прыпамінаюць выпадак, калі аднаго разу забуксавала старшынёва машына, а трактарысты адмовіліся выцягваць яе з гразі сваім трактарам. Той малюнак выклікае цяпер незласлівую ўсмешку нават у самога старшыні, хоць тады ён быў да таго раззлаваны, што кляўся гэткім жа чынам адпомсціць і трактарыстам, калі яны загразнуць вясною на сенажаці.



Дзямід Нікіфаравіч Цітарэнка, які дасюль маўчаў, хітравата пабліскваючы сваімі васільковымі вачыма, зноў загаварыў. Усе прыціхлі, чакаючы нечага цікавага. Дзямід Нікіфаравіч — старэйшы з механізатараў вобласці. Разам з Тарасам Сцяпанавічам Кабрусевым, бацькам інструктара райкома камсамола, ён пачынаў вадзіць першыя трактары ў гэтых мясцінах.

— Дык я зноў за сваё. Вялікая справа — гэтая МТС. Хоць, вядома, было многа чаго такога, што перашкаджала нашай рабоце, агульнай справе. Зусім правільна зрабіў урад, ліквідаваўшы МТС. А толькі нельга так, таварышы. Вы ўсім гамузам навАліліся на МТС, жорстка крытыкуеце яе недахопы. А вось сядзіць Тоня Буднікава і, напэўна, думае: і тое дрэнна было, і гэтае дрэнна. Адным словам, МТС толькі замінала калгасам. Тоня ж не помніць, чым была для нашай вёскі МТС. Хочаце, ці не хочаце слухаць, а я вам напомню, каб і моладзь, што тут прысутнічае, ведала, якую вялікую справу зрабіла МТС для нас, сялян... Я тады яшчэ зусім бязвусым хлопцам быў, калі ў Кісялёве саўгас утварыўся. Самі ведаеце, як мы жылі. Вось я і падаўся ў саўгас. Быў я тады хлопцам шустрым, не тое, што цяпер. А разгону асаблівага не было. Гэтак жа калупаліся ў зямлі, як і ў сябе дома. Адно што поле без межаў. І вось неяк прайшла чутка, што нам хутка прышлюць трактар. А што гэта такое, ніхто не ведаў. Адны казалі, што гэта аўтамашына такая, другія, — што трактар той жа бранявік, толькі без абшыўкі, а плугі да яго прывязваюцца звычайныя і трэба будзе за ім следам хадзіць, гэтак жа, як за канём.



**Старшы трактарыст Дзямід Цітарэнка (справа) і яго напарнік Валянцін Цішкоў, якія будуць працаваць у калгасе імя Леніна.**

Аднаго разу паклікаў мяне дырэктар саўгаса.

— Атрымалі мы, — кажа, — трактар. Цябе за трактарыста прызначаем. Паедзеш з механікам на станцыю, атрымаеш яго. Ды глядзіце ў мяне, каб усё ў поўным парадку было. Гэта вам не проста машына, а палітыка партыі на вёсцы.

Прыехалі мы на станцыю, глядзім, стаіць на калёсах нейкая нізенькая машына з доўгай трубой. Ну, тады, па шчырасці, яна нам здалася магутнай і вялікай. «Фардзонам» той трактар называўся. Двое сутак корпаліся мы ў ёй, вывучалі ўсё. Ведама ж, курсаў тады не было, школ механізацыі і ў сне не снілі. Завёў ме-

ханік, пайшла машына. Прыгналі яе ў саўгас ноччу, днём баяліся, каб чаго не здарылася. А назаўтра трэба садзіцца за руль. Раніцай завіхаюся я каля трактара, а ў самога паджылкі трасуцца. Думаю, ну, як не завядзецца трактар або яшчэ што здарыцца. Скажу вам, што, далібог, я, мусіць, больш хваляваўся за тых вучоных, што спадарожніка Зямлі запускалі. Ды тады, калі хочаце ведаць, трактар меў не меншае значэнне за сучасны спадарожнік Зямлі. Няхай бы што здарылася, дык кулакі і розныя там ворагі такога нагаварылі б, што не хутка потым пераканаў бы селяніна ў адваротным. Адным словам, трэба было вытрымаць марку.

Пачаў я трактар заводзіць, усе адбегліся, спалохаліся, відаць, думалі — узарвецца машына. Але ўсё сышло добра. Паехаў на поле, і ўсе за мной. І глыбіню баразны мералі, і следам хадзілі, а колькі размоў было, колькі брахні распускалася.

Дзяміда Цітарэнку перабіў нехта з калгаснікаў.

— То ж ты пра саўгас расказваеш, а гаворка пра МТС ішла.

Стары механізатар спакойна заўважыў:

— Зараз і пра МТС скажу. Канешне, праўду Ануфрыевіч казаў наконт плана. Я нават больш скажу. Па дзяржаўных нормах мы, напрыклад, павінны закончыць уздым зябліва да 20 кастрычніка. Самі разумееце, што іншы раз па тутэйшых умовах гэта зрабіць немагчыма. Ну, і пачынаеш выкручвацца, заганяеш папар у зябліва, абы прэміяльныя атрымаць. Або, напрыклад, з так званым закрыццём вільгаці на зябліве. Па нормах гэта трэба зрабіць за два дні. Можа, для Украіны гэта і правільна. Але ў нас у поле ў гэты час не выйдзеш. Зноў атрымліваецца няўвязка. А толькі на тое, што рабіла МТС, трэба інакш глянуць.

Пасля «Фардзона» перасеў я на «ХТЗ». Зноў у баразне трактар вывучаў. А тут пачалі пагаворваць пра калгасы ў вёсцы. Спачатку ж не ўся Гусевіца пайшла ў калгас, адны бедныкі сарганізаваліся. Дык ім трактар дазарэзу быў патрэбны. Але ж тады ў калгасе не шэсць мільёнаў даходу было, як цяпер, а можа якіх тысяч трыццаць у год. Дык хіба мог такі калгас трактар купіць? Не. Дзякуй, што партыя МТС стварыла. Вось тут, у Гусевіцы, я разам з Тарасам Сцяпанавічам межы руйнаваў. Тады такіх размоў і ў паміне не было, што, маўляў, машыну не дапамаглі з гразі выцягнуць. Бо і машын тады ў старшынь не было. Багацеем мы, таму і патрабаванні выраслі. Вось некалі спачатку адзін, потым два трактары гэты самы калгас абслугоўвалі, і ўсе задаволены былі. А цяпер тут дзве брыгады — дванаццаць трактараў, а вы на яшчэ большае замахваецеся.

— Дык хіба ж гэта дрэнна? — усміхнуўся старшыня.

— Не, добра. Таму партыя і палічыла неабходным перадаць тэхніку калгасам. Цяпер мы на ногі сталі. Кадры ў нас выраслі. Некалі мы з Тарасам удвох усляпую да гэтай тэхнікі ішлі. А цяпер глядзі, чалавек дваццаць адных трактарыстаў у вёсцы назбіраецца. Ды механікі, ды токары, слесары, электразваршчыкі. Во колькі новых спецыяльнасцей паявілася. А ўсё таму, што МТС пабач была. Адсюль ішло пераўтварэнне вёскі.

Дзямід Нікіфаравіч змоўк. Маўчалі і астатнія. Мусіць, старэйшым прыгадалася былая Гусевіца з яе вузкімі палоскамі, беднасцю і вечнай бясхлебіцай, а маладзейшыя зайздросцілі Дзяміду Цітарэнку, што яму давялося шмат пабачыць на сваім вяку.



Потым загаманілі ўсе наперабой. Кожны або ўспамінаў былое, або прыводзіў новыя доказы велізарнай ролі, якую адыгралі МТС у калгасным будаўніцтве.

— Цяпер нам не будзе на каго звальваць свае няўдачы, — зазначыў старшыня калгаса. — Трэба брацца за справу. Мы асабліва на моладзь спадзяемся. Як, камсамольскі сакратар, не падвядзеце нас? — звярнуўся ён да Тоні Буднікавай.

— Дасюль не падводзілі, і далей не падвядзем, — адказала яна.

Размова неяк сама скіравалася да тых задач, планаў і мараў, якія выношвае кожны калгаснік сельскагаспадарчай арцелі імя Леніна.

### На ўздыме

Гады тры-чатыры назад калгас імя Леніна называлі адстаючым. За гэтым словам хавалася вельмі многае: недахоп кармоў для жывёлы, малая прадукцыйнасць фермаў, нізкія ўраджаі і мізэрная аплата працадня. У раёне ламалі галаву над тым, як дапамагчы калгасу. Справа ўпіралася ў адно: калгас не мае сенажацяў і выпасаў, таму няма як разводзіць жывёлу, а без жывёлы няма гною, без гною няма ўраджаю збожжавых, без ураджаю няма аплаты працадня, а без аплаты няма і дысцыпліны. Гэта быў зачараваны круг, у які ступілі адразу і новы старшыня калгаса Жарэбчанка і новы аграном калгаса Равінскі. Так, як і ў гэты сакавіцкі вечар, і тады збіраліся калгасныя актывісты, каб абмеркаваць адно агоркшае пытанне: з чаго пачаць? Але калі цяпер усё зразумела, калі цвёрда вызначаны кірунак агульнага наступлення, дык тады многае ўявіць было надта цяжка.

У спрэчках нараджаўся той план агульнага ўздыму гаспадаркі, які дзейнічае і па сённяшні дзень.

Кажуць, што калі аграном Іван Ануфрыевіч Равінскі на пытанне, што павінна выцягнуць калгас з адстаючых у перадавыя, сказаў адно толькі слова — травы! — многія паглядзелі на яго з незахаваным здзіўленнем і нават асуджэннем.

Але пасля таго, як гэтае слова — травы — пачало паўтарацца ўсё часцей і часцей, усмешкі прапалі нават у самых заядлых недаверкаў.

Травы!

Смешна здавалася гаварыць пра травы ў той час, калі ў калгасе неставала хлеба.

— Хлеба! — патрабавалі калгаснікі.

— Будзе хлеб, — адказваў аграном.

За яго стаялі старшыня калгаса, многія члены праўлення, травяная праблема перацягвала на іх бок і калгаснікаў, асабліва моладзь.

Сама па сабе ідэя была не новай. Аграномічная навука аўтарытэтна заяўляе, што ўвядзенне сеяных траў у палявыя севазвароты можа прынесці адчувальныя зме-

Трактарыст Янаў Кабаеў цяпер часта дапамагае жывёлаводам калгаса.



ны ў эканоміцы калгаса. Нажаль, гэты агранамічны тэзіс вельмі неахвотна прымяняецца ў практыцы нашых калгасаў. Недахоп насення, недавер'е і простая баязлівасць становяцца на шляху найбольш прагрэсіўнага метаду ўздыму ўсёй гаспадаркі.

Кіраўнікі калгаса імя Леніна аказаліся людзьмі сапраўды новымі: ініцыятыўнымі, настойлівымі, упартымі і ўлюблёнымі ў навуку. Яны разважалі так. Падсеў траў па азімых нявыгадны па розных прычынах. Сеюць іх звычайна вясной, уручную. Насенне дрэнна прыкрываецца зямлёй і таму ўзыходзіць нераўнамерна, зашмат гіне. Азімыя хутка зацяняюць травы, і яны не растуць. Таму ўраджаі траў малыя.

— Давайце сеяць травы па яравых, — сказаў аграном. — Мы зможам высяваць іх разам з яравымі сеялкай, трэба толькі спецыяльнае высяўное прыстасаванне.

— Травы заглушаць яравыя, — сумняваліся некаторыя калгаснікі.

— Наадварот, яны будуць садзейнічаць росту, рыхліць глебу, — адказваў аграном, прыводзячы ў доказ свае ўласныя эксперыменты на прысядзібным участку. — Затое мы атрымаем высокі ўраджай траў, бо яравыя звычайна сеюцца па бульбянішчу.

— А як жа быць з жытам?

— Папары мы засеем лубінам.

— Ну, добра, — не здаваліся недаверкі, — але ж летам усёроўна недзе будзе пасвіць жывёлу, калі вы хочаце павялічыць пагалоўе.

— Засеем балоты, хмызнякі, непрадукцыйныя лугі, — у агранома на ўсё знаходзіўся глыбока абгрунтаваны адказ.

Гэта пачалося ў 1956 годзе. Усю зіму старшыня, аграном, брыгадзіры па каліву збіралі насенне канюшыны, цімафееўкі, лубіну. Увесну адразу было засеяна 525 гектараў. З трывогаю чакалі людзі вынікаў свайго смелага вопыту. Але яравыя раслі цудоўна, добра раслі і травы. Ураджай пшаніцы, ячменю, аўса быў значна вышэй, чым у мінулыя гады. Затое ўпершыню калгас меў дастаткова корму для жывёлы. Увосень скасілі салодкі лубін, заклалі сілас. А на папарах пасеялі жыта. У мінулым годзе на гэтых папарах было атрымана па 22—27 цэнтнераў жыта. У гэтым жа годзе было сабрана 273 цэнтнеры насення. Для патрэб калгаса пакінута 90 цэнтнераў, а астатняе насенне прадана. За яго выручана 300 тысяч рублёў грашыма і 600 цэнтнераў хлеба. Гэта быў відавочны козыр. Новая практыка перамагла рашуча і пераканаўча.

Нажаль, у рэпартажы не прынята прыводзіць мноства лічбаў, хоць яны куды больш пераканаўчыя за прыгожыя словы. Усё ж некаторыя з іх варта прывесці.

У 1955 годзе калгас сабраў 5 130 цэнтнераў сена, ім ледзьве пракармілі 250 кароў. Ад кожнай з іх надоена па 1 140 кг малака. У 1957 годзе калгас накасіў сена 20 000 цэнтнераў. Гэтага хапіла на 320 кароў. Ад кожнай каровы было надоена па 2 720 кг малака.

У 1955 годзе з гектара ў сярэднім сабралі па 7 цэнтнераў збожжавых, у 1957 годзе — па 12,8 цэнтнера. Павялічыўся ўраджай ільну, бульбы. Даход калгаса вырас у два разы. Больш чым у два разы атрымалі калгаснікі хлеба, бульбы, па 8 рублёў грашыма.

Калгас цвёрда стаў на ногі.

Ці магчымы былі гэтыя карэнныя пераўтварэнні без дапамогі МТС? На гэтае пытанне кожны адказваў, не задумваючыся:

«Вядома, не, — але тут жа дадаваў. — Толькі цяпер мы прымусім тэхніку працаваць у дватры разы лепш, прыменім яе там, дзе раней не маглі прымяніць».



І вось, пачуўшы ўпершыню такі адказ, я вельмі добра зразумеў той крытычны запал, які здзівіў мяне ў той завейны сакавіцкі вечар, калі калгаснікі гэтак бязлітасна крытыкавалі дзейнасць МТС. За апошнія гады калгасная гаспадарка так далёка пайшла наперад, што машынна-трактарным станцыям стала зусім немагчыма прадугледзець усе работы, якія трэба перш за ўсё выканаць у калгасе. І я міжволі яшчэ раз падзівіўся незвычайнай празорлівасці нашай партыі, яе ўменню заўважаць найменшыя змены ў гаспадарчым жыцці. Цяпер ініцыятыва калгасаў атрымала новыя магчымасці. Справа толькі за людзьмі.

### За намі справа не стане

Цяпер, калі вы чытаеце гэтыя радкі, героі нашага рэпартажу, напэўна, ужо кончылі сяўбу і неабсяжныя палі калгаса зеленеюць свежай рунню. А тады на палях было многа снегу, крутыя перавалы заміналі хадзіць і ездзіць, завейныя дні змяняліся кароткімі адлігамі. Стаяла халодная зіма. Але вясна адчувалася. Не, не ў прыродзе, а ў людзях, у іх настроі, у іх гарачым жаданні хутчэй рынуцца ў бой за ўраджай, паглядзець, як гэта сёлета пойдзе справа.

— Сёлета ямчэй у нас пойдзе работа, — казаў нам старэйшы трактарыст Дзямід Цітарэнка.

— Дзіва што, калі партыя адкрыла нам такі простар, — падтрымаў яго Валянцін Цішкоў. — За намі, трактарыстамі, справа не стане.

— А за кім жа? — здзіўлена перапытала камсамольскі сакратар Антаніна Буднікава.

— За вамі, — адказаў за Валянціна старшыня калгаса. — Восемдзесят камсамольцаў — гэта сіла.

— За намі таксама справа не стане. Звеннявыя па ільну ўжо далажылі пра поўную гатоўнасць. Хоць заўтра гатовы выязджаць у поле. Ды вось няхай Соня Каперзава скажа.

— Мы гатовы, — пачырванела Соня, калі ўсе позіркі скіраваліся на яе.

Гатовы і другія звенні, дзе шмат маладых, дасціпных, старанных дзяўчат. Выкарыстоўваючы кожную гадзіну, дружна працавалі маладзёжныя брыгады па нарыхтоўцы ўгнаенняў. Іх узначальвалі сакратары брыгадных камсамольскіх арганізацый. Першынства трымала брыгада Леаніда Кірпічова.

Трактарысты добра адрамантавалі трактары, і ўжо ішла іх праверка на справе: вывозіўся на палі гной, ішла нарыхтоўка лесу для будаўніцтва, падвозка кармоў жывёле. Усё рабілася для таго, каб з надыходам цеплыні трактары руплíва загулі на калгасных гонях.

Старшыня калгаса, аграном, заатэхнік, брыгадзіры падоўгу праседжвалі над планам калгаснай зямлі. Ім трэба было ўсё разлічыць, арганізаваць работу так, каб да адказу загрузіць тыя трактары, што калгас купіў у МТС. На ўлік бралася кожная хвіліна, кожны метр дарогі.

Усюды на галоўныя, самыя адказныя ўчасткі ставіліся камуністы і камсамольцы. Яны цяпер забяспечваюць бесперабойнасць работы тэхнікі і якасць сяўбы.

— За намі справа не стане, — так гаварылі яны. І ім верыш. Бо яны за два гады ўзнялі калгас на ногі. Яны дамагуцца яшчэ многа новых поспехаў. Цяпер у іх для гэтага ёсць усё неабходнае.

## ДА ТЫДНЯ ЛІТОЎСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ

Юозас КІРКІЛА

# МАЛАДОЕ ПАКАЛЕННЕ ПІСЬМЕННІКАЎ ЛІТВЫ

Маладое літаратурнае пакаленне нашай рэспублікі асабліва шырокім фронтам рушыла ў літаратуру ў пасляваенныя гады. І ў прозе, і ў паэзіі, і ў драматургіі, і ў крытыцы з'явіліся новыя людзі са своеасаблівым творчым абліччам. Але якой бы яркай ні была іх мастацкая індывідуальнасць, цяжка і нават немагчыма ўявіць сабе творчы шлях гэтых маладых пісьменнікаў, калі не ўлічыць тых рэалістычных, рэвалюцыйных традыцый, якія і раней моцна праяўляліся ў нашай літаратуры.

Звернемся да паэзіі. Сваёй рэвалюцыйнай, баявой паэзіяй узбагацілі літоўскую літаратуру Ю. Яноніс і В. Мантвіла, па пракладзенаму імі шляху ў гады Вялікай Айчыннай вайны разам з усім савецкім народам ішлі А. Венцлова, К. Корсакас, Э. Межалайціс, В. Мазюрунас, В. Рэймерыс і іншыя паэты, якія змагаліся за вызваленне роднай зямлі. Прымаючы актыўны ўдзел у пасляваенным жыцці нашай рэспублікі, у вострай класавай барацьбе, што ў ёй разгарнулася, А. Іонінас, В. Грыбас, І. Мацявічус, В. Рудокас, якія толькі што знайшлі тады дар паэтычнага слова, безумоўна, вучыліся патрыятызму і майстэрству, чэрпалі баявы дух і натхненне з лепшых твораў сваіх папярэднікаў і старэйшых таварышаў. Выдатная паэтычная традыцыя Саламеі Нерыс дапамагла паэтам П. Шырвісу, А. Балтакісу, Ю. Марцінкявічусу дасягнуць у сваёй творчасці ўвасаблення яркіх і самабытных асаблівасцей літоўскай паэзіі.

У развіцці літоўскай савецкай прозы, бясспрэчна, адыгрывае велізарную ролю традыцыя П. Цвіркі. Многаму навучыліся маладыя празаікі ў выдатных пісьменнікаў мінулага І. Білюнаса, Вайжгантаса, Жэмайтэ і іншых.

Чым жа асабліва станоўчым адрозніваюцца асобныя жанры сучаснай літоўскай літаратуры, у якіх пераважна выяўляюць сябе маладыя, чым вылучаюцца з асяроддзя маладых найбольш яркія таленты, чым яны могуць цікавіць беларускіх чытачоў? Але перш за ўсё—некалькі слоў не аб талентах і іх асаблівасцях, а аб саміх людзях, якія прыйшлі ў літаратуру.

* * *

Простыя, сціплыя людзі Літвы. Вось, напрыклад, паэт П. Шырвіс. Яго жыццёвы шлях не быў засланы ружамі. З дзіцячых дзён пазнаёміўся ён з нястачай і голадам. Калі будучаму паэту было ўсяго 8—9 год, памерлі яго бацька і маці. Хто тады мог разлічваць, што вечна галодны пастушок, які бегаў за кулацкім статкам, вырасце вядомым пісьменнікам?

Але талент ад пагібелі засцерагала здаровае асяроддзе народа, які любіў сапраўдную прыгажосць і песню. Ды дзіцячыя гады былі толькі пачаткам цяжкіх перажыванняў Шырвіса. Ваенная навальніца кідала яго па гітлераўскіх лагерах смерці: Ула, Лепель, Мінск, Барысаў. Уцёкшы з няволі, Шырвіс адчуў вялікую любоў беларускага народа да літоўскага чалавека, які вызваліўся з гітлераўскага палону.

Пасля, калі ён зноў трапіў у рукі да фашыстаў, ён павінен быў стаць прыгонным прускага кулака. І толькі ўвесну 1944 года, перайшоўшы лінію фронта, ён уступіў у рады літоўскага злучэння



Савецкай Арміі, змагаўся на перадавых пазіцыях.

Але ўсе перанесеныя выпрабаванні не прыгнялі яго прыроджанага аптымізму—ён і цяпер застаецца адным з самых задушэўных і вясёлых таварышаў у пісьменніцкай сям'і.

У пасляваенныя гады П. Шырвіс напісаў шмат вершаў пра сваіх франтавых сяброў. Сёння ён аўтар двух зборнікаў вершаў. Нядаўна П. Шырвіс скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.

Такі лёс не аднаго толькі П. Шырвіса. З глыбіняў народных прышоўшы ў літаратуру, нашы маладыя прынеслі з сабой шмат горкіх малюнкаў мінулага, але затое яны з асаблівай любоўю ўспрымаюць савецкае жыццё, затое як удзячны яны савецкаму ладу! Магчыма, ніколі б не змог і марыць аб літаратурнай працы празаік М. Слуцкіс, які нарадзіўся ў беднай сям'і шаўца. Калі пісьменнік успамінае аб сваім маленстве ў новым зборніку лірычных навел «Як разбілася сонца»,—колькі выказвае ён журботнага смутку! Так, у мінулых умовах сапраўды разбілася б сонца яго надзей... А цяпер—бязмежныя прасторы адкрыліся перад марамі і імкненнямі гэтага працавітага пісьменніка, гэтага чалавека з асабліва чулай душой. Ён ужо аўтар некалькіх зборнікаў апавяданняў, актыўны працаўнік у галіне дзіцячай літаратуры, энергічны публіцыст; пяру яго належыць раман «Светлы дом», які станоўча ацэнены крытыкай. М. Слуцкіс працуе сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Літвы.

У дружнай сям'і маладых пісьменнікаў Літвы мы сустрэнем і таленты, якія прышлі з прыгнечанай у эпоху буржуазнага панавання вёскі (І. Авіжус, А. Пакальніс), з ліку таварышаў, якія выхаваны на камсамольскай і партыйнай працы (А. Беляускас, І. Усачовас), і, нарэшце, пры савецкай уладзе ў паэзію прышла таленавітая моладзь з аўдыторый вышэйшых навучальных устаноў (А. Балтакіс, Ю. Марцінкявічус, В. Рудокас).

У маленькім доміку чыгуначніка нарадзіўся чалавек з вялікай паэтычнай душой. Але лёс быў глухі і сляпы да гэтай душы і яе мараў. Так паэт, які горача любіў свой цудоўны бацькоўскі край, яшчэ ў юнацтве страціў зрок. Цягнуліся цяжкія гады, якія патанулі ў безвыходнай цемры. Калі ўраган вайны бушаваў над нашай краінай, юнак, які, бясспрэчна, стаў бы ў рады байцоў, знаходзіўся ў бальніцах. Праўда, тады яшчэ А. Іонінас не лічыў сябе сапраўдным паэтам —некаму было абудзіць паэтычную іскрынку, пачуцце, якое драмала пад спудам.

Але надышоў час — паэт, хаця і пазбаўлены зроку, упарта вучыўся, узбагачаў свой розум ведамі. Калі Літва была вызвалена ад гітлераўскага ярма, пачынаюць з'яўляцца строфы А. Іонінаса—усё больш дасканалыя, усё больш гучныя, а з цягам часу—адзін за другім пачынаюць выходзіць зборнікі яго паэзіі. Сёння А. Іонінас—не толькі адзін з самых актыўных паэтаў, але і публіцыст, рэдактар часопіса для вучнёўскай моладзі.

* * *

У пасляваенныя гады, калі маладыя празаікі рабілі свае першыя творчыя крокі, імі было напісана шмат разнастайных апавяданняў, якія шырока адлюстроўвалі пытанні будаўніцтва новага жыцця. Па некалькі зборнікаў апавяданняў выдалі І. Авіжус, М. Слуцкіс, А. Балтрунас, Г. Корсакенэ, К. Марукас і іншыя. Цяпер многія з іх перайшлі да больш шырокіх тэматычных палотнаў. Праўда, ужо некалькі год таму назад, калі ў Літве ўмацоўваўся калгасны лад, на гэтую актуальную тэму І. Авіжус стварыў буйную аповесць «Спадчына». Гэты твор востра і правільна ўздымаў важныя праблемы таго часу, атрымаў добрую ацэнку з боку літаратурнай крытыкі і меў вялікі поспех сярод чытачоў.

Наогул, жанр апавядання быў тады для маладых аўтараў як бы пачатковай падрыхтоўчай ступенню для больш буйных мастацкіх твораў.

Цяпер прыемна адзначыць, што толькі за некалькі апошніх год створана даволі многа раманаў, якія ўжо дазваляюць меркаваць аб тэндэнцыі развіцця сучаснага літоўскага рамана. Мы назавем тут некалькі больш буйных твораў, напісаных маладымі аўтарамі.

Праўда, варта адзначыць, што для нашых маладых раманістаў усё яшчэ актуальна і важна пытанне аб кампазіцыі буйнага твора. Маючы перад вачыма багаты матэрыял рэчаіснасці і мноства разнастайных характараў, яны не заўсёды яшчэ ў стане надаць усяму гэтаму мастацкае адзінства, паставіць характары ў найбольш належныя ім сітуацыі і месцы. Але, з другога боку, імкнучыся да больш глыбокага ідэйна-мастацкага абагульнення, пісьменнікі не спыняюцца перад цяжкасцямі, а настойліва імкнуцца, хаця і не пазбягаючы пры гэтым недахопаў, шукаць сродкі і метады для мастацкай трактоўкі тэмы ў рамане. У гэтым сэнсе вылучаюцца раманы М. Слуцкіса «Светлы дом», А. Беляускаса «Вуліца працы» і іншыя. Паказваючы жыццё дзіцячага дома, М. Слуцкіс сутыкнуўся з даволі складанымі пытаннямі сюжэта і кампазіцыі: як, не робячы сумным дзеянне, не зніжаючы напружанас-

ці, унікаючы штучнасці, паказаць жыццё аднаго дзіцячага дома. Не лёгка ж у межах аднаго толькі данага адлюстроўваемага аб'екта адшукаць добры сюжэт і кампазіцыю. Акрамя таго, не будзем забываць, што гэта пакуль яшчэ першы раман М. Слуцкіса. Трэба сказаць, што пісьменнік не пайшоў па шляху найменшага супраціўлення (за выключэннем некалькіх месц), а стараўся зацікавіць чытача тым, што з'яўляецца самым важным—унутраным светам сваіх герояў. Сканцэнтраваўшы ўвагу на важных праблемах выхавання юнацтва, пісьменнік вынаходліва і па-мастацку іх вырашыў. Праўда, у кнізе адсутнічае адзін асноўны канфлікт, як гэта часта бывае ў раманах, аднак ідэйна-мастацкая задума і не ставіла перад аўтарам такой задачы. Кніга хвалюе чытача і мае вялікае выхаваўчае значэнне іменна дзякуючы таму, што ў ёй знаходзіш трапятанне жывой чалавечай душы. У адзінае мастацкае цэлае раман сцэментаваны асабліва глыбока і своеасабліва вытрыманай мастацкай інтанацыяй і яркім займальным стылем.

А ў рамане А. Беляускаса «Вуліца працы» гэта знаходзіць іншае вырашэнне. У аўтара ёсць выразная кампазіцыйная задума, хоць у рамане разнастайныя сюжэтныя звіліны. Кампазіцыю твора абумоўлівае выразна акрэслены асноўны канфлікт паміж гітлераўскімі акупантамі і савецкімі людзьмі. Раман у цэлым правільна раскрывае гэты перыяд у жыцці літоўскага народа, але ў ім ёсць і схематызм, які вынікае з менш вынаходлівай кампазіцыі. Пісьменнік часта адчувае сябе ў палоне кампазіцыі, калі малюе характары сваіх дзеючых асоб. Ён надае штучную карыкатурнасць адмоўным героям, а станоўчых зноў-такі штучна прыхарошвае, бо гэтага патрабуе кампазіцыйная схема.

Здараецца і так, што аўтар не ў стане сканцэнтраваць сваю ўвагу на асноўным характары, і праз гэта парушаецца яго кампазіцыйная задума. Так адбылося з раманам Г. Корсакенэ «Выхад у жыццё», дзе аўтар больш ярка намаляваў другарадныя персанажы, не развіў поўнасцю добра задуманага вобраза асноўнага героя.

Раманы і аповесці маладых літоўскіх празаікаў, хоць і не пазбаўлены недахопаў, у цэлым сведчаць аб узрастаючай ідэйна-мастацкай спеласці літоўскай прозы, аб зробленым ёю сур'ёзным кроку наперад.

* * *

Радасна, што за апошні час многа талентаў прышло ў нашу паэзію, якая ўсё шырэй і глыбей адлюстроўвае маральнае харастсва савецкага чалавека. Не кажучы ўжо аб вялікім і разнастайным вянку лірыкі, варта асобна адзначыць новы буйны твор літоўскай паэзіі—паэму маладога паэта Ю. Марцінкявічуса «Дваццатая вясна», якая заслужыла высокую ацэнку з боку народа, партыі і ўрада і адзначана дзяржаўнай рэспубліканскай прэміяй Літоўскай ССР.

Хто не ведае жыцця і побыту студэнтаў! А ўсё ж няма аб гэтым жыцці ні паэм, ні раманаў, нават апавяданняў і вершаў... Паэма Ю. Марцінкявічуса з'яўляецца ў нас першай сур'ёзнай спробай адгукнуцца на гэтую забытую тэму. Малады паэт, які толькі яшчэ пачынае свой творчы шлях, адразу выступіў з буйным творам і заняў важнае месца ў нашай паэзіі. А гэта не так часта здараецца. Трэба адразу сказаць, што, грунтуючыся на гэтым, ужо можна меркаваць аб характэрнай асаблівасці таленту Ю. Марцінкявічуса—аб яго надзвычай глыбокай чуласці да жыцця, аб яго ўмельстве прасачыць, заўважыць парасткі новага, барацьбу новага супраць старога. Можна, вядома, трапна заўважыць і раскрыць многія жыццёвыя дэталі, але ў даным выпадку перад намі не звычайная назіральнасць, а ідэйнамастацкая праніклівасць. У сваёй паэме Ю. Марцінкявічус шырока намаляваў студэнцкі побыт—мы бачым і інтэрнаты, і аўдыторыі, і сцэны студэнцкай дружбы і кахання.

Вострае адчуванне рэчаіснасці характэрна для ўсёй творчасці Ю. Марцінкявічуса. Прыгадаем яго нізку вершаў «Свяшчэнны хлеб». Тут паэт ужо больш сталым, чым у паэме, голасам высоўвае яшчэ больш вострыя праблемы рэчаіснасці, пільна заглядваючы ў глыбіні чалавечай душы. З вялікай мастацкай сілай у гэтай нізцы вершаў Ю. Марцінкявічус выкрывае недахопы і хібы, якія сустракаюцца ў нашым жыцці. Праўда, паказваючы сілу перажыткаў і выносячы ім суровы прысуд, паэт яшчэ не адчуў і не супрацьпаставіў гэтым перажыткам новай магутнай сілы.

Аўтар «Дваццатай вясны»—неспакойны, з вялікай паэтычнай настойлівасцю ён імкнецца да новага, і бясспрэчна, што Ю. Марцінкявічус, чула рэагуючы на вострыя і актуальныя праблемы жыцця, і надалей будзе цвёрда стаяць на абраных пазіцыях, развіваючы ў сваім таленце ярка выяўленае пачуцце новага.

* * *

Вядома, кожны пачынае свой шлях у літаратуру па-свойму, аднак вельмі важна, каб малады аўтар цвёрда самавызначыўся і пачаў бы працаваць у абранай ім галіне з усёй сур'ёзнасцю, як



мага раней. З такім самавызначэннем, са сваімі тэмамі, праблемамі, са своеасаблівым творчым почыркам прышоў у нашу прозу малады аўтар Альгірдас Поцюс, які толькі што выдаў першы зборнік сваіх апавяданняў «Раніца ў сяле Ужугірай». Пры чытанні апавяданняў А. Поцюса неяк міжволі ствараецца ўражанне, што іх напісаў чалавек, які бачыў і добра ведае тое, пра што піша. Ён умее разгледзець у вялікіх і малых з'явах іх сутнасць, намацаць тое зярнятка бачанай з'явы, з якога і нараджаецца характар, нараджаецца мастацкі твор.

Трэба сказаць А. Поцюсу, што ён павінен ставіць і вырашаць усё больш глыбокія, усё больш значныя праблемы. Празмерна лёгкае і хуткае вырашэнне канфліктаў у асобных апавяданнях, адсутнасць больш шырокага і глыбокага мастацкага абагульнення ды, нарэшце, і падбор саміх тэм сведчаць аб тым, што аўтар павінен выйсці на больш шырокі шлях, шырэй і глыбей глянуць на жыццё.

За апошні час у нашых часопісах даволі рэдка з'яўляюцца творы выдатных майстроў апавядання, ды і маладыя апавядальнікі паглыбіліся ў працу над шырокімі палотнамі — раманамі і аповесцямі.

Адной з найбольш яркіх рыс у жанры апавядання ў апошні час з'яўляецца імкненне глыбока адчуць трапятанне самых чулых струн чалавечай душы, тэндэнцыя да пранікнення ў самыя запаветныя і патаемныя перажыванні, пошукі больш разнастайных сюжэтных выгінаў, вострых сітуацый для таго, каб раскрыць унутранае жыццё чалавека, яго характар. Возьмем, напрыклад, апошнія апавяданні І. Авіжуса «Грыша» і «Брод». Сярод іншых твораў нашай прозы яны вылучаюцца не толькі характэрнай для І. Авіжуса лірычнай трактоўкай перажыванняў яго герояў, але і некаторымі новымі як для самога аўтара, так і наогул для нашага жанра апавядання прыёмамі кампазіцыйнага вырашэння, новым развіццём сюжэта, новай групоўкай вобразаў. Апавяданне «Грыша» ўяўляецца з першага погляду шматпланавым, з некалькімі сюжэтнымі лініямі. Можа быць папракнуць пісьменніка за тое, што ўвядзеннем мноства сюжэтных ліній і цэлага шэрагу дзеючых асоб дарэмна рассейваецца ўвага чытача па другарадных з'явах, не акцэнтуецца на асноўнай праблеме апавядання? Не, такі падыход да творчай задумы пісьменніка быў бы ні чым іншым, як спробай уціснуць яго ў прадузятыя крытычныя рамкі.

Сіла мастацкай пераканальнасці апавядання «Грыша» ў тым, што гэтыя некалькі сюжэтных ліній, якія выяўляюць думы і пачуцці асобных герояў, пісьменнік сплёў у адзіную кампазіцыю, што падпарадкавана асноўнай ідэі апавядання, здолеўшы ўліць у мастацкую тканіну апавядання матэрыял не адной падзеі, перажыванні не аднаго чалавека. Зусім правільна і вельмі знаходліва зрабіў аўтар, расказваючы апавяданне вуснамі простай вясковай жанчыны: гэта дазволіла яму не толькі падкрэсліць пачуцці любві і ўдзячнасці простых людзей да рускага воіна, але і надаць апавяданню жывы народны каларыт. Пісьменнік не імкнуўся паказаць Грышу больш дэталёва, а авеяў яго вобраз своеасаблівай рамантыкай. Іменна дзякуючы такому вырашэнню ідэі дружбы народаў І. Авіжус самабытна, арыгінальна, рэльефна паказаў канкрэтныя і жывыя парасткі гэтай удзячнай ідэі ў чалавечых сэрцах.

А вось і другое апавяданне І. Авіжуса «Брод». У ім відаць імкненне аўтара да больш глыбокага псіхалагічнага аналізу чалавечых перажыванняў, да таго, каб праз гэты аналіз выказаць важную грамадскую ідэю.

У аснове апавядання ляжыць канфлікт паміж лёгкадумным мужчынай і ашуканай дзяўчынай. Галоўную сваю ўвагу пісьменнік удзяляе перажываннм дзяўчыны, тонка апісваючы яе патаемныя думы, каханне, якое яшчэ цепліцца ў ёй. Адзіны і насычаны сюжэт апавядання не перагружаны лішнімі эпізодамі і здарэннямі. Пісьменнік здолеў улавіць іменна тыя моманты, паказаць іменна тыя дэталі, якія лепш за ўсё дапамагаюць перадаць настрой і непрыкметна прыводзяць чытача да рашэння асноўнай праблемы.

Вялікімі творчымі пошукамі адрозніваюцца апавяданні М. Слуцкіса. У апавяданні «У лесе» напружанасць сюжэта, яго кампазіцыйнае адзінства аўтар абгрунтоўвае не на дынамічным развіцці падзей і сітуацый, а галоўным чынам на своеасаблівым настроі, які цэментуе апавяданне, на эмацыянальным уздыме. Аўтар не дае паглыбленага псіхалагічнага аналізу: удалымі знешнімі дэталямі перадае ён пачуцці свайго асноўнага героя.

Вядома, мы не бярэмся аб'яўляць нейкімі адкрыццямі названыя апавяданні І. Авіжуса, М. Слуцкіса і некаторых іншых нашых пісьменнікаў, але нельга і не бачыць у іх намаганняў глыбей раскрыць унутраны свет чалавека, раскрыць яго цікавей, арыгінальней, больш разнастайна.

Станоўча ацэньваючы і ўсяляк заахвочваючы творчыя намаганні нашых празаікаў, мы ўсё ж не можам прамаўчаць аб некаторых крайнасцях. «Литературная газета» ў рэдакцыйным артыкуле «Ідэй-

насць—дух савецкай літаратуры» адзначала, што за апошні час з'явіліся вершы, у якіх няма адчування сучаснага жыцця. Тое ж можна сказаць і аб асобных апавяданнях, у якіх часам дэталёва, даволі старанна і правільна ўзнаўляюцца кавалачкі жыцця, бытавыя і сямейныя сцэнкі, востра апавядаюцца пацешныя гісторыйкі, але ў іх не знайсці ні раскрыцця пачуццяў і думак чалавека, ні нават крупінкі слядоў сучаснасці...

Асабліва вострым злом у нашай прозе нядаўняга мінулага была лакіроўка жыцця, якая ўзнікла тады, калі тэорыя бесканфліктнасці была жывой. У розных формах гэта лакіроўка пранікала і ў прозу: у раманы, аповесці, апавяданні.

Метад сацыялістычнага рэалізма дазваляе пісьменніку рэалістычна адлюстроўваць рэчаіснасць у яе рэвалюцыйным развіцці, але ні ў якім выпадку не нацэльвае яго на прыхарошванне жыцця.

Для пісьменніка шукаць у жыцці глыбокае, насычанае зместам азначае ў той жа час шукаць і ў сваёй творчасці найбольш пераканаўчыя мастацкія формы.

Некалькі год таму назад у Саюз пісьменнікаў Літвы прышоў малады дваццацігадовы юнак, студэнт Вільнюскага педінстытута Казіс Сая. Імя яго мала каму было вядома. Да таго часу ў друку з'явілася толькі некалькі яго фельетонаў і апавяданняў. І вось ён прынёс камедыю «Пары». Гэты твор адразу звярнуў увагу пісьменнікаў, спадабаўся тэатральным работнікам. Праз некаторы час камедыя была пастаўлена на сцэне Клайпедскага драматычнага тэатра. А праз паўтара года малады драматург ужо сядзеў у Дзяржаўным Акадэмічным тэатры драмы Літоўскай ССР і разам з усім калектывам працаваў над другой сваёй камедыяй са студэнцкага жыцця. Сёння ў пісьменніцкім актыве К. Сая чатыры камедыі. Цяпер ён працуе над зборнікам апавяданняў

П'есу з жыцця літоўскіх студэнтаў «Экзамен» напісаў таксама студэнт Вільнюскага педагагічнага інстытута Антанас Беляускас. Яна таксама была пастаўлена на сцэне Дзяржаўнага Акадэмічнага тэатра драмы Літоўскай ССР.

* * *

Калі ў літоўскай прозе заўважаецца некаторы ўхіл да тэматыкі мінулага, то ў паэзіі пераважаюць тэмы сучаснасці, тут больш прыкметны намаганні раскрыць пачуцці савецкага чалавека. Шэраг маладых паэтаў, якія выдалі зборнікі, з баявым запалам выказваюцца аб тым, што хвалюе шырокія колы чытачоў, што цікавіць будаўнікоў камунізма.

Прадаўжаючы традыцыі Ул. Маякоўскага, яго паслядоўніка—літоўскага паэта В. Мантвілы, прадстаўнікі нашага маладога паэтычнага пакалення адлюстроўваюць у сваёй лірыцы важныя, актуальныя моманты жыцця. Асабліва плённа выяўляе сябе паэт А. Іонінас, які за апошнія гады выдаў некалькі зборнікаў. Разам з маладым паэтам І. Мацявічусам ён ездзіў у вёску і ў форме лірычнага рэпартажу расказаў чытачам аб жыцці сяла, аб працы і клопатах калгаснікаў. А. Іонінас актыўна працуе ў галіне вершаванай сатыры—у мінулым годзе яго сатырычныя вершы з'явіліся ў кнізе «Мінулагодні снег». Важнейшым дасягненнем А. Іонінаса варта лічыць зборнік яго лірычных вершаў «Роздумы», які адрозніваецца больш глыбокім і шырокім абагульненнем узнятых паэтам пытанняў, імкненнем зазірнуць у складаныя перажыванні лірычнага героя, у яго пачуцці.

Таксама і іншыя паэты пакалення А. Іонінаса, якія пачалі сваю творчую працу ў пасляваенныя гады, упэўнена ідуць па шляху літоўскай савецкай паэзіі, займаючы самастойнае месца ў ёй. Нядаўна выйшлі новыя зборнікі вершаў І. Мацявічуса, Б. Мацкявічуса, В. Рудокаса, В. Гедры, К. Кубілінскаса. Шэраг маладых паэтаў рыхтуе да друку свае першыя кнігі.

Агульны напрамак творчасці маладых паэтаў—правільны. Але бываюць выпадкі, калі ў іх лірыцы пачынаюць гучаць нездаровыя настроі, калі маладыя замыкаюцца ў вузкім коле сваіх перажыванняў, не кранаюць важных грамадскіх праблем. Супраць такога здрабнення паэзіі справядліва выказваецца наша літаратурная крытыка.

Бадзёрае, поўнае сіл маладое пакаленне пісьменнікаў Літвы. Разнастайныя і самабытныя іх творчыя галасы. Тыя творы, якімі маладыя пісьменнікі ўзбагацілі савецкую літоўскую літаратуру, служаць цвёрдай асновай для іх далейшага росту і выспявання.



Альгімантас Балтакіс нарадзіўся ў 1930 годзе. Скончыўшы каўнаскую сярэднюю школу, у 1949 годзе паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Вільнюскага дзяржаўнага ўніверсітэта, які скончыў у 1954 годзе. Вершы пачаў друкаваць у 1952 годзе. На літоўскай мове выйшлі зборнікі вершаў: «Летучуй дулкянт» («Калі імжыць дожджык», 1955) і «Велніо цілтос» («Чортаў мост», 1957). Балтакіс член КПСС. Ён працуе загадчыкам аддзела прозы і паэзіі часопіса «Пергале».

Альгімантас **БАЛТАКІС**

# ЛЕНІН У ВІЛЬНЮСЕ



Жандармерыя знала,
што ён прыязджае:
Чарадою шпікі
так і шныраць наўкруг,
З ланцуга ужо спушчана
лютая зграя,
Напалохаўся цар,
выслаў армію слуг.

Як ні поўзалі сышчыкі
тут на каленях, —
На пероне ніякіх
слядоў не знайшлі.
Толькі гойсалі дарма,
хоць там, дзе быў Ленін,
Засталіся навекі
сляды на зямлі.

Вецер часу не выветрыць
іх аніколі,
Ад вачэй не схавае
густая трава...
Па слядах гэтых
выйшла з бяды і няволі
І на шлях свой свабодны
ступіла Літва.

**Пераклаў з літоўскай мовы**
**М. АЎРАМЧЫК.**

## ЧОРТАЎ МОСТ



Сон рыўся, поўзаў, нібы крот,
І знік... Не сплю. Халодны пот
На лбе слязой павыступаў.
Няўжо я спаў?..

Мне зноў
Прысніўся роў-пагост
І ты,
Пачвара, Чортаў мост.

О, колькі там
Маіх сяброў
Глынуў ты, тройчы кляты роў!
Іх, камсамольцаў, камуністаў,
Сваёю пашчай камяністай
Ты назаўсёды праглынуў.
Скасіў агнём, спіхнуў на міны —
Адны ўспаміны!

Вось ты гудзеш перада мной
Глухой, напятаю струной
Пад ветрам у сляпую замяць.
І раптам —
Пераносіць памяць
На торны шлях...

...Праз вербалозы
Ідуць палкі, рыпяць абозы,
Саракавы вялікі год.
А заклік з рупара ў народ:
— На сход!
— На выбары!
— На сход!

На агітпункце — скокі, зыкі.
Аж абдзімаюцца музыкі,
Аж разлягаюцца жалейкі...
А каля мосту — вартавы,
І вецер свішча, як жывы,
У рулю мірнай трохлінейкі.

Старыя мацеры ў слязах
Глядзяць, выходзячы на шлях,
А можа, вернуцца да хаты
Астрожнікі,—браты, сыны.



Няўжо, няўжо-такі яны
Не прыдуць на такое свята?

Адзін пайшоў за новы лад,
Другі — супроць ліхіх улад,
А трэці — за сваю выгоду...
Рыдаюць мацеры. Мне іх,
Асірацелых і сівых,
Да камяка у горле шкода.

...Глухая поўнач ля вакон.
А сон не йдзе, мінае сон,
І *сэрца стукае: тах-тах.*
О, так!
Мы перайшлі цябе наўпрост,
Стары пачвара — Чортаў мост.
Прайшлі паўзвєдна і паротна,
І назаўжды — беспаваротна!

## МОЖА, ТОЛЬКІ ПРЫВІД



Можа, толькі прывід...
Можа, толькі ўранку
Сон благі прысніўся
Пра кашмар вайны?
Можа й не дымілі
Печы у Майданеку?
Мо' дарэмны слёзы, —
Вернуцца сыны...

Вернуцца, нарэшце,
Хто прапаў без весткі,
Хто згарэў у печах,
Хто сатлеў даўно.
Смерці іх не верце,
Мацеры, нявесткі, —
Вернуцца, пастукаюць
Ціхенька ў акно.

Папрыходзяць хлопцы
Як адзін дадому.
Сны благія — гэта
Прывід, мітусня...
І вайна ўчарашняя —
Выдумка, вядома.

Дзеці пад руінамі? —
Бабская хлусня...

Хто гэта паверыць
Байкам пустазвонаў:
Нажывацца з войнаў —
Слухаць не хачу!
Я не знаю Крупа,
І тым больш — Дзюпона.
Стогны Хірасімы? —
Бог сцярог, — не чуў.

Досыць зубаскальства!
Кпіны недарэчы,
Бо, на наша гора,
Гэта ўсё было:
І былі пажары,
І палалі печы,
І ліліся слёзы,
І шалела зло...

Людзі, будзьце пільнымі!
Мы яшчэ не квіты
З ворагам, якому
Бог святы — разбой.
Арміі папаленых,
Арміі пабітых
Будуць поплеч з вамі
Бараніць спакой!

**Пераклаў з літоўскай мовы**
**Я. СЕМЯЖОНАЎ.**



Юсцінас Марцінкявічус нарадзіўся ў 1930 годзе. У 1954 годзе скончыў Вільнюскі дзяржаўны ўніверсітэт. На літоўскай мове выйшлі яго кнігі «Прашаў жоджыо» («Прашу слова», 1955), «Дайна прые лаужо» («Песня ля кастра», 1956) і паэма «Двідэшымтас павасарыс» («Дваццатая вясна», 1956), за якую Марцінкявічусу ў 1957 годзе прысуджана дзяржаўная рэспубліканская прэмія. Паэт пераклаў на літоўскую мову «Дзяды», «Гражыну» А. Міцкевіча, «Бахчысарайскі фантан», «Русалку» і іншыя творы А. Пушкіна.

**Юсцінас Марцінкявічус**

# ПЕРШЫ ТРАКТАР



Вечар сонца за горы скаціў,
Цені леглі на лузе мурожным.
Дзверы ўладна касцёл расчыніў,
Зазванілі званы «Анёл божы».

У малое сяло паўз кляны
Першы трактар спяшаўся імкліва.
Бег народ не туды, дзе званы,—
Бег зірнуць на нязнанае дзіва.

Пеў матор песню новаму дню,
Захлынаўся касцёл злосным звонам.
І забыліся ўсе ўпершыню
Шапкі зняць перад сілай ягонай.

**Пераклала з літоўскай мовы**
**Е. ЛОСЬ.**

# БАЦЬКОЎСКАЯ ХАТА



Хату бацькаву пакінуць трэба
З клопатам яе, з яе напасцю...
Я пайду. І можа шчэ' дзе-небудзь
Напаткаю казачнае шчасце.

Я пайду, дзе хлопцы на машынах
Уздымаюць цаліны абшары.
Праз акенца бацькавай хаціны
Толькі шэсцьдзесят відно мне араў.

Натапыранай старой квактухай
Хата ўселася на лапік глебы.
Я пайду адсюль, развею скруху —
Мне не ары, а гектары трэба.

А як неба афарбуе золак,
У шляху прысяду на выгодзе...
Каб спяваць і мець настрой вясёлы,
Трэба сонца бачыць у паходзе.

**Пераклаў з літоўскай мовы**
**М. АЎРАМЧЫК.**

# БЯРОЗА



Стройная, высокая, адна
Выбегла далёка з гаю ў поле.
Ці сама ўцякла адтуль яна,
Ці вятры занеслі супраць волі?

Толькі цяжка вечна быць адной —
Буры зграбны стан яе скрывілі,
І пярун рассек вяршыню ёй...
Што ж, бярозкі, вы адну пусцілі?

**Пераклаў з літоўскай мовы**
**А. ЗВОНАК.**



Альгірдас Поцюс нарадзіўся ў 1930 годзе ў сям'і селяніна вёскі Кетунай Седаскага раёна Літоўскай ССР. У 1952 годзе закончыў факультэт літоўскай мовы і літаратуры Клайпедскага настаўніцкага інстытута. Пачаў працаваць журналістам спачатку ў г. Клайпедзе, потым у г. Шауляй, а цяпер працуе ў г. Вільнюсе.

Першыя апавяданні былі надрукаваны ў 1953 годзе. У 1955 годзе выйшаў з друку першы зборнік апавяданняў «Раніца ў вёсцы Ужгірай». У гэтым годзе Дзяржлітвыдат Літоўскай ССР выдае яго зборнік апавяданняў для дзяцей.

**Альгірдас ПОЦЮС**

# ВІНШАВАННЕ

## Апавяданне

Мал. Г. Паплаўскага.

Жыве ляснік Іонас Моцкус на невялічкай палянцы, якую з усіх бакоў абступіў высокі густы ельнік. Хата ўжо струхлела, саламяная страха пакрылася зялёным мохам. Будаваў яе яшчэ яго нябожчык бацька, які наняўся вартаваць панскі лес.

З палянкі вузкая просека вядзе да вёскі Пашыле, якая шырока раскінулася на ўзлеску. Адтуль днём, як ні ўглядайся, сялібу Моцкуса не прыкмеціш.

Пры сустрэчы пашыльцы дабрадушна жартуюць са свайго земляка:

— Жывеш ты, Іонас, як у бога за пазухай. Нават ветрам на цябе не падзьме...

Лесніку з маленства падабаўся лес, падабалася жыццё на адзіноце. І толькі раз у год, калі людзі віншавалі адзін аднаго з Новым годам, з новым шчасцем, ён быў незадаволены. Няхай бы яго хата на крылах узнялася і пераляцела да шумлівай вёскі і апусцілася пасярод сяла!

З таго часу, як Іонас Моцкус сам стаў леснікам і ажаніўся, ён загадзя рыхтуецца да Новага года. Калі не ўродзяць цукровыя буракі, ён пазычае іх цэлы кош у вёсцы, дадае хлебных сухароў, хмелю і варыць хатняе піва. Жонка яго Агнешка к свяце смажыць у печы барані бок з бульбай. У хаце прыемна пахне ігліцамі ад яловых лапак.

Прымайстраваўшыся на зэдліку ля гарачай печы, ляснік бярэ сабе на калені маленькага Левукаса і пачынае яму апавядаць:

— Вось хутка і Новы год настане... Да нас па глыбокім снезе прыдуць віншаваць музыкі... У аднаго — медная труба, у другога — гала-

сістая скрыпка, у трэцяга — велізарны бубен... Стануць пад нашым акном ды як урэжуць марш, дык нават увесь лес замрэ, заслухаецца... Баяцца іх няма чаго, ляжы сабе спакойна на ложачку... А потым яны і ў хату зойдуць, і тут пайграюць... За гэта я іх півам пачастую...

Хлопчыка бярэ цікаўнасць, і ён пытаецца: ці не з казінай шкуры зроблены бубен, ці не падобна труба на тую дудку, што пастух Сцяпас скруціў сабе з вярбы...

Бацька ахвотна тлумачыць. А час позні, у хаце цёпла — Левукаса і змарыў сон. Павекі заплюшчыліся, галоўка павісла. Ляснік устае і асцярожна нясе свайго малога на пасцель. Хлопчык спрасонку ўсміхаецца. Яму, бадай, сніцца Сцяпас, як ён на дудцы грае...

Стары насценны гадзіннік з гірамі раптам зашумеў, заскрыпеў. Моцкус не стаў чакаць, пакуль ён адзвоніць дванаццаць разоў. Ён паспешна апранае кажух, насоўвае баранюю шапку і выходзіць на свой чыста адкіданы ад снегу дворык. З дворыка да самай просекі яшчэ завідна драўлянай лапатай ён прачысціў шырокую сцежку.

Мароз займае дух. Глыбокае неба ўсыпана яркімі зоркамі. На возеры Дубарай чуюцца быццам стрэлы з гармат, гэта на ўсю шырыню трэскаецца тоўсты лёд.

Засунуўшы голыя рукі ў рукавы кажуха, ляснік становіцца на жорнавы камень ля ганку, стаіць і добра не можа разабраць, ад чаго ў яго па спіне забегалі прыемныя дрыжыкі: ці то ад холаду, ці то ад гэтага далёкага зухаватага маршу, які зліваецца з ласкавым шумам лесу.

Нібыта памаладзеўшы, ён жвава вяртаецца ў хату, на дыбачках падыходзіць да ложка і памаленьку тармошыць задрамаўшую Агнешку.

— Ці ты спіш?.. Музыкі па вёсцы ўжо ходзяць... З Новым годам цябе!

Моцкус нахіляецца, цалуе жонку ў шчаку і прысаджваецца на край ложка.

— Цяпер ідуць да Грыгайціса,— кажа ён.— Мабыць, і да нас хутка...

Ляснік з хвіліну маўчыць, нібыта прыслухоўваецца да маркотлівага спеву бочачкі з півам на печы, якому ўторыць кошка, што клубком скруцілася ля ног жонкі.

— А піва ўсё яшчэ не перабушавала, — кажа ён сам сабе, скідае кажух і кладзецца на пасцель.

Моцкусу не спіцца. Ён ляжыць з адкрытымі вачыма і глядзіць на закурадымленую столь. У галаве закружыліся прыемныя ўспаміны. На травяністай вільготнай ад расы лясной палянцы скубе вялікая ласіха; яна з аглядкай шчыпле зялёную травіцу, а наўкол яе падбрыквае, стрыгучы вушамі, маленькі ласёнак... Вось у маладым ельніку высокі бугор з лісінымі норамі, а насупраць кожнай нары — кучка свежага пяску... На чыста выкарчаванай пасецы роўнымі радамі пасаджаны кучаравыя сасонкі, і растуць гэтыя сасонкі шпарка, як у казцы, растуць, растуць...

Крышку адпачыўшы, Моцкус падымаецца з пасцелі праверыць, ці не выбіла з бочачкі затычку, потым зноў апранае кажух і ідзе падыхаць свежым паветрам. На скрып дзвярэй у гэты раз з будкі выскоквае калматы Кудла. Ён лашчыцца да гаспадара, віляе хвастом, скавычучы, просіць чагосьці. Але пераканаўшыся, што гаспадар да яго абыякавы, сабака пазяхае на ўсю зяпу і моўчкі хаваецца ў сваё цёплае логава.





Музыкі працягваюць свой абход вёскі. Відаць, цяпер віншуюць Люпшыса ці Страздаса. Іх сялібы побач, а таму цяжка адрозніць на слых.

«Адтуль яны хутчэй за ўсё павернуць да Грыгайціса, — разважае ляснік.— Не малы крук, магчыма, і да мяне зараз зойдуць».

Вярнуўшыся ў хату, ён больш не кладзецца, курыць люльку ды зрэдку паглядае ў акно. Але на заснежанай просецы не відно ні постаці.

Праз нейкі час Моцкус зноў скрыпнуў дзвярыма. Тыя ж яркія зоркі на цёмным небе, той жа спакойна шумлівы лес па-ранейшаму пільнуе ноч.

Далёкае буханне бубна музыкаў цяпер ужо чутно збоку. Значыцца, ужо віншуюць Грыгайцісаў. Сярдзіта піхнуўшы венік, прыстаўлены да парога, ляснік ідзе ў хату.

— Не зайшлі, ліха з імі! — прабурчаў ён, скідаючы з плеч кажух.

Піва тым часам угаманілася, з бочачкі не чутно больш ніякіх гукаў. Моцкус дастае з паліцы жбан, асцярожна разварушвае затычку і нацэджвае сабе пеністага піва. Трэ' было б пабудзіць і гаспадыню, няхай пакаштуе, што за пітво. Аднак, прыслухаўшыся да роўнага дыхання зморанай за цэлы дзень жанчыны, толькі махнуў рукой.

Паставіўшы да паловы выпіты жбан на падаконнік, ляснік пакрыў яго гнушкай і лёг спаць. Спачатку ён яшчэ чуе, як за спіной маткі штосьці ляпеча маленькі Левукас.

Засынаючы, Моцкус бачыць ужо не стройную ласіху са спрытным ласёнкам, а голыя лесасекі, лясных злодзеяў, браканьераў і кучку засмечанага жыта ў сябе на падлозе...

Раніцай маленькі Левукас кратае лесніка:

— Тата, а музыкі? Чаму ж яны не прыйшлі да нас?

Але такое пытанне застаецца без адказу. Ад прыкрасці Моцкус пасля снедання накіроўваецца ў лес. Ідзе ў свой звычайны вартаўнічы абход.

І так ляснік кожны год чакаў, што вось-вось вясковыя музыкі прыдуць да яго і ўрэжуць навагодні марш. А жонка яго, Агнешка, тая зусім не спадзявалася і заўсёды спакойна клалася спаць.

— Дарэмна ты, Іонас, хвалюешся... Якая ім выгада гэтак далёка да нас цягнуцца...

Ды і сапраўды, можа таму, што хата лесніка Моцкуса ў баку ад вёскі і ўсе сцяжынкі і просека засыпаны снегам, а можа таму, што з пачастункам у лесніка не вельмі раскошна, тугавата, аднак у навагоднюю ноч музыкі чамусьці забываюцца да яго заглянуць.

* * *

А гэта здарылася нядаўна. Нечакана як быццам выпаў снег гэтай ранняй зімою. Іонас і Агнешка на працягу доўгіх год абвыкліся і ўжо не чакалі пышнай сустрэчы Новага года.

Трэба сказаць, што перад гэтым адбыліся вялікія перамены ў жыцці. Адгрымела вайна. Новая ўлада адкрыла ў вёсцы Пашыле сямігодку, якую закончыў Левукас.

Як ён старанна вучыўся ў школе! Калі яму споўнілася восем год і яго прынялі ў першы клас, ні асенняя хлюпота, ні снежныя заносы, ні вясенняе разводдзе — нішто не магло стрымаць у хаце лесніка Левукаса. Ён вучыўся толькі на пяцёркі.

Калі ж Левукас закончыў школу і прынёс дадому пасведчанне, ляснік паклікаў жонку, якая корпалася на агародзе, і яны абое доўга сядзелі на прызбе пад акном і цешыліся выдатнымі адзнакамі.

— Ну, сынок, калі ты ў вучобе такі малайчына,— сказаў Моцкус,— дык вучыся і далей. Мы з мамай цябе не трымаем. І ў доўгую дарогу як-небудзь выправім, будзем дапамагаць. А там наша ўлада цябе не пакіне... Якая табе школа да спадобы, туды і паступай. Да прыкладу, у лясны тэхнікум...

А сын, між іншым, крутнуў галавой.

— Не, тата. Мне вельмі падабаецца музыка. У Клайпедзе ёсць музычнае вучылішча. От туды я і хачу паступіць.

— Ну што ж, калі так надумаў,— памяркоўна адказаў бацька.— Мы з маці пярэчыць не будзем.

Сёлета хутка праімчаліся першыя зімовыя тыдні. Настаў апошні дзень гэтага адыходзячага ў нябыт года. Заўтра ўжо Новы год.

Як толькі сцямнела, ляснік запаліў ліхтар і пайшоў у хлеў. Там ён падкінуў карове і авечкам пахучага мурожнага сена, а потым узяў вялікі ахапак саломы і засунуў яго ў будку сабакі, каб цяплей было яго вернаму памочніку.

— І мякчэй будзе,— сказаў ён ласкава да сабакі, які з ціхім скавытаннем закруціўся наўкол свайго гаспадара і аблапіў яго калені.

Задаволены тым, што скаціна гэтай ноччу будзе адчуваць сябе нібыта весялей, Моцкус пайшоў у хату вячэраць.

Пасля вячэры, як заўсёды, ляснік уздзеў на нос акуляры і разгарнуў у руках свежую газету, а гаспадыня тым часам села ля печы і пачала давязваць падарунак сыну, што вучыцца ў далёкім горадзе,— шарсцяныя пальчаткі.



Не паспеў Моцкус дачытаць першую старонку, як у коміне раптам жалобна завыла, загуло.

— Чуеш, маці, якая завіруха разгулялася... Наш Левукас, бадай, не прыедзе сёння.

— А чаго яму спяшацца? Канікулы толькі распачынаюцца,— уздыхнуўшы, сказала Агнешка.— І добра зробіць, што не паедзе. У такую пагоду гаспадар сабаку за вароты не выганіць.

Яшчэ крыху пасядзеўшы, бацька і маці ляглі спаць. Але спаць ім доўга не давялося.

Нечакана гул бубна пад самым акном разбудзіў іх. Спрасонку абаім здалося, што нават хата захадзіла ходуном.

— Музыкі!— крыкнуў ляснік і саскочыў на падлогу. Хутка накінуў на плечы кажух, уссунуў на босыя ногі дзеравянікі і выбег у сенцы.

Гаспадыня таксама ўсхапілася і пачала распальваць агонь на камінку. Рукі дрыжалі, і запалкі тухлі.

А Моцкус адчыніў дзверы і ў белых споднікаў, што віднеліся з-пад кажуха, ступіў на ганак. Яму здалося, што гэта не дрыжыкі ад холаду, а гукі навагодняга марша прабеглі па спіне ад галавы да пят. Не адны музыкі гралі — урачыста гудзеў увесь лес, напоўнены бясконцым рэхам.

Убачыўшы на парозе гаспадара, музыкі яшчэ мацней секанулі. Наперадзе стаяў невысокі юнак. Вось ён зрабіў круг сваім доўгім кларнетам, адзін, другі раз злёгку нахіліў галаву і потым рэзкім кіўком, нібыта вострым нажом, як адрэзаў усю музыку. Толькі гулкае рэха пакацілася цёмным лесам і замерла, каб і ён, лес, мог пачуць, што скажа гасцям яго гаспадар.

Пільна ўгледзеўшыся на маладога музыку, ляснік раптам радасна пляснуў рукамі.

— Дык гэта ж ты, сынок мой!

— Я, тата, я!

Сын падбег да бацькі, моцна абняў яго і першы павіншаваў з Новым годам.

— Калі ласка, заходзьце, даражэнькія госці!— сказаў з паклонам Моцкус і шырока расчыніў дзверы.

А ў хаце сын трапіў яшчэ ў абдымкі.

— Левукас, дзіцятка маё, а мы сёння цябе не чакалі,— узрадавалася маці.

Пакуль госці распраналіся, а потым грэлі ля печы азызлыя з холаду рукі, гаспадыня накрыла стол белым абрусам.

— Дзякую вам, шаноўныя госці,— сказаў ляснік, ставячы на стол вялікі жбан, напоўнены моцным півам.— Мабыць, нават мае вавёркі і дзікія козы ў танец пусціліся ад такога марша...

Над хатай лесніка штосьці радасна гаманіў лес. І калі госці ўзнялі першыя кварты з пенай цераз край, Моцкусу здалося, што яго хату першы раз наведаў Новы год.

**Пераклад з літоўскай мовы.**





Яніна Дэгуцітэ нарадзілася ў 1928 годзе ў горадзе Каўнасе ў сям'і служачага. У 1948 годзе скончыла сярэднюю школу ў Каўнасе, у 1955 годзе — гісторыка-філалагічны факультэт Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта. Цяпер працуе настаўніцай. Вершы пачала пісаць у 1945 годзе. Рыхтуе да друку першы зборнік вершаў.

Яніна **ДЭГУЦІТЭ**

## ХЛЕБ І МЁД



Чорны хлеб у руцэ, хлеб жытнёвы,
І з агнём тваё сэрца ў грудзях.
І вядзе мара ў шлях цябе новы,
І праводзіць зямля цябе ў шлях.
Бачыш ты, што не хлеб у руках —
Гэта чорнай зямлі свежы пах.
То — зямля, дзе лугі ды гаі,
Дзе спяваюць табе салаўі,
Дзе ільны, як блакіты нябёс —
То зямля твая, гэта твой лёс!
На далоні не хлеб, гаспадар,
Чалавека душа, сэрца жар...
Адкусі свайго чорнага хлеба —
Саладзейшага мёду не трэба.

**Пераклаў з літоўскай мовы А. БЯЛЕВІЧ.**

## СМЕРЦІ НЯМА



Нічога смерць не забірае, як вядома,
А правярае, што струхнела, што жыве.
Жывое ў свеце застаецца моцным домам.
Агнём—у сэрцы, песняю—у сіняве.
Зноў з дому гэтага у шлях выходзяць людзі,
Жыццё не гасне, а гарыць ад гэтага агню.
Жаўрук падыме пах зямлі і даль абудзіць:
«Няма на свеце смерці!»—працінае цішыню.
Ты не памрэш,—прыляжаш адпачыць ад стомы,
Жыццё ўзляціць крылатай вольнай птушкай з рук,
Гарачай станеш кропляю крыві,
І станеш ты на свеце моцным домам,
Як полымя, падыме гэту кроплю ўвысь жаўрук.

**Пераклаў з літоўскай мовы М. АУРАМЧЫК.**



Антанас Дрылінга нарадзіўся ў 1935 годзе ў сям'і селяніна-батрака. У 1955 годзе скончыў педагагічнае вучылішча. Цяпер ён займаецца ў Вільнюскім педагагічным інстытуце. Вершы пачаў пісаць у 1952 годзе. Друкуецца з 1955 года. Выдаў зборнік для дзяцей. Дрылінга з'яўляецца старшынёй секцыі маладых пісьменнікаў горада Вільнюса.

Паэт рыхтуе да друку новы зборнік вершаў.

Антанас **ДРЫЛІНГА**

## РОДНЫ ДОМ



Мгае здалёку,
Мігціць мне здалёку
І кліча мяне
Дом агеньчыкам-вокам.

Прыдзі, адпачні тут,
Спакойным спі сном...
О родны мой дом!
О родны мой дом!..

Прыдзі, як заўсёды,
З дарогі, з паходу,
Вазьмі свежы хлеб,
Пакаштуй з асалодай.

Не будуць тут лаяць,
Сварыцца кругом...
О родны мой дом!
О родны мой дом!..

Калі-ні-калі
Бацькоў мазалі
Напомняць, вядома,
Як шмат аддалі
За цяпло ў родным доме.

Напомніць сівая
Сутулая маці:
Заплачана шмат
За цяпло ў роднай хаце.

Пакутвалі многа,
Маліліся богу,
Каб дужым адсюль
Паляцеў ты ў дарогу.

Каб вузкаю сцежкай,
Што тут за парогам,
Пайшоў ты шукаць
Шырачэзнай дарогі.

Мігае здалёку,
Мігціць мне здалёку
І кліча мяне
Дом агеньчыкам-вокам.

О родны мой дом!
О родны мой дом!..

**Пераклаў з літоўскай мовы**
**М. АЎРАМЧЫК.**

# ЦАНА ЗЕРНЯ



Сягоння дождж,
І ўчора дождж...
Калі ж ён перастане?
. . . . . . .

Але ж бывае гэтак, што ж,
Такой вясной паганай...

А сеяць трэба, бо пара.
Каб зерне прарастала,
Сваёй душой гаспадара
Сагрэеш поле дбала.

Калгаснік ведае цану
Сваім турботам спорным,
Пагоду нават у вясну
Прымусіць быць пакорнай.

Было, што зерне здабываў
Цаной крыві і поту.
Ён працаваў, ён гараваў,
Ды не паеў з ахвотай.

Як лета ў спёцы жніўных дзён
Вясёлкай заіскрыцца,
Тады адчуе ў полі ён
Прыемны пах пшаніцы.

**Пераклаў з літоўскай мовы**
**Р. НЯХАЙ.**



*Я нарадзіўся 10 сакавіка 1927 года ў в. Шылелю Дзідвірускага сельсавета Каўнаскага раёна ў сям'і нёманскага рыбака.*

*У 1948 годзе закончыў Каўнаскую першую сярэднюю школу. У 1952 годзе паступіў у Вільнюскі дзяржаўны ўніверсітэт імя М. Капсукаса на гісторыка-філалагічны факультэт, які закончыў у 1957 годзе.*

*Першае апавяданне было надрукавана ў газеце «Тіеса» і прэміявана ў 1954 годзе. У 1958 годзе выйшаў першы зборнік «Прынёманскія апавяданні».*

*У сучасны момант працую інструктарам у Савеце прафсаюзаў.*

**У. Даўтартас.**

Уладас **ДАУТАРТАС**

# МАТЧЫНА СЭРЦА

## Апавяданне

Мал. Ф. Бараноўскага.

На ўсходзе, куды толькі што падаўся фронт, беспярастанку чуліся стрэлы. У горадзе, падпаленым варожымі самалётамі, бушавала полымя. Крывавыя языкі яго кідаліся да неба, лізалі хмару чорнага дыму, якая, шырока распластаўшы крылы, страшна павісла над горадам. Морта супынілася пасярод двара і, варушачы губамі, з жахам глядзела на лютаваўшае полымя. Трэба ж так здарыцца! Вёску, якая знаходзілася каля самага горада, фронт абмінуў, нават дурная куля сюды не заляцела. Дарэмна людзі і зямлянкі капалі.

Морта, уздыхаючы, памаленьку абышла сялібу, пастаяла ў гародчыку. Нібыта знарок і кветкі даўно ўжо так прыгожа не расцвіталі. На градцы, абкладзенай белымі каменьчыкамі, гарэлі макі, побач зелянела адзінокая духмяная рэзеда, а далей як быццам кланяліся камусьці півоні... Па кветках снавалі пчолы, абганяючы адзін аднаго, кудысьці спяшаліся жучкі, паўзла божая кароўка, і ўсяму гэтаму жыццю на рознакаляровым дыване падыгрывалі, выціналі на скрыпачках нябачныя конікі. Морта нагнулася над сінімі, як бязмежны нябесны блакіт, кветкамі.

— Толькі вы ў мяне і засталіся,— кратаючы кветкі, прашаптала яна.— Сыночка майго, Пранюкаса, вайна вырвала...

Морта ўсё тут рабіла дзеля Пранюкаса. Не было яго — і не патрэбен быў гэты невялікі домік з белым комінам, не патрэбен і кветнік, і плеценыя платы. Батрачка багацея Скуоджуса марыла аб адным: пакуль ёсць сіла — сабраць крыху грошай, каб прыдбаць на старасць свой куток і не валяцца пад плотам. Але здарылася так...

... У тое лета маладыя, прыгожыя цесляры будавалі ў Скуоджуса хлявы. Другія нічога, а той, якога клікалі Іонасам, стройны, дужы,

цёмнавалосы, увесь час зачэпліваў Морту. Не, Морта не верыла хлопцу. Хто да яе, да пакрыўджанага самім богам недаростка, як абзываў Скуоджус, стане заляцацца. Каму яна можа спадабацца — з рабаціннем на твары, з тоненькімі, як хвосцікі, коскамі. І ўсё ж... Сама не разумеючы, што робіць, купіла ў мястэчку на тыя грошы, якія сэканоміла дзеля старасці, новае плацце, туфелькі. Морта ніколі не хадзіла на вечарынкі. Але ў той раз, надзеўшы новае плацце, яна сабралася на вечар. Ля варот яе супыніў Скуоджус.

— Не да твару табе, Морта, гэта адзенне. Не смяшы людзей, пакладзі ўсё гэта ў куфэрак! Няхай яно там ляжыць, няхай будзе табе на смерць.

Вядома, яна магла паслухацца Скуоджуса, магла. Але ён востра ўкалоў набалелае сэрца, глядзеў на яе пагардліва прыплюшчанымі вачыма, і, не вытрываўшы, яна бягом кінулася ад варот. На двары, паваліўшыся на бярвенні, на тыя самыя, якія акуратна сякерай абчасаў Іонас, яна горка расплакалася...

Там і знайшоў яе, вярнуўшыся з вечарынкі, Іонас. Потым...

Потым Скуоджус паказаў ёй парог, але ў свет яна пайшла не адна. Морта чакала дзіцяці. Вось так з'явіўся ў яе сын Пранюкас. Але якім шчасцем гэта было для Морты! Яна магла ўсю сябе прынесці ў ахвяру, толькі б рос яе сын. І ён рос, нягледзячы на тое, што маці чарнела, марнела ад цяжкай работы, што галеча не пакідала яе хаты.

Але дзе цяпер сын Морты, дзе яе клопаты і шчасце?

— Ну, Морта, няхай толькі пакажацца твой мудрэц-агітатар...

Словы прагучалі са злосным смехам, быццам нож, урэзаліся ў матчына сэрца. Яна так і ўздрыгнула. Ля агародчыка стаяў, абапіраючыся на сукаваты кій, непрыкметна падышоўшы Скуоджус. Неспакойнымі вачыма Морта глядзела на яго зморшчакаваты, скрыўлены злосцю твар. Нашто Скуоджусу спатрэбіўся Пранюкас? Чаго ён вылупіўся і стаіць, як галодны воўк?

— Маўчыш?— Скуоджус закрочыў далей. — Сумела даць волю пастуху, сумей і адказ даць. Дзе твой камсамолец?

Морта прытулілася да плоту. Яна адчула слабасць у нагах, рукі яе задрыжалі. Ах ты, старая падла, ашуканец! Восемнаццаць год не пытаўся, як Морта гадавала сына, а цяпер сын яму спатрэбіўся. Ці ведае ён, ці разумее, хто для Морты Пранюкас? Хіба яна не хацела, каб сын быў з ёю? Маці з ім ніколі не разлучалася, ніколі! Нават ідучы на поле, яна не пакідала дзіцё ў суседзяў, а брала з сабою. Бег час, падрастаў сын. Уцехай і радасцю свяціліся матчыны вочы, калі ён, прагнаўшы па Нёману плыты, вяртаўся дадому з заробкам. Ён заўсёды прыносіў Морце які-небудзь падарунак, а сабе — звязку кніг. Ледзь замярзала рэчка і пачынаў лютаваць сіберны снегавы вецер, Пранюкас браўся за кнігі. Яны зрабілі яго другім, а Морце не давалі супакою. Страх займаў дыханне мацеры, кроў стыла ў жылах, калі яна слухала словы сына аб багацеях. Матчына сэрца прадчувала бяду, і не дарэмна! Вясковыя кулакі напаілі яго на вечарынцы і так збілі, што акрываўленую кашулю сына можна было выкручваць.

Толькі ёй адной вядома, колькі бяссонных начэй правяла Морта ля пасцелі сына. Але Пранюкас не перамяніўся. Выздаравеўшы, ён з яшчэ большым абурэннем гаварыў аб панах. Калі надышоў саракавы год, ён першы ў воласці пачаў згуртоўваць моладзь, дзяліў між беднякоў



зямлі багацеяў. Тут праўду кажа Скуоджус, не асекла тады Морта сына, сэрца ёй не дазволіла.

Морта прытуліла далонь да скроні. Галава была гарачая, а ў віскі нібыта шылам калола. Паветра не хапала. Каб лягчэй дыхаць, яна расшпіліла каўнерык на шыі.

Нізка над сялом прамчаліся самалёты. Над горадам яны нечакана ўзняліся ўгору і зноў, быццам каршуны, рынуліся ўніз. Чуліся глухія выбухі, і відаць былі слупы дыму і агню.

Ноччу хтосьці пачаў стукацца да Морты. Яна ўсхапілася з пасцелі. Разгубілася, сама не помнячы, што робіць, адсунула засаўку. У хату ўваліліся нейкія ўзброеныя, і між іх Скуоджус. Ён быў галоўны. Цяпер ніхто не пытаўся ў Морты, дзе сын — самі шукалі. Забіўшыся ў куток, яна калацілася, гледзячы, як яны шнырылі па хаце, білі пасуду. Адзін, сарваўшы са сцяны фатакартку Пранюкаса, кінуў яе на падлогу. Морта памкнулася падняць. Дужы выспятак у грудзі адштурхнуў маці ў куток. Агледзеўшы ўсё, яны, нарэшце, пайшлі. Праз вокны, расчыненыя насцеж дзверы ў хату пранікала рэдкае світанне. Морта абыякава глядзела на разбітую пасуду, на ўсё перавернутае ўверх дном. Яна толькі дайшла да сярэдзіны хаты і падняла растаптаную фатакартку сына.

— Дзякуй богу, што цябе тут не знайшлі,— прашаптала яна, цалуючы картачку.

Вайна была нечаканай не толькі для Морты, але і для Пранюкаса. Ён так спяшаўся ў Армію, што нават з маці не развітаўся.

— Дзеці... хіба яны зразумеюць бацькоў? — уздыхнула Морта, усё гледзячы на фота сына.

З болем у грудзях Морта памаленьку выйшла на двор. Зямлю яшчэ ахутвала ноч, але там, дзе ўзыходзіла сонца, ужо ружавеў краёк неба... А побач поўзалі крывавыя водсветы пажараў. Страляніна чулася радзей. Прахалоднае, з подыхам расы паветра асвяжыла Морту. Азірнуўшыся, яна ажно войкнула: кветніка як не было. Морта кінулася да кветак, пакратала іх, але, растаптаныя, яны зноў хіліліся да зямлі. Жанчына нагіналася, а грудзі яе наліваліся новым болем.

— І вас я страціла... — усхліпвала яна.

А сонца ўжо ўзнялося над лесам, выглянула на сенажаць, палеткі. На кветках патаптаных



заблішчэла раса. Морта яшчэ нейкі час аглядала градку. Галасы прымусілі яе аглянуцца. Тое, што пабачыла Морта, прыкавала яе на месцы. Быццам знарок, каля саду тыя ж узброеныя людзі, што шукалі Пранюкаса, гналі маладога хлопца. О, божа, як ён падобен на Пранюкаса! Такога ж росту, такія ж валасы каштанавага колеру, такая ж рашучая паходка. Рубашка ў хлопца была парвана, а твар—заліты крывёю. Рукі Морты самі пацягнуліся да касынкі. Яна хацела падбегчы і перавязаць рану. Але ногі не хацелі яе слухацца.

— Дзіцятка ты маё, — прастагнала маці.

Перад вачыма Морты зноў паўстаў Пранюкас. Што з ім? Можа, і яго так вядуць са звязанымі рукамі? Куды? Каб лепей бачыць, яна прыкрыла рукою вочы ад сонца.

У полі, за жытам, каля бяроз, узброеныя людзі спыніліся. Пачуўся стрэл. Раптоўны, нечаканы.

— Дык вось нашто ім спатрэбіўся сын...

Сполах, цяжкі сполах апанаваў Морту. Чамусьці ёй здалося, што Пранюкас можа зараз вярнуцца: яго трэба папярэдзіць. А мажліва, ён ужо ў хаце і забойцы адшукаюць яго? Маці ўбегла ў хату. Дзе б ён мог быць? Можа, на гарышчы, можа, пад ложкам, за печчу? Морта кідалася па хаце, шэптам клікаючы сына. Супакоілася. Нават абазвала сябе дурніцай. Але зноў, да крыві закусіўшы пальцы, прыпала да акно, угледзелася на тыя бярозы. Там ужо нікога не было. Толькі вецер хістаў дрэвы.

І Морта нібыта ўсё раптам зразумела, хутка падышла да печы. Там у кутку, дзе заўсёды была качарга, стаяла рыдлёўка. Морта пацягнулася да яе і затрымалася ў разважанні. Толькі не ўдзень, калі па вуліцы ходзяць ворагі, не! Яна павярнулася і, жадаючы прагнаць надакучлівыя думкі, узялася за працу. Яна сабрала черапкі пасуды, падмяла хату, нават вымела смецце з-пад печы — толькі б забыцца. Яна заслала пасцель і вельмі доўга прыбірала ложак Пранюкаса. Паспрабавала паснедаць, але ледзь прымусіла сябе зрабіць некалькі глыткоў. Падпёршы падбародак рукамі, яна глыбока задумалася, а позірк вачэй імкнуўся да акна, дзе віднеліся верхавінкі бяроз. Да самага вечара Морта не знаходзіла сабе месца. Сполах усё яшчэ трымаў яе ў амярцвенні, а думка свідравала галаву, не пакідаючы ні на хвіліну. Морта толькі цяпер успомніла, што забылася накарміць курэй... Набраўшы ў мішачку ячменю, яна выйшла на двор. Яна паклікала курэй і спалохалася ўласнага голасу. Затым маці пачала хадзіць хутчэй, упэўнена, рашуча, нібыта ўсё абдумала загадзя. Захапіўшы з сабою кветкі і рыдлёўку, яна пайшла да бяроз. Ногі самі вялі яе, вочы шукалі таго месца, а ўнутраны голас казаў: «Хутчэй, хутчэй, Морта!.. Што ж тут разважаць!..»





Іонас Якштас нарадзіўся ў 1931 годзе ў сям'і малазямельнага селяніна. У 1957 годзе скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Вільнюскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Цяпер працуе ў рэдакцыі часопіса «Швітурыс» («Маяк»). Актыўна супрацоўнічае ў перыядычным друку. Падрыхтаваў да друку першы зборнік вершаў.

Іонас **ЯКШТАС**

# ВОРАГАМ МАЁЙ РАДЗІМЫ



Скрывайце заравамі далягляды,
Спустошце вёскі мірныя агнём,
Зняверце яблыньку, стапчыце грады,
Разбіце ў шчэпкі мой абжыты дом, —

Але й тады я верыць не пакіну:
Блакітам зноў прагляне далягляд,
І дом за домам выцісне руіны,
А з пнёў жывых — адскочыць новы сад.

Скрыжуйце дротам вашую ахвяру,
Замучанага кіньце на зямлю...
Я вытрымаю ўсё, любую кару,
Выпрабаванні ўсе перацярплю.

Закатаваны, праз усе нягоды
Прайду і буду дыхаць, буду жыць
Любоўю к партыі, к свайму народу,
Паветрам родных ніў і мурашын...

Прыстаўце к муру, завязаўшы вочы,
Пад рулі аўтаматаў — я гатоў.
Страляйце раз, страляйце двойчы,
тройчы, —
Пакуль жыву і б'ецца ў жылах кроў, —

Я ёй не здраджу, мацеры адзінай,
Што, як святыню, ў сэрцы берагу,
І за яе, любімую Радзіму,
Я, жыццялюб, жыццё аддаць — магу!..

# Я ПРАГНУ ЖЫЦЬ



Я прагну жыць, калі вясной пяшчотна
Хінецца к скібе парастак травы,
Калі дзяўчаты, белячы палотны,
Пярэстукамі будзяць паплавы.
Я прагну жыць, калі ў спякоту вяне
Мядзьвяны дзяцельнік, калі ў цяньку
Пад торпамі спацелыя сяляне
Прысядуць на кароткі перакур.
Я прагну жыць, калі па голым садзе
Цярэбіць дождж, аблюжны і цяжкі,
І к пограбу на мокрым панарадзе
Вязуць з бульбянішч поўныя мяшкі.
Я прагну жыць, калі ў сыпучай белі
Задумаюцца бор і верасы,
А ў хаце з печы пахне лапкай елі
І смолкім лістам, мокрым ад расы.
Я рад жыццю, бо тут мне ўсё па сэрцы —
І гэта рунь, і верас між пяскоў.
Я прагну жыць!
Так прагну, што па смерці
Не затужыў бы і праз сто вякоў.

**Пераклаў з літоўскай мовы**
**Я. СЕМЯЖОНАЎ.**

# ШТО ЗРАБІЎ ТЫ?



Нам на стол
Багаццяў усё болей
Сыпле шчодра
Кожны новы дзень.
І таму сягоння, як ніколі,
Зззяюць шчасцем
Позіркі ў людзей.
Ды глядзі,
Ў закутку каля рога
Чуцен злосны шэпт балбатуна,
Нібы ў хлебе ў нас мякіны многа
І пабіта сажай збажына...
Я такому крыкну:
— Кінь, няўдзячны,
Падвываць варожым галасам.
Ну, а сам ты,
Каб наш хлеб быў смачны, —
Адкажы мне,
Што зрабіў ты сам?

**Пераклалі з літоўскай мовы**
**А. ВОЛЬСКІ і П. МАКАЛЬ.**



Марцінас Вайнілайціс нарадзіўся ў 1933 годзе ў сям'і малазямельнага селяніна. У 1957 годзе скончыў тэатральны факультэт Дзяржаўнай кансерваторыі Літоўскай ССР. Працаваў акцёрам у драматычным тэатры горада Капсукас, а таксама ў рэдакцыях раённай газеты і дзіцячага часопіса «Жвайгждутэ». Цяпер працуе ў Камітэце радыёвяшчання і тэлебачання. Вершы пачаў пісаць з 1953 года. Рыхтуе да друку першы зборнік вершаў.

**Марцінас ВАЙНІЛАЙЦІС**

# АСЕННІЯ ПАРАЎНАННІ



Ля дарог чырванеюць асіны,
Як на споведзі калісь дзяўчаты.
Восень смутак нясе у хаціны,
Як Літве насіў голад пракляты.

Хмара ціха плыве над падворкам,
Як малітва старэнькай жанчыны.
І гарбацяцца голыя ўзгоркі,
Як аратых сагнутыя спіны.

Цягне трактар да самае рэчкі
Баразну цаліны за сабою.
Быў такім наш пірог з чорнай грэчкі,
Як засекі мы скрэблі вясною.

Колькі долу асыпана лісцяў,
Што сарваны віхурай шалёнай!
Грош апошні так рвалі калісьці
Багацеі з бядняцкіх далоняў.

Зноў надыдзе вясна. У чыстым полі
Вільгаць высушаць сонца праменні.
Хай жа нас не трывожаць ніколі
Успамінам мінулага цені.

**Пераклаў з літоўскай мовы**
**А. РУСАК.**



Малюнкі А. Паслядовіч.

*Аляксей КУЛАКОЎСКІ*

# ДАБРАСЕЛЬЦЫ

*Ад аўтара*

*З год таму назад мне давялося размаўляць з адной дэпутаткай Вярхоўнага Савета БССР, старшынёй сельсавета, вельмі сціплай і разумнай жанчынай. Яна шмат расказвала мне пра сваю мінулую работу. Нельга было без хвалявання слухаць, як яна гаварыла аб тым вялікім уздыме сельскай гаспадаркі, які распачаўся ў калгасах сельсавета пасля вераснёўскага Пленума ЦК КПСС, аб актыўнасці і небывалай ініцыятыве калгаснікаў — гаспадароў зямлі.*

*І ў той жа час яна ўспамінала пра мінулыя гады, калі ў сельсавеце вялася ўпартая барацьба з пасляваеннымі цяжкасцямі і недахопамі ў кіраўніцтве сельскай гаспадаркай.*

*Некаторыя эпізоды гэтага расказа і ляглі ў аснову мае аповесці.*

## I

Час-ад-часу нешта шоргаецца аб шыбу. Жанчына ведае, што гэта ссохлы куст малінніку, але кожны раз уздрыгвае, намерваецца падысці да акна. Улетку гэты куст прыносіў многа радасці. Прыбяжыць гаспадыня з работы, адчыніць акно і, пынячыся, бывае, сарве спелую, важкую ягаду. Смокча тады яе, як цукерку, і здаецца, што адразу прападае смага і стомленасць адчуваецца менш.

А цяпер вось ужо каторы раз Андрэіха паглядвае на акно, хоць нікога і не чакае. На дварэ злосна шуміць вецер і наносіць яшчэ больш снегу. За ноч, мабыць, занясе ўвесь агародчык. У хаце гарыць электрычная лямпачка на эмтээсаўскім ліміце. Заплаці ў МТС пяць рублёў у месяц і свяці, колькі хочаш. Сусед Андрэіхі, стары Мітрафан, кажуць, што і спаў пры святле. калі правёў у хату лямпачку і ўнёс першую плату. Дру-

гі ж сусед, Лявон Мокрут, аблытаў праводкай нават свой хлеў і не плаціць за святло зусім.

Здалося жанчыне, што нехта бразнуў знадворку дзвярыма. Але ці мала што можа пачуцца пры такім ветры?

Управіўшыся крыху каля мыцельніка, Андрэіха ўсё ж выйшла ў сенцы. Бычок-двухтыднёвік варухнуўся ў загародцы, павярнуў да гаспадыні галаву, і ў змроку забялела яго вялікая, на ўвесь лоб, лысіна. Тут бычку цяплей, зацішней, як у хляве, пакуль ён яшчэ кволы. Андрэіха лепш зачыніла дзверы, апусціла на крук запору і, пагладзіўшы бычкову лысіну, вярнулася ў хату. Праз некалькі хвілін яна выключыла святло, узлезла на печ, скруцілася там, як малая, у клубочак, але заснуць чамусьці не магла. Спачатку залішне гарачым здаўся чарэн, а потым, як гэта часта бывае, апанавалі галаву розныя думкі, і рады ім ніякай не дасі. А сухі маліннік усё шоргаўся і шоргаўся аб намерзлую шыбу...

Некалі Андрэіху звалі Настулькай. Самы прыгожы ў вёсцы хлопец, цёмнавалосы Андрэй, падчас у жартах ганяўся за ёю, непаседай, па вуліцы:

— Не ўцякай, Настулька, усёроўна даганю!

А яна тупацела па густым пыле босымі, амаль дзіцячымі нагамі, смяялася і крычала на ўсю вуліцу, звала каго на паратунак. Толькі ніхто не ратаваў дзяўчынку, а калі Андрэй лавіў малую за рукі і пачынаў кружыць вакол сябе, знаходзіліся такія, што пачыналі заахвочваць хлапца:

— За ногі яе пакружы, за ногі!

Так і ўсё жыццё Андрэй зваў сваю жонку Настулькай. Адыходзіў у армію, узяў жанчыну за плечы, і ёй раптам здалося, што і цяпер ён скажа: «Давай, чуеш, я цябе пакружу».

Але Андрэй прытуліў кабету да грудзей, апусціў калючы падбародак ёй на галаву і ціха прамовіў:

— Не сумуй, мая Настулька, чакай нас!

І яна чакала. Чакала не толькі Андрэя, а яшчэ і двух сыноў, якія пайшлі на фронт раней за бацьку. Старэйшы па прызыву, а малодшы добраахвотна. Чакала ды нікога не прычакала. Навучылася толькі за гэты час не спаць начамі, хаваць ад людзей слёзы, каб не вельмі выклікаць спагаду. Цяпер толькі ў сне, бывае, чуецца голас то аднаго, то другога сына і толькі ў сне Андрэй ласкава кліча яе Настулькай. Адзінокай жыве Андрэіха ўжо дзесятак год.

## II

Радыё ў хаце маўчала ўвесь вечар, мабыць, ветрам пашкодзіла праводку. А потым нешта прарвалася ў рупарчыку, і ён спачатку пачаў хрыпець, затым і гукі пачуліся, нібы з глыбокага падзямелля. Андрэіха спала вельмі чутка, бо адразу прахапілася ад гэтых гукаў. Пачула, што іграюць Гімн, і ўспомніла, што ёй, перш чым ісці на работу, трэба хуценька ўправіцца з гэтым, з гэтым і з гэтым у хаце, разграбці снег у двары, даць есці карове, напаіць бычка і не забыць яшчэ безліч усялякіх хатніх дробязяў. Злезла з чарана, уключыла святло, прыадзелася цяплей і пачала расколваць натонка дровы, каб запаліць у печы. Работа ішла цяжка, сякера ледзь не валілася з рук, ныла ўсё цела і вельмі непрыемна марочыла ў галаве. Разгінаючыся, глянула на будзільнік, які стаяў на акне. Глянула і ў першы момант не паверыла сваім вачам: будзільнік паказваў толькі пятнаццаць мінут пасля поўначы. Праверыла, можа не заведзены гадзіннік, ажно ж заведзены, значыцца, яна спала ўсяго некалькі хвілін.



Смешна стала з самое сябе, але і радасна: можна ж яшчэ вунь колькі часу паспаць.

Другім разам жанчына палезла на печ ужо не раздзяваючыся і заснула так, што ледзь не праспала досвітак. Упыніўшыся ў хаце і каля хаты, паспешна выйшла на вуліцу. Вецер крыху ўціх ужо, але снег яшчэ ішоў, хоць не вялікі і, здавалася, зусім мяккі. Па самай сярэдзіне вуліцы, у напрамку фермаў, ляжаў ужо глыбокі след. «Гэта Мітрафанава Даша», — падумала Андрэіха, і ёй трошкі непрыемна стала, што суседка пабегла на работу раней за яе. «І не зайшла, не пастукала ў акно».

Ідучы амаль што па Дашынаму следу, жанчына ўяўляла, як яе маладая суседка напэўна ўжо выграбае снег з сіласнай ямы. Яма глыбокая, бо сілас больш як на палавіну выбралі, і снегу там цяпер па пояс. А колькі снегу на пачатых капцах бульбы? Гэта ўжо апошнія капцы. Пройдзе яшчэ тыдняў два, ад сілы месяц, і хоць на ферму не паказвайся.

У мінулым годзе так і было. З'явіўся пад вясну ў Дабрасельцы новы старшыня калгаса, былы загадчык бандарнай арцелі. Зайшоў з партфелем на ферму, а галодныя свінні як рынуліся на яго з усіх бакоў. Сталі на дыбкі, паднялі страшэнны піск і роў, папераскоквалі некаторыя праз перагародкі. Чалавек спачатку адбіваўся, як мог, партфелем, а потым кінуўся наўцёкі. Ратуючыся і не заўважыў, як свінні абжавалі знізу яго бобрыкавае паліто і вырвалі з рук партфель. Добра, што акрамя плоскай буханкі хлеба і запасных нагавіц, нічога не было ў гэтым партфелі.

З таго часу старшыня доўга не заглядваў на ферму. Лявон Мокрут на адной выпіўцы пусціў на яго мянушку «свіны недаедак», але нешта не прыліпла да чалавека гэтая мянушка. Патрымалася крыху ды адпала. Гэта, бадай, ад таго, што новы старшыня, па прозвішчу Шулаў, зусім не быў падобны на якога-небудзь недаедка. Росту ён высокага, шырокі ў плячах і ў поясе, два чырвоныя падбародкі звісаюць на каўнер. Ён і цяпер старшынствуе ў калгасе. Носіць тое самае бобрыкавае паліто, нанава падрубленае знізу. Вядома, цяпер яно пакарацела і цеснае стала занадта, бо вельмі ж раздаўся Шулаў, жывучы ў калгасе. Хто ні сустрэне цяпер яго, дык міжвольна падумае: «Што будзе з гэтым чалавекам яшчэ праз год?»

Пакуль награблі з капца бульбы, пакуль Мітрафан распаліў паравы кацёл на кармакухні, пачало днець. Андрэіха спяшалася, бо ведала, што праз якую гадзіну сюды можа наведацца старшыня. Зойдзе ён, канешне, спачатку на малочную ферму, нап'ецца там малака, а можа нават і паснедае. Жыве чалавек у адзіноце, сям'ю трымае ў гарадскім пасёлку, таму даводзіцца прымаць ежу дзе трапіцца: калі на ферме, калі ў брыгадзіра, калі ў якой-небудзь маладзіцы. Каб аберагчы сябе ад непажаданых перабояў у харчаванні, Шулаў заўсёды носіць у кішэні кусок хлеба і, здараецца часам, што жуе яго на хаду.

Зазванілі неўзабаве ў пусты бітон. Андрэіха ведала, што гэта Даша звоніць, падае сігнал Мітрафану, свайму бацьку, каб рыхтаваўся вязці на пункт малако. «Няўжо так хутка надаілі? — здзівілася жанчына. — І як жа яны павязуць, калі старшыня яшчэ не піў?»

Але старшыня не прамаргаў барадою, хоць Даша, загадчыца фермы, і не вельмі чакала яго. Ён неўзабаве з'явіўся на кармакухню і, аблізваючыся, пачаў дабразычліва ўсміхацца спачатку Андрэісе, а потым і другім жанчынам. Нораў у яго быў вельмі памяркоўны і спакойны. Ён ніколі нікога не палаяў, нават калі і трэба было гэта зрабіць, ніколі нідзе не павысіў голасу. Часткова гэта ад моцных нерваў, а часткова ад таго, што ніякае на свеце здарэнне, ніякі выпадак не маглі яго ні асабліва здзівіць,

ні асабліва ўстрывожыць. Таму і трымаўся ў калгасе і адчуваў сябе найлепш, некаторыя яго нават паважалі.

Калі Андрэіха панесла свіны харч на ферму, услед за ёй пайшоў і старшыня. З іншымі свінаркамі ён быў не такі ветлівы, а з Андрэіхай любіў і пагаварыць і параіцца, калі справа датычыла яго асабістых інтарэсаў. Ступіўшы на дашчаты насціл свінарніка, ён адразу спыніўся каля аднаго ўтульнага катушка і затрымаў каля сябе Андрэіху.

— Ну як ён? Нічога?

— Ды нічога,— адказала Андрэіха.

— Есць добра?— Шулаў узлёг жыватом на дзверцы і, адставіўшы зад, паспрабаваў пагладзіць рукой тупарылага рабога кормніка. — Дык вы яму, калі ласка... Разумееце?.. Хутка ўжо забяру.

— Ды разумею,— Андрэіха паставіла большае вядро на падлогу, а з меншым увайшла ў катушок. Вяпрук пачаў прагна глытаць цеста, а Шулаў стаяў ля катуха і задаволена аблізваўся. Калі цеста ў карыце заставалася ўжо не многа, старшыня пашарыў у кішэнях, выбраў адтуль паўжмені солі, перамешанай з крошкамі хлеба, і, зайшоўшы ў катушок, рупліва пасыпаў цеста. Вяпрук пачаў есці з большым стараннем, а старшыня мацаў пальцамі яго спіну і сам пра сябе прыкідваў, якой таўшчыні будзе сала і на колькі пудоў рабы пацягне.

— Ці многа ў нас яшчэ бульбы?— спытаў ён у Андрэіхі, калі тая ўжо можа ў дзесяты раз несла вёдры.

— Два капцы, — адказала на хаду жанчына.

— Два?— Шулаў вылез з катуха і на момант нібы задумаўся, нібы здзівіўся: «Малавата, калі так. На колькі ж гэта хопіць?»

— Слухайце!— гукнуў ён наўздагон Андрэісе.— На колькі ж гэта хопіць?

— На месяц, — не адварочваючыся, кінула жанчына, — а можа нават і менш.

«Малавата, — зноў падумаў старшыня, — зусім мала. Калі так, то пад вясну могуць перадохнуць усе свінні, хоць не колькі іх тут і ёсць. Што ж рабіць?» Ён хацеў спытаць у Андрэіхі, што ж рабіць, ды зразумеў, што гэта нязручна, трэба ж усё-такі думаць самому. Стараўся думаць, а на твары не з'яўляліся ні заклапочанасць, ні якая-небудзь трывога. Не хацелі трымацца ў галаве Шулава цяжкія думкі. Замест іх неяк міжвольна пачало думацца аб тым, што дома, у жонкі, бульбы хапае, машын тры адгрузіў туды: частку з уласных сотак, а частку і з няўласных.

Андрэіха ўжо, мабыць, у апошні раз бегла на кармакухню, як яе спаткаў Мітрафан. Шапка на ім перакруцілася вухам на лоб, на абедзвюх скулах каля сухога носа і над вусамі выступіў пот.

— Кадрыліхі тут не бачыла?— устрывожаным шэптам спытаў ён.

— А чаго яна сюды пойдзе? — перахапіла адказ адна маладая свінарка, якая разабрала Мітрафанаў шэпт.— Яна вунь павезла прадаваць пшаніцу, тую, што накрала ў жніво каля камбайна. Старшыня і падводу даў.

— Ц-ціш-шэй ты! — падняў Мітрафан перад дзяўчынай рукі, а сам неахвотна паглядзеў на дзверы свінарніка, адкуль, ён ведаў, мог выйсці старшыня. — Я не пра гэтую Кадрыліху, а пра кабылу, каб яе ваўкі зарэзалі. Пасунулася некуды, бегаю ўжо вунь колькі часу і знайсці не магу. Малако трэба везці.

— На ёй жа сілас вазілі, — жадаючы як-небудзь дапамагчы старому, падказала Андрэіха.



— Вазілі, — згадзіўся Мітрафан. — Выпраглі потым ды не прывязалі, мабыць. Усюды абшукаў.

І Мітрафан пабег дробным старэчым бегам, пад яго бахіламі лёгка зарыпеў снег. Шулаў тым часам накарміў свайго вепрука, задаволена ўсміхаючыся, выйшаў з фермы і накіраваўся ў той бок, дзе былі сіласныя ямы. Праз якой паўгадзіны Андрэіха чула, як ён з абыякавым смяшком сказаў Дашы:

— Твой стары кабылу шукае, а яна ў яме сілас жарэ.

Сказаў і пайшоў на вёску, на прыемны пах ранішніх дымкоў.

## III

Мітрафанава кабыла, якую ў вёсцы празвалі «Кадрыліхай» за яе надзвычайную хітрасць, сядзела ў сіласнай яме цэлы дзень. Даша спрабавала арганізаваць даглядчыц, каб выцягнуць клячу адтуль, але дзяўчыну раптам нечага выклікалі ў сельсавет, а больш ніхто надта і не рупіўся аб кабыле. Усе ведалі, што ўвосень, у час сіласавання, яна, выконваючы невясёлую службу таптуна, па некалькі сутак узапар праседжвала ў яме. Іншы раз ёй падавалі туды вядро вады, а падчас і не падавалі.

Мітрафану далі другую кабылу адвезці малако, толькі, як на смех, самую старую і амаль зусім сляпую. Ехаў Мітрафан на гэтай кабыле па вуліцы і, нягледзячы на старасць, на даўнюю звычку зносіць усялякія крыўды і зняважі, адчуваў сябе вельмі ніякавата. Кабыла ледзь пераштаўляла ногі. Улетку яе часта запрагалі ў малатарню ці ў сіласарэзку, і паколькі яшчэ крыху свяціла ёй адно вока, дык клыпала яна гадзінамі па кругу і, відаць, была ўпэўнена, што ідзе проста. Цяпер яе таксама цягнула на круг, і Мітрафану ўвесь час трэба было адну ляйчыну трымаць туга, а другою панукваць.

Ехаў стары, і нялёгкія думкі наплывалі яму ў галаву. Быў ён, канешне, некалі маладым, ды яшчэ — адным сынам у бацькі. У якія-небудзь восемнаццаць год у яго ўжо былі свае боты, ды нават шчыгрынавыя. Гэта ў той час, калі ў многіх аднавяскоўцаў не было ніякага скуранога абутку нават і ў дваццаць год. Дзяўчаты заглядваліся на яго, бо ў вёсцы не было лепшага жаніха. Бывала, на зімнія вечарынкі хлопцы адзявалі ўсё лепшае, што ў іх было, а Мітрафан прыходзіў на вечарынку ў лапцях, садзіўся дзе-небудзь пад лямпаю і далёка выстаўляў ногі. І гэта не па сціпласці, вядома, а каб падкрэсліць сваю перавагу. «Вы вось тут пняцеся, выстаўляецеся, каб быць прыкметнымі, а мяне і так пазнаюць, бо ўсёроўна ж усе ведаюць, што ў мяне ёсць і боты і галіфэ з пярэсцікам на цяглях.

Іншы раз Мітрафан і польку ішоў у лапцях.

На імперыялістычную вайну яго не ўзялі, як ільготніка, а на грамадзянскую пайшоў сам, хоць жыў ужо аддзяліўшыся ад бацькі. Прышоў з вайны з дзвюма ранамі ў нагах, застаў дома ўжо ніштаватага сынка Міхаську. Малы гладзіў чырвоную зорку на бацькавай шапцы і радасна смяяўся. Падобна было, што ён спачатку ўлюбіў зорку, а потым ужо стаў прывыкаць і да бацькі.

Пачаў жыць Мітрафан на трох дзесяцінах, якія выдзеліў яму бацька. (Другую палавіну надзелу пакінуў сабе.) Неўзабаве дэмабілізаванага франтавіка выбралі старшынёй сельсавета. Далі яму пячатку і папку з пажоўклымі паперкамі. Што там былі за паперкі, Мітрафан не надта і ведаў, бо чытаць умеў слаба, а пісаць, дык толькі адно сваё прозвішча сяк-так выводзіў. Работа яго, як старшыні, хоць не была тады асабліва

складанай, аднак клопату давала многа і часу трацілася на гэта не мала. Разоў дзесяць на дзень трэба было прыставіць да якога-небудзь дакумента пячатку: гэта Мітрафан рабіў ахвотна і без асаблівага разбору—прыстаўляў пячаць да пратаколаў, да розных прашэнняў, да метрычных выпісак, якія выдаваў тады яшчэ поп. Разоў дзесяць на дзень трэба было выслухаць розныя загады на вызначэнне фурманак: гэта была самая цяжкая работа, бо амаль ніхто ў Дабрасельцах не хацеў ехаць у падводы, хоць нават і на самую блізкую адлегласць. Клялі Мітрафана, прасілі ў бога смерці і яму і яго дзецям. Клялі, а здымаць са старшыні не хацелі, бо нікога не вабіла стаць на яго месца і выслухоўваць такія ж праклёны.

У гэты час Мітрафан будаваўся. І вось толькі, бывала, узлезе на страху, распусціць куль саломы, а ў двары ўжо які-небудзь прадстаўнік з прадпісаннем — выдзеліць фурманку.

Не змянялі Мітрафана некалькі год, а калі змянілі, то паставілі яго ўпаўнаважаным над усім лесам мясцовага значэння. Зноў клялі яго людзі, калі не дазваляў секчы пруцце на страху або жэрдзе на агарожу. Пруцце і жэрдзе ў лесе ўсё ж такі не прыбавілася ад гэтага, але сам упаўнаважаны за ўвесь час сваёй новай службы ні разу не з'ездзіў у лес і сядзеў нават без дроў.

Пачалася калектывізацыя, дык Мітрафан першым у сваёй вёсцы падняў руку за калгас. Сёння ён прагаласаваў, а назаўтра пайшла дымам яго хата, сяк-так агораная за некалькі год. Усё лета і восень Мітрафан жыў у хляве і толькі ў халады ўвабраўся ў нешта падобнае на хатку, зляпленую з агаркаў і кускоў верхаўя. Усё ж калгас у вёсцы арганізаваўся, і Мітрафан быў у ім першым старшынёй. К гэтаму часу ён ужо ўмеў добра правесці сход, выступіць з прамовай, самастойна разабрацца ў дырэктывах, што прыходзілі зверху.

Пад восень трыццаць шостага года Мітрафана знялі са старшыні, бо нехта падаў заяву, быццам ён служыў калісьці царкоўным старастам.

Пакуль чалавек даказваў, што ён ніколі не быў гэтым старастам, дык аж пасівеў, небарака. Выплакала свае вочы і прыгорбілася за гэты час яго жонка; маленькая Даша не ведала, што і рабіць, калі бачыла слёзы маці.

Усе гэтыя ўспаміны да таго захапілі старога, што ён на нейкі час забыўся трымаць ляйчынаю кабылу і ледзь не заехаў у крайні двор суседняй вёскі «Чырвоныя макі». Вольна думаецца ў дарозе, асабліва ў такой, што і спяшацца асабліва не трэба і аднолькавая слава табе будзе, паўгадзінаю раней ты прыедзеш, ці паўгадзінаю пазней. На вуліцы Мітрафан тужэй дзяржыць ляйчыну, мацней пакрыквае на кабылу. Вось ужо хутка сельсавет, а там і малочны пункт недалёка. Праязджаючы паўз будынак Чырвонамакаўскага сельсавета, Мітрафан успомніў, што яго Даша пайшла сюды. Сядзіць, напэўна, дзяўчына ў кабінеце старшыні і вучыць гэтага самага Мокрута, як што трэба рабіць. Яна можа павучыць, яна часта і свайго бацьку вучыць...

Крыўднавата трошкі Мітрафану, што дачка цяпер мала яго слухае і вельмі рэдка згаджаецца з ім, калі гаворка ідзе аб розных асцярожнасцях у жыцці. У той жа час і радасна бацьку за сваіх дзяцей. Вось дачка — загадчыца фермы, дэпутатка сельсавета, Міхась — аграном, працуе ў горадзе, у міністэрстве, Цімох, яшчэ зусім нядаўна Цімашок, вучыцца ў дзесятым класе. Дзеці будуць жыць шчасліва.



## IV

Лявон Мокрут сядзеў у старым дубовым крэсле з высокай спінкай, і гэта рабіла яго трохі падобным на суддзю. Гадоў дваццаць таму назад гэтае крэсла было прынесена ў сельсавет з папоўскага дома; вайну перажыло, некалькі старшынь на ім змянілася, і вось цяпер служыць яно Мокруту. Насупраць старшыні, ля стала, успіраючыся на кіёк, стаяла сухенькая, кволая бабулька.

— Дык усё ясна? — мабыць ужо канчаючы размову, спытаў у бабулькі Мокрут і пастукаў пальцам па рубцу стала. — Калі праз два дні не ўнясеш!..— І старшыня не гаварыў больш нічога, а ўсё стукаў пальцам.

Даша сядзела на зэдліку блізка ад стала і сумна паглядвала на Мокрутаў палец. Яна ўжо ведала, што азначаў гэты стукат, якія словы замяняў. Відаць, здагадвалася пра гэта і бабулька, бо заплакала і яшчэ ніжэй нагнулася над кійком.

— З чаго ж я ўнясу? — скрозь слёзы паскардзілася яна.

— Нічога не ведаю, — сказаў на гэта Мокрут.

— І каб за што быў гэты падатак, — працягвала старая, павярнуўшыся да незнаёмай ёй дзяўчыны, — а то ж за нейкую дуплаватую дзічку.

— Нічога не ведаю! — паўтарыў старшыня.

— Як гэта не ведаеш? — абурана спытала Даша і, паспешліва ўстаўшы, падхапіла бабульку за локці, нібы тая вось-вось магла ўпасці. — Сядайце вось тут, — яна падставіла старой другі зэдлік. — Сядайце і раскажыце ўсё, а мы паслухаем.

Дзяўчына з дакорам паглядзела на старшыню, а той падняў руку, каб зноў застукаць пальцам аб стол, ды раптам перадумаў. Ён устаў, паправіў на сабе фрэнчык вайсковага колеру і квола, нібы толькі для таго, каб размяць ногі, падаўся да праціслеглага ад Дашы акна. Там выняў з кішэні папяросу, дзьмухнуў у цыбук так, што аж уздрыганулася бабулька, і, закурыўшы, стаў паглядваць на Дашу, нібы на падлетка, які займаецца не сваімі справамі.

— Адкуль жа вы, бабка? — спытала Даша, сеўшы са старою побач. — Нешта я вас не ведаю.

— Ды з пасёлка я, дачухна, з Жоўтай гары.

— І што ў вас там, вялікі сад?

— Ды які ж ён вялікі? — павярнуўшыся ўсім згорбленым тулавам у бок старшыні, горычна здзівілася бабулька. — Няхай бы ж прыйшлі паглядзелі. Тры ігрушыны стаяць. Старыя, галлё напалавіну сухое. Яшчэ бацька майго нябожчыка, як маладым быў, то пасадзіў, прынёс сеянкі з лесу. Не родзяць ужо каторы год.

— Прыдзем да вас, бабка, паглядзім. Я сама прыду.

— Дзякуй вам, дачухначка. — Старая зноў паглядзела на старшыню і, калі заўважыла, што той, пускаючы дым, пасмейваецца, утуліла ў зляпчаную хустку свой зморшчаны падбародак і закашлялася.

— Можаш, старая, ісці! — не чакаючы, пакуль бабулька адкашляец-

ца, сказаў Мокрут. Выгляд у яго быў такі, нібы ён рабіў у гэты момант вельмі вялікую ласку. — А грошы ўсё-такі рыхтуй. Вось так!

— Прыдзем і разбярэмся, — паўтарыла Даша і дакранулася да халодных костачак бабулінай рукі.

Старая ўзялася аберуч за кіёк і зрабіла спробу ўстаць, але, відаць, нешта ўспомніла і зноў склала рукі на каленях. Хісткі зэдлік пад ёю скрыпнуў.

— А вы, дачухна, хто будзеце? — спытала яна ў Дашы. — Секлятарша ці па падатках якая начальніца?

— Я дэпутатка сельсавета, — адказала дзяўчына.

Бабуля паківала галавою, нібыта ў знак таго, што ўсё ёй зразумела і яна задаволена, аднак пайшла з пакоя, змрочна падцяўшы сухія вусны.

— Як яе прозвішча?— звярнулася Даша да старшыні, калі старая зачыніла за сабою дзверы.

— А я адкуль ведаю? — засмяяўшыся, адказаў Мокрут. — Пойдзеш на іхні пасёлак, там і спытаеш.

— А ты ні разу не быў у гэтай сям'і?

— Печка быў і фінагент. А ў мяне ногі не сабачыя.

— Стукаеш на людзей, пагражаеш, — са шчырым абурэннем загаварыла Даша,— а не ведаеш, на каго стукаеш, каму пагражаеш. Хіба можна так размаўляць з людзьмі?

— З табой я яшчэ горш пагавару, — адказаў на гэта старшыня.

— Ну, паспрабуй!

— І спрабаваць няма чаго! — Мокрут размашыста ступіў некалькі крокаў і зноў апынуўся каля папоўскага крэсла. — Ты колькі грошай сабрала за гэты тыдзень? Што, я за цябе пайду па хатах?

— Я таксама не пайду! — цвёрда сказала Даша. — Вунь фінагент для гэтага ёсць.

— А для чаго ты пастаўлена? Для чаго? — Мокрут зноў пацягнуў на сабе фрэнчык і яшчэ бліжэй падышоў да дзяўчыны. — Мы цябе для таго і паставілі, каб ты дапамагала сельсавету.

— Хто гэта — мы?

— Я, напрыклад.

— Ты мяне паставіў дэпутаткай?

— А хто, ты думала?

— Я думала і думаю, што мяне выбралі людзі. Хопіць! — ледзь не крыкнула Даша і, устаўшы, падалася да дзвярэй. — Агідна мне слухаць тваё бязмозглае плявузганне.

— Дык хіба я... Слухай! — Мокрут мякка пакрочыў услед за дзяўчынай. — Хіба я што дрэннае гавару? Калі сказаць па чыстай совесці, дык я асабіста вельмі паважаю твайго бацьку. А цябе яшчэ больш. Давай на гэтым і скончым. Не для таго я цябе выклікаў, калі гаварыць па чыстай совесці.

— А для чаго?— Даша ўзялася за ручку дзвярэй, аднак пакуль што не адчыняла.



— Пастой крыху, — пачаў прасіць Мокрут, — ну, чаго ты ўзлавалася? Прыходзь сёння ўвечары ў школу, спектакль мы тут будзем паказваць. І мяне ўцягнулі, успомнілі талент юнацтва: п'яніцу аднаго буду прадстаўляць.

— Самога сябе? — спытала дзяўчына і крыху адступіла ад дзвярэй.

Мокрут зноў засмяяўся, але Даша заўважыла, што павекі яго залыпалі і пад калючымі шэрымі вачамі з'явілася чырвань.

— Чаму ты думаеш, што сябе? — відаць, даруючы дзяўчыне ўсё, загаварыў старшыня. — Хіба я адзін выпіваю? Нажаль, многія цяпер п'юць. Вунь жаўтагораўцы глядзі што ўсё збожжа перагоняць на самагонку.

— Жаўтагораўцам не вельмі ёсць з чаго гнаць,— не згадзілася Даша,— а ў другіх вёсках то гоняць, праўда.

— Жаўтагораўцы бульбу пераганяюць,— удакладніў старшыня,— але ж цяпер у нас не пра гэта гамонка. Я запрашаю цябе на спектакль і буду чакаць каля школы. А ты паабяцай, што прыдзеш.

— Не прыду! — цвёрда сказала Даша. — Часу мне цяпер няма, ды адна дадому баюся ісці.

— Разам пойдзем! От якая ты! — Мокрут паспрабаваў узяць дзяўчыну за локаць, але яна рыўком адвяла сваю руку і зноў падалася да дзвярэй.

— Даша! — пачаў прасіць старшыня. На яго круглым, ужо з валлячком, твары расплылася ўся тая ласкавасць, на якую ён толькі быў здольны. — Ну, сядзь пасядзі, давай яшчэ пагамонім. Чаму ты такая неласкавая да мяне? Калі гаварыць па чыстай совесці, то я...

— Што? — з насцярожанай усмешкай спытала Даша і паставіла нагу ў белым валёначку на парог.

— Я ўжо даўно сохну па табе, хіба ты не бачыш?

— Не бачу і бачыць не хачу! — сказала Даша. — Ёсць у цябе па кім сохнуць!

— Эх, што ты за чалавек! — нібы крыкнуў, нібы ў роспачы застагнаў старшыня і, закрыўшы рукамі твар, адышоў ад дзяўчыны. — Да чаго ты мяне давядзеш! — Ён церабіў пальцамі свой баксёрскі чубок, узбуджана хадзіў па пакоі. Можна было падумаць, што чалавек прышоў у адчай, але Дашы чамусьці не верылася ў гэта.

— Згарыць яно няхай усё гэта! — загаварыў Мокрут, прыхінуўшыся локцямі да аконнай шалёўкі паблізу ад свайго стала. — Не для таго я цябе зваў сёння і не для таго стараўся, каб ты была дэпутаткай. Не патрэбна тут мне твая дапамога. Сам спраўлюся! Мне ты патрэбна для душы, для сэрца, якое ўжо стала забываць, што такое ласка, што такое добрае чалавечае слова. Думаў, будзеш дэпутаткай, чык часцей будзем сустракацца, лепшыя будуць умовы для размоў, для дружбы. А выходзіць, што.. Магла б ты ведаць, Даша, што мне не цяжка было б прымусіць цябе стаць ласкавейшай. Ёсць у маіх руках сякія-такія сродкі. Але ж я не хачу быць для цябе кепскім. Я для цябе нават і не старшыня, калі ты гэтага хочаш. Я ўсё для цябе зраблю! Усё! Разумееш?..

Мокрут адарваўся ад шалёўкі, падняў галаву, і ад крыўднага здзіўлення ў яго затросся валлячок: Дашы не было ў пакоі. Яна паціху вый-

шла, мабыць, яшчэ тады, калі старшыня толькі пачынаў сваё красамоўства. Пайшла адразу дадому.

Падціснуты палазамі і машынамі снег звонка скрыпеў пад нагамі, пасля пракуранага сельсавецкага пакоя дыхалася лёгка і прыемна. Даша хутка выйшла на дабрасельскую дарогу, мінула два бяскрылыя млыны, якія ледзь чутна патрэсквалі на марозе, і пакрочыла проста ў сваю вёску. Невялікі, хоць і даволі калючы вецярок, дзьмуў насупраць, але дзявочыя шчокі не баяцца сустрэчнага ветру: Даша нават на цемя хустку не нацягнула. Просты і тонкі радок, паабапал якога не надта паслухмяна ляжалі каштанавыя валасы, трошкі пачырванеў ад холаду, гэтак жа, як і лоб, як і адкрыты круглы падбародак. У вушах назойліва гучаў голас Мокрута. «Ён, мабыць, яшчэ і цяпер стаіць ля акна, выказвае сваю крыўду...»

Дзяўчыне цяжка было разабрацца, што гэта за чалавек, што ў яго на душы. Здаралася, што і раней яна пра гэта думала, ды адганяла думку ад сябе, каб не замінала. Некалі да вайны, калі Даша была яшчэ зусім падлеткам, Лявон Мокрут, Лёўка, як тут яго звалі, быў не апошнім хлопцам у вёсцы. Куды там! Каб хто сказаў, што ён не самы першы, то Лёўка, напэўна, выдраў бы яму вочы. Хлопец быў на выгляд прыгожы, па таму часу нядрэнна адукаваны (скончыў восем класаў), умеў мацней за ўсіх заспяваць, найлепш адстукаць казачка, выступіць на сцэне. Любіў Мокрут, каб на яго глядзелі, а яшчэ больш, — каб яго баяліся. Няхай, можа, і не яго, а каго іншага, але ўцеха брала хлопца, калі людзі палохаліся або жылі ў чаканні якога-небудзь няшчасця. Так у яго змалку. Бывала, на шчадраца ён не цягаў, як іншыя, варотаў з аднаго двара ў другі, не пасыпаў мякінаю патаемных сцежак, а лазіў на вуліцы чорнага ката і спускаў яго праз комін у хату якой-небудзь бабульцы. Ужо і Даша памятае, як ён аднаго разу ў асеннюю ноч паставіў на могілках пусты гарбуз са свечкаю ў сярэдзіне. На гарбузе былі выразаны дзіркі для вачэй і страшэнныя зубы. Не толькі дзеці, а і некаторыя дарослыя баяліся пасля таго праходзіць ноччу паўз могілкі.

Прайшло не мала часу пасля гэтага, і цяпер Дашы часам нават не верылася, што Лявон мог каго-небудзь напалохаць. У яго былі вельмі маленькія і, напэўна, мяккія, як у дзіцяці, рукі. Круглы, чысты падбародак з пяшчотным валлячком. Здавалася, што гэты падбародак выяўляў заўсёды толькі адну лагоднасць, нават і тады, калі Мокрут злаваўся. Вочы таксама не кожны раз былі калючымі. Часам яны свяціліся цёплай ласкаю, нават пяшчотай, асабліва тады, калі ён задумліва глядзеў на яе, на Дашу. Гэта заўважала дзяўчына не адзін раз, і часта ёй здавалася, што дарэмна людзі асцерагаюцца Мокрута, дарэмна думаюць, што ён можа зрабіць чалавеку нешта дрэннае. Варта вось ёй узяць яго за гэтую дзіцячую руку, і пойдзе Лёўка пакорліва, куды толькі яго ні павядзеш. Ні слова кепскага не скажа, ні голасу рэзкага не падасць...

Падыходзячы да сваёй вёскі, Даша міжвольна замарудзіла крок. Вельмі ж лёгка і прыгожа было на дарозе. З-за вясковых прысад неспадзявана выблiснула сонца, і яго спакойныя, нячутныя прамені заіскрыліся ў свежым інеі дрэў, у галінках прыдарожнага быльняку, прыцярушанага свежымі пушынкамі. Яшчэ ўчора Даша праходзіла тут, і быльняк тырчэў голы, пашумліваў і пасвістваў на ветры. На яго не шкада было наступіць нагой, наехаць машынай. А сёння былінкі выглядаюць так хораша і прывабна, што над некаторымі з іх хацелася нахіліцца і дзьмухнуць, як на адуванчыкі. На дарозе, між каляін, быў пласт такога ж мяккага снегу, але ён зусім не адчуваўся пад нагамі, крок парыпваў ад ранейшай намаразі. Гэтае парыпванне бадзёрыла хаду, як маршавая музыка. Хацелася ісці і ісці. Няхай бы гэтыя Дабрасельцы былі трохі далей, не абавязкова ім так хутка набліжацца, хоць там і родная Дашына хата, хоць там і вельмі прыгожыя зімой і летам прысады. Прайсці б яшчэ крыху па свежаму сняжку, падыхаць лёгкім халадком. Няхай бы нават сустрэўся цяпер хто-небудзь. Не Мокрут, вядома, і не Шулаў. Хацелася спаткаць каго-небудзь вельмі блізкага, вельмі дарагога. Міжвольна думкі пайшлі пра Валодзю, далёкага-далёкага па адлегласці і бясконца блізкага па сэрцу. Служыць Валодзя ў арміі вось ужо чатыры гады, бо канчае лётчыцкую школу. Калі ж ён прыедзе, калі можна будзе яго ўбачыць?..



Гледзячы проста на сонца (калі гэта можна глядзець проста на сонца?), Даша заўважыла сярод інею на таполях чорныя купкі варонніх гнёздаў. Цікава, што гэтыя гнёзды і пад інеем былі чорнымі. Затым высунуўся з-за дрэў востры і пасівелы ад інею верх дабрасельскага млына, таксама бяскрылага. Адной навальніцай паламала крылы ўсім тром сельсавецкім млынам. Неўзабаве стала відна і хата млынара, можна сказаць, што і не хата, а цэлы дамок. Гэтым дамком з аднаго боку вуліцы і маленькай хаткай конюха Платона — з другога пачыналіся Дабрасельцы. Насупраць млынаровага дамка стаяў слуп з электрычным ліхтаром. Пакуль на млыне былі крылы і ён пры ветры даволі жвава круціўся, ліхтар гэты асвятляў не толькі дамок, а і частку дарогі. У млынара часта збіраліся прадстаўнікі мясцовай улады: старшыня і сакратар сельсавета, участковы міліцыянер, бухгалтар Дабрасельскага калгаса (у гэтым калгасе ўладай лічыўся не старшыня, а бухгалтар), загадчык гаспадаркі МТС ды сёй-той з механікаў. Наведваўся таксама чалавек па прозвішчу Заткла. Ніякай уладай ён нідзе не лічыўся, аднак млынарова кампанія рэдка калі абыходзілася без яго. Добра выпіўшы, млынар звычайна напяваў, кудлачачы стручкаватыя валасы, зацярушаныя мукою: «Ты-ыся-ача-а рублёў для мя-ане-э нічо-ога не зна-ачыць».

Неўзабаве ж пасля таго, як навальніца зламала на млыне крылы, прышоў эмтээсаўскі манцёр і абрэзаў правады на слупе супраць дамка. Цяпер гэты слуп стаяў тут без усякай патрэбы, і аднаго разу ноччу млынар вельмі моцна выцяўся аб яго галавой.

Спрабаваў млынар напівацца і потым, калі ўжо млын не круціўся. Аднаго разу нават заспяваў быў на вуліцы: «Ты-ыся-ача-а рублёў...» Але ў гэты час выйшла на вуліцу яго жонка, здаравенная цётка Матрона, узяла спевака за шкірку ды пры ўсіх людзях пацягнула дадому.

У гэты ж час пайшлі асцярожныя чуткі, што і жонка Мокрута трохі натаўкла свайго Лявона. Жанчына гэтая была не такая мажная і здаровая, як цётка Матрона, па росту і вазе яна была можа толькі ў палавіну Матроне, але затое па злосці і ўпартасці рэдка хто мог з ёю зраўняцца. Суxенькі тварык яе з лісінымі вочкамі заўсёды меў такія зморшчыны, на якія страшна было глядзець. Нават і тады, калі яна гаварыла што-небудзь вясёлае, дык усёроўна гэтыя зморшчыны насцярожвалі людзей.

Баяўся сваёй жонкі нават і старшыня сельсавета, хоць усе лічылі, што ён тут нікога не баіцца. Дома, перад жонкаю, Мокрут быў зусім не такі, як бывае ў сельсавеце або на вясёлых сустрэчах у млынара. Адкуль Мокруціха была родам, хто яе родзічы, бацькі, ніхто пэўна не ведаў: Мокрут знайшоў яе недзе ў партызанах.

У вуліцы Даша пайшла крыху шпарчэй, як ішла па дарозе. Няёмка было ісці на вачах у людзей ледзь не шпацырам, падумаюць, што дзяўчыне няма чаго рабіць. «Прыехаў ужо бацька ці не?» Дашы карцела за-

бегчы ў хату, паглядзець, ці дома стары, што робіць Цімоша перад адыходам у школу на другую змену. Гультаяваты хлапец, часта даводзіцца прымушаць брацца за кніжку. Загуляецца, бывае, а потым бяжыць у школу, не падрыхтаваўшы урокі, а галоўнае — не еўшы.

Добра было б заглянуць у хату, але ж і на ферме многа спраў. Яшчэ ж, напэўна, і «Кадрыліха» сядзіць у сіласнай яме. Даша толькі прыпынілася каля свайго двара, шчыльней прычыніла вароты і пайшла далей. Каля самай канюшні ёй сустрэўся Платон, у старым кажусе, падпяразаным вяроўкай. Ён прыветна ўсміхнуўся і спытаў, ці дома бацька.

— Хутка прыедзе, — сказала дзяўчына, — заходзьце да нас.

І ёй уявілася, як вось гэтыя два дзяды, два закадычныя сябры, сёння, мабыць, зноў будуць сядзець у запечку цэлы вечар і вясці між сабою мала каму чутную і мала каму зразумелую гамонку.

## V

Застаўшыся адзін у сельсавеце, Лявон Мокрут нейкі час хадзіў па пакоі і ў задуменні прыслухоўваўся, якім скрыпам абзываюцца яго боты. Ходзячы, нахіляўся то на адзін бок, то на другі і з прыціскам ставіў нагу на абцас, каб скрып быў мацнейшы. Міжвольна ўспаміналася, што ў вялікага начальства чамусьці заўсёды скрыпяць боты ці чаравікі.

Падышоўшы да стала, паставіў нагу на падлакотнік папоўскага крэсла і пачаў аглядаць з усіх бакоў свой хромавы бот. Неважнецкім паказаўся яму гэты бот: перад патрэсканы, ранты ў адным месцы выехалі. Дзе яму рыпець, такому абутку! Глянуў затым на штаны і таксама не ўцешыўся. Хоць яны і сінія, хоць і галіфэ, але ж блішчаць ужо, як некалі ў дзегцявоза. Ледзь не з самых партызанскіх часоў служаць, як жа ім не падацца?

Старшыні падумалася, што, мабыць, і Даша ўсё гэта заўважыла. Вядома, заўважыла і пасмяялася, напэўна. Сама, нябось, вунь як спраўна адзета: новыя валёначкі, ватоўка, падагнаная пад стан, хустка цёплая клетчатая. Андрэіха і тая ў новым ходзіць. Не ў такім, вядома, ладным, як яго жонка, але ў добрым і акуратным адзенні.

Мокрут пляснуў рукою па халяве, апусціў нагу і маркотна скрывіўся. Раптам здалося яму, што ён зусім і не Мокрут і не Лёўка, на якога некалі зважала ўся вёска, і тым больш не старшыня Чырвонамакаўскага сельсавета. Можа таму і Даша з такім недаверам і абыякавасцю глядзіць на яго. Быў раней калгасным брыгадзірам у Дабрасельцах, дык і то, можна сказаць, што больш было павагі. Людзі не міналі на вуліцы, як іншы раз цяпер. У любы двор зойдзеш і ўжо, вядома, не выйдзеш адтуль абы-як. На працадні — падлічаць у канцы года — цэнтнер пазаддзя атрымаеш, а хапала і хлеба і сала, і вось боты добрыя тады справіў.

Зноў пачаў хадзіць чалавек па пакоі. Пад нагамі ўжо нічога не скрыпела, усёроўна, як наўмысля. Крок выходзіў кволы, нібы старэчы. Ад гэтага рабілася яшчэ горш сумна і нейкая нудлівая крыўда лезла ў душу.

«Вунь Шулаў, дык той, нябось, не ў такім выглядзе. Паліто ў яго, праўда, падточанае, але ж боты новыя, нават з нейкай аўчынкай у сярэдзіне. А морду наеў — нават засмяяцца ўжо добра не можа, шчокі не даюць. І што чалавек робіць, чым галава занята? Будуе сабе пяцісценку на вываз ды корміць вяпрукоў. Па калгасу ў яго толькі адзін клопат: не спазніцца паслаць зводку ў раён.



Рукі Мокрута ляжаць адна на адной за спіною, пальцы варушацца, паказваюць узбуджанасць і нервовасць. Раптам адна рука апускаецца, з нейкім спалохам абмацвае канты галіфэ, а потым глыбока лезе ў кішэню. Давялося нават нагнуцца, каб добра абшарыць гэтую залішне шырокую, а цяпер ужо і не зусім цэлую кішэню. Мокрут выцягнуў адтуль круглую пячатку ў драўляным футлярчыку і адразу павесялеў, нават узрадаваўся.

— Пячатачка ты мая! — урачыста прамовіў ён, трымаючы на далоні крыху зашмальцаваны ад прабывання ў штанах футлярчык і пяшчотна гледзячы на яго. — Спужаўся быў, аж у сэрцы ёкнула, — здалося, што згубіў цябе, выпала ты з маіх гэтых, ужо мала надзейных штаноў. Ажно ж не, не выпала, дзякуй богу! І што б я рабіў без цябе? Корміш ты мяне цяпер і поіш. Не адзяваеш, праўда, пакуль што, але будзеш і адзяваць! Будзеш!

Ён паднёс футлярчык ледзь не к самаму носу, падкінуў на далоні, затым моцна сціснуў у кулаку і апусціў зноў у кішэню.

— Будзе карміць, — ужо зусім упэўнена сказаў старшыня, — паіць і адзяваць! Яна ў мяне — чарадзейка, яна ўсё ўмее і ўсё можа. І нікому другому яна не трапіць у рукі, пакуль сам не аддам.

Сеўшы, нарэшце, у крэсла і адкінуўшы галаву на самы верх спінкі, нібы яго зараз пачнуць брыць, Мокрут спачатку самазадаволена залыпаў вачыма, а потым крыкнуў так, што аж сцены задрыжалі:

— Печка!

Ніхто за дзвярыма не азваўся, толькі праз якую хвіліну з дальняй бакоўкі зайшоў невялічкі хлопец, кульгавы і да таго худы і бледны, быццам толькі што выпісаўся з бальніцы. Звалі яго тут «кульгавым начальнікам», хоць афіцыйна яго пасада была даволі ўнушальнай — загадчык вайсковаўліковага стала.

— Вы каго-небудзь клікалі? — спытаў хлопец.

— Дзе Печка? — Старшыня нават не варухнуўся ў крэсле.

— Не ведаю, — спакойна адказаў хлопец. — Пайшоў некуды з фінагентам.

«Хабарнічаць», — хацеў сказаць Мокрут, ды стрымаўся: не варта залішне адкрыта выказвацца перад гэтым чалавекам. Маўчыць ён усё ды аб нечым думае. Наўрад ці што добрае ў яго ў галаве.

— Можаш ісці! — кінуў старшыня, не парушаючы сваёй раскошы. — Угледзіш Печку, скажы, каб зайшоў да мяне.

Калі праз нейкі час у пакой зайшоў сакратар сельсавета Васіль Печка, Мокрут зноў хадзіў па пакоі, і крокі яго былі ўжо даволі размашыстымі і цвёрдымі. Ружова-матавы валлячок пры хадзе трэсся.

— Дзе ты быў? — грозна спытаў старшыня.

Васіль Печка, малады, шчуплаваты хлопец, у летняй вайсковай шапцы, неяк замітусіўся перад начальствам, абедзвюма рукамі прыціснуў да жывата папку з паперамі і лагодна адказаў:

— Апісваць хадзілі... Апісвалі...

— Каго?

— Сідора, Сідора таго, што ў Дубках.

— Я вам наапісваю! — крыкнуў Мокрут і яшчэ больш размашыста захадзіў па пакоі. — Пазаві сюды фінагента!

— Я вам колькі разоў гаварыў! — пачаў Мокрут, калі разам з Печкам увайшоў у пакой і фінагент. Голас старшыні быў поўны злосці і абурэння. — Ніякіх апісванняў без адпаведнай пастановы! Зразумелі?

Зарубіце гэта на сваіх насах! Мы павінны паважаць нашых людзей і заўсёды думаць пра іх. Калі ўжо і давядзецца каго апісваць, то толькі пры маёй асабістай прысутнасці. Ціхоня быў з вамі?

— Не было, — адказаў фінагент.

Ён стаяў побач з сакратаром і глядзеў на Мокрута з нейкай замарожанай усмешкай. Яго кашчавы, густа паморшчаны, асабліва каля губ, твар не выяўляў ні асаблівага перажывання, ні асаблівай думкі. Чалавек ён быў ужо не малады, але і пажылым яго ніхто не прызнаў бы. Постаць сухая, простая, валасы па густаце юнацкія, хоць колеру нямаведама якога: нешта накшталт мокрага касмылля. Па росту Васіль быў яму толькі па плячо.

— Ну вось, — крычаў далей Мокрут. — Нават і ўчастковы не прысутнічаў. Гэта што ж! Самаўпраўшчына? Калі гаварыць па чыстай совесці, то гэта ж здзекі над людзьмі. Што такое Сідор з Дубкоў? Я ў вас пытаю, што такое Сідор?

— Неплацельшчык, — адказаў фінагент. З яго твару ўсё яшчэ не зыходзіла абыякавая і крыху з'едлівая ўсмешка.

Мокрут спыніўся каля фінагента, заклаў рукі за спіну і пачаў гойдацца на нагах то ў адзін бок, то ў другі.

— А ці ве-да-еш ты? — пытаў ён, дакорліва ківаючы галавой у такт гайданням. — Ці ведаеш ты, што ў гэтага твайго неплацельшчыка ў сучасны перыяд капейкі за душою няма?

Фінагент маўчаў, але ніводная рыска не змянілася на яго твары ад гэтага запытання. Хітры служака вельмі добра ведаў свайго начальніка і разумеў, што ні гэты палымяны голас, ні гойданне ў бакі не ішлі ад нерваў, ад сапраўднага ўзбуджэння, а проста паўтаралі недзе пачутае і недзе ўбачанае.

— У яго ёсць з чаго ўзяць, — сказаў нарэшце фінагент і зусім спакойна паглядзеў старшыні ў вочы.

— Ага, дык значыць!.. — Мокрут перавёў позірк на Васіля. — Дык значыцца, вы пайшлі туды, каб пажывіцца, каб прымусіць чалавека... А ну, дыхні на мяне, Печка!

Хлапец адступіў крок назад і закрыў твар кардоннаю папкаю.

— Дыхні! — Мокрут вырваў з рук сакратара папку і стаў каля яго амаль ушчыльную. — Дыхні, а то дух выб'ю!

Васіль дыхнуў спужана і коратка, нібы хто сапраўды штурхнуў яго пад бок.

— Налізаліся ўжо! Прадстаўнікі ўлады! Гнаць вас адсюль калёнаю мятлою! Не памочнікі вы мне, а чорт ведама што!

— А ну, ты дыхні! — Мокрут падышоў да фінагента. Той не крануўся з месца, толькі вышэй падняў галаву і шырока засмяяўся.

— Свіння! — з прыцыскам сказаў Мокрут, убачыўшы чорныя шчарбіны і застарэлыя ўстаўныя зубы. — Няма чаго і гаварыць з табою!

Старшыня адышоў ад сваіх памочнікаў і зноў, заклаўшы рукі за спіну, пачаў хадзіць па пакоі. Фінагент стаў нешта гаварыць, раз-по-разу ўцягваючы праз зубы паветра і квола варочаючы перасохлым языком. Аднак Мокрут ужо не слухаў яго і скоса паглядваў толькі на Васіля.

— Сесія гатова? — спытаў ён у хлапца і накіраваўся да папоўскага крэсла. — Ты можаш ісці! — кінуў ён фінагенту.

Васіль хуценька развязаў папку, пашамацеў там у паперах і паслухмяна, зусім без крыўды, адказаў:

— Гатова, таварыш старшыня. У мяне ўсё з сабою.

— Давай сюды!





Васіль падбег да стала і сеў на тым скрыпучым зэдліку, дзе нядаўна сядзела бабка з Жоўтай гары, але Мокрут кіўнуў яму, і хлапец, загрымеўшы гэтым зэдлікам, умомант апынуўся ледзь не побач з начальствам.

— Што там у цябе? — змрочна спытаў Мокрут, не падымаючы галавы.

— Вось, — паспешліва загаварыў Печка, падсоўваючы пад вочы старшыні двайны ліст з вучнёўскага сшытка. — Тут у мяне ўсё гатова.

— Чытай сам! — загадаў Мокрут і пстрычкай адштурхнуў паперку.

Васіль аберуч злавіў лісток, зняў сваю шапку і шпурнуў яе на падаконнік. Жоўта-шэрыя, трохі пакручастыя валасы, няўмела падстрыжаныя пад бокс, выпрасталіся і надалі галаве вастраваты выгляд.

— Пытанне спагнання плацяжоў, — пачаў чытаць Печка.

— Тэрміновага спагнання, — уставіў Мокрут.

— Ага, добра, — згадзіўся Васіль. — Тэрміновага спагнання плацяжоў. Дакладчык — старшыня сельсавета таварыш Мокрут. Пастанавілі: абавязаць усіх дэпутатаў сельсавета актыўна ўключыцца...

— Пачакай! — зноў перабіў яго Мокрут. — Што мне твае дэпутаты? Нічога яны не зробяць. Настаўнікаў трэба падключыць. Разумееш?

— Правільна! — згадзіўся Васіль. — Абавязаць усіх дэпутатаў сельсавета і настаўнікаў актыўна ўключыцца ў спагнанне... Ага, не так. У тэрміновае спагнанне плацяжоў па ўсёй тэрыторыі сельсавета і закончыць гэтую справу не пазней?.. — Васіль падняў вочы на старшыню.

— Трох дзён, — ціха, але рашуча сказаў Мокрут.

— Та-ак, — паправіў сакратар у сваіх запісах. — Закончыць гэтую справу ў трохдзённы тэрмін. Галасую. Хто за, хто супраць, хто ўстрымаўся? Аднагалосна. Пераходзім да другога пытання...

— Пачакай! — ужо са злосцю крыкнуў старшыня. — Якое табе тут аднагалосна? Мітрафанава Даша абавязкова падыме супраць. Улічваеш? А потым гэты сівы маладажон, дырэктар, які заўсёды лезе са сваімі прапановамі?..

— Чаго ж тут лезці? — нясмела запярэчыў Васіль. — Усё вельмі ясна.

— Знойдуць шчыліну, — заўважыў Мокрут і працягнуў руку да лістка.

— Пішы так! — загадаў ён, пастукаўшы пальцам па лістку. — Галасую! Хто супраць пастановы бюро райкома партыі і райвыканкома? Хто ўстрымаўся? Няма. Аднагалосна.

Васіль запісаў усё гэта і тады пачаў чытаць далей.

Калі чытанне было скончана, Мокрут, ледзь толькі абвёўшы вачыма тэкст, падпісаў паперку і суха сказаў:

— Ты выпішаш позвы дэпутатам, а ў школу я зайду сам. Потым вось што: зрабі мне копію ўсяго гэтага твайго спектакля. Я пазваню ў райвыканком і ўзгадню.

— Чаму гэта майго? — пакрыўджана спытаў Васіль.

— А чыйго ж? — старшыня рушыў у кут ля дзвярэй, дзе віселі яго кожанка і каракулевая вушанка са скураным верхам.— Не я ж выдумаў усю гэтую пісаніну.

— Не вы і не я,— лагодна загаварыў сакратар.— Так заўсёды рабілі. Падрыхтоўка дакументаў — рэч важная.

— Ладна! — старшыня махнуў рукой і пачаў здымаць з крука сваю кожанку.

Пакуль Мокрут апранаўся, Васіль моўчкі наглядаў за яго рэзкімі, зласнаватымі рухамі, слухаў знаёмае палопванне кожанкі, і толькі ўжо калі начальства ўзялося за ручку дзвярэй, сакратар зноў загрымеў зэдлікам і спытаў:

— Вы яшчэ прыдзеце, таварыш старшыня?

— Прыду,— неахвотна адказаў Мокрут.— Перад самым вечарам.

— Тут гэтае самае... — Хлапец замяўся і стаў паспешліва завязваць сваю папку.

— Што? — старшыня прыпыніўся перад расчыненымі дзвярамі.

— Сямён Казырок павінен неўзабаве прысці.

Мокрут зачыніў перад сабою дзверы, і на яго валлячку адбілася задаволеная ўсмешка.

— Запісваць прыдзе?

— Так, запісваць. Заўтра ў яго радзіны. Ішлі мы гэта паўз яго двор, дык з коміна сіні дымок цадзіўся, а смажаная цяляціна пахла аж на ўсю вуліцу.

— Зарэзаў, значыцца? Маладзец Сямён! — Старшыня пачаў гаварыць з сакратаром ужо зусім іншым тонам.— Тады вось што, Васіль. У Сямёна сёння, ты ж ведаеш, многа ўсялякай работы, рознай бегатні. А чалавек ён паважаны, герой Айчыннай вайны.

— Які ён герой? — нясмела заўважыў хлопец і першы раз за ўсю гутарку ўсміхнуўся.

— Як гэта які? Мае два ордэны, медаль. Мы, брат, з табою нічога не маем. Адным словам, так.— Старшыня ўзяў з акна вайсковую шапку і падаў яе сакратару.— Схадзі ты, Вася, да Сямёна і скажы, што не варта яму дастаўляцца ў сельсавет вунь з самага дальняга пасёлка. Прыдзем сёння мы да яго самі і запішам, зробім усё, што трэба. Чуласць трэба праяўляць, разумееш? Скажы, што да каго-небудзь іншага я, вядома, не пайшоў бы нізавошта. А да Сямёна прыду.

## VI

«Кульгавы начальнік» быў таксама з Дабрасельцаў, нават і прозвішча меў Дабрасельскі, але ў гэтую зіму пражываў больш у Чырвоных маках, бліжэй да службы. Кватараваў ён тут у адной бабулькі, якая ўсё сваё жыццё пратупала вартаўнічкай каля царквы, а пасля таго, як прыхажане закрылі царкву, нібы на зло ўсім, не працавала нідзе. Кватарант калоў ёй дровы на абагрэў печы, прыносіў з былога папоўскага калодзежа вядро вады. Гэтага вядра хапала бабцы амаль на двое сутак.

У сваёй вёсцы Іван Дабрасельскі меў свой сэдас: былі ў яго тут хата, хлеў, свіранчык, дрывотня. Усё гэта было ўжо не новае, аднак жыць дома можна было. Не жыў хлапец толькі таму, што вельмі баяўся зімовай адзіноты. У сельсавет ён прыходзіў рана, яшчэ толькі вучні пачыналі гурбачкамі сыпаць у школу. Калі ў яго бакоўцы было вельмі ўжо натоптана, браў у маленькім настылым калідорчыку дзяркач, падмятаў, як можна было падмясці такім дзеркачом, сціраў газецінай свой стол і садзіўся за работу. Печка прыходзіў на добрую гадзіну пазней, фінагент жа зранку зусім не паказваўся ў сельсавет, а з'яўляўся ўжо тады, калі ногі ледзь намацвалі ўсходцы, а рукі — клямку. Іван і Васіль звычайна ўспаміналі, чыя сёння чарга падмятаць асноўны сельсавецкі пакой. Мокрут забараняў трымаць прыбіральшчыцу, таму што законных гаспадарчых сродкаў ледзь хапала на ўтрыманне каня. Хлопцам падчас трэба было паламаць галаву, як гэта ўсё ўладзіць, каб старшыня не злаваўся. Любіў Мокрут добра, хораша праехаць, каб аж снег разлятаўся з-пад конскіх капытоў. Любіў, каб і ў яго службовым пакоі быў парадак: падлога падмецена, стол прыбраны, папоўскае крэсла працёрта. Амаль кожны дзень па справядлівасці выходзіла, што трэба было фінагенту брацца за дзяркач, але дзе ж там яго дачакаешся. Таму часцей за ўсё хлопцы закасвалі рукавы ўдвух і да прыходу Мокрута разганялі пыл і смецце па такіх кутках, дзе гэта менш было заўважна.

Сёння Іван выйшаў на работу яшчэ прыцемкам. Бабулька яго ўспорваецца вельмі рана, пачынае шкрэбаць па падлозе сваімі старасвецкімі гамашамі, падоранымі, мабыць, яшчэ самой пападдзёй. Шкрабаценне гэтае ўжо не дасць спаць, бо старая часта прасоўваецца паўз самую тую канапку, якую здае кватаранту. Адчыніў Іван сваю бакоўку і па густаце паветра адчуў, што ў ёй нехта начаваў. Стаў сціраць стол, а там сапраўды было што сціраць: ад заснежаных ботаў ці валёнкаў увесь край вялікага, мабыць, у мінулым сямейнага, стала быў мокры, пасярэдзіне валяліся чэрствыя крошкі хлеба, лушпайкі цыбуліны, было таксама рассыпана трохі солі і трохі махоркі.

«Гэта Павел Паўлавіч, — падумаў Дабрасельскі, — больш тут некаму. У цемнаце забыў прыбраць са стала».

Калі прышоў Васіль Печка, Іван сказаў яму, што на тэрыторыі сельсавета — інструктар райвыканкома, аднак сакратар не звярнуў на гэта амаль ніякай увагі.

— Там, дзе гэты чалавек начуе,— сказаў ён, усміхнуўшыся,— там не днюе, а дзе днюе, там не начуе. Пры такім інструктары можна жыць спакойна.

Управіўшыся з Мокрутавым пакоем, хлопцы разышліся, каб заняцца службовымі справамі. У Дабрасельскага сёння, нажаль, ніякіх службовых спраў не было. Такія дні выпадаліся частавата. Іван не надта радаваўся ім, бо па сваёй натуры ён быў чалавек працавіты, не любіў сядзець, склаўшы рукі, і не хіліўся таксама да гульні ў шашкі, шахматы ці ў што іншае, моднае цяпер у сельсаветах і ў калгасных канцылярыях. Паколькі чытаць пад рукамі нічога не было, хлапец, як ужо каторы раз, паставіў перад сабою скрынку з уліковымі карткамі і пачаў пераглядваць іх, перачытваць. Яму падабаўся такі занятак. Карткі знаёмых людзей цікавілі тым, як яны былі запоўнены: можа хто прыбавіў сабе год ці трохі працоўнага стажу, можа хто жанаты, а напісаў, што халасты. Карткі ж незнаёмых мелі асаблівую цікавасць. Любіў Іван чытаць людскія біяграфіі; ён і ў кніжках спачатку падрабязна вывучаў, хто такі аўтар, а тады ўжо браўся за тэкст.

Хлопец перакладаў карткі аж да таго часу, пакуль не данёсся да яго голас Мокрута. Затым, вярнуўшыся з грознага выкліку, слухаў, як старшыня распякаў сакратара і фінагента, чутно было, як яшчэ разоў два Мокрут павышаў голас, а потым надышло тое звычайнае, што бывае тут даволі часта. Старшыня знік, Печка з фінагентам селі гуляць у шахматы, а ўсе, хто прыходзіў у сельсавет, акрамя, вядома, дзядоў і бабулек, прыліпалі да сакратарскага стала, углядаліся ў канёў і каралёў і забывалі пра свае справы. Некаторыя для гэтага і прыходзілі сюды.

Выйшаў быў на хвіліну і Іван са свае бакоўкі, спыніўся каля шахматыстаў, хацеў нешта сказаць Печку, але ў гэты момант фінагент здзекліва глянуў на яго і спытаў:

— Што табе, начальнік?

Ён не сказаў «кульгавы», аднак усе зразумелі, што ні які іншы.

Іван змоўчаў і, стараючыся як можна менш прыкульгваць, пайшоў у Мокрутаў пакой. Там ён узяў раённую газету з пошты гэтага дня і вярнуўся ў сваю бакоўку. Газетка ў гэтым раёне выходзіла маленькая, як лістоўка, зводак і рапартаў у ёй пакуль што не было, дык і прачытаць не вельмі што знаходзілася. Тыя замежныя інфармацыі, што былі змешчаны ў канцы другой старонкі, ужо даўно перадаваліся па радыё, і Дабрасельскі іх чуў. Прагляд райгазеты заняў усяго некалькі хвілін, а потым хлапец зноў узяўся за сваю скрынку. Трапілася на вочы картка Васіля Печкі.

За перагародкай чуцён голас Печкі, а тут яго картка. Хорашанька запоўнены кожны пункт. Почырк роўны, чысты, толькі сям-там выкрунтасікі не зусім патрэбныя. Год нараджэння... Нацыянальнасць... Далей Іван чытае пра тое, што яму добра вядома, аднак доўга спыняецца на гэтых радках... «Бацька загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны, старэйшы брат служыць у арміі»...

Прывыклі чытаць: загінуў. А што гэта значыць, не заўсёды і ўяўляецца. У Івана таксама загінуў бацька, у дзесятку дабрасельскіх сямей — таксама. Можа гэтыя людзі суткамі сцякалі крывёю, пакуль з'явілася магчымасць перавязаць іх, аказаць запозненую дапамогу. Магчыма, ляжалі яны дзе-небудзь у балоце, у голым бязлюдным месцы, нікога не чакалі, акрамя звера, драпежнай птушкі, аднак не трацілі надзеі на выратаванне... Можа, выконваючы баявыя заданні ў тыле ворага, ахвяравалі жыццём, каб перадаць весткі, патрэбныя кардынаты. Магчыма, што некаторыя з іх жывуць дзе-небудзь і цяпер, ды не могуць падаць голасу на радзіму, папрасіць, каб іх вызвалілі.

Калі Іван глыбока задумваўся, перад яго вачыма ўзнікала безліч уяўленняў пра невядомую пагібель яго бацькі. Усе ўяўленні былі толькі гераічнымі, бо Іван вельмі любіў свайго бацьку. Колькі, бывала, гэты маўклівы, працавіты чалавек папанасіў свайго ўжо не зусім маленькага сына на руках, пакуль у таго балела нага і нельга было нават і кроку ступіць самому. Здаралася, выйдуць вясною ў садок, ходзяць каля прышчэпак цэлымі гадзінамі.

— Трымайся добра за маю шыю,— просіць бацька.

Іван дзвюма рукамі абшчапервае бацькаву шыю, таму што бацька часта нагінаецца, каб паглядзець, як дрэўца перазімавала ў корані, ці не папсавала што кару на камлі.

— Хутка ты паправішся,— з добрай надзеяй гаворыць бацька,— тады будзеш памагаць мне. Маці ў нас, сам бачыш, нездараўчаная, усё кволіцца ды скардзіцца на болі, а работы каля дому многа.



І хлопчык верыў, што ён паправіцца, будзе сам стаяць, хадзіць, бегаць. У любы час года, у любое бездарожжа браў яго бацька на рукі і за некалькі кіламетраў ішоў у медыцынскі пункт. Стары фельчар аглядваў нагу, даваў мазі і таксама гаварыў, што хутка ўсё пройдзе, загоіцца, што праз які тыдзень-два малы пачне лётаць з кім хочаш навыперадкі. Бацька выціраў рукавом успацелы твар і адразу весялеў, а малы Іван глядзеў на чорныя вільготныя пасмы бацькавых валасоў, паціху варушыў балючай нагой, і здавалася яму, што вось зараз ён здзівіць не толькі бацьку і гэтага добрага дзядулю-фельчара, а і ўвесь свет: устане і пойдзе сам дадому. Бацька ледзь не подбегам будзе спяшацца за ім і аж да самай хаты не возьме на рукі, бо не будзе ў гэтым патрэбы.

Іван сапраўды неўзабаве паправіўся, але ўсё ж накульгваў, бо нагу падцягнула ў цяглях. Доўга ён яшчэ верыў бацьку і старому фельчару, што і гэта хутка мінецца, што абедзве нагі стануць роўнымі, доўга яшчэ марыў аб тым, што хутка пачне бегаць вельмі моцна і нават Андрэевага Уладзіка апярэдзіць, хоць той бегае шпарчэй за ўсіх. Потым з часам надзея гэтая змяншалася, светлыя мары змрачнелі, хлопчык стаў ціхім і не па сваіх гадах задумлівым. У пачатковай школе ён вучыўся разам з Васілём і Уладзікам. Тыя кожны дзень прыляталі ў школу на двух жалезных каньках, грымелі імі нават і ў калідоры. А Іван ужо не зайздросціў. Ён ужо ведаў, адчуваў, што не ўсё тое можна яму, што можна Васілю або Уладзіку. У іх, няхай сабе, па два канькі, няхай сабе, жалезныя, а яму бацька зрабіў адзін, дзеравяны, абкуты тоўстым дротам. Іван прывязваў гэты канёк да правае, даўжэйшае нагі, а левай, каротшай, папіхаў. Так і ехаў па замерзлай канаўцы аж да самай школы.

Вучыўся Іван добра. Бацька цяпер браў у аснову гэта і заўсёды наказваў, прасіў:

— Вучыся, мой сынок, старайся. Помачы ад цябе дома не патрабую, спраўляйся хоць з урокамі. Станеш вучоным, тады будзе і помач.

Магчыма, што і быў бы Іван вучоным, каб не вайна...

... За перагародкай пачуўся раздразнёны, з сыканнем ад перасохласці ў роце голас фінагента. Ён за нешта крычаў на Васіля, нават злосна лаяўся. Васіль жа адмоўчваўся, а калі нешта і гаварыў, дык ціха, памяркоўна, нібы ва ўсім прызнаваў сябе вінаватым.

«Так вось ён і з Мокрутам,— падумаў Іван.— Што б той ні сказаў, рота не разявіць, каб запярэчыць ці выказаць сваю думку. Заўсёды з усім згодны, заўсёды пакорлівы, быццам бы ў яго і не бывае тае свае думкі. А некалі гэта быў вельмі бойкі, жвавы хлапец, лез у спрэчкі нават і тады, калі не трэба было лезці. Ці перамяніўся чалавек з гадамі, ці і раней у яго не было пэўнай цвёрдасці?»

Пад вечар так сумна стала сядзець аднаму, што Іван рады быў бы, каб хто-небудзь прышоў сюды хоць на хвіліну. Няхай бы ўзяўся на ўлік ці зняўся. Але паколькі ніхто ў бакоўку не заглядваў, а больш такой спадручнай работы не знаходзілася, то хлопец стаў падумваць аб тым, каб пайсці сёння ў Дабрасельцы. Не шкодзіла б купіць там хлеба ў эмтээсаўскім ларку, пабываць на сваім двары, агледзець садок, вулейчык з пчоламі ды зайсці спытаць у Андрэіхі, можа патрэбна якая дапамога. Іван не быў ні суседам, ні сваяком Андрэіхі, але некалі ён

шчыра сябраваў з Уладзікам, хоць той быў трохі старэйшы. Бацькі іх таксама сябравалі. Андрэй любіў прыходзіць да Іванавага бацькі на вячоркі, а Андрэіха не саромелася пазычаць у мацеры ўсё, што толькі ні даводзілася: соль, запалкі, буханку хлеба, катушку нітак. Калі прыходзіла пазычаць, то спынялася на паўхвілінкі на парозе і не заўважала, як праходзіла ў гаворцы некалькі хвілін. Потым, калі прыходзіла аддаваць пазычанае, то паўтаралася тое ж самае.

Калі выйшла так, што пасля вайны і Андрэіха і Іван засталіся адзінокімі, яны па адчуванню душэўнага абавязку сталі памагаць адно другому ладкавацца ў жыцці, перамагаць цяжкае гора страты родных і самых блізкіх людзей.

«Можа ў яе дроў колатых ужо няма»,— падумаў Іван.

## VII

Перад самым вечарам Мокрут заглянуў у сельсавет толькі дзеля таго, каб падаць знак сакратару. Той умомант сабраў сваю папку і ўслед за начальствам выйшаў на вуліцу. Тут зноў ішоў снег, — у гэтую зіму рэдка выдаваўся той дзень, каб не было снегу: то ён сыпаў дробны і калючы, як пацёрты лёд, то кружыўся мяккі і лёгкі, як пух. Каўнер Мокрутавай кожанкі быў настаўлены, а Васіль Печка нацягнуў колькі можна было на вушы шапку і схаваў пад палою паліто свае паперы. Удвух яны рушылі так па вуліцы: Мокрут спераду, а Васіль за ім. Раптам Мокрут спыніўся, і Васіль, з зажмуранымі ад снегу вачыма, ледзь не стукнуўся ілбом яму ў спіну.

— Знаеш што? — звярнуўся старшыня да хлапца.— Памяць у мяне ўжо нешта слабець пачала: забыў зрабіць адно распараджэнне.

— Якое? — насцярожыўся Васіль.

— Забыў сказаць крывому, каб пайшоў туды да мяне ды напілаваў жонцы дроў.

— Дык я пайду скажу,— ахвотна падручыўся Печка.

— Схадзі, брат,— папрасіў Мокрут.— А то жонка заўтра з'есць мяне. Скажы, каб перадаў заадно, што затрымаюся сёння, опісь буду рабіць. Эх, жонкі, жонкі! Ты, брат, не ведаеш, што за ведзьмы бываюць некаторыя з іх! Ну, і шчаслівы ты, што не ведаеш. Бяжы, а потым даганяй мяне. Калі не нагоніш, то ты ж ведаеш, дзе мы павінны быць.

Сакратар пабег, яму і хацелася прабегчы на холадзе, а Мокрут пакрочыў далей адзін. Кожанка пакрысе бялела: спачатку снег раставаў на глянцавітай скуры, а потым пачынаў шэрхнуць. Паступова нахалодваў скураны каўнер і рабілася трохі пякуча ружоваму валлячку. Мокрут утуліў падбародак і трымаўся на ўсякі выпадак бліжэй да платоў, каб не трапіць часам пад якую машыну. Усялякай эмтээсаўскай і калгаснай тэхнікі хадзіла тут не мала.

Пад машыну Мокрут не трапіў, а з чалавекам ледзь не стукнуўся лоб у лоб. Гэта быў той самы чалавек, якога старшыня зваў завочы сівым маладажонам. Мокрут любіў даваць мянушкі людзям і часта гэта яму ўдавалася. Чалавек гэты, што сустрэўся, сапраўды быў сівы, але не па старасці, як гэта звычайна бывае, а па прыродзе. Кажуць, што бацька яго пачаў сівець гадоў у трыццаць, а сыну было цяпер усё ж такі каля сарака. Ажаніўся ён, праўда, не надта даўно, але і не так позна, каб зваць яго маладажонам. Тут Мокрут, вядома, перабольшваў. Росту ён быў крыху вышэй сярэдняга, гэтакі ж, як і Мокрут, толькі, бадай, шчуплейшы. Каб яны, на няшчасце, зусім сутыкнуліся, то якраз трапілі б нос у нос. Хіба толькі б каўняры перашкодзілі: у аднаго скураны, з вострымі ражкамі, а ў другога — барашкавы, сівы, як і тыя пасмы валасоў, што вkilledніся з-пад рыжай высокай кубанкі.



Звалі чалавека Ільёй Савічам, і працаваў ён тут дырэктарам сямігадовай школы. Убачыўшы старшыню сельсавета на вяршок ад сябе, дырэктар спачатку рэзка падаўся назад, а потым паімкнуўся саступіць з дарогі. Яму не надта хацелася спыняцца з гэтым чалавекам, бо ў душы ён яго не любіў, а прызнаваў пакуль што толькі як службовую асобу.

Выйшла так, што Мокрут загаварыў першым:

— Вы куды, Ілья Савіч?

— Ды ў школу,— адказаў дырэктар.— Там жа ў нас...

— А-а, так, так, — падхапіў Мокрут. — Ведаеце, Ілья Савіч, я не здолею сёння прыняць, так сказаць, актыўны ўдзел у прадстаўленні. Справы, разумееце, не даюць дыхнуць. Пазванілі з раёна, і вось бягу на пасёлак.

— А што там здарылася? — не зусім даверліва спытаў дырэктар.

— Опісь, Ілья Савіч. Разумееце? Сумная справа.

— Менш трэба было б гэтых сумных спраў, — незадаволена сказаў дырэктар і не спяшаючыся пакрочыў далей.

«Сунься, куды сунешся!» — прабурчэў сабе пад нос Мокрут, а ўслых гэтага ні за што б не сказаў. Цяжка было ўсё-такі не лічыцца з тым, што гэта дэпутат сельсавета і сакратар тэрытарыяльнай партарганізацыі.

Мінуўшы некалькі двароў, старшыня падышоў да акна аднаго прыгожага дамка, пастукаў і гучна, з вясёлымі пераліўамі ў голасе, клікнуў:

— Ціхоня-а, у строй!

— Няма дома! — ледзь пачуўся праз двайныя шыбы непрыязны жаночы голас.

— А дзе ён?

— А хто яго ведае. Хіба я за ім бегаю?

Мокрут сабраўся ўжо адысці ад акна, але нечакана адчыніліся шаляваныя дзверы сянец і на ганку паказаўся грузнаваты чалавек без шапкі, у міліцэйскім кіцелі, расшпіленым пад барадою.

— Чаго ты хочаш? — спытаў ён у Мокрута.

— Апранайся хутчэй і пайшлі!

— Куды?

— Справа ёсць. Тэрміновая!

Калі ўчастковы ў поўнай форме і пры зброі параўнаўся на вуліцы з Мокрутам, той насмешліва кінуў яму:

— За жончыну спіну хаваешся?

— Ды не хаваюся, — пачаў апраўдвацца Ціхоня. — Чаго там хавацца? Аднак жа, калі падумаць, то што мы маем? Цэлы дзень на нагах, ноччу таксама рэдка бываеш дома. А яна, жонка... Вось.

— Разбалавалі вы сваіх жонак, распесцілі!

— Гэта хто «мы»?

— Ты, напрыклад, ды вось гэты наш мудрэц сівавалосы, дырэктар. Яшчэ ёсць такія.

— Ну, ведаеш, — зноў пачаў участковы, — калі добра падумаць, то-о...

— Дарэчы, вось што,— перапыніў яго Мокрут,— у цябе часам не знойдзецца некаторых вестак наконт некаторых нашых інтэлігенцікаў?

— Каго ты хочаш?

— Ну, возьмем хаця б гэтага маладажона. Ён што, не быў, часам, на акупіраванай тэрыторыі?

— Ён не з майго ўчастка па месцу нараджэння,— змрочна адказаў Ціхоня.— Ды не той гэта чалавек. Ты гэта дарэмна.

— Дарэмна? — Старшыня на хвіліну змоўк і глыбей утуліўся ў каўнер.

— Куды ж мы ідзем? — спытаў Ціхоня.

— Не бойся, не да маладажона.

Яны прайшлі моўчкі амаль усю вуліцу і калі ўжо сталі выходзіць на міжпасялковую дарогу, Мокрут сказаў:

— Казырок Сямён наказваў. Там у яго сёння радзіны быццам бы. Сакратар мой прыдзе, запішам яму папаўненне ды пасядзім з гадзіну ў цяпле, пагамонім. Трэба ж нам неяк бліжэй да народа стаяць, ведаць, як людзі жывуць, чым яны дыхаюць. Праўда?

— Ды гэта праўда, — згадзіўся Ціхоня, — але ж, калі добра падумаць...

— Няма чаго думаць! — зноў перабіў яго Мокрут.— Чалавек запрашае, дык не трэба быць задавакамі. Напэўна, чакае ўжо даўно.

Казырок быў на двары ў той час, калі Мокрут з Ціхонямі падышлі да яго хаты. Па тым, як ён старанна сек на калодцы дровы, па той кучы галля, якая ляжала каля яго, можна было меркаваць, што ён не надта чакаў гасцей. Убачыўшы ў паўзмроку начальства, ён нібы з жалем удзюбнуў у калодку сякеру, падцягнуў пута на кароткім кажусе і ступіў крокаў два насустрач.

— Гаспадарыш? — звярнуўся да яго Мокрут, квола працягваючы руку.

— Ды вось,— паказаў Сямён на кучу галля,— трэба было б пасекчы ды зложыць, пакуль зусім снегам не занясло.

— А што гэта за дровы ў цябе? — Мокрут падышоў да калодкі, узяў у рукі тонкі кругляк. — Дык гэта ж, браце, садавіна нейкая, ігруша ці сліва?

— Сухая антонаўка, — абыякава сказаў Сямён. — От ужо з тыдзень баба раскашуе з ёю. Добра гарыць, каб вы ведалі.

— А ну, дай сюды, гаспадар! — Мокрут з хлапчуковай рашучасцю скінуў рукавіцы, папляваў на далоні і ўзяў з рук Сямёна сякеру.

— Люблю такую работку, — сказаў ён Ціхоню, — проста і цягне. Што ж бы тут на першы зуб?

— Ды вазьміце вось гэта,— параіў Сямён і, хітравата глянуўшы на Ціхоню, тыцнуў жоўтай бахілай у даволі вузлаваты і тоўсты камель.

Мокрут рукамі выкаціў камель на гладкае месца, паставіў яго тарчма і, гэхнуўшы ўсёй дыхавіцай, секанўў. Кругляк здрыгануўся, трошкі зрушыў з месца, аднак не падаўся: сякера адляцела ад яго, як ад каменя. На гладкім разрэзе кругляка з'явілася толькі неглыбокая белая рыска.



— Змёрзся,— крыху незадаволена сказаў старшыня і секанўў яшчэ раз. З'явілася другая белая рыска, а кругляк стаяў цэлы. Секанўў трэці раз, з'явілася трэцяя рыска, чацвёрты — чацвёртая.

— Нешта ў цябе яшчэ... гэтае самае,— пераступіўшы з нагі на нагу, заўважыў Ціхоня.— Давай я.

Мокрут ужо са злосцю гэхнуў яшчэ разоў два і, здзіўлена пакруціўшы галавой, аддаў сякеру Ціхоню.

— Шкада, што тут калуна майго няма,— апраўдваючыся, сказаў ён.

Ціхоня ўзяў у дзве рукі сякеру, чамусьці пакруціў яе перад вачыма, нібы правяраючы, з жалеза яна, ці так з чаго, прымерыўся і лупянуў так, што аж вушанка наехала на вочы. Лязо крыху ўдзюбнулася ў камель, але ён і не думаў расколвацца. Ціхоня пачаў пляжыць раз-по-разу, кругляк стаў падобны на тую здзёўбаную калодку, на якой Казырок сек дровы, аднак нічога не выходзіла.

— У цябе яшчэ горш, як у мяне,— сказаў Мокрут і пачаў расцягваць папружку свае кожанкі.— Трэба з другога боку паспрабаваць.

Ён распрануўся, ледзь не сілаю забраў у Ціхоні сякеру і пачаў з усёй моцы біць вастрыём па другому разрэзу кругляка, стараючыся цаляць у адно месца. Аднак чым мацней ён замахваўся, чым стараннеи намагаўся ўклініць сякеру на адной рысе, тым больш падводзілі яго рукі: белыя драпінкі ўзнікалі пасля ўдараў то ў адным месцы, то ў другім.

— Не, гэтага нельга раскалоць,— сказаў нарэшце Мокрут. — Цемнавата ўжо, ды і сякера вельмі лёгкая. Ну, што гэта за сякера? Калі б маім калуном!

Пры апошніх словах старшыня глянуў на Ціхоню, і раптам яму стала няёмка. Успомнілася, што Ціхоня не адзін раз быў у Мокрута дома і напэўна заўважыў, што калун гэты даўно ляжыць на дрывотні без тапарышча. Бачыў ён, вядома, і тое, што старшыні коле дровы «культгавы начальнік» і зусім не калуном, нават не сякерай, а нейкай аднаручкай.

— Гэта ўжо, мабыць, паляжыць да вясны? — звярнуўся Мокрут да гаспадара.— Адтае, памякчэе.

— Чаму? — мякка не згадзіўся Сямён.— Яго можна і цяпер раскалоць.

Ён неяк па-свойму, цэпка і ўпэўнена ашчаперыў пачырванелымі ад марозу шырокімі далонямі кругляк, пакруціў яго ў адзін бок, у другі, выбраў месца і, здавалася, зусім лёгка, нават без размаху секанўў. Лязо адразу ўелася ў дзерава, перарэзаўшы ўпоперак усе Мокрутавы надзёўбванні. Сямён лёганька, нібы з ласкай, пастукаў правай далонню па кончыку тапарышча, сякера паслухмяна выскачыла з кругляка. Тады ён зноў паціху падняў сякеру, прыцiснуў яе перад самым ударам так, што яна аж свіснула ў паветры, і кругляк разваліўся папалам.

— Глядзі ты! — здзівіўся старшыня.— Не быў бы то гаспадар!

— А мы з табой даўно сякеры ў рукі не бралі, — надзяваючы рука-

віцы, прамовіў Ціхоня, — то давай так і скажам. У мяне жонка ўсё вязе на сваіх плячах, а ў цябе...

— Ну, кінь ты,— крыху сумеўшыся, сказаў Мокрут і неўпрыкметку паглядзеў на свае далоні. Шчымелі ў чалавека далоні, трэба было так і чакаць, што праз якую гадзіну на іх усхопяцца белыя пухіры.

— Аднаму я толькі рады, — не сціхаў участковы,— што сам старшыня сельсавета пляжыў сёння калгасніцкую антонаўку. Ды з якой ахвотай!

— Прыкусіш ты нарэшце?..— рэзка кінуў Мокрут, а сам усё ж такі засмяяўся, вінавата пакруціў галавой.

— То можа зойдзем у хату? — не надта настойліва прапанаваў Сямён Казырок, калі ўжо і Васіль Печка, увесь скурчаны, заснежаны, з папкай пад палою з'явіўся ў двары і ніхто больш не збіраўся калоць дровы.

Пасля запісу Сямёнавага папаўнення і гамонкі ў цяпле яны выбіраліся з пасёлка не надта лёгка і бездакорна. Калі б хто паглядзеў потым на іхнія сляды на вуліцы, то напэўна падумаў бы, што нячыстая сіла хістала людзей то ў адзін бок, то ў другі. Уперамешку з гэтымі страшэнна бязладнымі слядамі відны былі месцамі і котлішчы на снягу. Гэта Мокрут з Ціхоням у абдымку адпачывалі на дарозе, пакуль Васіль Печка, трохі менш п'яны і таму пругчэйшы ў нагах, выбіраў напрамак руху і пратоптваў сцежку. Ноч была цёмная, снегу за гэты час яшчэ больш прыбавілася, не відно было ні дарогі, ні такіх добра прыкметных арыентыраў, каб іх можна было заўважыць нецвярозаму воку. А тут яшчэ крыкі ззаду, розныя каманды.

— Печка-а! — галасіў Мокрут.— Глядзі ж ты там, будзь чалавекам! На Дабрасельцы трымай, проста на дамок млынара!

— Не слухай яго, Васіль, — настойліва прасіў Ціхоня. — Што там нам з табой рабіць у Дабрасельцах? На Чырвоныя макі давай. Там мяне жонка чакае, а цябе маці.

Пасля каманды Мокрута Васіль стараўся грэбціся ўправа, каб узяцца працей на Дабрасельцы, калі ж пачынаў угаворваць Ціхоня, тады самі ногі ішлі ўлева. І аднаго нельга было не паслухаць, і другога. А што рабіць самому, хто ведае. Васіль да таго часу пакорліва слухаў каманды і паварочваў то ўправа, то ўлева, пакуль зусім не збіўся з дарогі і не пачаў кружыняцца па полі. Кружыняўся пэўна гадзін дзве і прыбіўся, нарэшце, у суседні пасёлак. Тут ужо нават сабакі спалі. Ледзь не ў кожны двор намагаўся хлопец зайсці, каб пастукацца, папрасіцца нанач, ды ўсё не да ладу: то брамка была зачынена так, што хоць зубамі яе грызі, то гура снегу каля варот палохала. Начальства магло б не пералезці цераз яе.

Толькі ў самым канцы пасёлка бліснуў агеньчык у акне і раптам зноў патух. Васіль прыбавіў кроку, але адразу ж пачуў воклік Мокрута:

— Куды ты вядзеш нас, Сусанін пракляты?!

Васіль спыніўся і, паціраючы вушы, стаў чакаць, пакуль яго пада-печныя прысунуцца бліжэй.

— Чаго стаіш, як слуп? — крыкнуў цяпер старшыня.

Гэтаму чалавеку і цвярозаму цяжка ўгадзіць, не то што п'янаму. Васіль добра ведаў гэта, але трымаўся, таму што і самому трэба было нейк ратавацца. Асенняе паношанае палітцо, ды шапка летняя, ды нават рукавіц няма. Доўга не вытрымаеш у такой адзежы, нават калі трохі і пад градусамі.



Ідучы назаўтра дадому, Мокрут неўпрыкметку пасміхваўся сам сабе, а часам паварочваўся да Ціхоні і з хітрынкай пытаў:

— А добра пагулялі! Праўда?

## VIII

Выйшаўшы з эмтээсаўскага ларка, Андрэіха адчула, што мароз быццам бы зусім адлёг. Біла ў нос толькі рэзка свежым паветрам, а холаду амаль не адчувалася. Аднак калі жанчына прайшла яшчэ некалькі крокаў, то нечакана для сябе пачала сціскацца і лепш захутвацца,— мароз злосна хватаў за потныя плечы, за ногі і за тую руку без рукавіцы, якой яна трымала паўбуханкі хлеба.

На вуліцы ёй сустрэўся Шулаў, і як ні старалася жанчына прабегчы не заўважанай, усё ж спыніў яе.

— Вы яшчэ толькі з фермы? — ласкава спытаў ён, хаваючы вялізныя чырвоныя рукі ў кішэні паліто, да траскатні ў швах раздутае цёплай паддзёўкай.

— Я ў ларку была,— паспешна адказала жанчына, хочучы на гэтым і скончыць размову.— Там хлеб давалі.

— Хлеб? — Шулаў паглядзеў на пасінелую руку жанчыны.— А я падумаў, што гэта вы пазычылі ў каго. Што ж гэта мне ніхто не сказаў пра хлеб?

Андрэіха пералажыла паўбуханкі ў другую руку, падалася трошкі ўбок, каб даць зразумець, што ёй трэба бегчы дадому, а то кашуля к целу прымерзне, але Шулаў нават і не заўважыў гэтага. Час-ад-часу паглядваючы на свае цёплыя боты з адваротамі, ён усё зацягваў і зацягваў гаворку.

— Вяпрук ваш добра есць,— сказала нарэшце жанчына, заўважыўшы, што старшыня ўвесь час ходзіць каля гэтага, ды, нібыта, не адважваецца спытаць.

— Я зусім і не пра тое, — сказаў ён, скрыпнуўшы ботамі, — аднак калі вы ўспомнілі, то цікава ўсё ж такі... Сёння я не быў на ферме. Не паспеў. Што вы яму давалі сёння? Вобмешка была? Я магу трохі мукі вам выпісаць, калі трэба. То і сабе якога блінца спечаце. Выпісаць?

Андрэіха ўсё перакладвала хлеб з адной рукі ў другую, потым, адчуўшы, што ён пачынае камянець, паспрабавала захутаць яго палою світкі. Узялася пальцамі за гузік, каб расшпіліць світку, і ўжо адчуць не можа, гузік гэта, ці так якая лядзяшка. Пакуль адной рукой намагалася саўладаць з гузікам, з другой выпаў хлеб і паехаў уніз па слізкай каляіне. Шулаў дагнаў яго і, падносячы мёрзлы кавалак гаспадыні, няўпэўнена спытаў:

— Можа б заўтра хто замяніў вас на ферме, а вы прышлі б там трохі сцены падмазалі б у маёй хаціне. Га?

Андрэіха падула на хлеб, абедзвюма рукамі прыціснула яго да гру-

дзей і моўчкі рушыла да хаты. Дома яна паставіла хлеб на талерцы ў печ, а сама пачала жвава хадзіць па хаце і расціраць рукі.

«Раз'еўся,— падумала яна пра старшыню,— яго і без адзежы мароз не пройме».

Ляснула клямка ў сенцах, і ў хату віхрам уляцела Даша. Яна была без верхняй вопраткі, толькі белы роблены шалік, накінуты на валасы і перакручаны на шыі, вісеў адным канцом на грудзях, а другім на плячах.

— Чаму так позна, цётка Настуля? — адразу звярнулася яна да гаспадыні.— Я ўжо забягала да вас. Хіба там на ферме што?

— Я не з фермы,— здымаючы зззяблымі рукамі світку, сказала жанчына. — У ларку была. — Яна паказала вольнай рукой на засланку ў печы. — Выскачыла адтуль, як з лазні, бягу дадому, а тут Шулаў насустрач.

— Пра вепрука? — засмяяўшыся, спытала Даша.

— А то пра што ж? Я ўжо не ведаю, калі я набяруся смеласці плюнуць гэтаму чалавеку ў вочы.

Андрэіха пачала спрабаваць паддзець пальцамі пад вешалку ў сваёй світцы, ды не выходзіла гэта ў яе, бо не разгіналіся пальцы.

— Дайце я вам памагу,— падбегла да яе дзяўчына.— Ой, як вы змерзлі! Дайце патру рукі!

Лёгкім рухам галавы яна дапамагла свайму шаліку спаўзці з валасоў на шыю, і твар яе стаў яшчэ больш светлым і ажыўленым, галава паруглела.

— Так доўга ў ларку? — здзівілася яна.

— Ды не. Тут яшчэ Шулаў на вуліцы спяваў мне свае вясёлыя песні.

— От заўтра ён у мяне заспявае! — раптам са злосцю і абурэннем прамовіла дзяўчына.— Так заспявае, што на ўсе Дабрасельцы стане чутно.

— Што ж ты яму зробіш? — Андрэіха крыху сумелася, заўважыўшы на твары дзяўчыны сапраўдную рашучасць.— Выганіш корміка з фермы?

— І выганю, думаеце, не? У праўленне калгаса заганю! От пабачыце!

— Не чапай, няхай яго сарочка не чапае.

Андрэіха, трохі разагрэўшы рукі, стала хуценька падганяць дамашнія справы. Даша глянула ў адзін кут, у другі, адразу зразумела, што тут дзе трэба, і таксама ўзялася за работу. У чужой хаце ў яе выходзіла ўсё гэтак жа спрытна і ладна, як і ў сваёй.

— А што ж вы будзеце вячэраць, цётка Настуля? — спытала яна ў гаспадыні, калі ўжо была падоена карова, напоены лысы бычок і прыведзена ўсё да ладу каля печы. У рабоце прайшла ў дзяўчыны злосць на Мокруціху, на Шулава, настрой палепшыўся і твар зноў зайграў маладой весялосцю.

— От малака свежанькага нальём, — сказала Андрэіха, — ды і павячэраем. Можа і ты разам?

— Не, я перакусвала, — па-сямейнаму сказала Даша. — А гарачага ў вас і няма нічога?



— Ды хіба выстаіць з самага ранку?

— Пачакайце!

Праз некалькі хвілін дзяўчына зноў убегла ў хату, на галаве ў яе быў той жа самы белы шалік, але пярэдні расшыраны канец яго прыкрываў нешта круглае, загорнутае ў ручнік. Прытрымліваючы гэтую рэч адной рукой, дзяўчына ўзяла на прыпечку драўляны кружок-падстаноўку, паклала на стол і прыгнулася над ёй са сваім незвычайным падарункам. Калі адступіла на крок, трымаючы над локцем ручнік, з падарунка клубком павалiла пара — гэта быў чыгунок толькі што зваранай бульбы.

— Усёроўна, як ведала,— радасна сказала Даша,— два чыгуны набірала — паставіла: адзін мужчынам, а другі вось нам з вамі.

Бульбу высыпалі ў міску, і смачны пах ад яе паплыў па ўсёй хаце Побач з міскай Андрэіха паставіла гладышык малака. Жанчыны пачалі вячэраць, і ўсе дзённыя клопаты і непрыемнасці неяк мімавольна адплылі, пакінулі хатні прытулак.

На вуліцы пачуліся галасы: спачатку дзявочыя, а потым нехта з хлопцаў загаварыў дробна і весела:

— У цябе ёсць канспект па «левізне»?

— Не, мы «левізны» не канспектавалі, — адказала дзяўчына.

— Студэнты прыехалі,— зірнуўшы на акно, заўважыла Даша.— Канікулы.

Пасля гэтага яны вячэралі моўчкі, але ў кожнай былі свае думкі, свае ўспаміны. «Куды ж яны пойдуць, студэнты? — брала цікавасць Дашу.— Можа да нас? — Прыслухалася да галасоў.— Не, мінаюць двор, пайшлі далей. Няхай сабе ідуць».

У Дашы няма ніякай крыўды за тое, што хлопцы мінулі яе двор. Што ёй гэтыя студэнты? Ёсць яны ці няма. От, каб прыляцеў той студэнт, з крыльцамі на пагонах! Каб гэта яго голас пачуўся на вуліцы! Давялося б, напэўна, цётцы Настулі адной даядаць бульбу, не ўсядзела б тады дзяўчына ў хаце.

Андрэіха таксама думала пра студэнтаў, толькі не пра чужых. Былі ў яе некалі свае студэнты. Адзін вучыўся на другім курсе педінстытута перад вайной, а другі канчаў дзесяцігодку. Хадзілі вось гэтак жа па сваёй вуліцы ў час канікулаў, спявалі песні, а прыходзілі ў хату, дык прыходзіла з імі ўсё радаснае і шчаслівае, што было ў жыцці. Завіруха на дварэ здавалася ласкавай.

— Дзякуй табе, Даша,— сказала нарэшце гаспадыня,— адагрэла ты мяне.

На дварэ, відаць, пачынаў мацнець вецер, бо сухі маліннік, хоць яшчэ і ціха, але пачынаў ужо шкрабаць па шыбе. Гэты шкрэбат заўсёды нагадваў Андрэісе пра холад, сцюжу і, чамусьці, пра людское гора, хоць пра яго і не хацелася думаць. Ужо колькі разоў збіралася залезці ў агародчык ды выламаць гэты надакучлівы куст. Але неяк шкада ламаць сваё, звычнае, хоць, можа, і не надта патрэбнае. Не падымаліся ў жанчыны рукі, каб што-небудзь зламаць, папсаваць і тым больш — хоць пальцам крануць што-небудзь жывое. Вунь у хляве — бычок. Перавяла ўчора з сянец. Каб усё на лад, то яго ўжо даўнавата трэба было б за-



рэзаць, але ж як тут і падумаць аб гэтым? Зойдзеш, а ён глядзіць на цябе такімі яснымі і даверлівымі вачамі.

Жанчына ведае, што калі б папрасіла яна Мітрафана асвежаваць бычка, то некалькі сутак не ела б не толькі гэтай свежаніны, а і нішто іншае не пайшло б у рот.

Маліннік зашкрабаў мацней, нібы просячыся ў хату, і гаспадыня міжвольна здрыганулася, ёй здалося, што з акна пацягнула холадам. Устала, забрала са стала чыгунок, міску, гладышык з недаедзеным малаком і занясла ўсё гэта ў мыцельнік. Праз хвіліну зноў села каля стала, склала на грудзях рукі, але сядзела так зусім не доўга. Не было звычкі ў жанчыны сядзець, склаўшы рукі. Нават калі і пагаварыць даводзілася з кім і цікавасць у гаворцы разбірала, дык і то заўсёды шкада было часу, усё здавалася, што няма на гэта права, усё рупіла якая-небудзь неадкладная работа. Выняўшы з запечча некалькі маткоў шарсцяных нітак, яна пачала нацягваць іх на матавіла, але Даша адставіла гэтую старажытную прыладу ўбок і спадручылася трымаць маткі сама.

— Можа ж табе ісці куды трэба? — спагадліва запыталася гаспадыня. — Там жа вячоркі недзе, хлопцаў, нябось, напрыходзіла.

— Нікуды не пайду сёння,— зусім шчыра сказала дзяўчына,— пасяджу з вамі.

— Ты вось нават і не апранаешся каля дому,— пацепваючыся ад думкі пра холад, сказала Андрэіха. — І адзін раз прыбегла ў адной кофтачцы, і другі.

— Дык у мяне ж шарсцяная кофтачка,— заўважыла дзяўчына,— вязаная.

— А мне і ў кажусе іншы раз страшна на мароз выходзіць,— працягвала Андрэіха. — Асабліва ноччу. Вось як засвішча, зашуміць на двары, дык мяне так і пачынае цягнуць бліжэй да печы. У сенцы і то выйсці боязна. Усё ўяўляецца мне тады, што нехта недзе мерзне ў гэты час у дарозе, ідзе пехатою ці едзе на прысталым кані. Завіруха, снежныя гурбы вышэй пояса, а перад чалавекам ні дарогі, ні аганька ў далечыні. Жаласць разбірае, здаецца, чуеш, як цяжка дыша гэты чалавек, ледзь-ледзь перастаўляючы ногі, бачыш, як ён раз-по-разу пацірае рукі, нос, шчокі — і ўсё ўглядаецца ў цемень перад сабою, усё шукае паратунку. А з жаласцю і радасць у такі час прыходзіць. За тое, што ў цябе над галавою страха, што ёсць печ не зусім халодная і што ніхто цябе не гоніць у гэтую часіну з твайго прытулку. Мне часта ўспамінаецца, як і мяне вось гэтак жа захапіла аднаго разу ў дарозе ноч. Ды каб толькі ноч! А то ж такі віскуцень падняўся быў тады, такі ніцы мароз! Душа застывае, як падумаеш.

Маладая суседка з чаканнем і ўвагай стала паглядваць на жанчыну, а тая, нацягнуўшы ніжэй рукавы і шчыльней зашпіліўшы кароткі, нібы наўмысля падрэзаны, сачак, відаць, сабралася гаварыць доўга, на ўсе маткі нітак. Даша любіла слухаць цётку Настулю, бо ведала, што тая абы чаго не скажа і нічога не прыбавіць да таго, што чула ці бачыла сама.



— Гэта яшчэ да вайны было, гадоў, мабыць, чатыры да вайны. Уладзік мой тады яшчэ ў шостым класе вучыўся, а Паўлуша — у восьмым. Пайшлі мы тады з Уладзікам у горад пехатою, каня нам не далі. На дарозе таксама нідзе не пад'ехалі: не вельмі браў хто такіх, як мы. Дык прыйшлі ўжо ў добрага поўдня, хоць і выйшлі рана. Колькі таго дня ў гэтую вось пару. Якраз і тады, памятаю, былі зімовыя канікулы. Прыйшлі, а яшчэ там колькі папастаялі, пакуль нас пусцілі, куды трэба — мы бацьку хацелі праведаць — дык ужо калі выходзілі з горада, то...

— Пачакайце трошачкі,— перапыніла жанчыну Даша.— А хіба дзядзька Андрэй там у бальніцы ляжаў?

— Не ў бальніцы, пад следствам, — спакойна ўдакладніла жанчына.— Хіба ты не памятаеш?

— Памятаю, нешта такое было,— ніякавата моргаючы, сказала дзяўчына,— ды забыла я ўжо.

— Пад следствам быў, — паўтарыла жанчына.—Захварэў, як толькі яго забралі. Я часта хадзіла ў горад, а той раз упрасіўся і Уладзік: пайду ды ўсё, хачу паглядзець тату. Плача, кажа—сню бацьку кожную ноч, ды ўсё босага і абадранага, з вялізнай барадою. Хачу паглядзець, які ён цяпер. Я, праўда, не гаварыла, што бацька хворы, але, мабыць, па слязах маіх дзеці здагадваліся. Ішоў усю дарогу, слупы верставыя лічыў, мяне за руку цягнуў, не мог дачакацца, калі пакажацца горад. Прыйшоўшы, дрыжаў, бедны, ад хвалявання, і не ведаю, што б тады з ім было, калі б, на шчасце, не павярнулася ўсё ў другі бок. Стаім мы, чакаем, і вось падыходзіць да акенца адзін ваенны, заве мяне, а потым і гаворыць:

— Не мерзні тут, цётка, і не марозь свайго малога. Твой чалавек учора выпушчаны адсюль і пераведзены ў бальніцу.



Сказаў так і закрыў акенца. Пачала я стукаць, каб яшчэ папытаць у яго, дык ужо больш не адкрыў. А тут людзей вельмі многа стаяла. Адышліся мы з Уладзікам і не ведаем, што рабіць. І радасць бярэ такая, што аж плакаць хочацца, і трывога не пакідае. Не ведаем, у якую бальніцу ісці. Можа, у турэмную?

— Ён жа сказаў, што выпушчаны, — у радасці гаворыць Уладзік, а ў самога слёзы коцяцца па шчаках. — Раз выпушчаны, значыць, тут, у гарадской бальніцы.

Пайшлі мы туды, пытаем. Ёсць такі, кажуць, калі ласка.

Зараз скажам урачу, і вы зойдзеце праведаць. Мы ўжо хацелі дадому вам паведамляць.

І вось бяжыць мой Уладзік па калідоры, я ледзь за ім паспяваю. Белы халат на ім ніжэй пят, на мне — таксама.

— Не грукай ты гэтак,— сварыцца на яго нейкая дактарыца, а ён нават і не чуе нічога. Прачытаў на бягу нумар палаты і спыніўся ля дзвярэй: цяжка дыша, вочы блішчаць слязьмі. Я пастукала,— чую голас: быццам бы ён абазваўся, Андрэй. Адчыніла дзверы і не паспела глянуць, дзе ён, на каторым ложку, як Уладзік ужо там. Кінуўся бацьку на шыю, абдымае, цалуе, гладзіць шчокі. А я села на ложку ў нагах і плачу, нічога сказаць не магу...

Андрэіха на хвіліну перастала віць клубок, нахілілася над сталом.

— Ты выбач, Дашачка, што я ўспомніла пра гэта,— выціраючы кукішкамі вочы, сказала яна.— Колькі гадоў прайшло, а як падумаю пра тыя дні, дык аж калаціць мяне пачынае.

— Гаварыце, цётка Настуля,— папрасіла Даша.

— Сяджу я, потым працягвае Андрэй да мяне рукі. Худы ўвесь, жоўты, але нічога: пабрыты, падстрыжаны, усёроўна, як і чакаў гасцей. Смяецца, і твар вясёлы. «Нічога, кажа, усё цяпер добра». Узяла я аберуч яго за галаву. Чарнявы ён у мяне быў, ты ж памятаеш. Гляджу,— чарнявы то чарнявы, але ж сярод чорных валасоў ужо ёсць і белыя. У мяне аж рукі задрыжалі.

— Пасівеў ты, — кажу, — Андрэйка.

А сусед па койцы, пажылы такі чалавек, адказвае:

— Ты, кабетка, не глядзі на валасы, бо яны нічога не значаць. Важна, што сам чалавек, як той казаў... З чорнага паклёпу чалавек выйшаў. Гэта табе не жарты.

— Усё прайшло, — падхапіў Андрэй. У голасе радасць. Бачу, ён нават устаць намагаецца, а чую душою, што нельга яму ўставаць, бо яшчэ слабы. — Злёг толькі я,— гаворыць далей Андрэй,— вось гэта кепска. Прастыў вельмі. Але нічога, цяпер хутка папраўлюся.

Ён ўзяў малога за плечы, прыцягнуў да сябе і пачаў нібы пытацца, нібы так сабе гаварыць.

— Спужаўся ты быў у тую ноч. Праўда? — Уладзік кіўнуў галавою.— Перажываў, мабыць, думаў, што бацька і сапраўды ў чым-небудзь вінаваты. Выкінь усё гэтае з галавы. Ні ў чым я не вінаваты! Не быў і не буду! А той, хто хацеў нас ачарніць, няхай сам счарнее.

— Паедзем, тата, дадому,— просіць Уладзік.

— А на чым вы тут?

Уладзік неяк жаласліва паглядзеў на мяне, а што я магу сказаць? Прышлі мы, кажу, пехатою, бо ніхто нам каня не даў.

— Скажы,— кажа,—брыгадзіру, што калі і цяпер не дасць, то няхай не паказваецца мне на вочы. Запражэце, што там знойдзецца, ды ў гэтую нядзельку прыязджайце.— А мы, здаецца, у аўторак былі.— Да таго часу,— кажа,— мяне выпішуць з бальніцы.

І от пайшлі мы неўзабаве. Глядзім, ажно ж за горадам пачынае змяркацца. Я ўжо думала вярнуцца назад, паспрабаваць пашукаць дзе прытулку, а Уладзік цягне ісці. «Хадзем, мама, скарэй дадому, я павінен заўтра ж даведацца, хто падаў на тату». «Няхай яго людзі не ведаюць, кажу я яму, на што ён табе?» Пайшлі, а вецер усё большае і большае, мароз са змрокам мацнее. Прайшла адна машына, Уладзік галасаваў, потым з гоні бег за ёю, — не спынілася, не ўзяла. Ідзем далей, спяшаемся, пакуль дарогу не занясло ды глыбокая ноч не застала. Дайшлі да Жываглодавіч, ты ж ведаеш, кіламетраў дзесяць ад горада. «Больш тут вёсак не будзе,— кажу я Уладзіку,— давай папросімся, можа, пусціць хто начаваць». Кажу, а сама думаю: «Хто гэта нас пусціць? Ні дакументаў у нас, нічога».



Зайшлі ў вуліцу, дайшлі да аднаго двара, да другога. Цёмна ў хатах, спаць людзі паляглі, ці так проста святла не запальвалі, каб усялякія дарожнікі не стукацелі ў вокны. Вароты ва ўсіх высокія, брамкі дашчатыя і, вядома, з завалам са двара. Тут і да акна не дабярэшся. Каб не траціць дарма часу і сілы, пайшлі мы далей. Кіламетраў дванаццаць яшчэ ісці і ўжо нічога жывога нідзе наперадзе, толькі могілкі будуць кіламетраў праз сем. Хаця б не прыстаць, баюся я. Не так за сябе, як за Уладзіка.

З самага ранку нічога не еў малы, цэлы дзень на холадзе ды ў такім хваляванні. А вецер усё мацнее, усё больш насупраць нам, а то ўжо і круціць пачынае, замятае дарогу. Два крокі ступіш—і гурба ўпоперак дарогі. Бачу, мой Уладзік па пояс правальваецца ў такія гурбы і ледзь выцягвае ногі. Колькі той сілы ў падлетка, ды яшчэ не вельмі здараўчанага. На кароткую мэту пацягне: і прабяжыць моцна і падскочыць, а вынослівасці мала. Тут мы, старыя, усё-такі дужэйшыя. Узяла я Уладзіка за руку: «Ідзі, кажу, пры мне». А ён вырывае руку і наровіць ісці наперадзе, каб прыкрываць ад ветру мяне. Потым паварочваецца і кажа: «Пасядзець бы нам дзе-небудзь хоць хвілінку, каб ногі не млелі, тады б ужо ішлі да самага дому». «Не можна, сыночак, садзіцца, — кажу я яму, — тады яшчэ горш ногі забаляць ды і мароз можа прыхапіць сядзячага».

Гавару я яму так, а сама памаленьку стараюся развязаць торбачку з хлебам. Рукі ў мяне адубелі, вось як сёння, у час гаворкі з Шулавым, нічога рады не магу даць. Потым зубамі сяк-так развязала, выняла акрайчык і паклала сабе ў запазуху, каб адагрэўся. Думаю так: дойдзем да могілак, там усё ж прытулімся дзе-небудзь за дрэвамі, дык я пакармлю Уладзіка. Век баялася я могілак, за вярсту іх абыходзіла, а тут чамусьці здавалася, што нават на могілках будзе ўтульней і не так жудасна, як у гале, на дарозе.

Ідзем, ідзем, ужо, здаецца, многа кіламетраў прайшлі, ужо ў вёсках, глядзі што, першыя пеўні спяваюць, а могілкаў усё няма. Пачынаю палохацца, халодны пот на ілбе выступае: «Можа, з дарогі збіліся, тады загінем у полі». Але ж не, нядаўна Уладзік сказаў, што слуп мінулі, значыцца, ідзем дарогаю. І пад нагамі сяды-тады чуецца цвёрдае, у полі ўсё ж такі мякчэй было б.

Могілкі гэтыя самыя паявіліся перад намі яшчэ можа гадзін праз дзве. Па шуму я іх пазнала, а на вока, то мо' і не ўгледзела б. Стала прыглядацца, прыгінаючыся аж да сумётаў: сапраўды гэта могілкі, ці можа так які лясок? А калі могілкі, то ці можна будзе там як-небудзь прыхавацца ад завірухі? Уладзік ужо ледзьве перастаўляе ногі. Ужо я трымаю яго за руку, іду пярэдняй сама, а ён нічога не кажа. Гляджу і ўсё сплюшчваю і расплюшчваю вочы, усё маргаю, бо не верыцца мне, сапраўды бачу я нейкія аганькі спераду, ці, можа, гэта ўжо мярэшчыцца мне ад стомленасці. Мільгне аганёк і патухне. Потым зноў мільгне, або два-тры мільгнуць адразу. Спыніла я Уладзіка ды шапчу: «Глядзі, сынок, туды, на могілкі. Ты нічога не бачыш?» «Бачу, кажа, нейкія агеньчыкі, толькі не на могілках, а каля могілак, па гэты бок».

Пахаладзела ў мяне ўсё ўнутры, а страху чамусьці няма ніякага. Толькі Уладзіка шкада. Лягла я на снег і яго за руку пацягнула. «Ляжы, шапчу, можа, бог дасць, усё добра будзе».

У галаве ўсё неяк чыста і ясна. Чую, як вецер шуміць у голых надмагільных бярозах, парыпвае сухая галіна, тручыся аб другую. Ляжаць быццам бы і не холадна,ісці было халадней. Пад локцямі — перавал са снегу. Тулюся ў яго, як у падушку, і Уладзіка прыціскаю да сябе. Агеньчыкі мільгаюць усё бліжэй, часам спыняюцца і зноў мітусяцца, то сюды, то туды. Ведаю, што гэта не цуд, хоць і ля могілак. Ведаю і разумею, што гэта воўчае ганнё. Не бачыла я ваўкоў ніколі, але чула ад старых, што яны бегаюць вось так у Піліпаўку і нападаюць на людзей. Успомніла, што цяпер якраз Піліпаўка. Тулю да сябе Уладзіка, глыбей лезу ў снег, а ўсёроўна быццам бы не баюся нічога. Толькі чую, што нехта быццам заве мяне ціха і ласкава: «Настулька!..» Услухоўваюся—Андрэяў голас. Гэта там, у горадзе, ён мяне так назваў, калі мы адыходзілі. Што, калі пачуюць нас і нападуць? Вецер быў вялікі і злосны, калі мы ішлі, а цяпер нібы паменшаў, паласкавеў. Каб толькі Уладзіка аберагчы! Я гарну яго пад сябе і чакаю ветру, снегу, страшэннай завірухі. Няхай бы нас замяло цяпер, занясло снегам, лёдам, пачарнелым лісцем з бяроз!.. Калі не абаіх, то хаця б аднаго Уладзіка, каб яго абмінулі, не заўважылі звяры.

Думаю так, а сама ўсё гляджу, усё сачу за агенькамі. Вецер на нас, яны можа і не пачуюць, што тут людзі. А можа загуляюцца на сваім вяселлі ды забудуць пра нас. Вось пярэдні агеньчык мільгнуў і знік, значыцца, павярнуліся бельмы ў другі бок. За ім, гляджу, і другі знік, і трэці. Праходзіць нейкі момант, і мне здаецца, што ваўкі ўжо недзе за намі. Баюся паварушыцца, каб паглядзець. Раптам Уладзік так рашуча ды па-мужчынску шэпча: «Уставайце, мама, і пабяжым!» Я ўсхапілася, нібы толькі і чакала гэтага. Пабеглі мы, адкуль гэтыя і сілы ўзяліся. Бяжым, бяжым, дух забівае, ад замеці свету не відно, а мы ўсё бяжым і назад не азіраемся. Спыніліся, калі ўжо ногі пачалі падкошвацца. Я хапаю Уладзіка за рукі, каб адцерці іх, каб абагрэць дыханнем яго твар, і намацваю ў яго руцэ расчынены складаны ножык.

— Гэта ваўкі былі? — пытае Уладзік у мяне.

— Ваўкі,— адказваю. А самой так радасна стала за хлопца, і ўся трывога адлегла ад сэрца. Цяпер ужо я верыла, што мы дойдзем дадому і нішто нас не суніме. Падала я Уладзіку адагрэты акрайчык, а ён пеpакроіў яго гэтым сваім ножыкам і аддаў палавіну мне. Мы сталі спінамі да мяцеліцы, прытуліліся адно да аднаго і папалуднавалі наспех, хоць пара падыходзіла, бадай што, да снедання. Падмацаваліся, пайшлі далей. І вось дайшлі неяк. Уладзік не раз потым успамінаў пра тую ноч. Казаў, што каб і яшчэ гэтулькі ісці, то ўсёроўна дайшоў бы. Гэта ён так рады быў за бацьку. Аднак жа, бедны, доўга хварэў пасля гэтага.

Даша слухала, аж заслухалася, забыла, што ўжо няма на руках матка. Рукі, выцягнутыя наперад, ляжалі локцямі на стале, тонкія далоні злёгку варушыліся.

— От Уладзік,— ціха сказала яна, калі гаспадыня разблытвала першую нітку другога матка.— Ён і потым быў такім дружным, харошым... Нездарма ж вось і на фронце...

— Там яны абодва, калі б жывымі былі...— сумна сказала жанчына. — Узнагароды вялікія ў абодвух. Нават бацьку і то далі ордэн, хоць пасля смерці ўжо. Горад Стаўбуноў бралі, дык першым са сваім аддзяленнем стары зайшоў у тыл ворага. У мяне такое апісанне ёсць, з часці прыслалі.



## IX

Мітрафан з Платонам таксама ўжо ўходавалі свой чыгун бульбы і цяпер сядзелі ўдвух каля печы, вялі сваю ціхую гаворку. Цімоша павячэраў раней і паімчаў некуды са студэнтамі, з якімі яшчэ ў мінулую зіму разам бегаў у дзесяцігодку. Платон расказваў Мітрафану пра калгасных коней, скардзіўся на некаторых калгаснікаў, што вельмі ж не шануюць жывёлу. «Як жа гэта можна? — абураўся стары.— Даў учора па загаду старшыні адной жанчыне падводу. Налажыў сена ў сані, каб было чым пакарміць тое цягло ў дарозе. Наказаў жанчыне, каб берагла кабылку. А яна, гэтая жанчына, што зрабіла? Заехаўшы ў двор, скінула ўсё сена сваёй карове і цэлы дзень вазіла дровы на галоднай кабылцы. Прыгнала яе ў канюшню позна ўвечары, кінула не распрэжаную, мокрую і дрыжачую».

Усю тую ноч качалася кабылка жыватом, і ўсю тую ноч Платон не адыходзіў ад яе, праклінаў і жанчыну, і старшыню, і свой пакутлівы лёс конюха.

Па нейкай своеасаблівай асцярожнасці Платон не сказаў, хто такая была гэтая жанчына, аднак Мітрафан разумеў, што ўсе сляды вялі да праслаўтай Кадрыліхі, бо ніхто іншы ў іхнім калгасе так не зрабіў бы. З мужчын хіба толькі Заткла. Разумеў Мітрафан, што і загнаная кабылка была не так сабе жывёліна. У Платона, праўда ж, і не было на канюшні проста жывёлін, звычайнай цяглавай сілы. У кожнай загародцы стаяла своеасаблівая істота, зусім адметная ад іншых і зусім не такая, як у іншых калгасах. Што ж датычыць кабылкі, пра якую ішла гаворка, то гэта была адна з самых лепшых гадаванак Платона. Гэта тая самая Лысуха, якая яшчэ ў мінулую зіму была жаробкай і часам прыносіла старому конюху не мала прыемных клопатаў. Вырвецца, бывала, з канюшні і пайшла гуляць па вуліцы. Хлапчукі з крыкам і віскам за ёй, а яна выляціць на выган, абмахне кругом вёску і ўжо імчыць з другога канца вуліцы. Тут стары выходзіць напярэсцікі, расстаўляе рукі, і жаробка напружвае пярэднія ногі, уязджае капытамі ў снег. Рэдка калі яна асмельвалася абмінуць Платона, а калі ўжо і абмінала, то на другім крузе абавязкова давалася ў рукі. Прыляціць, уткнецца мысаю ў Платонаў кажух і сапе вінавата і стомлена.

Размова крыху зацягнулася ў старых. Платон час-ад-часу памыкаўся ўстаць, каб ісці на канюшню, але Мітрафан прытрымліваў яго, бо ведаў аб сабе, што не засне да другіх пеўняў, як бы ні стараўся. А што можа быць пакутлівей, чым бяссонніца ў глыбокую ноч?

Мітрафан устаў, каб зачарпнуць сабе вады, а можа і Платону падаць, калі захоча, як у гэты момант, штурхнуўшы з разгону сенечныя дзверы, убегла ў хату Даша.

— Бычка ўкралі! — на бягу крыкнула яна і пачала хутка надзяваць ватоўку.

— Што? — не разабраў Мітрафан.— Якога бычка?

— У цёткі Настулі! — дадала дзяўчына.— Ідзіце хутчэй туды, а я пабягу скажу хлопцам!

Яна выбегла, нават не зачыніўшы хатніх дзвярэй, а Мітрафан з Пла-

тонам, не надта спяшаючыся, накінулі на плечы свае кажухі (перад чыгуном бульбы Платон распрануўся, хоць звычайна мог сядзець у кажусе хоць суткі ў любой цеплаце) і пайшлі на Андрэішын двор. Пакуль яны прышлі, Даша з'явілася з хлопцамі. Сярод іх быў і Цімоша. Як гулялі разам на вячорках, так і рынуліся адразу па Дашынай трывозе. У двары хлопцы пачалі крычаць, мітусіцца, падаваць розныя парады, а некаторыя лічылі самым лепшым пайсці адразу на двор Кадрыліхі і абшукаць там усе закавулкі.

Мітрафан, пераглянуўшыся з Платонам, спыніў усю гэтую неразбярыху. Хоць сваім звычным шэптам, але цвёрда ён загадаў хлопцам не вытароўваць лішне двор, а сам узяў з рук Андрэіхі ліхтар «лятучую мыш» і пайшоў ад хлява ў бок загуменняў. Пакрочыў за ім і Платон. Хутка яны вярнуліся і паказалі хлопцам, куды павялі сляды: адзін чалавечы, другі бычыны. Відаць, не надта дужы быў злодзей, бо не нёс бычка на руках, а цягнуў яго збоку. Паколькі было яшчэ не позна і жанкі хапіліся адразу, то сляды не паспела занясці.

Хлопцы пабеглі па слядах, некаторыя са студэнтаў вынялі свае электрычныя ліхтарыкі. Пабегла з імі і Даша, а Мітрафан з Платонам пайшлі паціху, проста дзеля цікавасці.

«Хто ж гэта такі? — думала, бегучы, Даша. — Няўжо гэты самы Заткла, Кадрылішын паслугач?»

Уперадзе ўсіх імчаў Цімоша, ледзь не ступня ў ступню за ім бег адзін даўганогі студэнт і асвятляў ліхтарыкам сляды.

— Вунь бычок! — узрадавана і трывожна крыкнуў Цімоша, павярнуўшыся да хлопцаў і паказваючы рукою ўлева ад сябе, у бок недалёкага пасёлка.

— Гэта сабака! — не паверыў студэнт.

Але ён памыліўся: ля землямерскага слупка ў полі, па жывот у снезе сапраўды стаяў і калаціўся ад холаду Андрэішын бычок. Глянулі на сляды ад слупка, і Цімоша кінуўся ўправа, бліжэй да агародаў. Хутка ён заўважыў, што ля платоў мятнулася нешта чорнае і пакацілася па снезе ў напрамку Кадрылішынага агароду. Гэта ж самае адразу заўважыла і Даша.

— Заткла! — крыкнула яна гучным дзявочым голасам. — Забягайце яму наперад, бо ўскочыць у агарод, дык там не знойдзеце!

І толькі гэтае самае Заткла наважылася пераскочыць пляцень, як Цімоша нагнаў яго і з разгону штурхнуў у плечы. Заткла войкнула і асунулася на гэтым жа плятні, а тым, што падбеглі пазней, здалося, нібы злодзей усё ж намерваецца скочыць далей, дык некаторыя з іх таксама прыкладаліся па разу.

Заткла з'ехала мордаю ў снег па той бок плятня і пачало жаласліва, па-дзіцячаму плакаць і прасіцца:

— Біце, браткі, мяне, забівайце!.. Усёроўна не жыць мне больш на свеце. Забівайце!

Голас мала быў падобны на Затклаў. Даша нахілілася над плятнём, студэнты пасвяцілі. Чалавек ляжаў ніцма, закрыўшы рукавамі твар. Са снегу тырчалі старая аблезлая шапка-вушанка, відаць, з летняга пужайла ў агародзе, і падраны кажух, падпяразаны вяроўкай. Хлопцы пералезлі цераз пляцень і ўзялі чалавека за рукі, каб падняць на ногі, але ён, стогнучы і войкаючы, вырваў свае рукі і зноў шуснуўся ў снег. Тады Цімоша ўзяў аберуч яго за галаву, перакруціў на бок, а студэнт уключыў ліхтарык.



— Васіль! — раптам спалохана і трывожна крыкнула Даша. — Вася, няўжо гэта ты?!

— Забівайце мяне, браткі, — зноў пачаў прасіцца чалавек, — канчайце на гэтым месцы, бо не хачу я больш жыць.

Гэта сапраўды быў Васіль Печка.

Усім хлопцам стала няёмка: з аднаго боку — перад імі ляжаў, усё ж такі, злодзей, якога з гарачкі можна было і выцяць і абразіць, якога трэба вось зараз жа аддаваць у рукі мясцовай улады, а з другога боку, гэта — таварыш, сябар, з якім не так даўно разам вучыліся, разам бегалі па вуліцы. Даша таксама разгубілася, не ведала, што рабіць.

— Як жа гэта ты, а? — усё пытала яна, успёршыся рукамі на пляцень. — Як жа гэта здарылася, Вася?

Прыклыпалі па гуртавых слядах Мітрафан з Платонам, убачылі, што начальства папалася, і пасунуліся моўчкі назад: далей ад граха, ад розных непрыемнасцей. Па дарозе яны забралі з сабою бычка.

Даша ўсё дапытвалася, але Печка толькі плакаў, скардзіўся на свой лёс, а ў гаворку не ўдаваўся.

— Хочаш, мы дапаможам табе дайсці дадому, — папрасіла дзяўчына, але Печка і на гэта нічога не адказаў.

Тады Цімоша, мабыць зразумеўшы, што хлопцу цяжкавата будзе рухацца сваім ходам, прапанаваў ісці на калгасны двор па сані. Усе пабеглі, а каля плятня засталася адна Даша. Яна пераступіла цераз пляцень і блізка нахілілася над Васілём.

— Давай я дапамагу табе ўстаць, га? Ты ж змерзнеш, лежачы ў снезе.

Васіль маўчаў, толькі чутно было, як ён хрыпла дыхаў і кашляў у снег.

Даша паспрабавала падняць яго і пасадзіць на пляцень, але хлапец зусім не імкнуўся ўважыць ёй, а, нібы наўмысля, шыўся глыбей у снег.

— Бок у мяне вельмі баліць, — як сабачаня, заскуголіў ён, — і няма чаго мне падымацца, няма куды ісці... Напаілі, дурня, падвялі... Ідзі, кажуць, выведзі бычка ў Андрэіхі, пакуль яна зноў не забрала яго ў сенцы. Заўтра будзе міравая закуска... Ніхто не ўгледзіць, — добра, а калі ўгледзіць, то скажы, што забіраеш на нарыхтоўку па асабістаму распараджэнню старшыні сельсавета. Я хацеў не ісці, дык што ж... Мокрут так зыркнуў на мяне, што аж у лытках стала холадна. Млынар сунуў мне ў рукі вось гэтую самую шапку і кажух, а Заткла вывеў на вуліцу.

— Не прасі мяне ўставаць, Даша, — трошкі падняўшы галаву, жаласліва гаварыў далей хлопец. — Усёроўна мне ўжо не ўстаць. Калі не капурну пасля гэтага, то сам на сябе рукі налажу. Паслухай лепш, аб чым я хачу цябе папрасіць. Не пішы ты аб гэтым Валодзю, брату майму. Не даруе ён мне гэтага ніколі, а толькі хвалявацца будзе. Лётчыку ж, сама ведаеш, нельга хвалявацца.

— Добра, Вася, — ціха сказала дзяўчына. — Пра гэта я не буду пісаць, калі ты так просіш. Але даравацъ табе сапраўды нельга.

## X

Назаўтра Іванава бабулька пачала шкрабацецца вельмі рана, і пакуль Іван устаў, адзеўся, яна ўжо некуды збегала прыцемкам, нешта нават прынесла пад палою. Зірнуўшы мімаходам на кватаранта, скры-

пуча закашлялася ад удушлівага смеху і паведаміла аб начным здарэнні ў Дабрасельцах.

— Злодзея злавілі, ды яшчэ якога!

Пасля гэтага прычапала да свайго вялізнага куфра, на вачах у Івана двойчы дзынкнула нутраным замком і, адвярнуўшыся, паклала ключ у нейкую там патайную кішэню.

Была ў гэты дзень нядзеля, у сельсавеце тэрміновай работы не было, дык Іван надзеў сваё паношанае палітцо, узяў з качарэжніку кіёк і пакрочыў памаленьку ў бок сваіх Дабрасельцаў. Мароз адлёг пад раніцу, і вецер уціх, дзень пачынаўся такі, што і вясна магла б яму пазайздросціць. Снег мяккі, не ліпкі яшчэ, аднак і не сыпучы. Здаецца, вазьмі яго ў руку — і не адчуеш холаду. Пад нагамі не коўзка і не вязне нага, як іншы раз пасля замеці.

«Схаджу дахаты, — думаў Іван, — спытаю там, што за здарэнне выйшла і ў сваім двары пабуду».

Калі ўжо міналася школа і пачынаўся паваротак да бяскрылых млыноў, Іван раптам пачуў, што яго нехта заве. Ён агледзеўся і ўбачыў, што па вуліцы ідзе Ілья Савіч і знакам рукі просіць пачакаць. Іван спыніўся і прыставіў да карацейшай нагі кіёк.

— Куды вы так рана? — спытаў дырэктар, падаўшы Івану руку.

— Хацеў у Дабрасельцы, — трошкі здзівіўшыся, што яго нагналі, адказаў хлапец. — А што, тут ёсць якая справа?

— Ды не, — прыязна сказаў Ілья Савіч. — Мне самому ў той бок, дык пойдзем разам.

Яны рушылі ўдвух па нікім яшчэ не кранутай дарозе. Іван стараўся прыбаўляць крок, каб не вельмі стрымліваць вышэйшага па росту і бойкага ў хадзе дырэктара, а дырэктар зусім непрыкметна, нібы толькі для таго, каб зручней было размаўляць, прыцішаў хаду.

— Хачу застаць эмтээсаўскае начальства, — гаварыў, ідучы, Ілья Савіч. — Можа яшчэ не выскачыла з дому, пакольні сёння выхадны.

— Хто яго ведае, — няпэўна сказаў Іван. — Вельмі ж любіць зайцоў ганяць, то наўрад ці дома.

— Так яно, — згадзіўся Ілья Савіч. — То за зайцам паімчалі, то за ваўком, а на месцы не застанеш. Абяцалі святло даць у школу, дык ужо каторы раз іду. Аднойчы, праўда, застаў быў дырэктара, але сакратарша ледзь пусціла ў кабінет. Электрычны званок у яе над галавою. У мяне ў школе святла няма, зімою вучні і настаўнікі слепяцца і вэндзяцца пры лямпах, а побач у дырэктара МТС электрычныя кнопкі на стале.

— Не быў я ў яго кабінеце, — заўважыў на гэта Іван, — аднак чуў, што ў яго там больш механізацыі, як у рамонтнай майстэрні. Кнопкі, званкі, вентылятары. Наш старшыня неяк пра гэта расказваў.

— Мокруту ўсё гэта па густу, — заўважыў Ілья Савіч.

— Аднаго разу сеў у папоўскае крэсла, — гаварыў далей Іван, — паклаў рукі на стол і загадаў Печку сабраць нас усіх да сябе. Прыйшлі мы, а ён сядзіць, адкінуўшыся на спінку крэсла, і абмацвае рукамі стол. «Запомніце кожны, — гаворыць нам, але не глядзіць ні на кога, — больш я не буду драць горла, завучы вас, а будзе ў мяне для кожнага званок: для цябе Печка, — адзін, для цябе, — паказвае на мяне, — два, для цябе, — паказвае на фінагента, — тры і так далей. Дагаварыўся з дырэктарам МТС — дае мне электраэнергію».





— Ды званкоў то ён нарабіў бы, — без здзіўлення сказаў Ілья Савіч. — Была б магчымасць, дык і сакратаршу пасадзіў бы за дзвярыма.

— Прышлі б вы калі-небудзь да нас на прыём, — сціпла ўсміхнуўшыся, сказаў Іван. — Толькі каб пад якім грымам і ў чужой вопратцы.

— Уяўляю я гэты прыём, — падхапіў дырэктар. — Неяк прыходзіла ў школу Даша, новыя рэкамендацыі прыносіла. Яна расказвала мне пра адзін такі прыём. Дарэчы, трэба было б ужо і вам пачынаць думаць наконт паступлення ў партыю, у кандыдаты, вядома.

— А можна мне, Ілья Савіч, вось нават цяпер падаць заяву? Як вы лічыце?

— Цяпер яшчэ ранавата, — з цеплатой у голасе, аднак цвёрда сказаў дырэктар. — Вам трэба стаць больш актыўным, навучыцца ненавідзець усякія недахопы ў нашым жыцці. З недахопамі трэба змагацца штодзённа і вельмі настойліва.

У гаворцы не заўважылі, як мінулі бяскрылыя млыны, як на фоне сіняватага ранішняга далягляду пачалі вырысоўвацца Дабрасельскія прысады.

— Тут быццам бы нейкі перапалох быў ноччу? — зусім не думаючы, што гэта мае якое-небудзь значэнне, прамовіў дырэктар.

— І я чуў, — пацвердзіў Іван. — Мая бабуля на досвітку ўсё здзіўлялася.

— Гэтая бабка ўсё ведае, — засмяяўся дырэктар, — хоць, здаецца, нікуды і не ходзіць.

Магчыма, што аб гэтым выпадку не было б больш і гаворкі, калі б на Дабрасельскай вуліцы раптам не сустрэўся Заткла. Ён выйшаў са свайго двара, не вымаючы з портак рук (варотаў у двары няма, адчыняць не трэба), пацягнуўся, пазяхнуў і пачаў угледацца спачатку ў адзін бок вуліцы, потым у другі. Відаць, у гэты момант вырашалася ў чалавека задача, куды бы гэта пайсці, які ўзяць кірунак, каб апахмяліцца ды ўхапіць што-небудзь, бо ў сваёй хаце нічога няма.

Убачыўшы здалёк двух мужчын, ён адразу павесялеў і рушыў ім насустрач, хоць яшчэ не ведаў, хто гэта ідзе. Як толькі наблізіўся і пазнаў сустрэтых, на момант засмуціўся, — з гэтымі не клюнеш, — аднак вельмі хутка знайшоў сваю ролю. Яго немалады і трохі жаўтаваты ад выпівак, аднак ледзь не спартсменскі твар адразу раз'ехаўся ў шырокую панібрацкую ўсмешку, рукі спачатку жвава заварушыліся ў портках, а потым выехалі адтуль і прыветна падняліся на ўзровень носа.

— Маю гонар, маю гонар! — урачыста загаласіў чалавек, сапхнуўшы з вачэй вялізную заечую шапку. — Я самы першы вітаю вас на нашай вуліцы!

Заткла з размаху падаў руку спачатку дырэктару, а потым Івану,

прыпыніў іх гэтым сваім здароўканнем і, адразу перамяніўшы тон, спытаў:

— Чулі, таварышы?

— Пра што? — абыякава спытаў дырэктар.

— Гэта ж толькі падумаць, толькі падумаць!..

Заткла палапаў па кішэнях свае ватоўкі, нават пашарыў у адной, але выцягнуў адтуль толькі шматок бруднай ваты.

— Закурыць не маеце?

Ілья Савіч дастаў пачак папярос.

— Гэта ж проста... А браткі мае! — працягваў абурацца Заткла і ў гэты час, не спяшаючыся, выцягваў з пачка папяросы: спачатку адну, а потым яшчэ дзве. — Часта ў нас балбочуць, трэплюць языкамі: той вінаваты, той. Было нават — я чалавек адкрыты — было нават, што на мяне ківалі. Ажно ж бачыце, што робіцца, бачыце, адкуль рыба пачынае гнісці? Гэта ж проста ўзяць ды ў газету, ці, я ўжо не ведаю, куды.

— Аб чым жа вы гэта? — ужо губляючы цярпенне, спытаў Ілья Савіч.

— Аб чым, аб чым? — з папрокам перапытаў Заткла. — Вы яшчэ пытаеце, аб чым? А ведаеце, хто сённяшняй ноччу ўкраў у Андрэіхі бычка? Не ведаеце? Скажу, калі ласка...

Хоць і цяжка было паверыць гэтаму чалавеку, хоць цяжка было б узяць гэта на веру і ад усякага іншага, усё ж такое паведамленне вельмі ўразіла і дырэктара, і Івана. Яны ішлі далей моўчкі, таму што Заткла, які не адставаў ад іх, перашкаджаў ім гаварыць, але ў думках кожны здзіўляўся і не мог уявіць, як гэта Васіль Печка пайшоў на такі ўчынак. Ілья Савіч здзіўляўся больш за Івана. Ён памятаў Васіля яшчэ па школе, нічога дрэннага ніколі за хлопцам не заўважалася. Хіба ўжо цяпер так яго сапсавалі?

Іван больш выразна бачыў Васілёвыя слабінкі, бо не малы час працаваў разам з ім, аднак і ён адчуваў, што ў гэтым здарэнні ёсць нешта вельмі незразумелае.

Калі ля свайго двара Іван прыпыніўся, Ілья Савіч папрасіў яго даведацца, як усё гэта выйшла. Сам на сябе ён не спадзяваўся, таму што мог затрымацца ў МТС.

— Будзеце ісці назад, — сказаў ён на развітанне, — загляніце да мяне.

Заткла таксама быў пусціўся за дырэктарам, а потым, відаць, перадумаў: спыніўся ля свайго двара, засунуў рукі глыбока ў порткі і пачаў смачна, з выгібам спіны пазяхаць. Неўзабаве ён насунуў на вочы абвіслую вушанку і рушыў да двара Кадрылíхі.

Вароты ў Іванаў двор былі шчыльна зачынены, драцяны абадок нацягнуты на стаўпец. Снег як прысыпаў ноччу ўвесь гэты сэдасік, так ён прысыпаным і заставаўся: нідзе ні следа, ні якога-небудзь парушэння зімняй свежасці. Нават на клямцы дзвярэй ляжаў нікім не кранутьі пласток снегу. Іван абапёрся локцямі на верхнюю жардзіну варот. Жардзіна скрыпнула і трошкі ўгнулася, з яе апалі лёгкія камкі снегу. Не хацелася пакуль што заходзіць у двор, і цяжка сказаць чаму. Пракладзеш адзін-адзіны след, і потым ён будзе тырчаць на ўсю вуліцу. Зоймешся, канешне, сякой-такой работай і не паспееш сустрэцца з людзьмі, празнаць, што там здарылася з Васілём. А можа проста сумна было заставацца аднаму.



Страсянуўшы вароты так, каб і з ніжніх жардзінак апаў снег, Іван да часу пакінуў свой двор. Андрэіха ўжо вярталася з фермы, калі ён падыходзіў да агародчыка, што перад яе хатай.

— Зайдзі, Іванка, да нас, — папрасіла гаспадыня.

Аднак не паспелі яны перакінуцца і двума словамі, як у хату ўвайшлі Мокрут і Ціхоня. Убачыўшы тут Івана, Мокрут спачатку злосна глянуў на яго, а потым размашыста прайшоўся па хаце, надзьмуў валлячок і звярнуўся да гаспадыні.

— Самагонку гоніш?

Андрэіха паглядзела на старшыню спачатку здзіўлена, а потым яе бледныя, прыморшчаныя вусны кранулiся ва ўсмешку. У жанчыны мільгнула надзея, што сусед жартуе.

— Хіба я калі гнала? — без трывогі спытала яна. — Я ніколі не гнала.

— У мяне ёсць матэрыял! — грозна сказаў Мокрут. — Так што, давай не гэтае самае!.. Па чыстай совесці кажу!

Жанчына адразу змянілася ў твары, бо яна ўжо трохі ведала, што такое «матэрыял» на чалавека.

— Не гнала я самагонкі, — з крыўдай і роспаччу ў голасе сказала Андрэіха. — Няма ў мяне з чаго гнаць і няма чым. Вы не туды прышлі, калі вам трэба самагонка.

— А куды нам ісці, куды? — Губы ў старшыні злосна сціснуліся.

— Вы самі ведаеце, хто гоніць самагонку.

— А хто, ну хто? — Мокрут ступіў да Андрэіхі з такім выглядам, быццам хацеў прыгнясці яе, маленькую і бездапаможную, сваім калючым зрокам, галавою ў хромавай шапцы, шырокімі, крыху сутулаватымі плячамі. — А хто? Скажы!

«Ваша радня», — хацела сказаць Андрэіха, ды не асмелілася, адвяла вочы, і яе зрок міжвольна ўпаў на акно, якое выходзіць у бок Мітрафанавага двара.

— Яны, ты хочаш сказаць? — закрычаў Мокрут. — Яны? Што ж, паглядзім!— І, павярнуўшыся да Ціхоні, загаварыў з ім па-сяброўску. — Ты разумееш, мяне проста мучыць пачынае гэты двор. І дэпутатка ў хаце, і гаспадар, здаецца, чалавек наш. Праўда, царкоўны стараста ў мінулым, але ж гэта цяпер ужо не мае такога значэння. Ледзь не кожны дзень у мяне ўсё новы матэрыял на гэтых людзей, а тут яшчэ, чуеш, вось заяўляе чалавек, што і самагонку гоніць мая дэпутатка.

— Я нічога на іх не сказала. — Спалохана загаварыла Андрэіха. — Як вам не сорамна? Хіба я што сказала на іх?

— Ладна, не будзем! — пагардліва ўсміхнуўшыся, кінуў старшыня і нават не павярнуў галавы да жанчыны.

Андрэіха паімкнулася яшчэ нешта сказаць, выгаварыць Мокруту ўсю сваю крыўду, але ў гэты момант старшыня са знявагай лыпнуў на яе і цераз плячо сказаў:

— Чуткі пайшлі, што ў цябе нехта бычка ўкраў на закуску. Праўда гэта?

— Бычок мой у сенцах, — разгублена сказала жанчына. — Ноччу перавяла з хлява.

— Што? У сенцах? А ну, пакажы!

Мокрут паспешна адчыніў дзверы ў сенцы і махнуў рукою Ціхоню.

— От і вер людзям! Бачыш? Стаіць тут сабе, лысы д'ябал, а пра яго вунь ужо якія плёткі пайшлі. Дык кажаш, ніхто і не спрабаваў яго вывесці?

Андрэіха змаўчала.

— Вось гэта матэрыял! — задаволена ўсклікнуў старшыня. — Пад суд трэба за такі паклёп. Ачарніць людзей, арганізаваць пабоішча... Ну, вось што! — ён ледзь толькі аглянуўся на гаспадыню. — Вобыску ў цябе сёння рабіць не будзем, я там яшчэ раз праверу матэрыял. Лысага ж гэтага беражы, гадуй. Калі хто што спытае пра яго, раскажы так, як нам расказала, калі хто паглядзець захоча, пакажы. І не слухай надта гэтую тваю суседачку. Дэ-эпута-а-тку... Харошы бычок, спраўны. Найлепшая была б закуска. Праўда?

Задаволена глянуўшы на Ціхоню, старшыня весела засмяяўся, пагладзіў лысага па спіне і выйшаў з сянец. Ужо ледзь не каля самага агародчыка спыніўся, успомніў пра Івана, відаць таму, што ўгледзеў праз адталую шыбу яго здзіўлены твар.

— Ідзі сюды!— махнуў яму рукою.

Іван выйшаў, падняў на старшыню вочы, поўныя абурэння і нянавісці.

— Ты чаго тут?

— Ды вось, зайшоў праведаць, пагаварыць.

— Вось што!..— апусціўшы па-вайсковаму рукі, грозна сказаў старшыня. — Ты не надта тут!.. Разумееш? Каб ніякіх тут спачуванняў і лішніх слоў. А то твая божая гаспадынька таксама ціснє самагонку, дык каб не прышлося аддувацца кватаранту. Зразумеў?

— Вы не вельмі тут палохайце! — сказаў Іван і рашуча ступіў крок бліжэй да Мокрута. Той падаўся крыху назад.

Адчыніўшы калітку, Ціхоня нецярпліва паглядваў на старшыню і варушыў тоўстымі, свежымі губамі, нібы збіраючыся сказаць штосьці вельмі рэзкае і непрыемнае. Мокрут падышоў, не заўважыўшы гэтага, выціснуў перад сабою ўчастковага, а потым так бразнуў каліткаю, што снег пасыпаўся не толькі з варотаў, а нават і з агарожы. Ідучы па вуліцы, ён хацеў пачаць гаворку пра гэтага свайго «кульгавага начальніка» і на ўсякі выпадак сёе-тое паведаміць пра яго, але раптам убачыў перад сабою Дашу і спыніўся, як аслупянелы. Дзяўчына ішла, відаць, да суседкі, таму не была цёпла апранута, а толькі пуховы шалік, як і раней, быў накінуты на галаву і лёганька закручаны на шыі. Спыніўшыся, Мокрут хоць і раптоўна і неяк падсвядома, але ўсё ж падумаў, што і Даша павінна супыніцца, ды не збыліся яго спадзяванні. Дзяўчына як ішла шпаркім руплівым крокам, так і пайшла далей, толькі пaздароўкалася з мужчынамі коратка і паспешліва. Роўнае і прыгожае ступанне яе суправаджалася лёгкім парыпваннем снегу.

Ціхоня пакрочыў далей, зрабіўшы выгляд, што не жадае цікавіцца чужымі інтымнымі справамі, а Мокрут усё не сходзіў з месца, нібы зачараваны, глядзеў услед дзяўчыне. Раптам, нібы перавярнулася нешта ў яго ў нутры, згінула некуды, быццам патанула яго злосць на Андрэіху, на Івана, агідныммі сталі ўсе гэтыя выдумкі пра нейкія незвычайныя матэрыялы, пра самагонку. Хацелася вось толькі глядзець на ражок Дашынага шаліка, які трошкі варушыўся ад ціхага ветру, ісці за ёю і нават ступаць у гэтыя маленькія роўныя сляды. Вось яна прайшла, нічога дрэннага не сказала, нават глянула быццам не злосна, без калючак, а што было сказана вось толькі што на яе? І кім было сказана? Каб гэта хто чужы, пабочны, каб гэта які ненавіснік? А то ж — чалавек, які не адзін раз прачынаўся ноччу з думкай аб ёй, для якога, часта здавалася, не было нікога больш блізкага. І калі б гэта яшчэ праўда была сказана, калі б усё гэта рабілася дзеля дабра, дзеля справядлівасці.



Вось яна зараз прыдзе да Андрэіхі, аб усім даведаецца. Калі Андрэіха ёй не раскажа, дык Іван раскажа. Чорт яго прынёс якраз жа на гэты час. І, напэўна, здзівіцца дзяўчына, засмуткуе ад такой нечаканасці. Усяго было раней, а такога, каб узводзіць хлусню на свайго, нават любімага чалавека, яшчэ не было.

Мокрут глянуў уздоўж вуліцы, у той бок, куды пайшоў Ціхоня, аднак яму зусім не хацелася даганяць яго. Думкі ішлі ўсё за Дашай. На момант нават з'явіўся намер махнуць рукою на Ціхоню, на ўсё недарэчна службовае і вярнуцца ў хату Андрэіхі, стаць на калені перад гаспадыняй і перад Дашай. Няхай бы яна ведала, як баліць у яго вось цяпер на сэрцы, няхай бы ведала, што каб магла даравацъ яму ды змаўчаць пра выпадак мінулай ночы, то, пэўна, ужо ніколі б ён, старшыня Чырвонамакаўскага сельсавета, не саступіў бы з простага людскога шляху.

«А можа, — раптам падумалася яму, — адмовіцца ад усяго гэтага, сцісніць душу ў кулаку ды пайсці дадому? Там усё-такі жонка, ужо каторы дзень нездаровая ды вельмі задумлівая. Сядзіць, нічога не гаворыць, нават не крычыць, не злуецца, а толькі ўсё нешта распорвае ды сшывае нанава. Яшчэ не так скора быць ёй маткай, а ўжо, мабыць, рыхтуецца...»

Паімкнуўся старшыня нават ступіць у бок свайго двара, ды ўсё ж такі не хапіла ў яго рашучасці. Пастаяўшы яшчэ з хвіліну, ён квола павярнуўся, наставіў скураны каўнер і пакрочыў услед за Ціхонем.

## XI

Даша зайшла ў хату якраз на пачатак размовы. Андрэіха стала расказваць Івану пра начную трывогу, скардзілася, што ўсю гэтую ноч не спала, аднак жа сутнасць справы старанна абыходзіла, нібы сама пра яе нічога не ведала. Даша адразу ўлавіла гэтую нотку суседкі.

— Хіба вы баіцеся Івана? — здзіўлена спытала яна.

— Чаго мне баяцца,— сказала на гэта Андрэіха.— Свой жа ён. От кажу, што не спала ўсю ноч, напалохалася, бо нехта ў хлеў лазіў. А хто — чорт яго мацеру ведае.

— Сказала ж я вам яшчэ ўчора, хто лазіў і чаму.

— А я не вельмі прыслухалася, сказаць па-праўдзе.

— Няўжо вы і гэтым нічога не сказалі? — Даша зняважліва паказала рукой на тое акно, што выходзіла на вуліцу.

— А што мне было ім гаварыць? Мокрут пра самагонку пытаўся.

Тады Даша пачала расказваць Івану ўсё па-парадку, а гаспадыня толькі моршчылася, слухаючы.

— Аж страшна робіцца, — сказаў Іван, — каб не ад цябе чуў, то не паверыў бы. Як жа гэта вы, цётка Настуля. Га? Чаму вы змоўчалі перад Мокрутам, не сказалі нават пра яго віну? Спужаліся крыкаў?

— А то і спужалася! — рэзка прамовіла Андрэіха. — Думаеш, не? Спужаецца на маім месцы кожны, бо вы яшчэ не ведаеце, чаго можа нарабіць гэты чалавек. — Яна падышла бліжэй да Дашы. — Табе мо' таксама не трэба было б з ім лішне чапацца. Твой бацька не мала паражыў. І пэўна з-за яго.

— Што ні было і што ні будзе, — рашуча сказала дзяўчына і тужэй зацягнула на сабе шалік, — а я не спалохаюся Мокрута! І нікога не спалохаюся! Калі бачу якую несправядлівасць, дык у мяне кіпець у сэрцы пачынае, і нішто тады не страшна.

— Бо ты яшчэ маладая, — змрочна глянуўшы на дзяўчыну, сказала Андрэіха. — А мне як жа?.. От кажа чалавек—«матэрыялы». А чорт яго бацьку ведае, што там у яго за матэрыялы! Можа зноў што...

— Ды ніякіх матэрыялаў! — упэўнена заявіў Іван. — Гэта ў яго ўжо хвароба нейкая — палохаць людзей. Ён і ў сельсавеце так. А глянеш потым, праверыш, дык нічога і няма.

— Зло чалавеку зрабіць не цяжка, — адстойвала сваё гаспадыня.— Калі ў яго толькі кепскае на вуме, то лепш сыйсці такому з дарогі, лепш пераступіць. Няхай ідзе ліхое, пакуль само дзе не ўваліцца ў якую яму, не згіне.

— Заткла п'яны быў уваліўся ў Кадрылішын калодзеж, — смеючыся, сказала Даша. — Аднак жа, што з гэтага? Прачухаўся там, вылез ды адразу зноў напіўся. Не, цётка Настуля, калі ўсякаму ліху ўступаць дарогу, палохацца яго, то ўсё жыццё можа прапасці. Тады сумленнаму чалавеку хоць і не радзіся.

— Хто яго ведае, як яно... — уздыхнуўшы, заўважыла гаспадыня. — Вось мой Андрэй, нябожчык, не ўступаў; гэтак жа, як і ты цяпер, не любіў усялякай няпраўды, калаціўся ад яе. А траха не памёр потым ад гэтага. А Заткла, як ты ўпамянула, век праўдай не жыў, але нічога, відаць, ён не шкадуе, што такім нарадзіўся. Людзі ў вайну гаравалі, мучыліся, а ён і тады пасвістваў, ходзячы па вуліцы.

— Цяпер таго ўжо не будзе, — задумліва прамовіў Іван, а Даша, падтрымаўшы яго, пачала даводзіць гаспадыні, што добрых, харошых людзей больш, і таму добрае і харошае ў жыцці бярэ верх.

— Вось і нябожчык дзядзька, — узрушана працягвала дзяўчына. — Калі б не добрыя людзі, то наўрад ці вылез бы ён з бяды.

— А праз каго? Праз каго мы так пагаравалі. Ведаеце? — Андрэіха ўзмахнула рукамі, голас яе задрыжаў. — Маўчала я, але калі ўжо так сёння зайшла гаворка, то скажу вам абаім. Мокрут падаў хлусню на Андрэя, мы яшчэ тады пра гэта ведалі!

Цётка Настуля яшчэ доўга расказвала пра ўсе падрабязнасці таго жудаснага выпадку, а Даша з Іванам у вялікім здзіўленні слухалі і ўжо больш не перабівалі яе, не спрачаліся. Гэта, канешне, не азначала, што яны згадзіліся з думкай Андрэіхі аб непатрэбным асцераганні ў жыцці. Згаджацца тут не было чаго. Яны проста ад здзіўлення і нечаканасці маўчалі, ды ад сардэчнага спачування жанчыне, якая перажыла гэтулькі пакут. Потым Даша глыбока задумалася і падышла да акна. Дзяўчына стаяла нерухома, прытуліўшыся скроняй да шалёўкі, і хлопцу ўявілася, што яна цяпер успамінае сваё далёкае мінулае, наколькі яна яго памятае па даўніх расказах людзей: колішнія пакуты бацькі, смерць матулі ў часе фашысцкай блакады. Пра смерць Дашынай маці Іван адразу мог падумаць, бо гэта адбывалася на яго вачах і пры яго асабістым цяжкім горы. У той жа самы час і на тым жа самым балотным астраўку пахавалі тады і яго матулю. На шчасце, Андрэіха тады неяк вытрымала, засталася ў жывых. Яна і дапамагла Мітрафану ўратаваць сваіх меншых дзяцей: Дашу і Цімашка.

Ці мала аб чым можна цяпер падумаць, ці мала што можа вострым болем апячы дзявочую душу? Мокрут — амаль што сусед, толькі праз двор жыве. Увесь час адносіўся да яе з павагай, і нават бацька нічога асабліва кепскага не гаварыў пра яго. Магла Даша меркаваць, адчуваць душою, што Лявону па натуры выпіць, накрычаць на каго-небудзь, пусціць на чалавека мянушку, злосны анекдот, а пра такое, аб чым яна сёння пачула ад Андрэіхі, нават і не снілася ніколі.

Затым, вось яшчэ Васіль. Можа яму і выжыць цяжка будзе, а як тут даказаць чыстую праўду, каб выратаваць чалавека ад пакутаў і ганьбы? Калі Мокрут такі, то ён абавязкова пастараецца выгарадзіць сябе. А хто такі Васіль для Дашы?..

Іван заўважыў, што на дзявочыя рукі, складзеныя адна на адну на падаконніку, упала слязіна. Заўважыў, як здрыганулася Даша, адчуўшы на пальцах гэтую слязу, і падаўся да дзвярэй. Ён падумаў, што яму лепш пайсці адсюль, а суседкі няхай душа ў душу пагавораць між сабою, няхай нават выплачуцца, калі ад гэтага ім стане лягчэй. Аднак Даша адразу спыніла яго:

— Пачакай, Іван, пойдзем разам! Пойдзем да Ільі Савіча, раскажам яму ўсё, усё!

— Пойдзем, — згадзіўся Іван. — Толькі я загляну яшчэ ў свой двор, там трэба мне паглядзець сёе-тое.

Ідучы ў двор і нават ужо ходзячы па двары, Іван усё не мог адагнаць ад сябе цяжкія думкі пра Мокрута, пра чалавека, з якім некалькі год працаваў, якога быццам бы і ведаў, і нібыта зусім не ведаў. Успомніўся выпадак з мінулай восені. Ехаў аднаго разу Мокрут з раёна, Іван быў у яго за фурмана. Дарога размокла, конь ледзьве плёўся па гразі. Даехалі да мастка і тут уваліліся зусім: вядома, якія на тэрыторыі Чырвонамакаўскага сельсавета масты. Мокрут загадаў выпрагчы каня, сеў верхам і паехаў у вёску збіраць на дапамогу людзей, а Іван застаўся сцерагчы драбінкі і вупраж. Час хіліўся ўжо к вечару. Вёска была не так блізка ад дарогі, аднак Іван разлічваў, што калі старшыня адразу знойдзе людзей, то да добрага змяркання можна будзе вылезці з канавы. Але ж праходзіла гадзіна, другая, а старшыні ўсё не было. Хлопца і прабіраць ужо стала: з нялеснага боку падуваў вільготны вецер і пранізваў асенняе палітцо, падстуджваў калені. Добра, што салома ў драбінках была. Іван залез у драбінкі, ўрыўся, як мог, у салому і стаў чакаць далей. Ужо зусім сцямнела, цішыня запанавала на дарозе, толькі зрэдку даносіўся тужлівы шум недалёкага лесу ды вада маркотна булькала пад калёсамі. Трохі ўгрэўшыся, хлапец пачаў злёгку падрэмваць, а потым і добра задрамаў, бо калі пачуў голас чалавека, то здрыгануўся ад спалоху.

— Хто тут? — пытаў чалавек.

— Я, — паспешна адказаў Іван.

— Хто ж гэта «я»?

— А-а, гэта вы, Павел Паўлавіч?

—Ну, вось і пазнаў. А ты быццам бы Дабрасельскі, так?
— Так, Павел Паўлавіч, ён самы.

— Бачу, быццам бы, драбінкі Мокрутавы, але ж ў цемнаце чорт яго разбярэ. А дзе ж Мокрут?

— Паехаў верхам у вёску, — адказаў Іван, прыўзняўшыся на локцях, — абяцаў людзей прывясці, ды вось няма.

— Даўно паехаў?
— Яшчэ да захаду, гадзін з чатыры ўжо.

— То няма чаго і спадзявацца, — упэўнена сказаў Павел Паўлавіч, — не прыедзе ўжо да відна. У цябе там ёсць што-небудзь пад бокам?

— Салома, — адказаў Іван і, бачачы, што інструктар падбіраецца да драбінак, адсунуўся на самы край і выграб з-пад сябе большую частку падсцілкі.

— І мне ўжо ісці далей не надта пад сілу, — гаварыў Павел Паўлавіч, трымаючыся на хаду за аглоблю, якая тырчала з канавы, нібы зенітка. — Ногі ўжо не тыя. Бывала, хадзіў, і ездзіць, праўда, даводзілася, а цяпер — не тое. — Ён паслізнуўся ў гразі і ледзь не з'ехаў у канаву; цяжка засоп пасля гэтага і закрактаў. Іван устаў, каб дапамагчы яму.

Улезшы ў драбінкі, інструктар зняў з сябе шырокі брызентавы дажджавік, уладкаваўся ў саломе і задаволена ўздыхнуў.

— Хочаш, і цябе дажджавіком накрыю, — прапанаваў ён Івану, — ды аддыхнем да відна, а там прыдумаем што-небудзь. Не прыдзе Мокрут, дык і чорт яго бяры, самі дамо рады з павозкай, гэта ж не грузавік. Я ўжо цябе не пакіну тут аднаго. Што там у нагах цвёрдае?

— Хамут,— удзячна адказаў Іван.
— Давай яго сюды, — папрасіў Павел Паўлавіч.
Іван падаў інструктару хамут, а той падклаў яго сабе пад галаву і з поўнай асалодай выцягнуўся.

— От цяпер мудрэй, як у гасцініцы, — прамовіў ён. — Я люблю, калі трохі канём пахне. Некалі служыў у кавалерыі, дык вось засталося на ўсё жыццё. А Мокрута ты не чакай, — ужо не надта ахвотна працягваў Павел Паўлавіч, бо, відаць, стомленасць брала сваё. — Ты яшчэ не ведаеш, што такое Мокрут? Канешне, не ведаеш. І Печка, твой дружок, таксама не ведае.

Пасля гэтага інструктар сказаў яшчэ нешта пра салому, пра свой вельмі патрэбны ў дарозе дажджавік, парадаваўся, што Мокрут забраў каня, а то б прыйшлося выцягваць з-пад сябе салому, і заснуў. Спаў ён, аднак, не доўга, відаць, узрост ужо добра адчуваўся, ды і хамут усё-такі быў пад галавою, — не падушка. Павярнуўся на бок, прыціх, пэўна, хочучы заснуць яшчэ, але сон ужо адляцеў некуды, не так то лёгка заснеш. Нейкі час Павел Паўлавіч маўчаў, потым заўважыў, што Іван таксама не спіць, і гэта яго здзівіла: «Малады хлопец і не спіць. Чаго ж гэта ён?»

— Можа табе холадна? — спагадліва запытаўся інструктар.
— Не, нічога, — адказаў Іван. — Добра, што хоць зверху не лье.
— Ды яно сапраўды, — згадзіўся Павел Паўлавіч, — калі б лупянуў добры дождж, то цяжкавата было б, хоць і брызент у нас. Заўважаю, што быццам бы пераживаеш ты; відаць, саромеешся перада мною сваёй сённяшняй ролі. Так? А я табе скажу на гэта, што калі ты не саромеўся быць Мокрутавым фурманам, то не саромейся быць і вартаўніком. І наогул няма чаго саромецца. Трэба адчуваць заўсёды, што ты сам па сабе з'яўляешся чалавекам, і трымаць спакой на душы. Я ўжо даўно так жыву. От начую я сёння ў Мокрутавых драбінках, лічы, што пад мастом, хамут у мяне пад галавою, а спакойны. Чаму я спакойны? Таму што ведаю: нічога ад гэтага мне ні прыбавіцца, ні ўбавіцца. Якім быў я чалавекам, такім і буду. І вакол мяне ад гэтага нічога не зменіцца. Спаў бы я сёння на мяккай пярыне, на кватэры, скажам, у самога старшыні райвыканкома, — было б тое самае.

Павел Паўлавіч паправіў брызентавую накідку на сабе і на Іване, падклаў руку пад нябрытую шчаку і, адчуўшы, што хлопец хоча яго слухаць, пачаў гаварыць далей.

— Я разумею, што табе цяжка быць такім, хоць спакойнасці ў цябе, быццам бы, таксама мнагавата. У маладосці і я быў іншым. Ды дзе там, у маладосці! Яшчэ пяток год таму назад у мяне была зусім другая натура. Вось як у гэтай вашай дэпутатцы. Як яе?..
— У Дашы, — падказаў Іван.

— Але, у Дашы. Угледжу, бывала, дзе які непарадак, жыць не магу, пакуль не ўмяшаюся. Быў жа я некалі і старшынёй райвыканкома, і ў вобласці працаваў. І цяпер я толькі вось запісную кніжку пры сабе нашу. Калі ўжо вельмі што прыпячэ, дык выму, запішу. — Інструктар заварушыўся, памацаў вольнай рукой бакавую кішэню. — Ці тут яна ў мяне, гэтая кніжка? — занепакоіўся ён. — Ці не згубіў часам?

Пасля гэтага зноў пачаў гаварыць, нібы разважаць сам з сабою:

— Ты думаеш, я не ведаю, не бачу навылёт вашага Мокрута? Ведаю, бачу, але, прызнацца табе, адварочваюся ад усяго гэтага. І вас абодвух я ведаю, — чамусьці засмяяўшыся, прадаўжаў Павел Паўлавіч. — І цябе, і Печку. Памятаеце, як з месяц таму назад вы чакалі старшыню аблвыканкома? Печка ўсю ноч драіў падлогу ў сельсавеце, ты насіў ваду. Знайшлі недзе каўровую дарожку, паслалі ў Мокрутавым кабінеце, і Печка суткамі наглядаў, каб яе не ўкралі. Мокрут выдаў старому конюху боты, каб не брыдка было выехаць з ім, калі раптам начальства захоча пракаціцца ў павозцы. Не мог жа ён тады цябе браць за фурмана, начальства магло за гэта не пахваліць. Надзеў конюх новы абутак, два дні панасіў, а потым, калі высветлілася, што старшыня аблвыканкома не прыедзе, Мокрут адабраў у старога боты.

Я тады неўпрыкметку наглядаў за ўсімі вамі і пасміхаўся. Печка аж штаны падраў, выскрэбваючы падлогу. А старшыня аблвыканкома і не збіраўся ехаць сюды, гэта я пусціў такую пагалоску.

Павел Паўлавіч яшчэ доўга гаманіў пад брызентам, а потым зусім нечакана заснуў. Іван стараўся ўсяму верыць, пра што чуў ад гэтага пажылога чалавека, але падчас закрадвалася і сумненне наконт таго, што было сказана пра Мокрута. Аб гісторыі з конюхавымі ботамі Іван чамусьці не ведаў.

Сумненне і блытаніна ў думках з'яўляліся і потым, жылі яны, бадай, да сягонняшняга дня, вось да нядаўняй размовы з Андрэіхай. Мабыць, таму і ўспомнілася цяпер доўгая начная гамонка з Паўлам Паў-

лавічам. Лявон Мокрут уяўляўся чалавекам незразумелым, хутчэй за ўсё нікчэмным, хоць і з такім аўтарытэтным валлячком і ўнушальным голасам. Страшна было падумаць, як гэта заўтра зайсці ў сельсавет ды сустрэцца з ім, ды яшчэ выконваць яго загады.

Івану цяжка было за сябе, а яшчэ больш за Васіля Печку, у якога нават ніколі і не варухнулася ў галаве, каб не паслухаць Мокрута. Ён то сам, начальнік вайсковаўліковага стала, усё ж часамі не выконваў суровыя загады, — не хадзіў пілаваць дровы старшынёвай жонцы. Гэта трошкі падбадзёрвала, аднак не збаўляла душэўнай крыўды і болю. Хлопец блукаў па сваім садку, мераў глыбокі снег, і сам добра не ведаў, для чаго. Адсюль добра быў відзён новы дом Шулава, жоўты, нібы з воску. Каля ганка ўзвышаўся стос цынкавых начовак. Гэта старшыня калгаса будзе перакрываць сваю будыніну: здыме звычайную бляху і пакладзе цынкавую. Колькі каштавалі калгасу гэтыя начоўкі?

Раптам Івана пацягнула выйсці на вуліцу, знайсці ў Дабрасельцах Шулава і ў вочы задаць яму гэтае пытанне. Але каля варот зноў паказалася заечая шапка Затклы, і хлопец спыніўся. Не хацелася яму сустракацца з гэтым чалавекам. Угледзіць, прывяжацца, і не адчэпішся ад яго да вечара. Калі няма ніякіх навін, то будзе расказваць сваю, на яго погляд, вельмі незвычайную біяграфію: колькі разоў дзе быў і колькі разоў яго адтуль выганялі, колькі разоў жаніўся і чаму цяпер няма ні жонкі, ні дзяцей, а толькі старая цёшча стогне на печы.

«Няхай шукае Мокрута, — падумаў Іван. — Той можа паслухаць яго біяграфію».

Іван вярнуўся ў садок, успомніў, што трэба агледзець прышчэпкі, можа, абвязаць іх лепш, каб не пагрызлі зайцы. Агледзець, ды хутчэй да Ільі Савіча, а то Даша, пэўна, не дачакаецца, пабяжыць адна. Можа так выйсці, што і Андрэіха пойдзе з ёй.

Пад старой бэрай стаіць вулей-калода. Ледзь не да палавіны ён занесены снегам. Хлопец спыняецца перад гэтым вуллем, нечакана для сябе задае пытанне, ёсць тут цяпер пчолы, ці не? Можа адсыпаліся ад марозу? Ён становіцца ў снег каленямі, прыкладае вуха да заткнутага саломаю лятка. Нічога, канешне, не пачуеш зімой, але яму здаецца, што пчолы бесперапынна варушацца, грэюць адна адну. Успомнілася, як некалі нябожчык-бацька вось гэтак жа станавіўся перад гэтым вуллем на калені, толькі не зімою, а ўлетку, калі трэба было падглядаць пчол. Ён кожны раз вельмі старанна ўмываўся перад гэтым, надзяваў чыстую рубашку і быў заўсёды такі вясёлы, што радасна было глядзець на яго. Іван наглядаў за бацькавай работай здалёк, бо падысці баяўся: маглі пчолы ўджаліць. З першай падрэзкі бацька прыносіў яму светлы квадрацік свежага пахучага мёду. Хлопчык браў яго ў губы, і здавалася, што ўсё навокал пачынала спяваць, а сонца над бэрай іскрылася золатам.

Над бэрай і цяпер стаяла сонца.

## XII

У малых гадах Васіль Печка быў слабаваты здароўем, хоць і вяртлявы, непаседлівы. Не надта вылюдненў і падросшы, таму не пайшоў далей вучыцца пасля дзесяцігодкі і не быў прызваны ў армію. Лявон Мокрут, як чалавек з пэўным вокам на патрэбных яму людзей, заўважыў у хлопцу перш за ўсё схільнасць выконваць усё, што яму ні



скажаш, затым — стараннасць у рабоце, найлепшы почырк і іншыя, вядома, адметныя якасці. І сапраўды, Васіль працаваў самааддана. Кожны дзень ён пехатою абходжваў паўсельсавета, быў у Мокрута не толькі сакратаром, а і кур'ерам, выканаўцам розных асабістых даручэнняў. У апошнія часы хлапец асабліва многа бегаў па вёсках, па пасёлках, падганяў розныя справы, згладжваў тое, што было не зусім гладкім, бо набліжалася такая сесія, дзе Мокруту трэба было рабіць справаздачу. Сама сесія то яшчэ нічога, Мокрут разлічваў правесці яе гладка. Але на гэтую сесію можа, як гром з неба, зваліцца раённае начальства, дык тут ужо трэба паварушыцца. Васіль туды, Васіль сюды! Печка, зрабі опісь, Печка, зрабі па «сто» грамаў! Сакратару бегатні нямаведама колькі, а тут яшчэ і выпіць даводзіцца амаль што кожны дзень. Іншы раз Васіль і рад быў бы адмовіцца ад гэтай выпіўкі, або ўзяць толькі для прыліку, не поўную мерку. Але ж што скажа на гэта Мокрут? Каму ж гэта хочацца паказваць сябе нейкім блазнюком? Да таго ж, і звычка ўжо ўбіралася ў сілу.

Так падкасіліся ў хлапца і тыя сілы, што былі. Для здаровага лайдака, ды яшчэ не цвярозага, нічога не значылі б тыя вельмі спагадлівыя штуршкі, якімі надзялілі Васіля хлопцы ў тую недарэчную ноч. Не пашкодзіў бы таму лайдаку і не надта доўгі адпачынак у снезе. А вось сакратару Чырвонамакаўскага сельсавета ўсё гэта вельмі пашкодзіла. Трохі яго штурхнулі, трохі паляжаў, разагрэўшыся, у снезе, пакуль хлопцы прывязлі сані, галоўнае ж —ператросся чалавек, перапаліў нервы і не ўстаяў пасля гэтага, захварэў.

Даша кожны дзень прапытвала пра Васіля, амаль кожны дзень намервалася ісці да Печкаў у хату, але ўсё неяк адкладвала, хоць з цяжкім болем у душы. Не лёгка было рашыцца на такое наведванне. Ніколі ў сваім жыцці яна не была ў Печкаў, ніколі блізка не сустракалася са старой Аксінняй, Васілёвай маткай, а толькі чула, што жанчына гэтая крутога нораву, вельмі вострая на язык і не раз прабірала Валодзю за тое, што абмінуў і сваіх, і гарадскіх дзевак ды знюхаўся вунь з нейкай цялятніцай.

Крыўдна было ўспамінаць і думаць пра гэта, але ўсё ж такі дзеля справядлівасці, дзеля сапраўднай чалавечай дружбы дзяўчына адважылася пайсці ў Чырвоныя макі. Выйшла аднаго дня вельмі рана, адразу пасля таго, як з большага ўправілася на ферме. У Чырвоных маках яшчэ толькі дымы валілі з каміноў і вучні беглі ў школу, калі яна падыходзіла да Печкавага двара. Ужо з вуліцы заўважыла, што Аксінні няма дома: дзверы ў сенцы зашчэплены і з двара пайшоў свежы след. Спачатку хацела вярнуцца, а потым выпадкова глянула на комін і ўбачыла, што адтуль яшчэ цэдзіцца рэдкі дымок. «Юшка не зачынена,— падумала Даша, — значыць гаспадыня недзе каля дому».

Сапраўды, неўзабаве Аксіння выйшла з чужога двара і, асцярожна ступаючы па коўзкай сцежцы, накіравалася да свае хаты. У руках яе былі два вялікіх вядры, да самых берагоў напоўненыя вадою.

Дзяўчына пайшла ёй насустрач.

— Дайце я вам памагу, цётка, — весела сказала яна і працягнула руку да почапкі аднаго вядра.

— Не трэба... я сама, — пераводзячы паміж словамі дух, загаварыла жанчына. — Гэта ж... калодзеж замёрз... у тыя маразы... што былі... Ды і снегам занясло... А пачысціць няма каму... Адна засталася..

І толькі цяпер яна на нейкі момант адарвала свой позірк ад сцежкі і агледзела Дашу.

— А вы чые ж гэта будзеце? — прыязна спытала яна. — Нешта не пазнаю.

— Ды я не адсюль, — пачынаючы трывожыцца, адказала Даша. — Я з Дабрасельцаў.

— З Дабрасельцаў? — нібы не верачы, перапытала жанчына. — А чыя ж усё-такі?

— Мітрафанава, — адчуваючы, што набліжаецца цяжкая хвіліна, сказала Даша. — Я прыйшла праведаць вашага Васіля.

Аксіння паставіла вёдры на снег, спачатку глыбока ўдыхнула ў сябе паветра, а потым, нібы шуфлем, сыпанула на Дашу мноства непрыемных і крыўдных слоў:

— Дзякую табе, дзякую, што ўважыла... Прыбіўшы хлопца, то можна і праведаць... Канешне... Вельмі рады мы твайму праведанню... Чакалі, ледзь дачакаліся... Вось і Валодзя прыйшле табе падзяку за брата... Канешне!..

— Што вы, што вы гаворыце? — у абурэнні пытала дзяўчына. — Цётка Аксіння, гэта ж усё няпраўда. Я хацела вам расказаць, як усё было. Я якраз ратавала Васіля.

— Ратава-ала... — злосна паўтарыла Аксіння. — Як гэта ты ратавала? Што не біла сама? Даволі таго, што твой брацік біў пад тваю каманду. Мокрут быў у мяне, усё расказаў.

«Мокрут ва ўсім і вінаваты»,— хацела сказаць Даша, але жанчына нервова і роспачна замахала на яе рукамі, заплакала і неяк залішне жвава ўхапілася за вёдры.

— Няма ўжо Васіля дома, — плачучы, сказала яна, калі ўвайшла ў двор. — Няма. Завязлі ўчора зранку ў бальніцу.

— Праўда?! — Даша кінулася ўслед за цёткай Аксінняй, але тая з наўмыснай спрытнасцю зняла з прабоя зашчапку, пераставіла цераз парог вёдры і зачыніла за сабою дзверы.

З болем і пякучай крыўдаю ў сэрцы саступіла Даша з пасыпаных попелам усходцаў. Міжвольна глянула на вуліцу, ці не ідзе хто, ці не бачыць яе такой ганьбы, такога цяжкага, несправядлівага сораму. Каб была якая-небудзь асобная сцежка, па якой можна было трапіць дадому, не выходзячы на вуліцу, Даша, напэўна, пайшла б гэтаю сцежкаю. Няхай хоць праз лясы, праз балоты, абы толькі людзей не сустракаць, не паказвацца нікому. Такога горкага, бездапаможнага адчування, здавалася, яшчэ ніколі не было.

Ухутаўшы шарсцяной хусткай твар, яна квола пайшла да варот, потым вярнулася, падышла да калодзежнага вочапа. Нізкі і пахілены зрубчык сапраўды ледзь не ўвесь быў замураваны намаразззю. У ім віднеўся круглы і слізкі праём, але такі, што вядро не пройдзе. Даша марудным паглядам акінула двор. Ёй хацелася знайсці што-небудзь пад руку: рыдлёўку, сякеру ці які-небудзь прут. Але ў двары нідзе нічога не было. Падобна было на тое, што нават і палена дроў на сэдасе няма. Ходзіць, пэўна, жанчына, выпрошвае, пазычае.



«Два сыны ў мацеры, — сумна падумалася Дашы. — Аднаго даўно няма дома, а другі, відаць, не меў часу памагаць старой каля хаты. Нялёгка жылося мацеры, а тут яшчэ гэты цяжкі, незвычайны выпадак».

Дзяўчыне раптам шкада стала Аксінню, і крыўда на яе пачала трохі адлягаць. Каб хто другі на яе месцы, то можа нагаварыў бы яшчэ больш. Яна, мабыць, з гора злуецца, а матчына сэрца чуе праўду, пэўна ж і Васіль хоць два словы сказаў.

Даша выйшла на вуліцу, і ёй ужо не так прыкра было падумаць пра людскія вочы. Калі б добры чалавек сустрэўся, то няхай бы сабе сустракаўся. Можна было б нават пагаварыць з ім, падзяліцца душэўнымі пакутамі. Таму і рашыла яна зайсці ў сельсавет. Ведала, што Мокрута так рана не будзе, а з Іванам можна пагаварыць, гэты хлопец усё зразумее. Калі ж трапіцца Мокрут, то пагаворыць, вядома, і з Мокрутам, толькі не так, як з Іванам, не тым голасам.

Іван сапраўды быў ужо на рабоце. Калі Даша ўвайшла ў яго бакоўку, ён нешта чытаў у вялікім сінім блакноце, прыкметна памятым ад таго, што яго насілі, відаць, не ў партфелі.

— Паслухай, што напісана, — звярнуўся ён да дзяўчыны, як толькі яна прывіталася і села каля стала.

«Калі чалавек не бачыць і не адчувае вакол сябе людзей, значыцца, і сам ён ужо не чалавек, а тым больш не савецкі работнік. Князёк і сабака ў Чырвонамакаўскім сельсавеце».

Іван задаволена засмяяўся.

— Здорава, га? Слухай далей!

«Ёсць такія рэчы, пра якія ўжо нельга маўчаць. Сэрца не вытрымлівае».

— А чый гэта блакнот? — з зацікаўленасцю спытала Даша. Па слогу яна адчула, што гэта не Іван пісаў.

— Не блакнот, а славутая запісная кніжка,— нібы падвясельваючы Дашу, адказаў Іван.— Тут многа чаго цікавага і карыснага запісана. Яе забыў тут у мяне Павел Паўлавіч. Хутка, мабыць, схопіцца, прыбяжыць.

— Якое ты маеш права чытаць чужыя запісныя кніжкі? —з лёгкім, нібы нават жартаўлівым папрокам спытала Даша.



— Павел Паўлавіч не пакрыўдзіцца,— адказаў Іван.— Тым больш, што я ўжо даўно ведаю пра яго запісы, ён сам мне гаварыў.

«Параіцца б з ім»,— мільгнула ў дзяўчыны думка, і, яшчэ канчаткова не вырашыўшы гэтага, яна спытала, дзе цяпер Павел Паўлавіч.

— Добра не ведаю,— адказаў, падумаўшы, Іван,— але мяркую, што ў школе, у Ільі Савіча. Учора яны цэлы вечар сядзелі ўдвух у дырэктарскім кабінеце, нешта вырашалі. А нанач Павел Паўлавіч прышоў сюды, гэта ўжо такі чалавек.

— Чаму ж ты яго да сябе не запрасіў?

— Я запрашаў,— стаў адразу апраўдвацца хлапец.— Нават вельмі прасіў. І дырэктар цягнуў яго да сябе. Яны тут заходзілі абодва да мяне. Дык хіба чалавек паслухаў? Выдумаў, што яму трэба пісаць усю ноч, і застаўся ў маёй бакоўцы. Пісаў, бачу, — тут маім чарнілам напісана, але ж не ўсю ноч пісаў.

— Добра сказана,— задумліва прамовіла Даша,— але трохі пазнавата. Сапраўды, нельга маўчаць, ды не толькі сёння, а і ўчора нельга было маўчаць, і пазаўчора. У нас ад таго і праявы розныя, што некаторыя вельмі ўжо любілі маўчаць.

Іван нібы ў спалоху глянуў на дзяўчыну, і яго вялікія, прыкметна адтапыраныя вушы пачырванелі.

— Я не толькі пра цябе гавару,— заўважыўшы гэта, працягвала Даша. — Я і пра свайго бацьку гэта скажу, і пра Андрэіху. Адны з вас вельмі ўжо баяліся глянуць праўдзе ў вочы, а другія не хацелі псаваць сабе спакойны сон, чакалі, што нехта іншы прыдзе і ўсё зробіць. А ліха, калі не перасекчы яму дарогу, не чакае. Яно падбярэцца да ўсіх і не дасць соладка спаць кожнаму. Гэта і мой стары пачынае ўжо разумець, толькі ўсё яшчэ Міхася з горада чакае, не заўсёды верыць.

— Я то нічога не чакаў, — з сяброўскай шчырасцю ў голасе пачаў Іван, — і боязні асаблівай у мяне не было. Я проста многа чаго не разумеў. Мне здавалася раней, што мае думкі не могуць быць для каго іншага цікавымі, што ўсе ўжо даўно тое ведаюць, што я ведаю. Хоць, калі сказаць ад душы, то я не адзін раз гаварыў, напрыклад, Васілю, што нельга так выслужвацца перад Мокрутам, што кожны чалавек павінен мець сваю самастойнасць. Аднак жа Васіль мяне не паслухаў, значыцца, я дрэнна гаварыў.

— Хто яго ведае, — уздыхнуўшы, прамовіла Даша. — Можа ты дрэнна гаварыў, можа Васіль дрэнна слухаў. Наконт гэтага хлопца і ў мяне вельмі неспакойна на душы. Не ведала я яго, не разумела. Жыў сабе сакратар Чырвонамакаўскага сельсавета, бегаў з кардоннай папкаю па вёсках, і думалася, што ўсё тут ідзе, як трэба. А мне яшчэ Валодзя неяк скардзіўся на яго: мацеры не слухае, выпівае часта.

Даша спахмурнела пры гэтых словах, апусціла галаву, а Іван, нібы адчуўшы, што на яе могуць найсці цяжкія ўспаміны, паспрабаваў надаць размове крыху весялейшы характар.

— На гэтых днях быў у мяне Сямён Казырок,— стрымана ўсміхнуўшыся, пачаў ён.— Рагатаў тут, успамінаючы, як Мокрут з Васілём у яго дзіця запісвалі. Праведалі, што гаспадар зарэзаў цяля на радзіны, прышлі адзін раз з папкаю, з бланкамі. Выпілі, канешне, у ахвоту, закусілі, а праз дзень «агледзеліся», што быццам бы не тыя бланкі запоўнілі. Зноў прышлі, зноў выпілі, закусілі.



— І Ціхоня з імі хадзіў?— крыху ажывіўшыся, спытала Даша.

— Не,— заківаў галавою Іван.— Ціхоня толькі адзін раз быў, а больш не пайшоў. Наш фінагент яго замяніў. У гэтага нюх добры.

— А дзе ж сёння Мокрут?— раптам аглянуўшыся на ўваходныя дзверы, пацікавілася Даша.— Ці ён па раніцах у сельсавеце не бывае?

— Бывае,— сказаў Іван,— але сёння, мабыць, паехаў нечага ў раён. Збіраўся ўчора, ганяў тут фінагента.

— Слухай, Іван!— Даша ўстала, паімкнулася прайсціся па бакоўцы, але тут і двух крокаў ступіць не было дзе,— вялізны стол ды два зэдлікі займалі ледзь не ўсю прастору.— Мне ўжо ісці пара, а я яшчэ галоўнага ў цябе не спытала. Скажы, ты заходзіў пасля гэтага здарэння к Печкам, бачыўся з Васілём?

— Кожны дзень заходзіў,— паспешна адказаў Іван.— От і ўчора быў, нават памагаў Аксінні сабраць яго ў бальніцу.

— А я не ведала, што Васіль у бальніцы. Толькі вось нядаўна даведалася.

— Ты заходзіла туды? — відаць цяпер здагадаўшыся, чаго Даша так рана ў Чырвоных маках, здзіўлена спытаў Іван. — Што табе сказалі?

— Мяне не пусцілі ў хату, — глуха прамовіла Даша. Потым яна зноў села на зэдлік і заплакала. Пачалі ўздрыгваць яе схіленыя над сталом плечы і рукі, крыжыкам складзеныя пад галавою, дрыжала расшытая блакітнымі пеўнікамі рукавічка, якую дзяўчына трымала ў руцэ. Іван глядзеў на Дашу і не ведаў, што сказаць, чым яе суцешыць. Ён разумеў яе перажыванні, разумеў тыя супярэчлівыя і вельмі складаныя абставіны, у якіх яна апынулася, але не мог у гэтую хвіліну знайсці патрэбнае слова, патрэбнае рашэнне. Васілёва маці падумала дрэнна, калі не пусціла яе ў хату. Пакрыўдзіла і балюча абразіла дзяўчыну, якая, напэўна, будзе яе нявесткай. Маці напіша Валодзю аб тым, што сама думае. І Валодзя, не ведаючы ўсяго, што было, можа паверыць сваёй матцы. А Даша любіць Валодзю. Вельмі любіць і чакае. Гэта, так сказаць, адзін паварот справы. А з другога боку, калі так усё застанецца, Васіль змоўчыць, другія змоўчаць, то Мокрут абвінаваціць Дашу ў знявечанні чалавека і такім чынам зноў возьме верх над усімі.

— Туды заходзіў Мокрут? — ціха спытаў Іван. — Не казала яна табе?

— Быў, — выціраючы рукавічкай слёзы, адказала Даша. — Ад яго ўсё і пайшло.

— Ведаеш што? — раптам узнятым голасам прамовіў Дабрасельскі. — Давай пойдзем да Васілёвай мацеры з табой удваіх. Мяне яна не асмеліцца не пусціць. Я раскажу ёй, што мне гаварыў Васіль, яшчэ калі не быў у гарачцы, раскажу, што другія хлопцы гаварылі. Давай пойдзем!

— Не, я ўжо не пайду, — памяркоўна адказала Даша. — Мне нявёмка, а ты, Іван, схадзі, я вельмі прашу цябе. І не толькі сёння, а кожны дзень заходзь — табе тут бліжэй. Трэба памагчы цётцы Аксінні, старая яна ўжо, слабая, ды асталася зусім адна. Вунь у яе нават калодзеж не прачышчаны, ходзіць, бедная, да суседзяў, носіць адтуль ваду.

— Абавязкова я ўсё гэта зраблю, — цвёрда сказаў Іван. У вачах яго засвяцілася радасць ад таго, што Дашы стала хоць трошачкі лягчэй.— Я раскажу Аксінні ўсю праўду і пераканаю яе. І дапамагаць ёй буду кожны дзень. Я раскажу праўду ўсім людзям, не толькі Аксінні!

Вышаўшы з сельсавета, Даша пачала спяшацца, бо яна ўжо цвёрда намерылася сёння ж ісці ў раённую бальніцу. Трэба было яшчэ толькі зайсці дадому ды ўладзіць сёе-тое на ферме. У галаве толькі і думкі, што пра Васіля; як яна з ім сустрэнецца, як пагаворыць, магчыма, нават папросіць, каб сам ён напісаў Валодзю. Калі не цяпер, то як папраўіцца. Ішла так сярэдзінаю чырвонамакаўскай вуліцы і не глядзела надта па баках. Раптам пачула нібыта знаёмы голас:

— Дзень добры вам, дачухна!

Даша павярнула галаву і ўбачыла на сцежцы каля плоту бабульку, якая, успёршыся на кій, ветліва глядзела на яе і злёгку кланялася.

— Добры дзень! — адказала дзяўчына, пазнаўшы, што гэта тая самая бабулька, якая некалі была ў сельсавеце. Даша адразу ж падышла да старой.

— Куды ж вы гэта з самага ранку? — прыветна спытала яна.

— Ды ў сельсавет, мілая, — адказала бабка. І голас яе, і выраз старэчага, трохі падсвежанага марозцам твару былі такімі добрымі і лагоднымі, нібы яна сустрэлася з родным ёй чалавекам.— Наказалі, каб зайшла. Дзякуй вам, дачухна, што заступіліся тады за мяне, ды от жа, што наведаліся на наш пасёлак. Знялі з мяне той падатак, што былі напісалі, ды вось і лесу, дзякуй ім, далі, хату падладзіць. А то хата ў нас, вы ж самі бачылі, як заходзілі: падрубы падгнілі, а пад вокнамі дык толькі ткні пальцам... А столь і падлога дык... А страха...

— Бачыла я, усё бачыла, — спагадліва ўсміхнуўшыся, запэўніла Даша. — Я таму і напісала ў райвыканком, каб вам адпусцілі лесу. Вось яшчэ вывезці гэты лес трэба было б вам дапамагчы. Я пагавару з вашым старшынёй калгаса.

— Дзякуй вам, дзякуй, — пачала паўтараць бабулька і ківаць над кіем галавою. — Дай божа вам...

— Няма за што дзякаваць, — з ноткай расчуленасці ў голасе загаварыла Даша. — Я рада, што хоць трошкі дапамагла вам. На тое ж мяне людзі і выбіралі.

— Дзякуй вам, — зноў паўтарыла бабулька. — А вы ж гэта куды так спяшалі, дадому?

— Ага, дадому, — адказала Даша. — А потым яшчэ ў раён сёння пайду.

— То не буду вас больш займаць, — адступіўшы бліжэй к плоту, сказала бабулька. — Ідзеце здаровенькі. Перадайце паклон вашаму бацьку, Мітрафану. Ён павінен памятаць мяне, бо некалі, як былі маладыя... А можа Настулю ўгледзіце, жонку нябожчыка Андрэя, то і ёй перадайце паклон. Гэта ж яе нябожчык і мой нябожчык былі некалі сватамі. І сыны нашы разам служылі. А можа Платона часам стрэнеце, то гэта ж хрышчоны бацька майго нябожчыка Міколы, большага сына. А можа...

— Добра, добра, — ахвотна абяцала Даша і не спяшалася адыходзіць, каб не пакрыўдзіць старую. — Шчыра дзякую, усіх убачу і ўсім перадам ваш паклон.

Бабулька ўжо была і ступіла некалькі крокаў, але раптам зноў спынілася, удзёўбнула свой кій у снег каля сцежкі і павярнулася ў той бок, куды пайшла Даша.



— Чуеце, дачухна! — ужо мацней загаманіла яна, бо Даша была далекавата. — Прыдзёце як-небудзь у нядзельку ў госці да нас. Дальбог, праўда. Вось хоць у гэтую нядзельку, што прыдзе. Рады вам будзем. У мяне, вы ж ведаеце, дачка такая, як вы. Эх, каб жывымі былі мае сыны!..

— Дзякуй вам, дзякуй!..

Даша не ведала, што яшчэ сказаць, як паказаць бабульцы, што яна вельмі рада гэтай сустрэчы і гатова расцалаваць яе за такую шчырую цеплату, за такую сардэчную ласку. Яна ішла і адчувала, што ўжо малавата ў яе часу, што вельмі цяжка будзе паспець у раён, аднак не каялася, што пастаяла, пагаманіла з бабулькай. Неяк святлей стала на душы ад гэтай выпадковай сустрэчы, і хоць можа не надоўга, але адхлынула ад сэрца тая млявая дакука, якая грызла нутро.

Хутчэй, хутчэй трэба ісці.

## XIII

Невялічкі ранішні марозік зусім адлёг, месцамі нават са стрэх капала, калі Даша выходзіла з сваёй вёскі. На шляху, укоўзаным санямі і машынамі, было да таго слізка, што ісці даводзілася з асцярогай і не надта паспешна. Пакуль дзяўчына адмерала большую палавіну дарогі, было ўжо каля паўдня, а ў пачатку местачковых прысадаў яе сустрэў Мокрут, які ўжо вяртаўся з райцэнтра. Убачыўшы Дашу, ён крануў рукою фінагента, які сядзеў трохі пад перад і паганяў каня, спусціў з вазка адну нагу. Фінагент нацягнуў лейцы, і Мокрут злез зусім.

— Куды ты ідзеш? — спытаў ён, ступіўшы некалькі крокаў да дзяўчыны. — У раён?

— Вядома, у раён, — адказала Даша. — Куды ж мне?

— Ну, там далей яшчэ вінзавод ёсць, — лагодна ўсміхнуўся старшыня, відаць, задаволены сваім жартам.

— А ты, мабыць, адтуль? — стрымана кінула Даша.

Мокрут зарагатаў і падаў знак фінагенту, каб паварочваў назад.

— Давай і я крыху прайдуся з табою, — прапанаваў ён дзяўчыне, — а то падвязу, калі хочаш, туды і назад разам паедзем.

— Дзякую, — суха сказала Даша, — я адна пайду.

Яна паскорыла крокі, але Мокрут усё ж грукаў ботамі побач, а воддаль за ім ехаў фінагент.

— Я не разумею цябе, Даша, — напусціўшы на твар быццам бы і шчырую крыўду, пачаў старшыня. — Чаго ты так разгневалася на мяне, зненавідзела, пусціла ўсялякія шэпты пра мяне па ўсяму сельсавету.

— Якія шэпты?

— Ну вось, хаця б пра гэтага Печку. Хіба гэта праўда, што я прымусіў яго ісці забраць у Андрэіхі бычка? Хіба гэта...

— Не забраць, а ўкрасці, — перабіла яго Даша.— І не шапчу я пра гэта, а кажу ўсюды моцна і скажу яшчэ мацней. Мне сам Васіль пра гэта гаварыў.

— Цікава, што б ты сама сказала, атрымаўшы столькі кухцялёў? — засмяяўся Мокрут. — На роднага бацьку ў такіх умовах можна нагаварыць.

— Ён расказваў пра гэта і потым, калі ляжаў дома. Людзі чулі.

— Але ж гэта няпраўда! — рашуча прамовіў старшыня і махнуў

перад сабою абедзвюма рукамі. — І наогул, не было ніякай пакражы. Сама Андрэіха гэта прызнае.

— Андрэіху ты быў запалохаў,— абурана і цвёрда глянуўшы Мокруту ў вочы, сказала дзяўчына. — Але не думай, што яна ўсё жыццё будзе дрыжаць ад цябе. Сёння быў у яе следчы, і яна расказала яму ўсю праўду.

— Ага, вось яно! — нібыта здзівіўся Мокрут, а ў вачах усё ж замільгалі насмешлівыя іскрынкі. — Гэта значыць, што ўжо ты падвучыла. З сівым маладажонам на пару. Ну, што ж! Вучы, вучы! Пабачым, што з гэтага выйдзе!

— Яе не трэба вучыць, — адказала дзяўчына. — Горам навучана. Прыдзе пара, — скажа яшчэ не тое.

— Што гэта за намяканні?

— Сам ведаеш!

— Ну, вось што! — страсянуўшы валлячком, павысіў голас старшыня. — На ўсё гэта мне напляваць! І на твае намяканні і на твайго следчага! Скажу так: хочаш жыць са мною ў міры, працаваць, як палажана дэпутатцы, дык давай будзем працаваць. Нам няма чаго сварыцца, нам трэба разам умацоўваць свой сельсавет. Калі ж у цябе выбрана другая дарожка, то гавару па чыстай совесці—беражыся! У парашок сатру, калі на тое пойдзе. Бацьку твайго, гэтага папоўскага прыслужніка, пашкадаваў у свой час, а цябе не пашкадую, хоць ты і дарагой была мне, вельмі блізкай. На дырэктара спадзяешся? Не спадзявайся! Не такія, як ён, трапляліся мне на дарозе, ды і то не ўстаялі.

— Не палохай, — спакойна прамовіла Даша, але ў голасе яе было столькі цвёрдасці і сілы, што Мокрут міжвольна ўздрыгнуў, наўкос глянуў на дзяўчыну. — Бацька мой не мала прыняў пакут ад цябе, хоць ён ні ў чым не быў вінаваты. Ды хіба адзін бацька? Я не ўсё ведала раней. Але май на ўвазе, што ні з Ільі Савіча, ні з мяне табе не ўдасца так паздзекавацца, як ты здзекаваўся з іншых. З намі ўсе, усе людзі! А ў цябе вось толькі... — яна паказала на фінагента, які ехаў ззаду. — Ды і то, яшчэ невядома. Я думаю, што і ён калі-небудзь зразумее, што ты за чалавек.

— Якія ў вас людзі? — паспрабаваў засмяяцца Мокрут, ды выйшла горкая міна замест усмешкі.— Печка? Андрэіха? Зноў кажу!— у горле ў яго раптам з'явіліся злавесныя хрыпы,— пляваць я хачу на ўсё гэта! Ідзеш да дзеверка свайго вывуджваць на мяне розную брахню? Няма ўжо твайго дзеверка. Разумееш? Няма Васі Печкі! Аддаў сёння ноччу канцы! Можаш напісаць у часць свайму нарачонаму, што праз цябе загінуў яго родны брат. Ну, а я, мабыць, таксама сюды-туды напішу. Да пабачэння, суседухна! Не мінай майго двара!

Ён крута павярнуўся і пайшоў насустрач фурманцы.

«Вось чаму ён так разышоўся, — апякла думка дзяўчыне ўсё нутро. Даша спынілася, нібы аслупянелая. — Няўжо гэта праўда? — Яна нібы міжвольна павярнулася, паглядзела ўслед Мокруту. Шырокія, сутулыя плечы, абцягнутыя хромам, бязладна гойдаліся, у хроме паблісквай зімні прамень сонца. — Тут Мокрут не схлусіў, вядома, — працягвала разважаць дзяўчына сама з сабою.— Такую праўду, якая можа зніштчыць чалавека, паважае і ён. Тут ён не схлусіў. Што ж цяпер рабіць? Што цяпер скажа цётка Аксіння, што падумае Валодзя, калі яму напішуць...»

У дзяўчыны моцна зашчымела пад сэрцам, у галаве з'явіўся нейкі



вобмарачны, балючы шум. Спачатку ёй падумалася, што трэба зараз жа вярнуцца дадому, пайсці да Ільі Савіча і выказаць, выплакаць яму ўсё. Потым, яшчэ крыху пастаяўшы, апамятаўшыся, яна ўсё ж пайшла ў бальніцу, але ішла туды вельмі доўга.

## XIV

Чырвонамакаўскія і дабрасельскія могілкі былі значна бліжэй ад Дабрасельцаў, як ад Чырвоных макаў. Часам бывала нават так, што дабрасельцы проста заносілі сваіх нябожчыкаў на могілкі, а чырвонамакаўцы заўсёды вазілі, бо заносіць хоць і ў пяць змен ім было не пад сілу. Калі Даша з Андрэіхай прыйшлі на гэтыя могілкі, тут яшчэ нікога не было, толькі пасярэдзіне могілак, паміж двух бярозак, жаўцеў невялікі копчык свежага чвыру. Яны пайшлі далей з такім намерам, што калі не сустрэнуць працэсію, то пастаяць каля Печкавай хаты, пакуль вынясуць нябожчыка.

Але не дайшлі яны яшчэ нават да Чырвоных макаў, як убачылі на дарозе грузавую машыну, якая рухалася вельмі памалу: чутно было, як нязвыклы да малых абаротаў матор раз-по-разу страляў і пыхкаў. На бартах машыны сядзела некалькі жанчын, а за машынай ішло многа чырвонамакаўцаў і сёй-той з дабрасельцаў. Якраз блізка ўжо былі гэтыя самыя бяскрылыя млыны. Даша з Андрэіхай узышлі на сцежку, пратаптаную да млыноў, і сталі чакаць. Машына, як на тое, заглухла каля млыноў. Шафёр вылез з кабіны з заводной ручкай, вінавата глянуў на тых заплаканых жанчын, што сядзелі на бартах, і пачаў раскручваць матор. У гэты момант Даша зусім-зусім нечакана для сябе ўгледзела Валодзю. Яна ўхапілася за Андрэішын рукаў і ледзь не павісла ў цёткі на плячы. Твар яе раптам збялеў, рукі пачалі нервова калаціцца. Яна не ведала, што Валодзя прыехаў на пахаванне.

— Супакойся, Дашачка, — зразумеўшы ўсё, зашаптала Андрэіха і сціснула локцем яе рукі. — Супакойся, усё будзе добра. Я сама з ім пагавару.

Валодзя стаяў каля апушчанага ўніз задняга барта, без шапкі, у шынялю з курсанцкімі пагонамі, туга падцягнуты, стройны. З твару ён быў вельмі падобны на брата, гэтакі ж святлявы, гладкашчокі, толькі ўсе рысы твару былі больш выразнымі і выяўлялі большую сталасць і ўдумлівасць. Стаяў ён зусім нерухома, не перамінаўся з нагі на нагу, як іншыя, не туліў у каўнер вушы, а лётчыцкую шапку трымаў *на левай руцэ ля пояса. Даша* і ўбачыла перш за ўсё яго вуха, маленькае, чырвонае ад марозу, прыкрытае пасмай светлых валасоў. Некалі яно было зусім блізка каля яе твару, каля яе вачэй... А цянер яму, напэўна, холадна, бо вецер якраз з гэтага боку, ды і мароз узяўся не малы...

Валодзя трошкі павярнуў галаву да млыноў. Даша заўважыла слёзы ў яго на вачах і нейкі неразгаданы смутак у паглядзе. Каб яшчэ трошкі, то ён убачыў бы яе. Сэрца страпятнулася ад гэтага, чамусьці страшна было сустрэцца цяпер вачамі. Хто ведае, які цяпер быў бы Валодзяў позірк, што засвяцілася б у яго вачах?..

Машына запырхала, затрашчала, і шафёр бягом пусціўся ў кабіну. Дашы вельмі доўга цягнулася гэтая хвіліна стаянкі. Няёмка было тырчаць убаку, няёмка было і падыходзіць, бо сцежка выводзіла да пярэдніх людзей. Калі машына кранулася і людзі пайшлі, Даша ўслед за Андрэіхай выйшла на дарогу, і потым яны ішлі ўдвaіх самымі заднімі.

Хада была вельмі няроўнай, таму што шафёр ніяк не мог прынаравіцца вясці машыну на аднолькавай хуткасці. Відаць, яму ўпершыню давялося вязці чалавека ў апошні шлях.

Перад Дашай ішоў і час-ад-часу ледзь не натыкаўся на людскія спіны, калі машына прыпынялася, Іван Дабрасельскі. Па яго тонкай пачырванелай шыі Даша заўважыла, што ён, мабыць, плача.

— Іван! — ціха пазвала яна.

Хлопец азірнуўся, паспешна выцер пачырванелыя вочы і пачакаў, каб ісці далей поруч. Кроках у двух спераду ішлі без шапак некаторыя з тых хлопцаў, што не так даўно ганяліся за Васілём. Сярод іх крочыў, апусціўшы галаву, і Цімоша.

Калі працэсія ўжо набліжалася да могілак, насустрач ёй праехала такая ж паўтаратонка, толькі з вялікай дашчатай скрыняй са шчылінамі па баках. У адной такой шчыліне тырчаў верхні абадок свінога лыча. У кабіне машыны сядзеў Шулаў. Ён зняў шапку, параўняўшыся з труной, і прыняў набажна-жаллівы выгляд.

«Павёз у горад кормніка, — падумала Даша і коратка пераглянулася з цёткай Настуляю. — Нябось і двух тыдняў не пратрымаў на сваіх харчах пасля таго, як выгналі вепрука з фермы».

Мокрут, які хмура крочыў спераду ўсіх, высунуў з настаўленага каўняра падбародак і з нянавісцю і відавочнай зайздрасцю паглядзеў Шулаву ўслед. Азірнуўся ў гэты момант і Ілья Савіч. Яго, мабыць, здзівіў незвычайны кантраст двух стрэчных машын. Аглянуўся і ўбачыў Дашу з Андрэіхай. Хоць Андрэіху ён і мала ведаў, але ветліва пакланіўся абаім. Сівая галава яго вылучалася потым сярод усіх аж да таго часу, пакуль не пахавалі Васіля і дырэктар не надзеў сваю рыжую стаўбунаватую кубанку.

Разыходзіліся з могілак хто ў які бок: хто ў Чырвоныя макі, хто ў Дабрасельцы. Ужо каля самай дарогі Ілья Савіч параўняўся з Дашай. Андрэіхі блізка не было, яна засталася каля магілы і ўсё яшчэ наглядала, як Валодзя маўклівa, але з вялікай горыччу ў апошні раз развітваўся са сваім братам.

У гэты час, калі Андрэіха стаяла адна, грознаю хмараю пасунуўся проста на яе Лявон Мокрут. Ён наставіў на жанчыну такі страшны і знішчальны погляд, што ёй трэба было не іначай як на калені ўпасці перад ім. Аднак цётка Настуля сустрэла яго вочы спакойна, цвёрда і нават не паварушылася, каб уступіць старшыні дарогу. Мокрут спыніўся каля Андрэіхі, змерыў яе з ног да галавы і, узяўшы крок улева, пайшоў далей.

— Заўтра ў нас партыйны сход,— сказаў Дашы Ілья Савіч, непрыязна глянуўшы на Мокрута. — Будзем разбірацца ў некаторых справах. Вось і наконт гэтага таварыша пагаворым. Прыходзьце.

— Прыду, Ілья Савіч, — задаволена адказала Даша. — Я нават учора збіралася зайсці да вас, ды не паспела, бо тэрмінова пазвалі ў раён.

— Чаго? — здзівіўся Ілья Савіч, і твар стаў да жалю заклапочаным.

— Мокрут падаў, што праз мяне загінуў Печка.

Яны прайшліся крыху ў напрамку Чырвоных макаў.

— Вось на што б'е, прайдзісвет! — з абурэннем і хваляваннем у голасе прамовіў Ілья Савіч. Затым, падумаўшы, дадаў: — Вы, значыць, прыходзьце заўтра пад вечар на сход, а я з самага ранку з'езджу да сакратара райкома. Не хвалюйцеся вельмі, не перажывайце. Потым вось што: да справаздачнай сесіі трэба добра падрыхтавацца, пагаварыць з людзьмі. Ніхто не павінен баяцца сказаць праўду. З суседкай сваёй яшчэ пагаварыце. Добра?



— Добра, Ілья Савіч, — згадзілася Даша, і на гэтым яны развіталіся.

Цётка Настуля ўжо выходзіла на шлях і няўпэўнена паглядвала ў бок дзяўчыны: чакаць яе ці не чакаць? Даша падала ёй знак і, гледзячы сабе пад ногі (на дарозе былі выбоіны), хутка пакрочыла да яе. Насустрач ішлі людзі. Вельмі многа было людзей на пахаванні Васіля, бо злодзеям яго ніхто не лічыў. Размінаючыся з сустрэчнымі, дзяўчына адчула, як нехта ціха дакрануўся да яе рукі. Яна спынілася: перад ёю стаяў Валодзя. На вачах яго былі яшчэ сляды слёз, густыя чарнявыя бровы то быццам бы зліваліся з мехавай шапкай, то аддзяляліся ад шапкі і журботна павісалі над тварам.

— Даша, — прамовіў ён глуха і чамусьці змоўк, нібы не мог знайсці больш ніводнага слова.

Дзяўчына спынілася, апусціла вочы і таксама не ведала, што сказаць. Нейкі спалох, разгубленасць нібы скавалі яе: цяжка стала паварушыцца, падняць павекі, вымавіць слова.

— Добры дзень, — ледзь не шэптам сказаў Валодзя і працягнуў да дзяўчыны абедзве рукі.

Даша моўчкі зняла рукавічку і таксама падала руку. Валодзя паціснуў дрыжачыя пальцы і ўзняў на дзяўчыну вочы.

Ці здолеў бы хто выказаць, што было ў гэтых вачах? Даша заўважыла ў іх вялікае гора, сорам, крыўду, адчай, здзіўленне і... радасна падумаць: здалося дзяўчыне, што сярод гэтых і многіх іншых адчуванняў яна заўважыла каханне—шчырае, гарачае, толькі такое, якое можа быць у аднаго Валодзі. Сэрца яе затрапяталася ад шчасця. На вуснах было нейкае слова, зусім-зусім незвычайнае, мабыць падобнае на тое, што з'яўлялася і жыватворна гучала ў час самых светлых сноў, што прыходзіла на памяць і асвяжала душу ў час дзявочых роздумаў, мар і летуценняў. Але не зыйшло з вуснаў гэтае слова, яно некуды згінула ў такі патрэбны, у такі рашучы момант.

Валодзя ўсё ж такі паймеўся нешта сказаць, але ў гэтую хвіліну падышла да яго заплаканая і зняможаная маці, якую вялі пад рукі родзічы. Аксіння цяжка глянула на дзяўчыну і ўзяла сына за руку.

Так мінулася кароткая хвіліна спаткання. Даша ішла дадому, ледзь не ўсім целам павісаючы на руцэ Андрэіхі. Цяпер тое слова, якраз тое самае, што трэба было сказаць Валодзі, гучала ў вушах, хвалявала, апальвала нутро. Але не дагоніш ім Валодзю, не вернеш ужо таго, што прайшло, мінулася.

«Чаму ён адразу нічога не сказаў? — мучыла дзяўчыну пытанне. — Ён жа быў заўсёды смелы, гаваркі. Няўжо крыўду носіць у душы, няўжо хоць на адну ёту верыць гэтаму чалавеку?»

Андрэіха нібы чула пакутлівыя думкі сваёй маладой сяброўкі, усім сэрцам спачувала дзяўчыне і выказвала гэта пакуль што толькі тым, што ўсё мацней і мацней прыціскала да сябе яе руку.

— Цяжка табе? — спытала жанчына, калі яны падыходзілі ўжо да сваіх двароў.

— Цяжка, цётачка...

І жанчыне зноў уявілася тое, аб чым яна думала ўжо не раз пасля сустрэч з Дашай або пасля доўгіх і шчырых размоў. От, каб была ў Дашы маці, прышла б цяпер дзяўчына дадому, кінулася б мацеры на грудзі, выплакалася, і адлягло б у яе ад сэрца. А то — як ні

гавары, хоць і вельмі здатная на ўсё дзяўчына і сама прыгажуня, але ж сірата. Бацька ёсць, дык бацька ўсё-такі — не тое.

— Ты прыходзь, Даша, пасля вячэры да мяне, — шчыра папрасіла Андрэіха. — Пасядзім, пагаворым.

— Добра, цётачка.

## XV

Што Андрэіха ні рабіла, як ні старалася супакоіць, уцешыць Дашу ў сваёй хаце, усёроўна дзяўчына мучылася, не знаходзіла сабе месца.

— А вы неяк казалі, што трэба маўчаць, саступаць усім з дарогі, — ходзячы з кута ў кут, роспачна гаварыла Даша. — Бачыце цяпер, што выходзіць? Тут і не маўчыш, і не сядзіш, склаўшы рукі, і то вось забойцам могуць зрабіць, душу вырваць, блізкіх людзей адабраць. Бачыце, што выходзіць?

Дзяўчына ступіла да акна, пачала ўглядацца ў мяккі зімовы паўзмрок. Яе цягнула сачыць за вуліцай, за сваім дваром, наколькі ён адсюль быў відзён. Даша не верыла, што Валодзя не прыдзе, не пастараецца знайсці яе.

— Бачу я цяпер, — азвалася цётка Настуля, седзячы на палку ля печы,— усё бачу. Некалі Андрэй мой гэтае самае казаў, што ты цяпер кажаш.

На вуліцы пачуліся далёкія галасы, і Даша ледзь не прыліпла да аконнай шыбы. Галасы паступова набліжаліся, і неўзабаве не толькі Дашы, а і гаспадыні стала чутно, што гэта Заткла з млынаром спяваюць. Яшчэ праз некалькі хвілін дзяўчына і ўбачыла іх. Мужчыны ў абдымку шнуравалі ўкосікі па вуліцы, час-ад-часу паварочвалі адзін да аднаго п'яныя, відаць, страшэнна задаволеныя твары і цягнулі галасам усё, што толькі прыходзіла на памяць і на язык. Адзін пачынаў, другі падцягваў. Заткла, раз-по-разу зрываючыся на пеўня, намагаўся нават узяць ноту, блізкую да нейкага псалма, але млынар пры гэтых яго спробах заліваўся дзікім смехам і падцягваць не браўся.

— Гэта яны з памінак ідуць, — цяжка ўстаючы з месца, сказала Андрэіха. — Ім усёроўна, дзе набрацца. На пахаванні не былі, а на памінкі дапялі.

Даша чула, што гаварыла цётка Настуля, падзяляла ў душы яе абурэнне, але не магла адагнаць ад сябе і тую думку, што калі гэтыя лайдакі ўжо тут, то, значыцца, памінкі скончыліся, і цяпер Валодзю зручней будзе вырвацца з дому.

— Калі б вось гэтых знайшоўся хто ды прыціснуў, — раздумліва сказала Андрэіха, ужо стаўшы ля акна, побач з Дашай. — Без такіх і іншым не было б вялікага разгону.

— Што гаварыць пра гэтых? — зразумеўшы цётчыну думку, заўважыла Даша,— калі яшчэ тых іншых ніхто не прыцісну́ў, калі яны яшчэ бяруць верх.

— Не возьмуць, — упэўнена сказала Андрэіха. — Тыя ўжо не возьмуць. Бачу я, што табе цяпер вельмі цяжка, што перажываеш ты, бо вялікая крыўда ў цябе на душы, аднак жа ведаю, што будзе твая праўда. Ты не перажывай ужо гэтак. Я казала табе і цяпер кажу: прыдзе Печка — сама з ім пагавару.

— Не прыдзе ён, — ціха прамовіла Даша, а сама ўсё ўглядалася ў акно.



— Прыдзе! — намагала Андрэіха. — Калі не цяпер, дык потым. Табе цяпер трэба вось гэты свой сардэчны вузялок развязаць, тады і астатняе лягчэй пойдзе.

— А як яго развязаць, цётка Настуля?

Даша гаварыла гэта ў шыбу, і ад яе слоў, ад усхваляванага дыхання лёгкія стрэлачкі намаразі на шкле адтайвалі ўсё больш і больш. Ад гэтага лепш відна была вуліца.

— Я ж табе кажу, як,—гаварыла далей Андрэіха.— Калі Валодзя не дурань, то ён хутка сам убачыць, дзе тут праўда. А калі не ўбачыць — людзі пакажуць. Ёсць каму паказаць: ты не адна, дзякуй богу.

— У такім няшчасці кожны можа ўздурнець,— трошкі неўзлюбіўшы гэтыя Андрэішыны словы, заўважыла Даша. Хутка яна адышла ад акна і зноў пачала хадзіць па хаце.

— Ты заўтра нікуды не бяжыш зранку? — спытала Андрэіха, нібы толькі для таго, каб не маўчаць, каб хоць чым-небудзь перабіць Дашыны думкі.

— А куды ж мне? — у адказ спытала Даша.

— Ну, ты ж цяпер то ў раён, то на пасёлкі — амаль кожны дзень бяжыш.

— Заўтра толькі партыйны сход,— без асаблівай увагі да гэтай размовы паведаміла Даша.— Але гэта — пад вечар.

— Дык сходзім давай зранку к Печкам, — раптам прапанавала жанчына.— Управімся досвіткам з работай і сходзім, калі Валодзя не пакажацца.

Даша адразу спынілася, павярнула да Андрэіхі здзіўлены і бледны пры электрычным святле твар. Яе выразныя карыя вочы глядзелі на жанчыну сумна і ўстрывожана.

— Не, цётка Настуля,— рашуча сказала яна.— Больш я не пайду туды. Што б там ні было, а не пайду!

Праходзячы каля акна, дзяўчына зноў глянула на вуліцу, і ёй здалося, што нехта прайшоў каля Андрэішынага агародчыка. Прайшоў і каля іхняга двара спыніўся. Не разабрала Даша, якая была адзежа на гэтым чалавеку, якога ён росту і адкуль ён ішоў: з супрацьлеглага канца ад Чырвоных макаў, ці, можа, якраз адтуль, з сельсавета, ды зрабіў паварот, мінуўшы двор Андрэіхі. Пад сэрцам раптам адчулася гарачая хваля, рукі паспешліва сталі прыладжваць на галаве шалік і задрыжалі. Амаль нічога не сказаўшы гаспадыні, дзяўчына выбегла з хаты. Бегла яна, гледзячы толькі сабе пад ногі, не памятала, як адчыніла цётчыну брамку, як дабегла да сваіх варот. Толькі ўжо з двара баязліва глянула на вуліцу. Глянула, і ў грудзях нешта апала: нікога нідзе не было. У хаце ярка гарэла святло, відаць, бацька сёння нічым не засланяў лямпачку, хоць яна, пэўна, і рэзала яму вочы. З акна, калі добра прыслухацца, даносіліся глухія гукі нечай размовы. «Можа ён там, зайшоў у хату?» — мільганула ў дзяўчыны думка, хоць і не надзейная.

У хаце, акрамя сваіх, сядзеў каля стала Платон. Даша адразу заўважыла, што ў конюха быў сёння добры настрой, хоць гэта здаралася з ім не вельмі часта. Бацька таксама стрымліваў у сваіх вуснах задаволеную ўсмешку. Усё гэта не надта спадабалася Дашы, бо для яе сёння быў такі дзень, што хацелася не смяяцца, а плакаць.

Каля парога марудна, быццам не хочучы, распранаўся Цімоша, шчокі яго былі яшчэ чырвоныя ад надворку.



Кранаўшчык Гомельскага рачнога порта Іван Арцёменка, узнагароджаны значком «Выдатнік Міністэрства рачнога флота СССР».

Фота А. Дзітлава.



Герой Савецкага Саюза Хвядос Смалячкоў. Скульптура Народнага мастака БССР З. Азгура.



**Віцебскі завод радыёдэталей — самае маладое прадпрыемства рэспублікі. У заводскім калектыве многа моладзі.**

На здымку: **маладыя работніцы Галіна Магер** (справа) **і Зоя Лях, якія паспяхова авалодалі спецыяльнасцю зборшчыц.**

Фота А. Дзітлава.



**Аграном калгаса «Савецкая Беларусь» Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці камсамолка Ніна Малец.**

Фота А. Дзітлава.

— Дзе ты быў? — ужо зразумеўшы, хто гэта мільгнуў каля агародчыка, змрочна спытала Даша.

— От, так сабе, прайшоўся па вуліцы, — нявесела адказаў хлапец.

— Нікога не бачыў?

Цімоша пакруціў галавой і ўважліва паглядзеў на сястру. Ён адчуваў, што цяпер трывожыла Дашу, яму і самому было нялёгка. Калі сястра не дакажа праўду, калі ёй не дапамогуць людзі, то так могуць і прыжыцца тыя чорныя словы, якія пусціў на іх сям'ю Мокрут. Бацька і Даша, вядома, зусім тут не вінаватыя, а ён, Цімоша, так вышла, што ўсё ж такі пхнуў тады Васіля з разгону. Але ж хіба ён ведаў, што гэта Васіль?

Мітрафан тым часам з чаканнем паглядваў на дачку, і калі тая падышла бліжэй, працягнуў ёй руку з пісьмом.

— На вось, пачытай, — не хаваючы радасці, прамовіў стары. — Платон сустрэў пошту на дарозе, прынёс.

Даша з парывам, аберуч ухапілася за канверт, а калі глянула на почырк, вочы яе міжвольна апусціліся. Пісьмо было з горада, ад Міхася. Бацьку абрадавала ў ім тое, што Міхась абяцаў у самыя бліжэйшыя дні прыехаць дадому. Не ўказвалася ў пісьме, чаго сын едзе, на які час, аднак гаварылася, што едзе з сям'ёй, значыцца, не на мала. Гэта прыемна было і Дашы, хоць крыху няёмка было, што добрая сустрэча адбудзецца ў такі нядобры час.

Потым да позняга вечара Даша чытала за сваёй шырмачкай кніжку. Яе ложак стаяў ля акна, што выходзіць на вуліцу, але дзяўчына дала сабе маўклівую прысягу больш ні разу не глянуць у акно. Не з вялікай ахвотай, нібы толькі адным вухам, Даша слухала паўгалосую размову старых. Многія словы не заставаліся ў яе памяці, яны быццам толькі праляталі каля вушэй, аднак сёе-тое не магло не зацікавіць дзяўчыну. Платон сёння, як і заўсёды, трымаўся гаспадарчых пытанняў, але больш, як калі, гаварыў пра старшыню, і тады яны ўдвух з бацькам прыцішана, нібы дзеці ў класе, пасмейваліся. Месцамі сапраўды было смешна. Платон расказаў, напрыклад, што Шулаў наўбіваў у сцяну свайго кабінета цвікоў і павесіў там хамут, набэдрыкі, аброць і лейцы для ўласнага выезду. Гэта ён для таго, каб усё было пад рукою і каб ніхто не замяніў яму хамута. А тое, што ў брыгадах няма вупражы, што калгаснікі ездзяць на вераўчаных гужах, яго не турбуе.

Бацька здзіўляўся, асуджаў, відаць, нават махаў рукой ад абурэння, а Платон між тым гаварыў далей.

— Вепрука надоечы завёз дадому, хоча, мабыць, угадзіць сваёй кабеціне. Кажуць, злосная не ў меру і на чужое дабро сквапная. Не памятаю, хто гэта мне нядаўна расказваў, што чуць з хаты таўсцюгу не выгнала, калі дачулася, што ўжо не доўга хадзіць яму ў старшынях. Чаму, кажа, толькі адзін дом пабудаваў? Чаму не навазіў лесу вунь яшчэ швагру? У таго таксама хата старая.

Тут і Даша ўсміхнулася. Ёй было прыемна, што старыя так настойліва бяруцца за старшыню калгаса, ганяць і высмейваюць яго. Адчувалася, што пры патрэбе яны маглі б і на сходзе выступіць. А можа і яшчэ што ўцешнае ў старых у галаве, можа яны на Міхася трымаюць нейкую надзею? Бацька ўжо даўно аб гэтым пагаворвае...

Платон к поўначы пайшоў, яму трэба было заступаць на дзяжурства, бацька выключыў святло, лёг, а Даша можа да трэціх пеўняў не спала. Ноч здавалася страшэнна доўгай, пакутлівай. Хацелася, каб як мага хутчэй прышло світанне, а яно быццам наўмысна аддалялася. А світанне магло прынесці новыя спадзяванні. Сапраўды, увечары Валодзя не мог прысці. Што яго за гэта вініць? Толькі вярнуўся з пахавання, сабраліся людзі на памінкі. А там і з маткай трэба пагаварыць, уцешыць яе, і каля хаты што-небудзь паглядзець. Не на доўга ж яго пусцілі. Вось раніцай яму, вядома, лягчэй будзе вырвацца.



Аднак прышла і раніца, а Валодзі ўсё не было. Даша чакала яго да другой паловы дня, а потым прышоў са школы Цімошка і сказаў, што сам бачыў, як Валодзя з невялікім чамаданчыкам у руках садзіўся ў кабіну эмтэесаўскага грузавіка, які адпраўляўся на станцыю.

Сумнай, заклапочанай ішла пад вечар дзяўчына ў Чырвоныя макі, на партыйны сход. Каля могілкаў спынілася. Мінулай ноччу і цяпер удзень снегу не было, нават сляды ўчарашнія былі відны на цаліне. Сярод бярэзніку жаўцела Васілёва магілка; здалёк яна выглядала маленькай, нібы дзіцячай. Даша паціху прайшла яшчэ некалькі крокаў па дарозе. Вось тут, на гэтым месцы ўчора яна спаткала Валодзю. Не знайшла ў сабе сілы сказаць яму хоць адно слова, а сёння сэрца баліць ад гэтага. Можа ён і падумаў, што вінавата, калі маўчала...

## XVI

Сход не зацягнуўся вельмі надоўга, хоць і вырашаліся даволі складаныя пытанні. За гэта камуністы і кандыдаты ў члены партыі маглі б падзякаваць Ільі Савічу. Сакратар тэрытарыяльнай партыйнай арганізацыі не ленаваўся схадзіць да камуніста і за пяць-шэсць кіламетраў, калі яму трэба было з ім параіцца ці што-небудзь абмеркаваць. Таму на сходах не было лішняй гаворкі і непатрэбнай блытаніны.

Даша выходзіла апошняй са школы. На вуліцы было цемнавата, хоць ва ўсіх хатах яшчэ гарэлі агні. Падумалася аб тым, што не надта весела будзе ісці ноччу адной, але ў гэты час выйшаў на школьны ганак Ілья Савіч.

— Гэта я паліто заходзіў накінуць,— тонам апраўдання загаварыў ён, — а так я ўсёроўна меў на ўвазе прайсці з вамі. Па-першае, правесці крыху, каб не так вам было страшна, а па-другое,— гаворка яшчэ адна ў мяне ёсць.

— Добра, Ілья Савіч,— ціха адказала Даша.

— Скажыце,— адразу пачаў дырэктар,— Міхась не прыслаў вам на гэтых днях пісьма?

— Учора прыслаў,— з цікавасцю да гэтага пытання адказала дзяўчына.

— А што ён піша? Прабачце, калі ласка, за маю нясціпласць.

— Піша, што вось-вось прыедзе дадому, — ахвотна паведаміла Даша.— Толькі невядома, у адпачынак ці ў камандзіроўку ў наш раён.

— Ні ў адпачынак, ні ў камандзіроўку, — сур'ёзна сказаў Ілья Савіч.— Я таксама атрымаў ад яго пісьмо. Мы ўсё-такі з ім даўнія сябры. Будзе працаваць тут Міхась.

— Як гэта? — здзівілася Даша.— Тут, у нашым калгасе?

— Думаю, што ў вашым, — пацвердзіў дырэктар. — І ў райкоме партыі гэтак жа думаюць. Мы разам з сакратаром райкома і пісалі Міхасю.

«Вось чаму бацька з Платонам так узрадаваліся ўчора,— падумала Даша.— Няўжо яны ведалі што-небудзь пра гэта? А можа проста адчуванне ў старых такое своеасаблівае».

Для самой жа Дашы гэтая навіна была пакуль што нечаканай, хоць яна даўно ведала, што брат, як аграном, не задаволены сваёй работай у міністэрстве, што яго ўвесь час вабяць прасторы палёў і сенажацяў. З другога ж боку, яна бачыла і не адзін раз гаварыла на сходах, што Шулаў — ніякі не старшыня, хоць і чалавек ён спакойны, памяркоўны, што яго даўно трэба выправадзіць туды, адкуль ён прыехаў, інакш гаспадарка сядзе макам. Але ніколі яна не думала, каб Міхась згадзіўся стаць у Дабрасельцах старшынёй. Невядома, чаго тут бацька ўзрадаваўся. Канешне, радасна было б, каб з'явіўся нарэшце добры старшыня калгаса ды памог людзям па-сапраўднаму стаць на ногі. Яшчэ больш уцешна было б для бацькі, каб гэтым чалавекам аказаўся яго сын. Прыемна гэта і для сястры, але ўсё-такі там міністэрства, горад, а тут калгас і толькі Дабрасельцы.

— Можа, у МТС яго прысылаюць? — нерашуча спытала Даша. — Туды, я чула, трэба аграном.

Ёй няёмка было выказаць свае думкі ўслых, бо ў душы яна разумела негрунтоўнасць свайго здзіўлення і ведала, што яно хутка пройдзе. Бацька тут лепш адчуў, як яна.

— Ён сам згадзіўся прыехаць у свой калгас, — нібы зразумеўшы Дашыны думкі, сказаў Ілья Савіч. — Паверце, што ніхто на яго, як кажуць, не націскаў і ніхто не выжываў з міністэрства. Зямля — яго стыхія, усёроўна, як мая — школа. Тут я яго вельмі добра разумею. Не здзіўляйцеся, Даша, — будзе Міхась у Дабрасельцах старшынёй. Ведаю, што вам нязручна, дык я сам пагавару з калгаснікамі, мяркую, што яны не адмовяцца ад свайго земляка. І яшчэ раз — не здзіўляйцеся...

Тут Ілья Савіч перапыніўся і нейкі час ішоў моўчкі, нібы абдумваючы, з якога слова пачаць, як зрабіць размову найбольш пераканаўчай. Даша чакала, стрымліваючы глыбокае хваляванне.

— Вы, пэўна, заўважылі нават з сённяшняга сходу, — ціха загаварыў дырэктар,— што вас камуністы паважаюць, падтрымалі вас у гэтай нялёгкай справе і вось у члены партыі прынялі. Прычым — аднагалосна. Я радуюся гэтаму разам з вамі і яшчэ раз ад душы віншую вас.

— Шчыра дзякую, — ледзь вымавіла ад хвалявання Даша.

— Паважаюць вас за работу, вядома, за прынцыповасць. І вось, не ведаю, як усе дэпутаты, а мы, камуністы, параіўшыся між сабою, рашылі прапанаваць сесіі вашу кандыдатуру на старшыню сельсавета.

— Што вы, Ілья Савіч! — ледзь не крыкнула Даша.— Што вы гаворыце! Я не спраўлюся, ды і не выберуць мяне. Аб гэтым і думаць няма чаго. Я сама дам сабе адвод, або нават і на сесію не прыду!

— Я таму і прызнаўся вам у нашых намерах,— працягваў свае довады Ілья Савіч, — каб вы мелі магчымасць усё гэта добра абдумаць і падрыхтавацца да гэтага. А калі ўдумаецеся, то самі ўбачыце, што гэта самы лепшы варыянт. І адмаўляцца вам няма чаго.

— Нават і не думаючы многа, можна сказаць, — не адступала Даша,— што гэта зусім не для мяне. Па-першае, глядзіце, што выходзіць: Міхась — старшыня калгаса, а я — старшыня сельсавета. У адной хаце два старшыні. Як гэта можа быць? А потым яшчэ вось што: увесь час я выступала супраць Мокрута, крытыкавала яго, а цяпер людзі скажуць, што я яго месца дамагалася. Не, Ілья Савіч! Мне вельмі радасна, што вы так хораша думаеце пра мяне; сёння сапраўды такі дзень для мяне, што ніколі не забудзеш: і гора столькі было, і радасці. Але прапановы такой не ўносьце. Яшчэ глядзіце, што і Мокрут застанецца. У яго ёсць падтрымка ў раёне.



— Паспрабую адказаць па пунктах,— стрымана ўсміхнуўшыся, прамовіў дырэктар. — У Чырвонамакаўскім сельсавеце не адзін Дабрасельскі калгас, а цэлых чатыры. Затым у сельсавеце, як вядома, ёсць яшчэ школа, кааператыў, медпункт. Так што брат і сястра не будуць заўсёды хадзіць па адной і той жа сцежцы. Што ж датычыць залішняга шчасця ў адной сям'і, то няхай былы бядняк і франтавік грамадзянскай вайны Мітрафан мае і двух старшынь у сваёй хаце. Нічога кепскага ў гэтым няма. Абы толькі людзям была ад гэтага карысць.

Не магу я прыняць вашу думку і наконт Мокрутавага крэсла. Разумныя людзі ніколі не скажуць, што вы крытыкавалі Мокрута для таго, каб заняць яго месца. Яны хутчэй скажуць, што вы змагаліся не супраць Мокрута, як чалавека, а супраць яго недахопаў, значыць, па сутнасці, змагаліся за Мокрута. Ён чалавек яшчэ малады, жыццё яго яшчэ наперадзе. Заўважылі, што ўжо нават сёння ён не вельмі лез на ражон? А старшынёй яго пакідаць нельга. Аб гэтым ведаюць усе дэпутаты, і ў раёне цяпер глядзяць на гэта іначай. Вунь Павел Паўлавіч, да чаго ўжо спакойны чалавек, і то ўзняўся, нават мяне падганяе.

Так, гаворачы і злёгку спрачаючыся, яны і не заўважылі, як выйшлі на добрасельскую дарогу і нават гоняў двое прайшлі па гэтай дарозе. Ілья Савіч прыпыніўся і працягнуў Дашы руку.

— Мне вельмі няёмка, — просячы прабачэння, загаварыў ён, — што пакідаю вас адну, трэба было б прайсці з вамі і да самых Дабрасельцаў. Але я пастаю тут, пакуль вы хоць да млыноў дойдзеце, а там ужо недалёка.

Па голасу і па крыху разгубленых жэстах можна было заўважыць, што дырэктар сапраўды перажываў.

— Я дабягу адна, — з усёй сваёй шчырасцю запэўняла Даша. — Хіба гэта першы раз? І так вы ўжо далёка са мною прайшлі. Дзякую вам, шчыра дзякую. У вас і без мяне многа ўсякіх спраў.

— Ды справы там не якія, — гаварыў далей Ілья Савіч, — але сёння мне яшчэ абавязкова трэба напісаць аднаму свайму вучню пісьмо. Былому, праўда. Заўтра авіяпоштай пашлю.

Дырэктар глядзеў на Дашу з уцешнай усмешкай, а яна замаргала спачатку нездагадліва і разгублена, а потым, зразумеўшы, аб чым ідзе гаворка, заіскрыла радаснымі вачамі і ўхапілася за дырэктараву руку.

— Як я вам удзячна, Ілья Савіч, каб вы толькі ведалі!

Ідучы далей адна, дзяўчына не магла сабрацца са сваімі думкамі, уражаннямі. А іх было так многа, і такія яны былі ўсе важныя: і радасныя, і трывожныя. Хоць ногі міжвольна і збіваліся на бег, але не было жадання хутчэй убачыць Дабрасельцы. Хоць трохі і страшнавата было адной, але думалася аб тым, каб дарога працягнулася як мага больш, каб даўжэй заставацца ў самоце. Вось чаму, калі Даша ўбачыла, што з-пад бяскрылых млыноў ёй напярэймы выходзіць нейкі чалавек, то перш, чым падумаць аб іншым, у яе мільгнула шкадаванне расстацца са сваімі марамі. Чалавек выйшаў на дарогу і стаў. Дзяўчына таксама прыпынілася, стараючыся разглядзець у цемры, што гэта за чалавек.

— Не бойся, Даша, падыходзь, — пачула яна голас і пазнала Мокрута.— Я проста чакаў цябе тут, каб ісці разам дадому.

У дзяўчыны трохі скаланулася сэрца, але яна не паказала спалоху,

пайшла. Успомнілася, як паглядваў на яе Мокрут у час партыйнага сходу. Вочы былі мутныя, нібы застыглыя, і цяжка было зразумець, што яны выяўлялі. Можна было падумаць, што гэты чалавек жадаў дзяўчыне самага горшага на свеце, нават смерці, і можна было падумаць, што нічога дрэннага не жадаў.

Падышоўшы, і цяпер Даша глянула Мокруту ў вочы, і спалох яе апаў. Не так убачыла яна, як адчула, што ў вачах старшыні цяпер толькі сум, пакута, а ніякай злосці няма. Сам ён быў ссутулены, уцягнуты ў каўнер кожанкі і рукі трымаў сціснутымі адна пры адной у рукавах. Відно было, што акрамя перажыванняў, магчыма нават некаторага раскаяння, ён яшчэ і добра прамёрз, седзячы пад млынамі, бо са сходу ён пайшоў даўнавата.

Пайшлі далей, не сказаўшы адно аднаму больш ні слова. Даша адной машыннай каляінай, а Мокрут другой. Ён толькі выняў рукі з рукавоў, памахаў імі трохі і апусціў у глыбокія, але, відаць, прахалоджаныя кішэні.

— Замёрз ты?—праз некаторы час спытала Даша. Ёй ужо цяжка было не падаць ніякага голасу.

Мокрут павёў плячамі, крыху падвыпрастаўся, але не сказаў нічога, нібы спагада такая была не для яго.

— І трэба было табе сядзець пад гэтымі млынамі, — больш з дакорам, чым з насмешкай сказала Даша. — Ішоў бы дадому, у цяпло.

— Няма мне цяпер куды ісці,—глыбока ўздыхнуўшы, нібы прамовіў, нібы прастагнаў Мокрут.

Крокі яго сталі няроўнымі і цяжкімі, быццам падэшвы ботаў пачалі прыставаць да каляіны. Ён ішоў моўчкі яшчэ некалькі хвілін, а потым крыху адхіліў з Дашынага боку свой каўнер і загаварыў ужо не так глуха і невыразна, але суму ў голасе было яшчэ больш, думкі выходзілі няпоўнымі, нібы ўрэзанымі.

— Мая хата і раней не была мне асабліва мілай, а цяпер дык... Каб не так холадна, то і начаваў бы пад млынамі. Добра было некалі ў партызанах: залезеш у будан, укрыешся...

Даша маўчала, бо ні спрачацца з Мокрутам, ні спачуваць яму ў яе не было асаблівага жадання. Яна толькі ўсё думала, чаму ён чакаў яе: намерваўся чалавек пагаварыць, выкласці душу, а можа і якая лаянка ў яго ў галаве, магчыма, нават помста. Страху аднак не было, нешта не з'яўлялася такая думка, што Лявон можа ўчыніць ёй што-небудзь дрэннае.

— Значыцца, мы сёння імяніннікі,— зноў загаварыў Мокрут.— Цябе з кандыдатаў і мяне з кандыдатаў. Здарава! Толькі цябе ў члены, а мяне... Колькі год мне давялося пахадзіць у кандыдатах! І вось... Ну і злавалася ты на мяне сёння, праўда? Усе злаваліся, нібы я ўсім ворагам стаў. Асабліва дырэктару.

— Ніхто не злаваўся,— спакойна заўважыла Даша. — Гаварылі тое, што думалі.

— Усё прыпомнілі, — незласліва сказаў Мокрут і зноў глыбока ўтуліўся ў каўнер, змоўк.

Дзяўчыне здалося, што ён пайшоў крыху жвавей, і яна адчула нейкую палёгку ад гэтага. Хутчэй бы дайсці, а там ён няхай, як хоча. Захоча выгаварыцца, дык знойдзе ахвотнікаў паслухаць, а пацягне яго на адзінокае маўчанне, дык трапіцца месца і для гэтага. Глянула ў бок Дабрасельцаў і быццам бы зарадавалася, што скрозь рэдкі не халодны туманчык



убачыла святло электрычнага ліхтара, які зноў гарэў каля вёскі. Значыцца, ужо недалёка засталося ісці. Але выйшла так, што і Мокрут, бадай, у гэты ж самы час глянуў на ліхтар і не прыбавіў яшчэ кроку, чаго якраз чакала Даша, а прыкметна збавіў. Яго, відаць, не цягнулі Дабрасельцы. Дзяўчына сама пайшла хутчэй, аднак старшыня не рушыў за ёй, а, хрыпла кашлянуўшы, сказаў:

— Не спяшайся так, Даша. Яшчэ ж не позна.

І параўняўшыся з ёю, стаў прасіць, каб яна пагаварыла з ім, забыўшыся аб усім, што адбылося і што выявілася за апошнія часы, пагаварыла так, як яны ўсё ж такі не адзін раз гаварылі ў мінулыя гады.

— Мне можа і трэба было б крыўдаваць на цябе, злавацца, — гаварыў ён прыцішана-дрыготкім голасам. — Але сёння я не магу. Не ведаю, што будзе далей, а пакуль што няма ў мяне крыўды не толькі на цябе, а і на іншых. Вось сядзеў пад млыном, усё ўспомніў, перадумаў. Многа праўды было сказана на сходзе. Жыццё ў мяне ішло адным бокам, і вочы мае глядзелі больш усё ў адзін бок, у свой. Былі людзі вакол мяне, харошыя людзі, а я іх не заўважаў і не ведаў. Я і цябе не ведаў. Ты для мяне была толькі прыгожай дзяўчынай, гэтак жа, як Васіль Печка толькі паслухмяным хлопцам. Заўважаў я іншы раз толькі тых людзей, якія падчас, хочучы гэтага ці не хочучы, станавіліся на маёй дарозе. Іх я лёгка спіхаў з дарогі. Кажу, лёгка, бо гэта мне сапраўды ўдавалася.

— Да пары збан... — хацела ўставіць Даша, але Мокрут не даў ёй дагаварыць.

— От жа некалі мая маці так гаварыла, — падхапіў ён. — Я тады яшчэ хлопцам быў. «Чаму ты ўсё сам ды сам? Гэтак век не пражывеш». А я толькі і ганарыўся тым, што «сам». У мацеры быў я адзін, бацькі ў мяне, ты ж ведаеш, даўно няма, памёр. Я неяк мала і памятаю свайго бацьку. Матку ж, вядома, не слухаў, а цяпер мне вось ужо каторы раз успамінаюцца яе колішнія словы. Якое шчасце было б убачыць яе цяпер жывую!.. Кінуўся б, здаецца, перад старою на калені, выплакаў бы свой боль.

... Апошні раз бачыў я сваю матулю ў канцы сорак трэцяга года. Прышоў ноччу дадому з партызанскага атрада. Вось гэтая кожанка была на мне, тады яшчэ зусім новая, добрыя хромавыя боты, шапка з чырвонай істужкай. Сеў ля стала і нечакана задрамаў. Маці пры газоўцы расшпіліла мне каўнер ды як заплача. Я аж спужаўся, прачнуўшыся. Ажно ж гэта кашуля мая пад кожанкай і гімнасцёркай была да таго заношанай і бруднай, што маці вытрымаць гэтага не магла. Яна кінулася ў куфар, каб дастаць мне чыстую кашулю, а ў гэты час з вуліцы пачуўся нейкі тупат. Я шмыгануў у сенцы і ўжо больш не вяртаўся ў хату, неўзабаве прабраўся ў лес. А назаўтра маці, ты ўжо, мабыць, ведаеш пра гэта, завязала ў клуначак бялізну, яшчэ там сёе-тое і познім вечарам пайшла ў лес шукаць каго-небудзь з нашых, каб перадаць усё гэта мне. Натыкнулася на засаду, кінулася бегчы і вось... Я ледзьве перажыў гэта, як даведаўся. Бо чаго мне было ісці дадому? І цяпер гэты цяжар у мяне на душы, асабліва сёння. Толькі адной табе скажу, што і заходзіў я тады не так для таго, каб праведаць сваю матулю, дапамагчы ёй чым-небудзь, адзінокай, як для таго, каб паказаць, які я стаў бравы. Цяпер дараваць сабе гэтага не магу...

Мокрут перапыніўся пасля гэтых слоў, цяжка, усхвалявана засоп, але хоць і выйшла ў гэты момант зручная паўза, Даша не выкарыстала яе, каб сказаць што-небудзь. Яна адчувала, што Мокрут гаварыў шчыра, але яе так здзіўляла гэтая гаворка, што яна не ведала, як на яе можна ад-

казваць. Здавалася, ніколі раней яна не чула ад Лявона такіх слоў, а можа і чула, ды не зважала, не верыла.

Зноў загаварыў Мокрут ужо каля самых Дабрасельцаў.

— Перад табою я таксама адчуваю віну. Гора я табе ўчыніў вось гэтай няпраўдай наконт Печкі. Я, канешне, ведаў, што ты не вінавата. Мне проста хацелася не паддацца табе. Хочаш, я напішу аб усім Валодзю. Праўду напішу.

— Не трэба, — ціха адказала Даша, — без цябе напішуць.

— Ну, то будзь здарова, — халаднавата прамовіў Мокрут, спыніўшыся насупраць Платонавай хаты і працягваючы дзяўчыне руку. — Дзякуй табе, што прыйшла са мною, не ўцякла.

— А ты ж куды? — спытала Даша, заўважыўшы, што старшыня не збіраецца ісці дадому.

— А вунь, бачыш? — паказаў Мокрут на млынароў дамок. — Там яшчэ святло гарыць. Пайду туды...

## XVII

Сесія сельсавета павінна была адбыцца неўзабаве пасля сходу партыйнай арганізацыі, аднак па розных нечаканых прычынах яна ўсё адкладвалася. Гэтыя прычыны ў большасці выпадкаў з'яўляліся з-за Мокрута, якому вельмі хацелася адцягнуць сесію. То ён раптам знікаў на некалькі дзён, а ў сельсавеце прасіў сказаць, што паехаў у горад па справах, то прыкідваўся хворым, хоць дома і не ляжаў. Былі, відаць, свае меркаванні ў чалавека. Магчыма, жыло спадзяванне, што ўсё гэтаператрэцца, перамнецца і забудзецца, магчыма, вялася нейкая падрыхтоўка для большага апраўдання.

Нарэшце, Павел Паўлавіч, як прадстаўнік райвыканкома, цвёрда вызначыў дзень, і сесія прайшла. Паколькі ні ў Дабрасельцах, ні ў Чырвоных маках клуба яшчэ не было, то сесія праходзіла ў школе, у тым жа самым класе, у якім быў не так даўно і партсход. З партыйнага сходу Лявон Мокрут выйшаў тады самым першым, а з сесіі цяпер — самым апошнім. Калі б не прышла ў клас прыбіральшчыца ды не зазваніла ключамі, то былы старшыня, напэўна, і начаваў бы ў школе.

На вуліцы ўжо нікога не было, калі Мокрут, угнуўшыся, крочыў каля платоў. Ён прыкідваў сам сабе, куды б яму пайсці, дзе б гэта пабыць аднаму, бо ні сустракацца з кім-небудзь, ні гаварыць яму сёння не хацелася. Успомніў, што можна ж яшчэ зайсці ў сельсавет, што фармальна ён яшчэ не пазбаўлены такога права. Апусціў руку ў кішэню кожанкі, абмацаў там два звязаныя шнурком ключы. Залішне халоднымі і слізкімі здаліся яму гэтыя ключы. Узяць бы іх ды выкінуць у снег, няхай бы потым узламвалі кабінет тыя, каму гэта трэба. Ключы, абыякава падчэпленыя пальцам за шнурок, тонка, нібы жалобна, дзінькнулі, калі Мокрут выцягнуў іх з кішэні. Міжвольна прыгадаўся звон ключоў прыбіральшчыцы. Як паглядзела гэтая жанчына на яго, былога старшыню сельсавета! Відно было адразу, што каб ён не заварушыўся, не заспяшаўся апранацца, то яна выгнала б яго з класа.

Замок на сельсавецкіх дзвярах быў пакрыты тонкай пякучай намараззю. Мокрут узяў яго цёплай рукой, і, пакуль адкрываў, пальцы шчыпанула хоць і перадвясеннім, але яшчэ сярдзітым марозікам. Чалавек амаль не адчуў гэтага. Дзверы скрыпнулі нейкім чужым і непрыветным скрыпам. Яшчэ адзін замок, і яшчэ адны дзверы. З кабінета дыхнула цяплом і звычнай гаркаватасцю ад нядаўняга курэння. Не запальваючы



лямпы. Мокрут знайшоў свой цвічок у сцяне, распрануўся і павесіў на яго кожанку, шапку, потым прайшоў да папоўскага крэсла. Палавіцы скрыпнулі так моцна, што чалавек аж спужаўся гэтага скрыпу. Колькі часу давялося пасядзець у гэтым крэсле і нават паспаць! Заснуць бы і цяпер, забыцца пра ўсё.

Мокрут усім скволеным тулавам узлягае на падлакотнікі, адкідвае галаву на высокую спінку. Прыемна было некалі вось гэтак адпачываць, а падчас і гаварыць з людзьмі.

На двары мільгае ў белых хмарках вельмі ўжо праворны месяц, таму па стале ўвесь час бегаюць кароткія цені. Стракаціць у вачах ад гэтых ценяў, а яшчэ больш стракаціць ад розных паперак, квіткоў і бланкаў, што ў беспарадку валяюцца на стале. У сельсавеце няма цяпер сакратара, а сам Мокрут і раней не клапаціўся аб парадку ў канцылярскіх справах. Цяпер жа дык і гаварыць няма чаго. Паблісквае перад апушчанымі ўніз вачамі вышмараваны локцямі і далонямі паўкруглы рубец стала. Варта хоць трошкі працягнуць з падлакотніка руку, і ўказальны палец ляжа на гэты рубец. Маленькі рух, і пачуецца звычны стукат. Колькі людзей з крыўдай і непрыязню глядзелі на гэты палец, колькі разоў балюча моршчыліся, слухаючы гэты стукат!

Дрымоты не прыходзілі, хоць Мокрут не збіраўся хутка ўставаць з гэтага крэсла. У галаве шумела ад страшэннай блытаніны думак, ад безлічы самых супярэчлівых уражанняў і ўспамінаў. Бывала, на сесію за вушы чалавека не прывалачэш, а тут, глядзі, амаль поўная школа людзей. І дэпутаты ўсе да аднаго, і настаўнікі. Сямён Казырок вунь адкуль і то прышоў, нават зладна махаў рукой, калі звонкі Дашын голас чуўся ва ўсіх кутках. Успомнілася, што і Аксіння, Валодзева маці, вельмі ж ужо старанна слухала Дашына выступленне, ківала ў знак згоды галавой, а потым, калі дзяўчына вярталася на сваё месца, злавіла яе за рукаў і доўга нешта шаптала на вуха, ласкава ўсміхалася. А яшчэ зусім нядаўна гэтая жанчына верыла яму, Мокруту.

Пасля Дашавага выступлення захацелася зноў узяць слова самому. Слова далі, а слухаць не слухалі. Стары Платон пачаў у гэты час нешта гаварыць Мітрафану, а той без усялякага ўтрымку смяяўся і весела паглядваў на свайго старэйшага сына. Гэты толькі што прыехаў, а ўжо тут. І хто іх зваў на сесію?

...Перад вачыма — людскія рукі, паднятыя над галовамі. Так многа рук. Павел Паўлавіч сказаў падняць рукі толькі дэпутатам, а паднялі ўсе. Цяжка было ўтрымацца, каб не зірнуць. Андрэіха сядзела воддаль, дык аж устала, каб усе бачылі яе руку.

— Дабрасельскі! — звярнуўся Павел Паўлавіч да Івана. — Палічы галасы!

Той устаў, выцягнуўся на даўжэйшай назе, каб лепш бачыць.

— Аднагалосна!— праз якую хвіліну абвясціў ён. У голасе — цвёрдасць і гучнасць. Гэтага раней не было.

— Ды ўсе прагаласавалі! — пацвердзіў з задніх радоў Ціхоня.

Бач, і ён абазваўся!

Усё гэта асабліва крыўдзіла і злавала Мокрута. Ніколі раней ён не зважаў на якоесьці там галасаванне. Сам заўсёды падымаў руку без усякіх думак у галаве і на людскія галасы паглядваў з насмешкай. А тут прагаласавалі, і ён ужо не старшыня.

Правая рука неяк сама сабою паехала па слізкаму падлакотніку ўперад, аднак пальцы не дацягнуліся да стала, каб пастукаць, а квола, нібы самлелыя, упалі на сцягно. Тут яны, паварушыўшыся, хутка намацалі

кішэню, у якой ляжаў круглы футлярчык з пячаткай. Пад сэрцам у Мокрута зашчымела. Заўтра здаваць гэтую пячатку, а як жыць без яе? Перад вачыма раптам паўсталі суседзі-дабрасяльчане. З самага ранку яны возяць на поле гной, рукі іх у гэты час брудныя і непрыемна пахнуць. Андрэіха ў прыполе носіць дадому маленькіх парасят, тут іх абсушвае, абагравае, поіць малаком. А Даша начуе на ферме ў час ацёлаў і ў такія дні ходзіць з пачырванелымі ад бяссонніцы вачыма. І ўсё гэта людзі, і шчасце ў іх, мабыць, больш, як у яго самога.

Лявон рэзка адштурхнуўся ад спінкі крэсла, устаў і нервова захадзіў па кабінеце. Хадзіў ён так з паўгадзіны, палавіцы скрыпелі, нібы крышыліся ў яго пад нагамі. Іх даўно ўжо не праціралі вадой. Потым былы старшыня падышоў да свае кожанкі, рвануў яе так, што цвік сагнуўся, ці вешалка разарвалася, паспешна апрануўся і рушыў з сельсавета. Дзён тры яго ніхто не бачыў і ніхто не ведаў, дзе ён каратаў ці прасвістваў свой час. На чацвёрты дзень позна ўвечары Мокрут з'явіўся на дабрасельскай вуліцы. Ніхто і ў гэты час яго не заўважыў: дзетвара ўжо спала, а ўсе дарослыя былі на калгасным сходзе. Ішоў Мокрут, не спяшаючыся, і глядзеў увесь час толькі сабе пад ногі. Ён і рад быў, што ніхто не трапляўся яму насустрач.

Каля свайго двара спыніўся, падняў галаву. Мяккі вецер з поўдня абдаў яго шыю і трохі зменшаны за гэтыя дні валлячок. Лявон зноў утуліўся ў каўнер, вецер здаўся яму вельмі халодным. У вокнах хаты відно было святло. Гэта спадабалася Мокруту тым, што не трэба было стукаць, дабуджвацца жонкі. Асцярожна, без скрыпу адчыніў брамку, зайшоў у слізкі ад адлігі двор. Дзверы ў сенцы таксама адчыніў паціху, пераставіў нагу цераз парог хаты і больш не мог ступіць ні кроку. З ложка, накрытая суконнай паласатай коўдрай, дакорліва і ўсё ж такі з радасцю глядзела на яго жонка, а побач, на зэдліку, сядзела Андрэіха і спявала ў цёплыя, свежыя пялёнкі дзіця.

Лявон зняў шапку і моўчкі стаў камячыць яе ў руках. Затым ён марудна павярнуўся і вышаў. З двара не падаўся нікуды, а сеў пад акном на прызбе і ахапіў галаву рукамі. З страхі капалі буйныя, вялікія каплі і гучна стукаліся аб кожанку. Са сходу па вуліцы ішлі людзі, яны весела гаманілі, смяяліся.

— Два старшыні ў хаце! — з націскам сказаў нехта.

— А я магу даць яшчэ і трэцяга, калі трэба!

Гэта, вядома, голас Мітрафана.

Насупраць двара нехта прыпыніўся.

— Няўжо яго яшчэ няма? — пачуўся гаманок. — Хіба ж не ведае чалавек? Гэта ж добра, што Андрэіха, а то б...

Лявон не мог глянуць на вуліцу, не мог расслабіць пальцы, ублытаныя ў адрослыя за апошні час валасы. Бразнула неўзабаве клямка ў сенцах, і каля яго мімаходам спынілася Андрэіха.

— Ідзіце, сусед, у хату, — патрабавальна сказала яна. — Сын заве.





# ЗАЎСЁДЫ З НАМІ, МАЛАДЫМІ

11 мая гэтага года літаратурная грамадскасць нашай рэспублікі, шырокія колы чытачоў адзначылі 75-годдзе Янкі Маўра.

Янка Маўр — адзін з самых любімых пісьменнікаў нашага юнацтва. Па яго кнігах вучылася думаць і марыць, адкрываць хараство навакольнага свету не адно пакаленне беларускай моладзі. Невычарпальная фантазія пісьменніка заўсёды паланіла прагную да ведаў юнацкую душу, адкрывала новыя неабсяжныя гарызонты маладому дапытліваму розуму.

Літаратурная дзейнасць пісьменніка пачалася яшчэ ў 20-я гады. Першым творам, які адразу зрабіў вядомым імя аўтара, была аповесць «Чалавек ідзе» (1925 г.). Неўзабаве пасля яе апублікавання з'яўляюцца аповесці «У краіне райскай птушкі» (1926 г.), «Сын вады» (1927 г.), раман «Амок» (1928 г.), аповесці «Палескія рабінзоны» (1929 г.), «ТВТ» (1934 г.), «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага» (1956 г.). Яго апавяданні «Слёзы Тубі», «Незвычайная прынада», «Лацароні» і інш. сталі хрэстаматыйнымі.

У асобе Янкі Маўра шчасліва спалучыўся талент пісьменніка з талентам выхавацеля-педагога. Таму такое глыбокае ўздзеянне робяць яго творы на моладзь, таму такая вялікая іх выхаваўчая роля.

Шматгадовая праца пісьменніка ў літаратуры высока ацэнена Савецкім урадам. Янка Маўр узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

У юбілейныя дні беларуская моладзь шчыра віншуе аднаго з самых лепшых сваіх выхавацеляў, заўсёды маладога сваіго сябра, нястомнага летуценніка Янку Маўра і жадае яму многіх год жыцця і вялікіх творчых удач.

**Віталі ВОЛЬСКІ**

# ПРА ЭДУАРДА САМУЙЛЁНКА

У мінулым годзе мы адзначылі 50-годдзе з дня нараджэння Эдуарда Самуйлёнка, выдатнага прадстаўніка беларускай мастацкай прозы.

Многія з нас добра памятаюць гэтага таленавітага і разумнага пісьменніка, добрага таварыша. Здаецца, нібы ўчора працаваў ён у «ЛІМе», хадзіў сярод нас, жартаваў. А між тым з таго часу прайшло больш дваццаці год.

Я пазнаёміўся з Эдуардам Самуйлёнкам у 1934 годзе на Першым Усебеларускім з'ездзе пісьменнікаў. Ён пераехаў незадоўга перад тым з Полацка ў Мінск і працаваў у газеце «Літаратура і Мастацтва». Раней я ведаў яго завочна як маладога і здольнага аўтара апавяданняў і аповесцей «Паляўнічае шчасце», «Тэорыя Каленбрун» і «Герой нацыі». Потым мы часта гутарылі з ім у Маскве, на першым Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў. Мы жылі ў адной гасцініцы «Парыж» (яна цяпер не існуе) насупраць Цэнтральнага тэлеграфа і, вяртаючыся з паседжанняў з'езда, дзяліліся ўражаннямі ад чутага і бачанага. Асобныя нашы ацэнкі літаратурных з'яў часта супадалі. Аб'ядналі нас і ўспаміны аб Ленінградзе, дзе прайшло і яго і маё маленства, аб жыцці на граніцы, аб камсамольскай рабоце ў пагранічных умовах. Эдуард Самуйлёнак быў у свой час арганізатарам камсамольскай ячэйкі ў прыгранічным мястэчку Росіца на Полаччыне і ўдзельнічаў у барацьбе з парушальнікамі граніцы. Мне ўмовы жыцця і працы на граніцы былі таксама добра знаёмы, бо я на некалькі гадоў раней, з 1921 па 1924 год, служыў пагранічнікам і быў адначасова сакратаром камсамольскай арганізацыі ў прыгранічным раёне. Эдуард часта расказваў мне пра асобныя эпізоды на граніцы, некаторыя з якіх увайшлі ў яго незакончаны раман «Пагібель воўка» і ў п'есу з той жа назвай.

Мне ўспамінаецца яго высокая, дужая постаць з шырокімі плячыма; светлыя і рэдкія, крыху хвалістыя валасы, гарбаваты нос, акуляры ў тоўстай рагавой аправе, пранізлівы позірк невялікіх шэрых, глыбока пасаджаных вачэй; глухі і нягучны, але з рашучымі інтанацыямі голас; катэгарычныя, заўсёды шчырыя, перакананыя і поўныя запалу выказванні аб літаратурных творах, аб людзях і падзеях, аб палітычных праблемах.





**Народны артыст БССР Канстанцін Быліч і Эдуард Самуйлёнак.**

Гэта быў сумленны і прынцыповы чалавек з цвёрдым і настойлівым характарам. Яго выказванні аб людзях і з'явах былі надзвычайна трапныя, выразныя, простыя. Меркаванні Самуйлёнка аб асобных пісьменніках, часам злыя і саркастычныя, часам дабрадушныя, але заўсёды дасціпныя і арыгінальныя, гучалі як афарызмы і запаміналіся надоўга. Ён быў непрымірымы і жорсткі да ворагаў, але да сяброў праяўляў адданасць і бескарыслівасць. Надзейны друг, ён не цярпеў адступленняў ад правіл маралі і этыкі, а да людзей несумленных і фальшывых быў бязлітасны.

Нарадзіўся Эдуард Самуйлёнак у 1907 годзе ў Пецярбургу. Бацька яго, Людвіг Сцяпанавіч, быў родам з Полаччыны. Ён працаваў спачатку чарнарабочым, потым швейцарам, прадаўцом газет, наборшчыкам у друкарні. У 1918 годзе ён быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію, а жонка яго, Мальвіна Вікенцьеўна, пераехала з дзецьмі на радзіму мужа, у вёску Бандзелі Дрысенскага раёна. Мясцовасць гэтую неўзабаве акупіравалі белапалякі, і сям'я была разлучана з бацькам.

Калі ў 1920 годзе, пасля вызвалення Беларусі, Людвіг Сцяпанавіч вярнуўся да сям'і і пачаў працаваць пільшчыкам, Эдуард узяўся яму дапамагаць. Ён хадзіў з бацькам на заработкі ў бліжэйшае мястэчка і па суседніх вёсках.

Атрымаць сістэматычную адукацыю Эдуарду не давялося. У Пецярбургу ён паспеў скончыць толькі падрыхтоўчую школу і перайшоў у другі клас польскай гімназіі. Потым вучыўся, але нядоўга, у сямігодцы. Ён так і застаўся з незакончанай сярэдняй адукацыяй, але веды яго ў розных галінах былі даволі шырокія і грунтоўныя. Яны былі набыты самастойна, па-за школай, у выніку настойлівай працы, з кніг і жыцця. Кнігам прысвячаў ён у юнацтве ўвесь свой вольны час. Ён браў іх у настаўнікаў, у бібліятэцы, у суседзяў. Ён працаваў у хаце-чытальні, рэдагаваў насценгазету, якую сам і афармляў.

Першай літаратурнай школай для Самуйлёнка была газета. Увосень 1928 года ён становіцца селькорам акруговай газеты «Чырвоная Полаччына», на старонках якой друкаваліся спачатку яго допісы, а потым артыкулы і нарысы пра калектывізацыю, культурна-асветную работу на вёсцы, пра жыццё на граніцы.

У Бандзелях ён жыў да прызыву ў Армію. Вярнуўшыся з Арміі, адкуль ён быў дэмабілізаваны па хваробе раней тэрміну, Самуйлёнак пасяліўся ў Полацку. Ён паступіў на працу інспектарам памольнага збору і адначасова быў пазаштатным супрацоўнікам газеты «Чырвоная Полаччына». Па характару сваёй службы ён часта ездзіў па млынах, і гэтыя паездкі выкарыстоўваў для збору літаратурных матэрыялаў. У 1930 го-

дзе Самуйлёнак быў залічаны на штатную пасаду літаратурнага работніка газеты. Потым ён быў загадчыкам аддзела, а з канца 1931 года і да свайго пераезду ў Мінск — адказным сакратаром рэдакцыі.

Полацкі перыяд яго жыцця быў вельмі плённы. На працягу 1931—34 гг., не пакідаючы працы ў газеце, Эдуард Самуйлёнак напісаў апавяданні і аповесці «Русалчыны сцежкі», «Цагліна каземата», «Паляўнічае шчасце», «Тэорыя Каленбрун», «Пункт апоры», «Герой нацыі». У 1934 годзе ён пераехаў у Мінск, дзе цалкам прысвяціў сваё жыццё літаратурнай працы.

У маі 1935 года мы з Эдуардам Самуйлёнкам, Міколам Хведаровічам і Барысам Мікулічам паехалі ў Грузію для абмену творчым вопытам і ўстанаўлення культурных сувязей паміж двума братнімі рэспублікамі. Паездка адбылася па непасрэднай ініцыятыве Максіма Горкага. Адначасова грузінскія пісьменнікі наведалі з гэтай жа мэтай Беларусь. У выніку гэтых паездак з'явіліся ў Грузіі, на грузінскай мове, творы на беларускія тэмы, а ў Беларусі выйшаў раман Самуйлёнка «Будучыня».

На працягу трохмесячнага падарожжа мы наведалі цэнтры горнай прамысловасці Грузіі — Чыятуры і Зэстафоні, былі на схілах славутай гары Казбек, у гарадах Кахетыі — Тэлаві і Сігнахі, у вінаробчых гаспадарках Цынандалі і Напарэулі, на радзіме Маякоўскага ў Багдадзі і Кутаісі, у старажытнай сталіцы Грузіі Мцхеце, на буйных гідраэлектрастанцыях «Загэс» і «Рыёнгэс», на грандыёзных для таго часу работах па асушэнню Калхідскай нізіны, на чайнай фабрыцы «Чаква» і на цытрусавых плантацыях Аджарыстана. Сустрэчы з шахцёрамі і рабочымі марганцавага завода, з пастухамі горных раёнаў, вінаробамі, паляўнічымі і рыбакамі ўзбагацілі маладога пісьменніка новымі ўражаннямі, пашырылі яго кругагляд.

Пад канец нашай сумеснай паездкі я і Мікола Хведаровіч засталіся на два тыдні ў Аджарыстане, Барыс Мікуліч паехаў у раён Казбека, а Эдуард Самуйлёнак вярнуўся ў Поці і жыў там яшчэ некаторы час адзін, збіраючы матэрыял для задуманага ім рамана. Жывучы ў Поці, Самуйлёнак пазнаёміўся з дырэктарам мясцовага краязнаўчага музея, вядомым паляўнічым і археолагам Гулія і з галоўным інжынерам Калхідбуда Гегечкоры. Ён хадзіў з імі па лясах і балотах Мінгрэліі, плаваў на маторнай лодцы па шырокаму і мнагаводнаму Рыёну, па соннай і павольнай Капарчы. Потым мы ўсе разам сустрэліся зноў у Тбілісі.

Сваім раманам, напісаным у выніку гэтых падарожжаў, Эдуард Самуйлёнак пашырыў тэматычныя рамкі тагачаснай беларускай літаратуры. Гэта быў першы буйны эпічны твор на беларускай мове, які знаёміў чытача з жыццём і барацьбой працоўных Грузіі і гэтым спрыяў культурнаму збліжэнню народаў, яшчэ больш умацоўваючы іх непахісную дружбу.

Працуючы над раманам, пісьменнік вывучаў матэрыялы па гісторыі і этнаграфіі Грузіі, знаёміўся з грузінскай мовай, літаратурай і фальклорам. Жыццё і барацьбу грузінскага народа ён здолеў увасобіць у яркія вобразы, створаныя з глыбокім веданнем матэрыялу, з вялікай любоўю і павагай да сваіх герояў.

Мне давялося быць сведкам, як упершыню з'явіліся ў Эдуарда думкі, якія былі выказаны ім потым у рамане «Будучыня». Мне ўспамінаецца дзень, праведзены намі ў Мцхеце. Гэта было ў самым пачатку нашага падарожжа.

У невялікі гарадок, які быў калісьці старадаўняй сталіцай Грузіі, мы



прыехалі цудоўным майскім раннем. Мцхет раскінуўся ў горнай цясніне, на невялікім зялёным выступе паміж двух рэк. Ён знаходзіцца там, —

> ... где сливаяся шумят,
> Обнявшись, будто две сестры,
> Струи Арагвы и Куры.

З усіх бакоў абступілі яго высокія горы. Вакол зелянеюць сады, высяцца стройныя чынары. Горнае паветра зліваецца з духмяным водарам кветак. Недалёка ад каменнага моста, пабудаванага каля двух тысяч год назад, знаходзіцца на зялёным лузе, над бурлівай плынню Куры, магіла народнага героя, легендарнага Арсена з Марабды.

У гарадку-музеі ўсё авеяна ўспамінамі аб мінулым. Конусападобныя вежы старажытнай грузінскай архітэктуры ўзвышаюцца над маленькімі домікамі, над зялёнымі садамі, над мутнымі водамі Куры. За тоўстымі сценамі замка, за вежамі і байніцамі — руіны храма, пабудаванага ў X стагоддзі.

Са скрыпам і стогнам адчыніліся іржавыя вароты. Сівабароды стары ў цёмным адзенні ўводзіць нас пад высокія скляпенні.

Холад і паўзмрок. Магільная цішыня і спакой.

Эдуард глядзіць на старога. На вуснах яго з'явілася ўсмешка: «Ці не той гэта «забытый смертию» стары, які прывёў сюды калісьці Лермантава, а цяпер, праз якія сто год, паказвае гэтыя мясціны нам?» — ціха пытаецца ён і прыводзіць на памяць некалькі радкоў з «Мцыры»:

> Теперь один старик седой,
> Развалин страж полуживой,
> Людьми и смертию забыт,
> Стирает пыль с могильных плит,
> Которых надпись говорит
> О славе прошлой — и о том
> Как, удручён своим венцом,
> Такой-то царь в такой-то год
> Вручил России свой народ.

Перад намі тыя самыя пліты з надпісамі. Тут адбываліся падзеі, увекавечаныя ў паэме Лермантава. Усё тут нібы дрэмле між тоўстых муроў, пад высокімі скляпеннямі.

Доўга стаіць Эдуард, задумаўшыся, над меднай плітай, над помнікам даўно мінулых часоў. Запісвае нешта ў блакнот. Пабліскваюць акуляры з-пад насунутага на вочы капелюша.

Мы выходзім на бераг Куры. Тут ззяе сонца, зіхаціць сіняе неба. Высіцца магутная дамба ЗАГЭС. Над мутнай імклівай вадою ўзведзены велічныя гмахі электрастанцыі. А на супрацьлеглым беразе, на стромкіх голых скалах, відны цёмныя пячоры — жыллё першабытнага чалавека.

«Цікавыя мясціны, — гаворыць Эдуард. — Кожны крок па гэтай сцежцы пераносіць нас з аднаго тысячагоддзя ў другое».

Сапраўды, які надзвычайна рэзкі кантраст!

Колькі разоў, магчыма, глядзеў першабытны чалавек, які змагаўся за сваё жыццё з пячорным мядзведзем, адтуль, з супрацьлеглага берага, сюды, дзе знаходзяцца цяпер турбіны электрастанцыі. Перад яго цьмяным, несвядомым позіркам рассцілаліся тыя ж самыя голыя схілы скал, гэтак жа бурлілі і пеніліся жоўтыя воды Куры.

— Знік гэты чалавек, — гаворыць Эдуард, — і ніколі не даведаецца ён, што створана, што пабудавана тут, над бурнай ракой, розумам, воляй і творчым геніем яго патомкаў. А жыллё яго захавалася да нашага часу!

Нібы засталося знарок для супастаўлення, для гістарычных параўнанняў, для навуковых высадаў.

Мы падыходзім да сярэдзіны дамбы.

Помнік Леніну!

Рука вялікага правадыра паказвае на пераможаную стыхію, на жоўтыя, бурныя воды Куры, падпарадкаваныя волі чалавека.

Мерным і цвёрдым крокам ходзіць па дамбе вартавы. Вадзяны пыл, як дым, узнімаецца над ракой.

Шалёна кіпіць Кура ля каменных уступаў і белым вадаспадам абрушваецца ўніз. Няма мяжы яе шаленству. Але шаленства ракі не бясплённае: яно ператвараецца ў сілу, у электраэнергію, у святло. Яно рухае наперад прамысловае развіццё краіны.

На беразе, каля старажытнай вежы, узлез на дрэва прыгожы смуглявы хлапчук. Яму гадоў дзесяць. Ён глядзіць на нас жывымі цікаўнымі вачыма.

— Як цябе завуць? — пытаецца Самуйлёнак.

— Іліко.

Хлапчук саскочыў з дрэва і ветліва прыўзняў сваю маленькую чорную шапачку-тушынку. Эдуарду спадабалася яго далікатная манера размаўляць з дарослымі.

— Цудоўнае імя, бічо! — весела ківае яму Эдуард. — А кім жа ты будзеш, калі вырасцеш, дарагі?

— Лётчыкам, дзядзя.

Эдуард задаволены адказам.

— Пра гэткага хлопца варта напісаць добрую кнігу, — гаворыць ён. — Такім, як ён, належыць будучыня. Толькі ў мяне, калі я гэта здолею зрабіць, ён будзе жыць на беразе мора.

Тут, у Мцхеце, над бурлівай Курой, дзе паўсталі перад ім і старажытныя помнікі далёкага мінулага і жывыя вобразы сучаснасці, упершыню нарадзілася ў Эдуарда думка напісаць вялікі эпічны твор, прысвечаны барацьбе грузінскага народа.

У далейшым, у час паездкі ў Мінгрэлію, асабліва пасля таго, як Самуйлёнак пазнаёміўся бліжэй з работамі па пераўтварэнню вялікіх балот Калхідскай нізіны ў цытрусавыя плантацыі, думка гэтая набыла канкрэтныя формы. Яна знайшла сваё ўвасабленне ў рамане «Будучыня», адным з герояў якога з'явіўся маленькі, ветлівы і мужны Іліко — хлапчук, які марыў быць лётчыкам.

У рамане «Будучыня» з найбольшай сілай і выразнасцю праявілася мастацкая спеласць і талент пісьменніка. Гэты твор можна лічыць вяршыняй творчасці Самуйлёнка. У рамане

**Эдуард Самуйлёнак, Віталі Вольскі і грузінскі паэт Сандро Эулі. 1935 год.**





знайшло сваё поўнае ўвасабленне ўсё тое, што цікавіла і захапляла Самуйлёнка з самага пачатку яго літаратурнага шляху.

Некаторыя тады здзіўляліся: навошта маладому беларускаму пісьменніку пісаць пра Грузію, працаваць не на сваім нацыянальным матэрыяле? Былі і такія, што адносіліся да гэтай яго працы нават адмоўна, не разумеючы яе значэння не толькі ў справе ўмацавання дружбы народаў, але і для развіцця самой беларускай літаратуры.

Самуйлёнак не паддаваўся гэтым намаўленням і рашуча адхіляў дакоры. Ён не цярпеў нацыянальнай абмежаванасці і заўсёды лічыў, што не варта замыкацца ў вузка нацыянальныя рамкі, што трэба пашыраць тэматыку і праблематыку беларускай літаратуры. Ён хацеў пісаць і пісаў пра ўсё, што яго цікавіла і захапляла.

Бясспрэчна, дадатным для развіцця Самуйлёнка з'явілася тое, што маленства яго прайшло ў вялікім сталічным горадзе з перадавымі, рэвалюцыйнымі традыцыямі, у культурным і палітычным цэнтры Расіі Пецярбургу. Потым многа яму дала рабочая практыка ў асяроддзі людзей фізічнай працы, жыццё на граніцы і работа ў газеце. Ён многа чытаў, уважліва вывучаў творы класікаў марксізма-ленінізма.

З непрымірымасцю адносіўся ён да нацыяналістычных праяў, да супрацьпастаўлення адной нацыі другой. На гэтай глебе ў яго былі нават сутычкі з некаторымі пісьменнікамі. Ён збіраўся напісаць сатырычную камедыю, накіраваную супраць нацыяналістаў. Сатырычны вобраз паэта-нацыяналіста Шышкі выведзен ім і ў п'есе «Пагібель воўка».

Творчая думка яго не ведала ні геаграфічных, ні нацыянальных граніц. Тэматыка твораў Самуйлёнка, напісаных на працягу васьмі год яго літаратурнай працы, вельмі разнастайная. У яго творах мы бачым класавую барацьбу ў беларускай вёсцы ў першыя дні калектывізацыі («Русалчыны сцежкі») і станаўленне новага чалавека ва ўмовах сацыялістычнага ладу («Паляўнічае шчасце»); эпізоды рэвалюцыйнай барацьбы супраць царызма («Цагліна казематa») і грамадзянскай вайны («Пункт апоры»); адлюстраванне вайны супраць панскай Польшчы ў 1920 годзе («Дачка эскадрона») і рэвалюцыйнай барацьбы ў краінах капіталістычнага Захаду («Тэорыя Каленбрун» і «Герой нацыі»), жыцця на граніцы («Пагібель воўка») і стварэння савецкай Грузіі («Будучыня»).

Усе гэтыя творы Самуйлёнка прасякнуты гарачай любоўю да Радзімы, актыўным сцверджаннем савецкага ладу жыцця. Радзімай для яго з'яўляецца не толькі Беларусь, але ўсе рэспублікі нашай агульнай вялікай бацькаўшчыны — Савецкага Саюза. Калі «Будучыня» напісана на грузінскім матэрыяле і дзейнічаюць у ёй пераважна грузіны, то героямі «Пункта апоры» з'яўляюцца рускія і латышы. У «Тэорыі Каленбрун» дзейнічаюць палякі, у «Героі нацыі» — немцы, у апавяданні «Урачыстая меса» — іспанцы. Героямі яго твораў выступаюць рабочыя, сяляне, інтэлігенты, асобы розных узростаў, прафесій і нацыянальнасцей. Падзеі гэтых твораў адбываюцца і ў горадзе, і на вёсцы, і на прадпрыемстве, і ў калгасе.

Творчы кругагляд Эдуарда Самуйлёнка быў вельмі шырокі, цікавіўся ён многім. Любіў літаратурныя творы з акрэсленым сюжэтам і стройнай кампазіцыяй, з напружаным дзеяннем, з дынамічным развіццём падзей, з цікавымі і нечаканымі завязкамі і развязкамі. Усё гэта было характэрным і для яго ўласнай творчасці.

Любімым рускім пісьменнікам Эдуарда Самуйлёнка быў Максім Горкі. Вельмі блізкія яму былі творы Купрына. Ён лічыў Купрына вы-

датным майстрам апавядання, у якога многаму можна навучыцца. З захапленнем разбіраў ён змест апавяданняў Купрына «Афіцэры», «Гамбрынус» і «Штабс-капітан Рыбнікаў». Высока ставіў ён такія творы, як «Блуканне па пакутах» А. Талстога. З савецкіх пісьменнікаў свайго часу ён лічыў блізкім сабе Лаўранёва. З паэтаў любіў Эдуарда Багрыцкага. У юнацтве Самуйлёнак знаходзіўся пад моцным уплывам Джэка Лондана, Роберта Стывенсона і А. Конан-Дойля. Ён добра ведаў гэтых пісьменнікаў, часта іх успамінаў і перачытваў, асабліва першых двух.

Яшчэ ў юнацтве пазнаёміўся ён цераз свайго бацьку, які таксама любіў чытаць кнігі і не забываў родную мову, з творамі Францішка Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэта абудзіла ў ім цікавасць да мастацкага слова на беларускай мове, якая раней, ва ўмовах жыцця ў Пецярбургу, была яму амаль незнаёма.

У Бандзелях, на радзіме бацькі, пра якую ён ведаў спачатку толькі па расказах і ўспамінах Людвіга Сцяпанавіча, Самуйлёнак апынуўся ў народнай моўнай стыхіі. З гэтага свайго акружэння ён чэрпаў багатыя моўныя запасы, якімі карыстаўся потым у сваёй літаратурнай працы і якія асабліва праявіліся ў п'есе «Пагібель воўка» з яе бліскучымі, чыста народнымі дыялагамі. Кожны персанаж гэтай п'есы гаворыць сваёй уласнай, каларытнай і характэрнай мовай, багатай рознымі адценнямі. У Эдуарда Самуйлёнка быў добры густ на жывое трапнае слова.

Ён вучыўся ў прадстаўнікоў старэйшых пакаленняў беларускай прозы і драматургіі, у такіх пісьменнікаў, як Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны, але разам з гэтым сам прыносіў у беларускую літаратуру сваё новае, арыгінальнае, уласцівае іменна яму.

Гэта ў першую чаргу — умелае спалучэнне высокай ідэйнасці зместу з вострым і напружаным сюжэтам, паглыбленай псіхалагічнай характарыстыкі героя з імклівым і шпаркім развіццём падзей, з драматычнасцю сітуацый, з лаканічнасцю выкладу. Ён умеў карыстацца словам эканомна, не кідаў яго на вецер. Ён не любіў павольнай, замаруджанай апавядальнасці, не любіў натуралістычнага апісальніцтва.

Самуйлёнак быў цікавым і дасціпным субяседнікам. Любіў пагаварыць на літаратурныя і прыродазнаўчыя тэмы. Любіў расказваць пра сваю працу інспектарам памольных збораў у канцы дваццатых гадоў, пра свае паездкі па млынах Полаччыны, пра дзіўныя і незвычайныя падзеі і прыгоды, пра розных цікавых людзей, з якімі яму даводзілася сустракацца. У яго была добрая памяць і выдатны дар апавядальніка-імправізатара, яго ахвотна слухалі. Ён ведаў мноства цікавых гістарычных фактаў, любіў мемуарную літаратуру. Асабліва здзіўляў ён нас сваім дасканалым веданнем гісторыі Польшчы. Творчая праца была для яго непарыўна звязана з глыбокім і ўсебаковым вывучэннем таго, аб чым ён надумаў пісаць. Па сваёй натуры, па складу свайго характару Эдуард Самуйлёнак быў даследчыкам. Гэта спалучалася ў яго з вялікай энергіяй, рухавасцю, любоўю да паездак і падарожжаў.

Эдуард любіў нягучна спяваць польскія старадаўнія песні, асабліва рэвалюцыйную песню «Чырвоны штандар» і яшчэ адну, таксама рабочую песню, якая пачынаецца словамі аб тым, што слязамі заліты свет бязмежны (назвы яе не помню). У яго быў добры музыкальны слых, але голас слабы, глухаваты.

Працаваў ён многа і плённа, не шкадуючы свайго здароўя, але яго творчы і жыццёвы шлях абарваўся рана. У 1936 годзе, калі Эдуард Самуйлёнак працаваў над раманам «Будучыня», у яго праявілася і пачала хутка развівацца цяжкая хвароба — туберкулёз горла. Ён не звяртаў на яе ўвагі, не змяняў свайго рэжыму і лячыцца сур'ёзна не хацеў. Яму здавалася, што ён здолее перамагчы хваробу і без лекаў, адной толькі сілаю свайго ўпартага і цвёрдага духу. Будучы хворым, ён закончыў у 1938 годзе першую кнігу рамана і падрыхтаваў зборнік апавяданняў «Дачка эскадрона». Адразу пасля гэтага ён напісаў драму «Пагібель воўка» з жыцця прыгранічнага калгаса, але ўбачыць прэм'еру сваёй п'есы на сцэне тэатра яму не давялося.




Эдуард Самуйлёнак ва ўзросце 6 год.

Эдуарда Самуйлёнка не стала 12 лютага 1939 года, за два месяцы да прэм'еры. Ён памёр у росквіце творчых сіл і магчымасцей, поўны няздзейсненых планаў і задум. Яму было ўсяго трыццаць два гады. «Не доўгім быў жыццёвы шлях Эдуарда Самуйлёнка, — пісаў пра яго Якуб Колас. — Ён толькі ступіў на парог свайго пісьменніцкага поўдзеня. Яго выключнае дараванне шырокага мастацкага дыяпазону не паспела яшчэ разгарнуцца ва ўсю сваю красу і сілу. Гэта быў пісьменнік з ярка акрэсленым, сугуба сваім мастацкім голасам».

Янка Купала прысвяціў памяці Самуйлёнка верш, у якім назваў яго крылатым сокалам:

«Дружа мой, сокале, ясны, крылаты»...

Эдуард Самуйлёнак фармальна не быў членам партыі, але творы яго прасякнуты духам партыйнасці, і ў гэтым сэнсе яны могуць служыць добрым прыкладам, узорам для нашых маладых пісьменнікаў. Для яго было характэрна высокае і прынцыповае разуменне літаратуры як справы найвялікшага грамадскага значэння. Яму было ў высокай ступені ўласціва пачуццё адказнасці пісьменніка перад сваім народам. Ён жыва адгукаўся на важнейшыя падзеі свайго часу, вырашаючы ў сваіх творах актуальныя праблемы грамадскага жыцця. І ў «Паляўнічым шчасці», і ў «Будучыні», і ў «Пагібелі воўка» ён паказваў і разумеў жыццё і яго перспектывы з пункту гледжання тых задач, якія ставіла і ставіць перад народам і краінай камуністычная партыя. Для яго гэта была справа арганічнай унутранай патрэбнасці, глыбокай перакананасці.

Яркае, незвычайнае, цікавае ён шукаў і знаходзіў у навакольным жыцці, у рэальнай сапраўднасці, у звычайным і штодзённым. Рамантычнае Самуйлёнак бачыў у практыцы сацыялістычнай працы, у барацьбе за ажыццяўленне сваёй запаветнай мары. Рамантыка Самуйлёнка — гэта рамантыка гераічнай барацьбы працоўных за сваё вызваленне ў мінулым, рамантыка самаадданай гераічнай працы ў сучасным. Цікавае, незвычайнае, рамантычнае Самуйлёнак бачыў і паказваў чытачу ў творчым энтузіязме, уператварэнні свядомай рэвалюцыйнай мэты ў сапраўднасць, у

тым новым, што стварае савецкі народ у горадзе і на вёсцы пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі. Драматызм ён бачыў у перамаганні цяжкасцей і перашкод, у барацьбе з варожымі сіламі рэакцыі, у змаганні з фашызмам у краінах Захаду. Позірк яго, як пісьменніка, заўсёды быў накіраваны наперад, у заўтрашні дзень.

Героі Самуйлёнка імкнуцца да шчасця народа, да лепшага жыцця, яны непахісна верацъ у будучыню, змагаюцца за ажыццяўленне сваёй мары. Яны змяняюць жыццё, самі змяняюцца, растуць і ўдасканальваюцца ў працэсе гэтай барацьбы. Такім быў і ён сам у жыцці — энергічны, дзейны, мэтанакіраваны. Заўсёды імкнуўся наперад, пераадольваючы перашкоды.

Усім рэалістычным героям Самуйлёнка ўласціва рамантычная мара. У «Будучыні» інжынер Андрэй Міхайлавіч марыць аб асушэнні балот, аб ператварэнні Калхіды ў квітнеючы сад; паляўнічы Тапурыя марыць аб светлым, шчаслівым жыцці; аб справядлівасці і волі мараць сяляне-паўстанцы; аб сацыялістычнай Грузіі мараць камуністы. Яны не толькі мараць, але і змагаюцца за ажыццяўленне сваіх мар. І мары іх не разыходзяцца з жыццём. Яны ажыццяўляюцца ў барацьбе, у дзеянні. Яны рухаюць наперад развіццё рэчаіснасці, яны ператвараюцца ў рэальнасць.

Для творчай манеры Эдуарда Самуйлёнка характэрна яснасць, лаканічнасць, спакойная ўраўнаважанасць. У творах яго няма нічога лішняга, непатрэбнага. Назіральны і ўважлівы, трапны і дакладны ў апісанні, Самуйлёнак праяўляе строгасць і эканомнасць у адборы дэталей. Ён адбірае толькі тое, што неабходна для характарыстыкі людзей і абставін, што павінна ствараць у чытача адпаведны настрой, што можа даць яму найбольш яснае, поўнае і правільнае ўяўленне пра абставіны, у якіх дзейнічае чалавек. Пры наяўнасці моцнага сюжэта, унутранага драматызму і дынамічнай напружанасці падзей моманты апавядальнага, бытавога і псіхалагічнага парадку зліваюцца ў яго творах у адно арганічнае цэлае.

Эдуард Самуйлёнак добра ведаў людзей. Гэта быў тонкі і ўдумлівы псіхолаг, але ў яго творах цяжка знайсці падрабязныя адступленні з апісаннем псіхалагічнага стану герояў. Характары людзей ён раскрывае ў дзеянні, праз іх учынкі і паводзіны, праз іх гутаркі і размовы, найбольш пры дапамозе змястоўнага дыялагу, імклівых і трапных рэплік, якія гучаць заўсёды дарэчы.

Персанажам сваіх празаічных вершаў Самуйлёнак амаль ніколі не дае ўласных аўтарскіх ацэнак. З'явы і падзеі, учынкі і паводзіны людзей ён апісвае так, каб чытач сам зрабіў правільны вывад.

Для сваіх герояў Самуйлёнак часта стварае незвычайныя сітуацыі. Яго героі часта трапляюць у выключныя абставіны, у якіх асабліва выразна праўляюцца іх найлепшыя якасці перадавых сыноў народа, людзей з моцнай воляй, смелых, высакародных і самаадданых змагароў за светлую будучыню.

Творы гэтага майстра прозы і драматургіі, прысвечаныя чалавеку стваральнай працы і барацьбіту-рэвалюцыянеру, прасякнутыя нянавісцю да фашызма, да ўсяго рэакцыйнага, да ўсіх ворагаў чалавецтва, з'яўляюцца ўзорам высокай ідэйнасці, патрыятызму, інтэрнацыянальных пачуццяў.

Тое, што стварыў Эдуард Самуйлёнак на працягу свайго нядоўгага жыцця, трывала ўвайшло ў гісторыю беларускай літаратуры. Ён заняў пачэснае месца і ў многанацыянальнай літаратуры Савецкага Саюза.

## *Насустрач 40-годдзю ВЛКСМ*

Якаў РУБЕНЧЫК

# ДВА З'ЕЗДЫ

Мне выпала шчасце быць запрошаным на XX з'езд ЛКСМБ. Для чалавека першага камсамольскага пакалення пабачыць сваімі вачамі амаль праз сорак год тое, як вырас, узмужнеў і загартаваўся камсамол, — гэта ж сапраўды радасная падзея.

Акруговы Дом афіцэраў. Глядзельную залу, залітую морам электрычнага святла, запоўнілі дэлегаты і госці. На сцэне, на фоне алых сцягоў і барэльефа Леніна, — макеты пяці ордэнаў, якія сімвалізуюць баявыя і працоўныя подзвігі камсамола.

Са справаздачнага даклада першага сакратара Глеба Крыуліна аб дзейнасці ЦК ЛКСМБ перад дэлегатамі паўсталі новыя велічныя справы нашых юнакоў і дзяўчат. Гэта яны ўнеслі ў камсамольскую скарбонку ў гонар 40-годдзя ВЛКСМ 132 мільёны рублёў за кошт эканоміі і беражлівасці ў прамысловасці. Гэта з іх асяроддзя выйшла шмат таленавітых арганізатараў і рацыяналізатараў вытворчасці.

Шмат зрабілі сельскія камсамольцы ва ўздыме жывёлагадоўлі. На жывёлагадоўчых фермах рэспублікі цяпер працуе 27 тысяч членаў ВЛКСМ — у тры разы больш, чым было да верасьнёўскага пленума ЦК КПСС. Па пачыну моладзі калгаса «Камсамол Гомельшчыны», якая абавязалася ў 1958 годзе вырасціць сотні цялят у асабістых гаспадарках і перадаць на калгасную ферму, камсамольцы рэспублікі законтрактавалі 360 тысяч цялят.

У калгасах Беларусі ў 1957 годзе працавала 10 тысяч маладзёжных звенняў па вырошчванню кукурузы, ільну, канапель і цукровых буракоў. За працоўную доблесць каля 300 сельскіх камсамольцаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

А колькі добрых спраў зроблена моладдзю ў галіне палітычнай асветы і мастацкага выхавання, у галіне фізкультуры і спорту! За апошнія два гады спартсмены БССР 320 разоў абнаўлялі рэспубліканскія рэкорды, устанавілі

17 саюзных і 10 сусветных рэкордаў, сустракаліся ў таварыскіх спаборніцтвах са спартсменамі Кітая, Польшчы, Югаславіі, Фінляндыі.

Седзячы ў раскошнай зале, сярод святочна апранутых дэлегатаў-ардэнаносцаў, маладых людзей з універсітэцкімі значкамі, я міжвольна прыгадаў сваё маленства, сваё камсамольскае юнацтва. Перад вачамі прайшлі яркія эпізоды і жывыя малюнкі першага з'езда камсамола Літвы і Беларусі. То быў суровы і грозны час. Дыханне жорсткіх баёў з белапалякамі, блізкасць фронта адчувалася ўсюды. Напярэдадні з'езда Чырвоная Армія вызваліла Беларусь.

Першы з'езд камсамола Літвы і Беларусі сабраўся 24 верасня 1920 года. *

З мінскімі камсамольцамі мне давялося сустракаць дэлегатаў з паветаў рэспублікі. Вакзал быў тады спалены. Там, дзе цяпер таварная станцыя, размяшчаўся часовы дашчаты барак. Паязды хадзілі без графіка і былі забіты пасажырамі, галоўным чынам, вайскоўцамі.

Бабруйскія дэлегаты прыехалі на з'езд на тармазах таварнякоў, барысаўскія — на вагонах. Дэлегацыі з заходніх паветаў прыбывалі, як правіла, таварнымі эшалонамі, у якіх везлі раненых і хворых.

Мазыране памылкова трапілі замест Мінска ў Корасцень. Адтуль на з'езд яны дабраліся ў вагонах, дзе везлі коней на фронт.

Так збіраліся на з'езд дэлегаты, нягледзячы на тое, што мелі пры сабе мандаты, у якіх прапаноўвалася: «Усім партыйным, грамадскім, дзяржаўным, вайсковым, чыгуначным і іншым арганізацыям аказваць усялякае садзеянне»...

Дэлегаты вылучаліся сярод гарадской моладзі. Счарнелыя, схуднелыя хлопцы і дзяўчаты хадзілі сваёй талакой, нібы баючыся заблудзіцца ў людской сумятні. Вопратка на іх была пераважна вайсковая — ад чатырох армій адразу: шынялі мікалаеўскія, чобаты і чаравікі — кайзераўскага паходжання, кіцелі — польскія, гімнасцёркі і шапкі з парэпанымі брылямі і вялікімі зоркамі — чырвонаармейскія. На штанах разнастайныя латкі: з сукна, з парусіны, чортавай скуры... Мільгалі і сялянскія світкі, ватоўкі, а таксама пінжакі, перашытыя з шынялёў. Дзяўчаты былі апрануты не так стракатa, але акуратна. Тыя ж ватоўкі выглядалі на іх зграбней. У адной, здаецца, несвіжанкі, з-пад ватоўкі нават вытыркаўся беласнежны карункавы каўнерык.

Нас вельмі здзівіла, што некаторыя дэлегацыі цягнулі з сабою велізарныя бляшанкі. «Нашто яны?» — здзіўляліся мы. Хутка ўсё стала зразумела. Напярэдадні з'езда Цэнтральнае Бюро камсамола дало тэлеграму ўсім сваім камітэтам: «Захапіце посуд для атрымання двух пудоў газы, інакш не атрымаеце».

Аўтобусаў і таксі тады і ў паміне не было. Конка — адзіны від мінскага транспарту — не хадзіла, бо акупанты, адступаючы, пагналі коней у абоз. Давялося ўсім ісці ў горад пехатою.

Любавацца Мінскам тады не выпадала. Парадныя вуліцы — Савецкая і Ленінская,— па якіх мы ішлі, скрозь чарнелі абгарэлымі дамамі і магазінамі, якія былі крыж-на-крыж забіты дошкамі. Зусім зніклі па баках агарожы, іх разабралі на паліва. Ля тых жа магазінаў, што працавалі, стаяла доў-

* Дэлегаты ад Беларусі былі прадстаўлены яшчэ на з'ездзе камуністычных саюзаў моладзі Заходняй Камуны, які адкрыўся 20 снежня 1918 года. Гэты з'езд аб'яднаў камсамольскія арганізацыі Мінска, Віцебскай і Магілёўскай губерняў, паклаўшы пачатак існаванню камсамола БССР, як неад'емнай часткі РКСМ.



гая чарга — старыя, жанчыны, падлеткі.

Вось і двухпавярховы будынак — былая рэзідэнцыя губернатара (цяпер музычная школа-дзесяцігодка). Тут пад адной страхой з Цэнтральным выканаўчым камітэтам змяшчалася ЦБ КСМ ЛБ. Тут рэгістравалі дэлегатаў, выдавалі мандаты, талоны на кватэру і на абеды.

— А білеты ў лазню? — пацікавіўся адзін з дэлегатаў.— Я ж ехаў на вагоне!..

— Так, добра б папарыцца з дарогі,— згадзіліся з ім і іншыя хлопцы, такія ж перапэцканыя, як і ён.

Дзяўчына-рэгістратар, як бы апраўдваючыся, гаварыла:

— З ахвотай выдала б, але білетаў няма.

Прышоў загадчык гаспадаркі і растлумачыў, што з двух мінскіх лазняў працуе толькі адна — на Ніжнім базары. Білеты і туды ўжо размеркаваны па прафсаюзах, але гэта яшчэ не бяда — якую сотню можна было б выпрасіць для дэлегатаў, аднак з-за недахопу паліва лазня працавала толькі два дні ў тыдзень, якія якраз не супадалі з работай з'езда.

— Я вам параю, — нарэшце знайшоўся загадчык гаспадаркі,— памыйцеся пад кранам, — і паказаў праз акно ў сад.

У чарзе ля століка мандатнай камісіі дэлегаты знаёміліся, распытвалі адзін у другога пра справы, пра жыццё.

За невялікі свой шлях — два гады — камсамольцы зрабілі многа вялікіх спраў у падполлі, на франтах, у партызанскіх атрадах. Мінскія таварышы ў час белапольскай акупацыі шмат папрацавалі ў прафсаюзах, ахоўвалі камуністаў, наладжвалі сувязь, друкавалі адозвы, распаўсюджвалі пракламацыі. Натан Маляўскі, які прысутнічаў тут, расказаў, як ён злаўчыўся падкінуць пачак адозваў у рэдакцыю белагвардзейскай газеты «Курьер Минский». Назаўтра ў перадавым артыкуле газеты пісалася: «З выпадку таго, што гнусныя бальшавікі забіраюцца ўжо ў нашы ўстановы, беражыцеся іх, як агню...»

Бабруйчане расказваюць, як ва ўмовах падполля яны наладзілі сувязь з рабочай моладдзю праз вячэрнія школы і юнацкія секцыі пры прафсаюзах. Камсамольцы стварылі склады літаратуры і забяспечвалі лістоўкамі сельскія камуністычныя ячэйкі. Пра такія ж справы расказвалі і камсамольцы Барысава, Мазыра, Маладзечна, Слуцка...

Ініцыятыва ў гутарцы перайшла да дэлегатаў-партызан. Яны прыгадалі, як па закліку партыі камсамольцы стварылі паўстанцкія атрады і рабілі напады на абозы, узрывалі масты, разбуралі чыгункі, пускалі пад адхон эшалоны. Маладзечанскія партызаны распрацавалі план крушэння поезда, на якім меўся ехаць у Мінск сам Пілсудскі. На станцыі Аляхновічы яны накіравалі гэты поезд у тупік. Ён разбіўся ўшчэнт, але там аказаліся салдаты. Пілсудскі, як потым выявілася, ехаў наступным поездам.

...Дзяўчына са славутага атрада імя Розы Люксембург паведаміла аб гераізме літоўскіх камсамольцаў. Белапалякі ў ноч на 9-е красавіка 1919 года нечакана ўварваліся ў Вільню. Але маладыя патрыёты ўзняліся на абарону. Некалькі гадзін, пакуль падаспелі чырвонаармейскія часці, камсамольцы стрымлівалі націск ворага. А потым разам з чырвонаармейцамі трое сутак не выпускалі з рук зброі. Змагаліся за кожны дом, за кожны завулак. З паўстанцаў мала хто застаўся жывы.

Тая ж дзяўчына-партызанка расказала яшчэ:

— Камсамолец па клічцы «Коля» ўцёк з Мінскай турмы ў Вільню. Дэфензіўшчыкі спрабавалі выведаць у жонкі пра яго, але нічога не дазналіся. Потым, дазнаўшыся, што жандары выведалі, дзе яе муж, жанчына з дзіцем на руках рашыла папярэдзіць яго аб небяспецы. У вагоне заўважыла, што за ёю сочаць агенты, прыкінуўшыся кавалерамі. Жанчына прымае смелае рашэнне: ветліва просіць іх пабыць з дзіцем, пакуль яна сходзіць на станцыю па малако. Так была выратавана віленская падпольная арганізацыя ад правалу.

Мінчанін Барыс Алікер сядзеў у турме за актыўную рэвалюцыйную дзейнасць. Алікер расказаў дэлегатам, як камсамольцы мужна трымаліся ў белапольскіх засценках. Іх білі, выкручвалі рукі, клалі на галаву гарачыя жалезныя абручы, калолі іголкамі пазногці, але нічога не дапамагала.

У засценку пад Кракавам мінскія камсамольцы разам з іншымі арыштаванымі аб'явілі галадоўку. За гэта 15 чалавек былі пераведзены ў другую турму, але астатнія трымаліся... На шосты дзень у камеру прышоў пракурор.

— Вы чаму днём ляжыце? — спытаў ён у мінчаніна Богіна.

— У нас ёсць прадстаўнік, звяртайцеся да яго, — быў адказ.

— На што вы скардзіцеся? — запытаў пракурор у другога вязня.

— Звяртайцеся да прадстаўніка!

Пракурор вымушан быў загаварыць з іхнім прадстаўніком, французам па нацыянальнасці.

— Чаго вы хочаце?

— Мы, — адказаў той, — жадаем, каб вярнулі ўсіх таварышаў у нашу камеру і пакаралі турэмшчыка за тое, што ён збіў палітзняволенага.

Увечары гэтае патрабаванне было задаволена. Вязні спынілі галадоўку.

Прадстаўнік са Слуцка Саша Кабанаў, які прысутнічаў пры расстрэле чатырнаццаці маладых партызан-паўстанцаў, расказаў, як мужна яны трымаліся, ідучы на кару. Закаваныя ў ланцугі, змучаныя, партызаны ішлі, падтрымліваючы адзін аднаго. Іх шчыльна акружалі конныя жандары. Як бы кідаючы выклік ворагу, чатырнаццаць паўстанцаў заспявалі:

«Смело, товарищи, в ногу!..»

Іх падвялі да свежай магілы. Ніхто не ўзяў павязку на вочы. Горда стаялі яны, маладыя, рослыя, як дубы.

— Няхай жыве савецкая ўлада! — крыкнуў Пятро Стэфанаў.

Усе сябры паўтарылі за ім:

— Няхай жыве камунізм!

Залп заглушыў апошнія словы.

...Доўга яшчэ гаварылі дэлегаты аб тым, што перажылі, што рабілі самі.

Потым пачалося расквартараванне. Амаль усе дэлегаты размясціліся ў гасцініцы «Еўропа». Ложкамі былі дошкі на козлах. Пасцеллю — матрацы і мяшэчкі, напакаваныя саломай. Накрываліся, чым папала. Для мазыран, якія прыбылі крыху пазней, месц у гасцініцы не хапіла. Іх пасялілі на тры дні ў кватэры аднаго буржуя на Юр'еўскай вуліцы.

Харчаваліся ў рэстаране пры гасцініцы. Там яшчэ захавалася дарэвалюцыйная раскоша: іграла музыка, далікатныя афіцыянты ў чорных сурдутах падавалі ежу ў прыгожым посудзе. Аднак кармілі ў «Еўропе» далёка не раскошна. У першы дзень падалі бульён з воблай і смажанае з каніны. На наступны дзень — зацірка. Але на гэта ніхто не звяртаў увагі. За сталамі чуліся ажыўленыя спрэчкі, жарты.



Паседжанні з'езда праходзілі ў клубе імя Карла Маркса. Пасля выбараў прэзідыума і мандатнай камісіі дэлегаты прыступілі да работы. Парадак дня складаўся з дзесяці пытанняў. Справаздачу аб дзейнасці Цэнтральнага Бюро камсамола Літвы і Беларусі зрабіў Барыс Цэйтлін.

Цэнтральнае Бюро прызначалася Цэнтральным Камітэтам РКСМ. Яго члены прыбылі ў Мінск следам за Чырвонай Арміяй і на вызваленай тэрыторыі аднаўлялі камсамольскае жыццё, праводзілі падрыхтоўчую работу да з'езда. Быў створаны апарат ЦБ з пятнаццаці актывістаў Мінскай арганізацыі і таварышаў, якія прыбылі з ЦК РКСМ. Яны працавалі ў мясцовых арганізацыях старшынямі ці сакратарамі. Падрыхтаваўшы новы актыў, ішлі далей, захапіўшы з сабою «Азбуку камунізма», паперу, чарніла і бутэльку з газай.

Камсамольскія актывісты, асабліва інструктары, працавалі ў вельмі цяжкіх умовах. Начавалі ў халодных інтэрнатах ці клубах. Затое іх праца прыносіла добрыя вынікі. Саюзы моладзі дапамагалі партыі ў стварэнні прадатрадаў, у барацьбе з мяшэчнікамі і спекулянтамі, у дапамозе сем'ям чырвонаармейцаў і г. д.

Пасля прыняцця рэзалюцыі па справаздачы Цэнтральнага Бюро з'езд заслухаў даклады: аб камсамольскай рабоце ў вёсцы, аб сацыялістычным выхаванні рабочай моладзі, аб палітычна-асветнай, фізкультурнай рабоце і ваеннай падрыхтоўцы, аб юнацкім друку і інш.

На другі дзень з дакладам аб бягучым моманце выступіў сакратар Цэнтральнага Бюро кампартыі Літвы і Беларусі тав. Кнорын. Прывітаўшы дэлегатаў і пажадаўшы ім поспехаў, тав. Кнорын коратка расказаў аб ваенным становішчы Савецкай Расіі і абстаноўцы на Заходнім фронце. Ён гаварыў, што становішча Савецкай рэспублікі вельмі напружанае: белапалякі, атрымаўшы падтрымку Антанты, перайшлі ў контрнаступленне. Ён заклікаў усіх камсамольцаў мацаваць тыл і быць вернымі памочнікамі партыі ў разгроме ворага.

Сярод дэлегатаў адчуваўся баявы настрой. Слова прасілі многія. У ліку іншых горача выступіў хлопец са Старых Дарог. Ён расказаў пра тое, як яго землякі змагаліся з белапалякамі. У прыватнасці, мне запомніўся яго расказ пра камсамольца Перамейчыка, які ўзарваў склад з боепрыпасамі ў Старых Дарогах, а потым стварыў партызанскі атрад, узброіў яго і гераічна дзейнічаў на Случчыне. Са сваімі хлопцамі Перамейчык узарваў мост на рацэ Пціч і аб'явіў Савецкую ўладу ў чатырох валасцях.

Група таварышаў унесла прапанову аб мабілізацыі дваццаці працэнтаў дэлегатаў з'езда ў армію. Тав. Кнорыну ледзь удалося пераканаць дэлегатаў, што яны патрэбны зараз на месцах для падрыхтоўкі камсамола к пераходу ў падполле.

З вялікім уздымам было сустрэта прывітанне з'езду ад савецкай дэлегацыі на Рыжскай мірнай канферэнцыі. Разнеслася дружнае «ўра». Усе ўсталі і доўга апладыравалі.

На гэтым з'ездзе наш саюз быў перайменаваны ў «Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі», як баявы атрад РКСМ.

Пасля прыняцця рэзалюцыі па абмеркаваных пытаннях з'езд парашыў увайсці ў Камуністычны Інтэрнацыянал моладзі. Дэлегаты паслалі прывітанне рэвалюцыйнай моладзі Заходняй Беларусі, якая перайшла ў падполле. З'езд выбраў дэлегатаў на Усерасійскі з'езд РКСМ. У склад новага ЦК

КСМБ увайшлі дванаццаць таварышаў.

Белапольскія акупанты набліжаліся да Мінска. Многія дэлегаты адразу ж пасля з'езда не маглі вярнуцца дадому, бо там ўжо быў вораг. Іншыя спяшаліся, каб хутчэй падрыхтавацца да пераходу на нелегальнае становішча.

Новы склад ЦК быў вымушаны эвакуіравацца, не паспеўшы пачаць сваю работу. Толькі пасля заключэння Рыжскага дагавору, вярнуўшыся ў Мінск, ЦК пачаў працаваць у межах шасці паветаў. Заходняя Беларусь была занята белапалякамі. Віцебшчына, Гомельшчына і Магілёўшчына ўваходзілі тады ў склад РСФСР.

Прайшло амаль 38 год. Я сяджу сярод пасланцоў новага камсамольскага пакалення. Старшыня мандатнай камісіі дакладвае аб складзе дэлегатаў XX з'езда ЛКСМБ, і я прыгадаў склад дэлегатаў на першым з'ездзе. На ім прысутнічала 140 чалавек, якія прадстаўлялі каля трох тысяч камсамольцаў. Дэлегаты выбіраліся асобна ад кожнай павятовай і гарадской арганізацыі з разліку 1 дэлегат на 15 членаў і кандыдатаў КСМБ. Палову дэлегатаў складалі рабочыя і 15 працэнтаў — сяляне. Членаў і кандыдатаў партыі было 73. Астатнія — беспартыйныя. Зусім мала было дзяўчат — усяго 10. На з'ездзе не было прадстаўнікоў ад Брэста і Гродна — гэтыя гарады былі заняты белапалякамі. Пружанскія і вілейскія прадстаўнікі зацвярджаліся мандатнай камісіяй па спісу. Іх не паспелі выбраць: напярэдадні з'езда вораг заняў гэтыя раёны.

Цяпер дэлегаты XX з'езда ЛКСМБ прадстаўлялі 660 тысяч камсамольцаў. Толькі камсамольская арганізацыя калгаса «17-е верасня» Ружанскага раёна налічвае 260 чалавек. Гэта ў пяць разоў больш, чым было тады ва ўсім Слуцкім павеце. Самая шматлікая тады Бабруйская арганізацыя налічвала толькі 552 камсамольцы, Мінская — 340, Барысаўская — 240.

Сярод камсамольцаў рабочых і сялян у той час не было ніводнага з сярэдняй адукацыяй. Большасць рабочых і маладых сялян умела толькі распісацца ды чытаць па складах. У Мазырскім камітэце камсамола, напрыклад, на першым часе не вяліся пратаколы, бо не было людзей, якія маглі б іх пісьменна аформіць. Нават у Мінску яшчэ ў 20-х гадах да вытворчых ячэек прымацоўваліся камсамольцы-вучні, якія вялі камсамольскую гаспадарку.

К XX з'езду ЛКСМБ камсамольцаў рабочых з сярэдняй адукацыяй ці студэнтаў сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў без адрыву ад вытворчасці налічваюцца дзесяткі тысяч. Свінаркі, цялятніцы, даяркі, птушніцы з атэстатамі сталасці — хіба гэта не адчувальныя парасткі камунізма!

Нам, прадстаўнікам першага камсамольскага пакалення, ёсць што ўспомніць, ёсць што расказаць пра дні сваёй маладосці, якая прайшла ў цяжкіх умовах грамадзянскай вайны. Камсамольская гвардыя нашых дзён узбагачае героіку яе папярэднікаў выдатнымі подзвігамі, прадаўжае слаўныя камсамольскія традыцыі.



# БРАТЫ


Адам Іракліевіч.

У вёсцы Шаеўка Крычаўскага раёна, на Магілёўшчыне, добра памятаюць сям'ю Гусакоўскіх. Яшчэ да Вялікага Кастрычніка Іраклі Гусакоўскі з жонкай і дзецьмі падаўся ў горад — стаў кандуктарам на конецы ў Магілёве. Грошай, якія ён зарабляў, нехапала на пражыццё, і старэйшыя сыны Адам, Хведар і Язэп пакінулі вучобу і пайшлі на завод. У той час падлеткам плацілі капейкі, і сям'я ўсёроўна жыла ў нястачы.

Адразу ж пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Гусакоўскія вярнуліся ў родную вёску.

Першымі камсамольцамі ў Шаеўцы былі сыны Іраклія. Адам стаў сакратаром камсамольскай ячэйкі, у яе ўступілі Хведар, Язэп і іншыя вясковыя хлопцы.

Неўзабаве аднавяскоўцы праводзілі Адама Гусакоўскага ў Чырвоную Армію. Яго накіравалі на Заходні фронт змагацца з белапольскімі акупантамі.

Ужо з першых баёў камсамолец Адам Гусакоўскі паказаў сябе як герой. Пад Ігуменам (цяперашні Чэрвень) цяжка параніла камандзіра роты. Байцы разгубіліся. Выкарыстаўшы іх замяшанне, вораг пайшоў у контратаку. Камсамолец Адам Гусакоўскі выбег з шарэнгі і крыкнуў:

— Слухай маю каманду, рота! Два кулямёты — на левы фланг. Першы і другі ўзводы — за мной! — і ён сам кінуўся ўперад першым.

Вораг быў разбіты. Рота чырвоных байцоў на чале з Гусакоўскім першай уступіла ў Ігумен.

Так чырвонаармеец Адам Гусакоўскі стаў камандзірам роты. Цяжкі быў бой пад Брэстам. Белапалякі некалькі разоў пераходзілі ў контратаку, кідалі ўсе сілы, каб умацавацца на занятых пазіцыях. Адам Гусакоўскі з крыкам «ура» павёў сваіх байцоў у наступ. І вораг не вытрымаў штурмавой атакі...


Георгі Іракліевіч.



Язэп Іраклієвіч.

З роднай Беларусі, пасля выгнання белапольскіх інтэрвентаў, Адама Гусакоўскага накіроўваюць пад Петраград, на барацьбу з белагвардзейцамі і меншавікамі, якія ўзнялі мяцеж у Кранштаце.

На світанні ў паветра ўзвілася чырвоная ракета. Пачаўся гераічны штурм крэпасці. У адной з першых шарэнгаў ішла рота Адама Гусакоўскага. Байцы паўзлі па тонкім лёдзе, пад ураганным варожым агнём у Кранштат.

Камандзір падбадзёрвае байцоў:

— Адступаць няма куды — толькі наперад!

Лье свінцовы дождж, лёд пачырванеў ад крыві, але чырвонаармейцы ідуць. Вось ужо крэпасць. Рота ўрываецца на вуліцу. У гэты час, паранены варожай куляй, падае бясстрашны камандзір роты. Яго падхопліваюць сябры-воіны...

Пасля доўгага лячэння ў шпіталі Адам Гусакоўскі зноў у страі. Яго пасылаюць на вучобу ў Ваенную акадэмію імя Фрунзе. У хуткім часе смерць вырывае гэтага маладога героя-камандзіра з радоў арміі.

У жалобным маўчанні курсанты ваеннай акадэміі. Яны праводзяць у апошні шлях свайго таварыша, выхаванца Ленінскага камсамола, камандзіра Савецкай арміі Адама Гусакоўскага. Яго прах замураваны ў Крамлёўскай сцяне, там, дзе пахаваны лепшыя сыны і дочкі нашага народа, якія аддалі сваё жыццё за камунізм.



Хведар Іраклієвіч.

Выраслі і ўзмужнелі браты Адама Гусакоўскага. Язэп і Хведар у роднай Шаеўцы стварылі першы ў Крычаўскім раёне калгас імя Леніна.

Неўзабаве Язэп пайшоў у Чырвоную Армію. Ён пачаў вайну маёрам-танкістам, пад Масквой. Яго часць удзельнічала у славутым маскоўскім наступленні, а пазней гераічна білася на Курскай дузе. За гераізм і мужнасць, за выдатнае ўмелае кіраўніцтва камандзіру танкавай брыгады Язэпу Гусакоўскаму было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Танкісты брыгады Я. Гусакоўскага гераічна змагаліся з фашыстамі і пад Берлінам. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў баях пад Берлінам, камбрыгу Язэпу Гусакоўскаму



ў другі раз было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

На радзіме героя, у горадзе Магілёве, у парку імя 30-годдзя ВЛКСМ, устаноўлены яго бронзавы бюст.



Яўгені Іраклієвіч.

Язэп Іраклієвіч Гусакоўскі, як і яго два браты, служыць у радах Савецкай Арміі генералам.

Хведар стаў ваенным урачом.

Меншы — Георгі вывучыўся на настаўніка. Але і яму двойчы давялося брацца за зброю, каб абараняць заваёвы Вялікага Кастрычніка. Георгі адважна змагаўся з ворагам на возеры Хасан, на Халхін-Голе. Быў некалькі разоў паранены.

Яўгені Гусакоўскі абраў для сябе службу ў флоце. Ён цяпер — палкоўнік. Мае шмат урадавых узнагарод.

Самы малодшы з братоў Гусакоўскіх — Аляксандр захапляўся з маленства авіяцыяй. Перад вайною ён паступіў у лётнае вучылішча, але ў першым месяцы вайны пайшоў на фронт добраахвотнікам-дэсантнікам.

Шмат у якіх смелых аперацыях удзельнічаў дэсантнік Аляксандр Гусакоўскі. У апошні раз ён з сябрамі высадзіўся за Дунаем. Фашысты спрабавалі скінуць смельчакоў у ваду, але хлопцы біліся па-геройску. Іх сілы слабелі. Застаўся жывы толькі Аляксандр. Ён адбіваўся да апошняй гранаты. Знясілены і смяртэльна паранены, пачуў крыкі «ўра». На дапамогу ішлі нашы байцы.



Аляксандр Іраклієвіч.

На беразе Дуная пахаваны Аляксандр — адзін са слаўных сыноў з сям'і Гусакоўскіх.

У доме № 32 па Першамайскай вуліцы ў Магілёве жыве маці братоў-патрыётаў Ганна Пятроўна Гусакоўская. Да яе ў госці часта прыходзяць камсамольцы, моладзь, з хваляваннем слухаюць яе ўспаміны пра сыноў-герояў, разглядаюць іх фотаздымкі, чытаюць пісьмы, якія прысылаюць на радзіму генерал Язэп Іраклієвіч і палкоўнікі Хведар і Яўгені Гусакоўскія.

— Маіх сыноў выхавалі Партыя і Камсамол, — гаворыць Ганна Пятроўна Гусакоўская, — і гэтым я ганаруся.

**В. ГАЛІЧ.**

# СЦЯГІ НАД ПЛОШЧАМІ

Падрыхтоўка пачыналася задоўга да наступлення Першамая. Камуністы і камсамольцы на канспіратыўных сходах ячэек абмяркоўвалі план дзеяння, вылучалі адказных, правяралі гатоўнасць атрадаў самаабароны.

Не драмала і паліцыя. Арышты «падрыўных элементаў», якія праводзіліся сістэматычна, асабліва ўзмацніліся к канцу красавіка. Паводле дадзеных аддзела бяспекі Віленскага ваяводства, на працягу студзеня — сакавіка 1931 года быў арыштаваны 71 чалавек па падазрэнню ў камуністычнай дзейнасці, а за красавік — 104. Але рэпрэсіі не маглі спыніць пераможнага поступу пралетарскага свята.

...Ясны сонечны дзень 1-га мая 1924 года. Шматтысячная калона дэманстрантаў ідзе па вуліцах Гродна да плошчы Баторыя. Гучаць рэвалюцыйныя песні, баявыя лозунгі і заклікі. Вось ужо ўся плошча запоўнена народам. Над морам людскіх галоў узлятае чырвоны сцяг.

На дэманстрантаў кідаецца пешая і конная паліцыя. Рабочыя не адступаюць. Яны сцягваюць паліцэйскіх з коней, адбіраюць у іх зброю, вызваляюць арыштаваных таварышаў. З асаблівай упартасцю супраціўляюцца рабочыя тытунёвай фабрыкі і грузчыкі. У выніку паліцыя схапіла толькі аднаго дэманстранта — рабочага Капцэвіча, але першамайскі сцяг схаваны.

У красавіку 1933 года браты Канапацкія, уладальнікі фанернага завода ў Мастах, выкінулі на вуліцу 368 рабочых. Сілай занятыя прадпрыемства, рабочыя заявілі, што яны абвесцяць галадоўку, пакуль не будуць задаволены іх патрабаванні. З кожным днём павялічвалася колькасць ахвяр. У бальніцу паступіла дваццаць сем чалавек, якім пагражала смерць ад знясілення. Улады спадзяваліся, што ўдасца сарваць першамайскае выступленне. Але яны памыліліся. У дзень 1-га Мая на дэманстрацыю ў Мастах выйшла звыш тысячы чалавек. Каменданту паліцыі прыйшлося адзначыць, што «агульны настрой удзельнікаў быў баявы, яны былі ўпэўнены ў перамозе рабочага класа».

У Ваўкавыскім павеце ёсць лясная вёска Крываконная. Пісьменных людзей у ёй тады можна было пералічыць па пальцах. Аднак 1-га Мая 1935 года ўсё насельніцтва вёскі выйшла на дэманстрацыю, несучы над галовамі камуністычныя лозунгі.

Паліцыя ўзбудзіла справу супраць 143-х сялян, абвінавачваючы іх у камуністычнай дзейнасці.

Невычэрпнай выдумкай, смеласцю, мужнасцю вызначаліся ў дні рэвалюцыйных свят камсамольцы. Гэта яны, пры актыўнай падтрымцы піянераў, расклейвалі лістоўкі нават на сценах турмаў і паліцэйскіх участкаў. Калі паліцыі здавалася, што ўсе сляды свята знішчаны, у небе паяўляліся галубы, да лапак якіх былі прывязаны чырвоныя стужачкі. На ўсеагульнае пасмешышча выстаўлялі сябе панскія прыхвасні, пачынаючы страляніну па крылатых весніках Першамая.

... Незвычайная гісторыя фотаздымка, які змешчаны тут. Ён быў зроблены дваццаць адзін год таму назад.






Вясною 1937 года асабліва ўзмацнілася цяга шырокіх працоўных мас да стварэння народнага фронта барацьбы супраць фашызма і вайны. Камуністычная партыя Заходняй Беларусі ўзначаліла гэты рух, які вырастаў у магутную сілу. Яркім сведчаннем неадольнай жыццёвай сілы камуністычнага руху сталі першамайскія дэманстрацыі таго года.

На світанні з усіх бакоў — з Камотава, Абухова, Жытомлі, Горніцы да Гродна рушылі натоўпы сялян. На ўскраінах горада іх чакалі рабочыя. І вось — бясконцая плынь дэманстрантаў заліла прыціхшыя цэнтральныя вуліцы. Калоны падыходзяць да будынка пошты па вуліцы Ажэшка. На тратуарах усё часцей паяўляюцца агенты ахранкі — дэфензівы. Але яны не могуць спыніць гэты рух. Адзін з іх, забегшы наперад калоне, фатаграфуе яе. Закончыўшы сваю справу, ён злараднічае: папаліся.

Пазней, у кабінетах, шпікі дастаюць папкі, напакаваныя данесамі, і тады на здымку з'яўляюцца выведзеныя тушшу лічбы: 1, 2, 3, 4 і г. д. Той, у каго на грудзях лічба, паводле дадзеных паліцыі, з'яўляецца камуністам. Адваротны бок фотаздымка запоўнены іх прозвішчамі. Дзмітрый і Сцяпан Шырко, Аляксандр Пузыня, Іван Панасевіч, Аляксей Шахно і іншыя — усіх іх чакала расправа. Здымак хутка перайшоў у аб'ёмістую крымінальную справу, стаўшы «рэчавым доказам» віноўнасці камуністаў.

... Паглядзіце яшчэ раз на гэтае фота. Колькі рашучасці на тварах простых людзей — яны пратэстуюць, патрабуюць! Над калонай лозунгі: «Патрабуем поўнай амністыі для палітычных зняволеных», «Фашызм — гэта тэрор і канцэнтрацыйныя лагеры», «Няхай жыве свабода палітычных перакананняў».

Ідзе моладзь, людзі сярэдняга ўзросту, пажылыя, — ствараецца ўражанне, што горадам авалодаў народ.

Яны ўвайшлі ў сённяшні дзень, гэтыя змагары за свабоду і шчасце.

**Б. КЛЕЙН.**

*На антырэлігійныя тэмы*

**Л. СМІЛАВІЦКІ**

# ЗМАГАЦЦА З РЭЛІГІЙНЫМІ ПЕРАЖЫТКАМІ І ЗАБАБОНАМІ

У адзін з асенніх дзён у бальніцу гарадскога пасёлка Камянец прывезлі цяжка хворага. Яго правая нага моцна распухла. Але дзіўная справа: пры аглядзе на скуры ўрач заўважыў мноства крыжоў, намаляваных хімічным алоўкам. З гутаркі высветлілася, што хворы «лячыўся» ў мясцовага знахара Лукаша.

Трэба сказаць, што Лукаш—асоба, вядомая ў раёне: ён «лечыць» людзей. Да таго ж «лечыць» ад усіх хвароб. Яго ўніверсальны лекарскі сродак—невялічкая бутэлька, напоўненая «таямнічай» вадкасцю.

Мінула сорак год, як пахаваны стары свет, які душыў навуку і чалавека. Зараз у нашай краіне мільённымі тыражамі выдаюцца тысячы кніг на навукова-атэістычныя тэмы. Мільёны людзей скончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы. І ўсё ж не ўсюды яшчэ зарасла сцежка да такіх «лекараў», як Лукаш. Гэта сведчыць аб тым, як моцна трымаюцца перажыткі мінулага ў свядомасці некаторых людзей.

У нас сустракаюцца яшчэ людзі, якія вераць у «таямнічыя сілы», у звышнатуральныя з'явы, у сны. Яны звяртаюцца да розных «знахароў», бяздумна давяраючы ім не толькі сваё здароўе, але і жыццё. Ёсць людзі, якія баяцца перайсці дарогу, калі яе перабегла чорная кошка. Недарэчнасць такіх «прыкмет» даказана навукай, самім жыццём. Узяць, напрыклад, сны. У разуменні рэлігійнікаў сон—гэта нешта загадкавае і таямнічае. Яны сцвярджаюць, што ў часе сну цела спіць, а душа блукае па свеце. Тое, што яна бачыць, і сніцца чалавеку.

Вялікі рускі вучоны І. П. Паўлаў даказаў, што гэта своеасаблівы адпачынак. Калі сон не глыбокі і частка клетак галаўнога мозга не затарможана, то яны непазбежна ўзбуджаюцца, і тады ўзнікаюць сны. Як бачна, сны не тояць у сабе нічога загадкавага.

Нажаль, і сярод моладзі ёсць яшчэ часам рэлігійныя перажыткі. У калгасе «Чырвоная зара» Свіславіцкага раёна працуе даярка Вера Палубінская. Яна—камсамолка, атрымлівае добрыя надоі малака. І раптам—Вера вянчаецца ў царкве. Гэткі ж выпадак адбыўся і ў калгасе імя Суворава.

Яшчэ даволі частыя выпадкі, калі юнакі і дзяўчаты наведваюць цэрквы, касцёлы, малітвенныя дамы, робяць розныя абрады, удзельнічаюць у рэлігійных святах і г. д. Трэба сказаць, што далёка не ўсе гэтыя маладыя людзі выконваюць рэлігійныя абрады з рэлігійных перакананняў. Калі, напрыклад, нядаўна запыталіся ў аднаго камсамольца—рабочага горада Барысава—чаму ён разам з жонкай хадзіў на «ўсяночную», ён адказаў: «А што ж? Там можна было добра пагуляць...».

Гэты факт лішні раз сведчыць аб тым. што яшчэ вельмі мала робяць нашы камсамольцы, каб умела арганізаваць адпачынак моладзі. Старым рэлігійным святам трэба супрацьпаставіць нашы рэвалюцыйныя святы: гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, дзень Канстытуцыі, Першае мая. Гэтыя святы, якія адзначаюцца ў гонар не міфічных цудадзействаў, а рэвалюцыйных падзей, могуць адыграць вялікую ролю ў выхаванні моладзі. Трэба толькі ўмела іх праводзіць.

У нашай краіне існуе свабода веравызнанняў, і трэба прызнаць, што царкоўнікі ўсімі сіламі стараюцца пашырыць свой уплыў на пэўную частку працоўных, галоўным чынам на моладзь. У той жа час, нашы грамадскія арганізацыі чамусьці аслабілі навукова-атэістычнае выхаванне моладзі.



У мінулым годзе ў адным толькі Мастоўскім раёне Гродзенскай вобласці царкоўнікі прачыталі сотні пропаведзяў, а райком ЛКСМБ арганізаваў для моладзі толькі тры лекцыі на навукова-атэістычныя тэмы! І гэта адбываецца ў раёне, дзе налічваецца сотні настаўнікаў, урачоў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі, якія маюць вышэйшую і сярэднюю адукацыю.

Людзі старэйшага камсамольскага пакалення з захапленнем расказваюць аб тым, як у грозныя дваццатыя і бурныя трыццатыя гады камсамольцы выступалі застрэльшчыкамі атэістычнай прапаганды сярод моладзі. Зараз, вядома, няма патрэбы наладжваць у дні рэлігійных свят факельныя шэсці, спальванне «багоў», розныя карнавалы, якія праводзіліся ў тыя гады. Сённяшняя моладзь стаіць значна вышэй як па сваёй адукацыі, так і па агульнаму культурнаму развіццю. Рэлігійны дурман неабходна перамагаць упартай і настойлівай прапагандай навуковых ведаў, якія глыбока і ўсебакова тлумачаць законы прыроды і чалавечага грамадства. Камсамольскім арганізацыям, апрача лекцый, трэба часцей практыкаваць правядзенне вечароў пытанняў і адказаў на прыродазнаўчыя тэмы, дэманстрацыю навукова-папулярных фільмаў і іншыя формы выхаваўчай работы.

Асабліва павінна трывожыць камсамольцаў і ўсю грамадскасць тая акалічнасць, што царкоўнікі імкнуцца ўзмацняць свой уплыў на дзяцей. Гэты ўплыў часцей за ўсё робіцца цераз найбольш адсталых бацькоў, якія выкарыстоўваюць свой аўтарытэт, каб уздзейнічаць на дзяцей. Некаторыя бацькі, напрыклад, хрысцяць дарослых дзяцей. У пятым класе адной з мінскіх школ вучылася дзяўчынка Святлана, дачка ваеннаслужачага. Аднойчы ў нядзелю, калі не было дома бацькі, маці завяла дачку ў царкву і прымусова ахрысціла яе. А вось другі прыклад. Бацька расказаў наступны выпадак з яго дачкой-школьніцай. У час навальніцы яна схавалася ў куток пакоя і не магла ад страху вымавіць ні слова. Калі потым бацька запытаўся, чаго яна баіцца, дзяўчынка адказала, што ў іх у класе займаецца вучаніца Каця, якая гаворыць: «Хто крыж не носіць, таго пярун заб'е».

Наша школа аддзелена ад царквы. У школе закладваюцца асновы навукова-атэістычнага светапогляду. Выкладчыкі абавязаны на кожным уроку—фізіка гэта ці гісторыя, хімія ці біялогія—выхоўваць дзяцей атэістамі. Побач з вывучэннем праграмных прадметаў трэба выкарыстоўваць для атэістычнага выхавання розныя формы пазакласнай работы — чытанне навуковай і мастацкай літаратуры, вечары, экскурсіі і г. д.

Бліжэйшым памочнікам школы ў навукова-атэістычным выхаванні павінна быць сям'я. Абавязак бацькоў—узмацняць у дзяцей давер'е да навуковых ведаў, выхоўваць у іх нявер'е да ўсялякіх забабонаў. Бацькі павінны ў першую чаргу паклапаціцца аб тым, каб выпрацаваць у дзяцей правільны погляд на навакольны свет і асабліва на тыя з'явы, якія рэлігійнікі выкарыстоўваюць для распаўсюджвання розных забабонаў. Дзяцей часта палохаюць летам гром і маланка. У такіх выпадках бацькі павінны расказаць дзецям, што маланка—гэта электрычны разрад. Дзеці павінны ведаць, што гром—гэта прамое прадаўжэнне маланкі, што маланка можа прынесці шкоду, але ад яе можна абараніцца. Ім трэба растлумачыць, чаму ў час навальніцы неабходна зачыняць вокны і дзверы, пячныя засаўкі, зазямляць антэну радыёпрыёмніка. Калі дзеці будуць усё гэта ведаць, яны не павераць ніякім байкам «аб божым гневе», аб «калясніцы Ільі-прарока» і г. д.

Прапаведуючы ўсеагульную любоў і брацтва паміж людзьмі без адрознення класаў, гэта значыць мірныя адносіны паміж эксплуатататарамі і эксплуатуемымі, рэлігія перашкаджае выхаванню ў працоўных нянавісці да сваіх класавых ворагаў—імперыялістаў, падпальшчыкаў вайны.

Разглядаючы зямное існаванне, як часовы этап, і заклікаючы людзей рыхтавацца да «вечнага замагільнага жыцця», рэлігійнікі і сектанты адцягваюць працоўных ад барацьбы за паляпшэнне свайго дабрабыту і тармозяць наш рух наперад. Вось чаму поўнае вызваленне ад рэлігійных перажыткаў і забабонаў з'яўляецца важнай задачай, непарыўна звязанай з будаўніцтвам лепшай будучыні чалавецтва—камунізма.

Партыя патрабуе ад камсамола актыўна і рашуча выкрываць рэлігію, як антынавуковы светапогляд, як рэакцыйную ідэалогію. Пры гэтым, вядома, нельга зневажаць рэлігійныя пачуцці веруючых, нельга адміністрыраваць. Грубасць, бястактнасць, адміністрацыйныя меры здольны толькі распальваць рэлігійныя перажыткі.

У нашай краіне ёсць усе магчымасці для поўнага пераадолення перажыткаў мінулага ў свядомасці людзей, у тым ліку рэлігійных забабонаў. Задача ў тым, каб выкарыстаць гэтыя магчымасці, выхаваць маладое пакаленне адданым і мужным змагаром за камунізм.

# Разгорнем карту роднага краю




## Слуцкія паясы

Выдатнымі творамі народных майстроў Случчыны XVIII стагоддзя з'яўляюцца вядомыя ўсяму свету слуцкія паясы. Яны ткаліся з шаўковых, залатых і сярэбраных нітак. Даўжыня кожнага пояса дасягала 3 — 5 метраў, шырыня — 30 — 40 сантыметраў. Слуцкі пояс уяўляе сабою шырокую і доўгую тканую паласу з двума бакавымі палоскамі, па якіх праходзіць гірлянда з лісцяў і кветак. Фон пояса часам падобны да лускі рыбы, але часцей затканы папярэчнымі стужкамі, якія ўтвараюць геаметрычны або раслінны арнамент. Канцы пояса затканы малюнкамі квітнеючых дрэў, букетаў або стылізаванымі вазамі з кветкамі. На абодвух канцах пояса прышыты шаўковыя, залотныя або сярэбраныя махры. Такія паясы, вытканыя з залотных і сярэбраных нітак па шаўковай аснове, здаюцца вылітымі з суцэльнага кавалку металу. Тлумачыцца гэта тым, што яны пракатваліся на спецыяльных катках, дзякуючы чаму і з'яўляўся асаблівы металічны бляск. Адсюль і назва—літы пояс. Да асаблівасцей слуцкіх паясоў адносіцца двух-або чатырохбаковасць малюнка. Дасягалася гэта ўвядзеннем дадатковага ўтоку. Уздоўж чатырохбаковы пояс з аднаго і з другога боку дзяліўся на дзве рознакаляровыя палавіны. У адпаведнасці з гэтым ім можна было падпяразвацца па рознай па колеру вопратцы.

Цікавая гісторыя развіцця вытворчасці слуцкіх паясоў. У канцы XVII і пачатку XVIII стагоддзяў шырокі шаўковы з золатам або срэбрам пояс становіцца модным у асяроддзі польскай шляхты і магнатаў. Улічваючы попыт на гэтыя паясы, віленскі ваявода князь Міхаіл Казімір Радзівіл заснаваў у горадзе Слуцку фабрыку паясоў. Кіраваў фабрыкай Ян Мажарскі, армянін па нацыянальнасці — родам са Стамбула. Ткачамі на фабрыцы былі спачатку персы і туркі, якія стваралі на слуцкай фабрыцы персідскія і турэцкія ўзоры. Але праз 10 — 15 год фабрыка стала абслугоўвацца мясцовымі сіламі — прыгоннымі сялянамі князя Радзівіла і слуцкімі мяшчанамі. Гэта былі выдатныя майстры-ткачы, падрыхтаваныя ўсім папярэднім развіццём народнага ткацтва. Яны хутка засвоілі складаную тэхніку вытворчасці шаўковых паясоў. У слуцкіх паясах з гэтага часу з'яўляюцца элементы беларускага народнага арнаменту. Персідскі ўзор паступова замяняецца кветкамі мясцовай флоры, васількамі, чырвонай гваздзікай і інш.

За кароткі тэрмін паясы, вырабленыя ў Слуцку, набылі сусветную вядомасць.

Найбольшага росквіту слуцкая фабрыка дасягнула ў 70 — 80 гадах XVIII стагоддзя. Паясы гэтага перыяду па прыгажосці і багаццю арнаменту, бляску металічных пераліваў і разнастайнасці размалёўкі ўяўлялі сабой узоры самага высокага мастацтва.

Вялікі попыт на слуцкія паясы прымусіў некаторых польскіх магнатаў заснаваць такія ж фабрыкі ў іншых гарадах і мястэчках Беларусі: Гарадніцы, Ласосні, Ражане, Нясвіжы, Карэлічах. Адначасова вырабам слуцкіх паясоў пачынаюць займацца ў Польшчы і нават у Маскве. Аднак лепшымі заставаліся ўсё ж паясы, вытканыя ў Слуцку. І за вялікі гонар лічылася насіць паясы з меткай; «Ва градзе Слуцку» або «Слуцак».

Але к канцу XVIII стагоддзя слуцкія паясы пачынаюць выходзіць з моды, вытворчасць іх значна скарачаецца і ўжо ў сярэдзіне мінулага стагоддзя слуцкая фабрыка цалкам спыняе сваю работу.

Багатыя калекцыі слуцкіх паясоў да нашага часу захоўваюцца ў радзе музеяў нашай краіны — Эрмітажы, Дзяржаўным гістарычным музеі, Дзяржаўным этнаграфічным музеі народаў СССР, у Львоўскім дзяржаўным музеі этнаграфіі і мастацкага промыслу, а таксама ў многіх заходнееўрапейскіх музеях.

Слава аб слуцкіх паясах і да сённяшняга дня жыве ў беларускім народзе. Яны адлюстроўваюць адну з цікавейшых старонак гісторыі развіцця мастацкага ткацтва Беларусі.

**Н. КАМСЮК.**



## Вандроўны тэатр Ул. Галубка




По пыльнай вясковай вуліцы бегла чародка дзяцей і гучна крычала, як бы спаборнічаючы паміж сабой:

— Тэатр прыехаў! Тэатр прыехаў!

На прызбах і на лавачках каля хат сядзелі старэйшыя. Яны ўглядаліся ў шэры шлях, дзе ўздымаліся клубы пылу, і, весела ўсміхаючыся, гаварылі:

— Гэта, мусіць, той самы вандроўны тэатр Галубка, што надоечы ладзіў выступленні ў Койданаве, Заслаўі, Слуцку, Самахвалавічах.

— Ох і хвацкае ж відовішча—смешнае і разумнае!

Але тэатр не ехаў, яго артысты з вузламі за плячыма ішлі пешшу ад вёскі да вёскі. І толькі іх небагатыя пісаныя дэкарацыі сапраўды падвозілі балаголы ці мясцовыя сяляне, што любілі глядзець спектаклі і часцяком былі шчырымі і сапраўднымі яго гледачамі.

Ул. Галубок.



Бадай што не было такога куточка ў нашай рэспубліцы, які б не наведаў вандроўны тэатр Галубка. Ён выступаў у школах, пунях, гумнах, на вуліцах, плошчах, кірмашах. Гэта быў сапраўдны народны тэатр у поўным сэнсе слова. І вось сёлета, калі спаўняецца 50 год літаратурнай дзейнасці Ул. Галубка і амаль гэтулькі ж з дня стварэння вандроўнага нацыянальнага тэатра, варта ўспомніць чалавека, які ўсё жыццё аддаў беларускаму сцэнічнаму мастацтву.

Уладзіслаў Язэпавіч Галубок нарадзіўся 3 мая (ст. ст.) 1882 года на станцыі Лясной (пад Баранавічамі) у сям'і рабочага-чыгуначніка. Вучыўся ў прыходскай і гарадской школах у Мінску. Але больш займаўся самаадукацыяй, бо пасля смерці бацькі 14-гадоваму юнаку самому давялося зарабляць грошы, каб пракарміць сям'ю. Спачатку выгружаў дровы з вагонаў, потым працаваў прадаўцом у гастранамічным магазіне, затым—слесарам на станцыі Мінск (1896—1901). З 1902 года аж да Вялікага Кастрычніка працаваў канторшчыкам, рахунказодам, а з 1919 па 1925 год займаў кіруючыя пасады ва Упраўленні заходніх чыгунак, у Народным Камісарыяце асветы, у палітасветных установах. Некаторы час працаваў выхавацелем у дзіцячых дамах.

У 20-х гадах ён стварыў вандроўны беларускі тэатр, дзе працаваў акцёрам, рэжысёрам, а потым і кіраўніком. Гэты калектыў потым іменаваўся Трэцім Беларускім дзяржаўным тэатрам і праславіў свайго заснавальніка на ўсю Беларусь. За актыўную працу ў галіне стварэння беларускага нацыянальнага тэатра Ул. Галубку была надана годнасць народнага артыста рэспублікі.

Літаратурную творчасць Ул. Галубок пачаў у 1900 годзе. Спачатку пісаў вершы і маленькія апавяданні на рускай мове, потым на беларускай (1906), але нідзе іх не друкаваў, а толькі выконваў на вячорках. Першае апавяданне «На вяселлі» было надрукавана ў 1908 годзе ў беларускай газеце «Наша ніва». Потым вершы і апавяданні на роднай мове сі-

стэматычна друкаваліся ў такіх беларускіх газетах і часопісах, як «Наша ніва», «Вольная Беларусь», «Крыніца», «Лучынка», «Маладая Беларусь» і іншых. У Вільні выдаўцом Грыневічам быў выпушчаны зборнік яго апавяданняў. Белетрыстычная творчасць Ул. Галубка высока ацэньвалася ў дарэвалюцыйным друку.

Найбольш поўна талент пісьменніка разгарнуўся ў жанры драматургіі. Абумоўлена гэта было тым, што Уладзіслаў Язэпавіч, як адзін з стваральнікаў нацыянальнага тэатра, ведаў, што для гэтай справы патрэбен свой арыгінальны рэпертуар. Першая яго п'еса «Пісаравы імяніны» была пастаўлена ў 1917 годзе Беларускім Таварыствам драмы і камедыі. Затым ён піша: «Суд» «Апошняе спатканне», «Бязвінная кроў».

Пазнейшыя яго п'есы, напісаныя ў 20-х і 30-х гадах, амаль усе былі пастаўлены вандроўным тэатрам. Яны разнастайныя як у тэматычных, так і жанравых адносінах. Тут вы знойдзеце п'есу аб цяжкай сялянскай долі і гістарычную драму, антырэлігійную камедыю і твор аб рабочым класе. Мы маем на ўвазе такія яго п'есы, як «Ганка», «Пан Сурынта», «Госць з катаргі», «Плытагоны», «Пінская мадона», «Гурганы» і іншыя.

Гэтыя п'есы напісаны жыва, у іх надзвычай шырока выкарыстоўваецца беларускі фальклор — прыказкі і прымаўкі. Дзея ўпрыгожвалася беларускімі народнымі песнямі, танцамі, музыкай, якая, дарэчы, пісалася ці падбіралася самім аўтарам.

Выдатны дзеяч літаратуры і мастацтва, Ул. Галубок з'яўляецца прыкладам для маладога пакалення дзеячоў літаратуры і мастацтва.

**Алесь ЕСАКОЎ.**




## Надпіс на камяні

Пасярод вёскі Кушляны Смаргонскага раёна Маладзечанскай вобласці каля дома сельскай бібліятэкі ляжыць вялікі камень. На шэрай шурпатай паверхні граніту высечаны па-польску словы: «Памятайце Мацея Бурачка. 1900 г.» Бібліятэка носіць імя Францішка Багушэвіча ў памяць аб тым, што ў гэтай простай вясковай хаце нарадзіўся і жыў таленавіты беларускі паэт-дэмакрат. Надпіс на камені быў высечаны самім Багушэвічам незадоўга да смерці. Мацей Бурачок— псеўданім Францішка Багушэвіча.

У час гаспадарання польскіх паноў, калі праследавалася ўсё беларускае, узнікла небяспека, што памятны камень можа быць знішчаны. Родзічы паэта вырашылі перабіць надпіс на польскай мове. У такім выглядзе ён існуе і цяпер, нагадваючы нам не толькі аб адным з класікаў беларускай літаратуры, але і аб сумнай старонцы гісторыі.

У Кушлянах да гэтага часу бытуе нямала вусных расказаў пра Францішка Багушэвіча. У іх любоўна захоўваецца памяць аб паэце, які прысвяціў сваю творчасць барацьбе за шчасце беларускага народа.

**А. ШМЯЛЁЎ.**

*З блакнота падарожніка*

М. ВАГАНАВА, Д. ПІНХАСІК

# ЦЕПЛЫНЯ ДРУЖБЫ

Якое ажыўленне на пагранічных станцыях і чыгуначных вузлах, дзе скрыжоўваюцца міжнародныя лініі! Здаецца, усе людзі рушылі ў дарогу. Шматлікія групы турыстаў, дэлегацыі розных кангрэсаў, прадстаўнікі дзелавых кругоў, спартыўныя каманды...

Гэта прыкмета часу. Людзі накіраваліся адзін да другога. Яны хочуць сябраваць, бліжэй пазнаёміцца, вывучаць жыццё, быт, культуру суседніх народаў, пабачыць чароўнасць іх краю, прыроды.

Мы едзем ў Балгарыю. Апынуўшыся на станцыі Унгены, якая адчыняе вароты з Малдавіі ў Румынію, адразу адчулі прыязнасць і дружбу. Калі мы ішлі да поезда, пачуліся галасы:

— Вы куды, другары? Тады сюды, сюды...

Мы пайшлі на покліч. У вагончыку — ні сесці, ні стаць. Запоўнены калідор. Але чыесьці рукі падхопліваюць чамаданы і кожнага з нас уцягваюць у купэ.

— Цесна, не бяда! — гукае высокі чарнявы юнак і шчыра смяецца.

Хутка знаёмімся. Нам пашанцавала — аказваецца, мы адразу апынуліся сярод балгарскіх экскурсантаў, якія вярталіся з Масквы, з Сусветнага фестывалю моладзі. Яны ж перапоўнены ўражаннямі аб Маскве, аб фестывалі і спяшаюцца падзяліцца гэтымі ўражаннямі з намі.

Гутарка ўсё больш ажыўлялася. Да шматлікіх значкоў, якімі пярэсціць лацкан пінжачка Стойчэ, мы дадаем значок, на якім намалявана Брэсцкая крэпасць. Дазнаўшыся, што мы з Беларусі, ён кажа:

— О, вашу рэспубліку мы ведаем... І пра Брэст чыталі, і трактар «Беларусь» бачылі!..

Стойчэ жыве і працуе ў Старых Загорах, у Акруговым Камітэце Дзімітраўскага Саюза моладзі. Ён расказвае аб сваіх равесніках, якія натхнёна будуюць новае жыццё, пра калгас, у які ўступілі яго бацькі, пра цяжкасці і радасці, якімі жыве яго народ. Паслухаўшы яго, яскрава адчуваеш, як хутка растуць і сталеюць тутэйшыя людзі, што сталі гаспадарамі свайго лёсу.

Тым часам цягнік імчыць нас па Румыніі. Змяркаецца. Неўзабаве цягнік спыняецца. Адбываецца перадача нашага эшалона балгарскай чыгуначнай брыгадзе, і мы зноў кратаемся ў дарогу.

Па прыкладу нашых юных сяброў падыходзім да вокнаў. Вось славуты мост дружбы, збудаваны сумесна рускімі і чэхамі, румынамі і балгарамі. Далёка ўнізе ў водбліску агнёў плешчуццца хвалі Дуная...

Балгарыя. Мы вяртаемся ў купэ, і гутарка зацягваецца далёка за поўнач. Але стома бярэ сваё.

Раніцай сонца шчодра заліло ўсё навокал. І ўжо нельга адарвацца ад акна. Невысокія горы зялёнымі тэрасамі падыходзяць да чыгункі. То тут, то там, вырваўшыся з цясніны серабрыстым струменем, спадаюць горныя рачулкі. Беласнежныя дамкі ў зеляніне вінаграднікаў. Вакол іх — тытунёвыя плантацыі, кукурузныя палі.



**Работніцы балгарскага лесгаса «Руса» Влада Стойчава, Марыйка Казанава і рускі рабочы-будаўнік з Мурманска Я. Ф. Вахрушаў.**

...Праз некалькі гадзін горы рассоўваюцца, наперадзе адкрываецца прасторная даліна, і ў сіняй смузе бачны абрысы вялікага горада.

Сафія!

Як толькі мы выйшлі з вагона, да нас падышла прадстаўніца Балгартурыста.

— Добра дошлі, таварышы, — з прыкметным акцэнтам прамовіла яна, працягнула кожнаму з нас руку і назвалася:

— Русіца.

Падаўшы кожнаму з нас бледнаружовы гладзіолус, Русіца павярнулася, і мы пайшлі за ёю. На прывакзальнай плошчы чакаў нас вялікі, белы з чырвонай каймою аўтобус. Машына была добрая, але мы залюбаваліся не ёю, а чалавекам, які стаяў побач. Ідучы нам насустрач, ён шчыра ўсміхаўся чыстымі, белымі зубамі, і ягоны твар свяціўся дабразычлівасцю і прыгажосцю.

— Пятруша, — назвала нам яго Русіца, — наш шафёр, з ім мы адпраўляемся ў падарожжа па краіне.

Доўгія прамыя вуліцы горада, пакрытыя плітамі, шырокія бульвары з цяністымі дрэвамі, шматлікія сады і паркі, прыгожыя будынкі, абліцаваныя белым вапняком, стадыёны, купальні, архітэктурныя помнікі і скульптуры...

У горадзе шмат музеяў. Але адзін з іх прыцягвае асаблівую ўвагу. Гэта музей руска-балгарскай баявой дружбы. З хваляваннем ўваходзім у просты будынак, які выглядае з засені дрэў.

Адлюстраваная ў экспанатах, фотакартках і дакументах гісторыя шматвяковай дружбы нашых народаў наглядна ўяўляецца кожнаму з нас. Шмат якія карціны і эпізоды паўстаюць, як жывыя, прымушаюць перажыць тое, што прачытана. Супрацоўніца музея, нядаўняя выпускніца Сафійскага ўніверсітэта Маргарыта Кастадзінава сваім апавяданнем захапляе слухачоў.

Гледзячы на вобраз братоў Кірылы і Мефодзія, якія адзінаццаць стагоддзяў таму назад заклалі асновы славянскай пісьменнасці і культуры, прыгадваеш усю веліч іх справы. Хіба не адчуваеш у іх асветніцкім подзвігу крыніцу салідарнасці і братэрства славянскіх народаў!

Як бы ўгадваючы нашу думку, Маргарыта падкрэслівае, што супольнасць нашай культуры нарадзілася ў выніку блізкасці балгар да вялікага рускага народа, які двойчы вызваліў свайго брата ад турэцкага і нямецка-фашысцкага прыгнёту.

«Той, хто гіне ў баі за свабоду, той не памірае», — гэты дэвіз паэта-героя Хрысто Боцева лунае над ўсёй экспазіцыяй музея.

Вось партрэты мужных кіраўнікоў красавіцкага паўстання 1876 года. Вось узоры зброі паўстанцаў — ружжы тульскіх заводаў. Вось Самарскі сцяг — яго прывезлі ў час руска-турэцкай вайны грамадзяне Самары і ўручылі балгарскім апалчэнцам. Прабіты кулямі, асколкамі снарадаў, прапахшы порахам і дымам, ён і зараз з'яўляецца свяшчэннай рэліквіяй. Не дзіўна, што ў наш час першы пасляваенны выпуск Ваеннага вучылішча народнай Балгарыі даваў клятву ля Самарскага сцяга. Гэты хвалюючы момант адлюстраваны і на карціне мастака Б. Грыгорава. Гэта пераемнасць баявых традыцый пакаленняў выражана і ў скульптурах, якія мы бачылі праз некалькі дзён на Шыпцы.

Каля лесвіцы, якая вядзе на вяршыню, устаноўлены дзве скульптурныя групы — злева рускі салдат і балгарскі апалчэнец, справа савецкі воін і балгарскі партызан. На вяршыні манументальная арка — помнік, які вянчае Шыпку, што цяпер называецца вяршыняй Сталетава...

На баявым шляху, па якім восемдзесят год назад прайшла руская армія, пастаўлена каля 450 помнікаў. Лепшы бульвар з тых часоў называецца Рускім, такую ж назву мае і велічны помнік войскам генерала Гурко. І манументальны храм Аляксандра Неўскага ў сталіцы, і помнік-парк у Старой Загоры, і многія іншыя помнікі — усё гэта захоўваецца беражліва. Доблесць воінаў Савецкай Арміі, якая прыйшла на дапамогу балгарскаму народу ў верасні 1944 года, — таксама адзначана велічнымі помнікамі. Іх мы бачылі і ў Сафіі, і ў Плоўдзіве, і ў іншых месцах.



У Балгарыі шмат помнікаў сынам і дачкам народа, якія аддалі жыццё за свабоду і незалежнасць сваёй краіны. Гэта — манументальныя статуі, надмагільныя пліты, капліцы...

На другі дзень, у нядзелю мы ў Сафіі. Прадпрыемствы не працавалі, і нам не давялося бачыць гаражан за працай. Затое мы з імі правялі дзень адпачынку.

З раніцы тысячы сафійцаў накіроўваюцца за горад, туды, дзе ўзвышаецца ў зеляніне лясоў гара Вітоша — самы прыгожы на Балканскім паўвостраве прыродны парк. З вяршыні адкрываецца цудоўны малюнак сталіцы і яе наваколля...

Шмат народу ў гарадскіх скверах і бульварах, у музеях. Ажыўлена было ў Нацыянальнай галерэі, якая размешчана ў былым царскім палацы. Увечары зялёны тэатр, які ўмяшчае каля трох тысяч чалавек, быў поўны. Тут ішоў канцэрт народнай песні і танца. У суправаджэнні нацыянальных інструментаў — гадулкі, гайды, валынкі і іншых гучалі то радопскія, то транскія, то тырольскія і македонскія песні. Публіка цёпла сустракала выступленні кожнай спявачкі —і Марыі Кушлевай, і Міты Стойкавай, і Гурыкі Сіняковай, і іншых.

Музыкальнасць — адметная рыса балгар. Недарэмна ў краіне, якая налічвае сем мільёнаў насельніцтва, — больш трохсот тысяч удзельнікаў самадзейнасці, якія аб'яднаны ў 11 тысяч калектываў.

Выдатную сталіцу Балгарыі мы пакідалі раніцой.

— Яшчэ зусім нядаўна, — расказвае Русіца, — тут на вуліцах стаялі «лагеры» — струхлелыя драўляныя баракі. Цяпер жа вы бачыце новыя жылыя дамы...

У другой пяцігодцы, якая закончана ў мінулым годзе, працоўныя атрымалі жылой плошчы ў чатыры разы больш, чым у першай. Толькі ў 1957 годзе новую жылплошчу атрымалі 45 тысяч чалавек.

У Балгарыі шырока разгорнута будаўніцтва ўласных кватэр і дамоў з дапамогай дзяржавы. Кошт кватэр параўнаўча высокі, але жыхары, якім належыць аплачваць кватэру ў будучым доме, уносяць, прыкладна, чацвёртую частку кошту, на астатнюю суму дзяржава дае адтэрміноўку на 25 год.

Характэрна, што амаль кожны забудоўшчык робіць цэглу. Невялікія штабялі цэглы-сырцу мы бачылі па ўсёй краіне. Яе робяць з ліпкай зямлі. Пасля таго як сырэц прасохне на сонцы, яго кладуць у так званы «куптор», які нагадвае нашу напальную печ, і апальваюць вугалем на працягу сарака дзён. Атрымліваецца выдатны будаўнічы матэрыял.

...Наша машына мінавала Владайскую цясніну і вырвалася на прастор. Мы не стамляемся глядзець, адкладваючы ў памяці ўсё больш і больш звестак аб краіне.

Вось выдатна зробленае вадасховішча, якое забяспечвае вадой Дзімітраўград; вось сяло Дрэн, што славіцца яблыкамі, а гэта — прасторнае, так званае Станька-Дзімітраўскае поле. Тут вырошчваюцца лепшыя гатункі тытуню. Усе навакольныя земляробчыя кааператыўныя гаспадаркі вырошчваюць тытунь, які складае важную частку балгарскага экспарту. Тут жа мы сустракаем і лён. Ільняныя рыжаватыя бабкі бачны на вялікіх масівах...

Мінуўшы горад Станька-Дзімітраў, выязджаем на шасэ. Падарожжа прадаўжаецца. Цяжка знайсці куток, больш прыгожы і велічны, чым Рыльскі горы — высокія, зялёныя горы, маляўнічыя даліны, сакавітыя высакагорныя лугі, старыя дубровы і шумлівыя вадаспады. Велічная Рыла

**Вёска Шыпка.**





**Вясёлую гісторыю расказвае Русіца...**

захоўвае ў сваім гушчары Рыльскі манастыр — выдатны помнік балгарскага дойлідства і жывапісу.

Манастыр названы ў гонар яго заснавальніка Івана Рыльскага, які жыў у X стагоддзі, калі ў Балгарыі ўзнік рэлігійны багамільскі рух, як форма супраціўлення феадальнаму ладу, і і побач з ім пустэльніцтва. Потым манастыр быў разбураны, а ў XIV стагоддзі былі пабудаваны царква і вежа.

У тым выглядзе, які ён цяпер, Рыльскі манастыр пабудаваны ў XVIII веку. Строгі і велічны, ён нагадвае замак-крэпасць, адгароджаны з аднаго боку крутымі гарамі, з другога — бурнай ракою. Злучаныя паміж сабою крылы будынка ўтвараюць прыгожы ансамбль вакол двара. Уздоўж усіх чатырох паверхаў цягнуцца адкрытыя цагляныя і драўляныя пераходы са знадворнымі драўлянымі лесвіцамі і павільёнамі на іх пляцоўках.

У манастырскім музеі, які адчынены для наведвальнікаў, захоўваюцца шматлікія старажытныя помнікі — творы народных умельцаў. Манастыр мае багатую бібліятэку, дзе захоўваюцца шматлікія выключна рэдкія рукапісы і выданні. Ёсць тут і шмат якія творы рускіх класікаў і савецкіх пісьменнікаў.

Варта заўважыць, што, праяўляючы цікавасць да манастыроў, большасць якіх не дзейнічае, балгары кіруюцца зусім не рэлігійнымі пачуццямі. Яны берагуць іх, як каштоўныя помнікі архітэктуры і культуры.

Прыцемкам прыязджаем ў Благоеўград — невялікі гарадок, схаваны ў катлаване, між гор. Аўтобус рэзка тармозіць, і перад намі вялікая шыльда, на якой буйнымі літарамі выведзена назва «Волга».

Між іншым, рускія назвы ў Балгарыі сустракаюцца на кожным кроку. Тут раз-по-раз мільгаюць назвы: «Бібліятэка імя Горкага», гасцініца «Масква», кінотэатр «Ленінград», вуліца Чарнышэўскага і нават піўнушка... «Ціхі Дон».

Раніцой прадаўжаем свой шлях.

Сяло Долнабаня. Мы спыняемся ля доўгай каменнай агарожы, на якой буйнымі белымі літарамі напісана: «Працоўная кааператыўная земляробчая гаспадарка імя 9-га верасня».

Бухгалтар Сланік Кастадзінаў выказвае сваё задавальненне з выпадку прыезду савецкіх гасцей і просіць Русіцу перакласці ягоныя словы. Але заўважыўшы, што мы яго зразумелі, задаволена ўсміхаецца і запрашае нас у сад. Пасеўшы на траве, мы слухаем расказ Сланіка пра іхнюю гаспадарку.

Не ўсе сяляне адразу ўступілі ў кааператыў. Праўда, яны шмат чулі пра багатыя калгасы ў Савецкім Саюзе, яны разумелі, што калектыўна лягчэй і зручней весці гаспадарку, але кожны думаў: няхай перш сусед уступіць, а я *пачакаю*...

Спачатку ў кааператыў запісалася толькі 46 сем'яў. Гэта было ў 1948 годзе. Дзяржава дапамагла, выдала пазыку. Але ўсё ж справы не адразу наладзіліся. Нехапала і машын і людской сілы...

— А зараз? Колькі зараз сем'яў у кааператыве?

Сланік уважліва глядзіць на нас, нібы цешыцца з таго, што нас усхвалюе ягонае паведамленне, і ён выразна гаворыць:

— Васемсот шэсцьдзесят сем'яў. Штодзённа на працу выходзіць тысяча пяцьсот чалавек.

Так, не *малая сям'я*.

— Напэўна, заможна жывеце, калі народ так хлынуў у кааператыў? — пытае хтосьці з нас.

— Заможна, не заможна, але і не скардзімся, — гаворыць за бухгалтара шустрая, вясёлая дзяўчына, камсамольскі сакратар Ліляна Велкава, якая падышла пад час нашай размовы.—Летась мелі чатыры мільёны лёваў прыбытку, а ў гэтым, напэўна, шэсць будзе. Па дзесяць лёваў на працадзень выдалі грошай, ды натурай на шэсць лёваў...

— А можна нам агледзець гаспадарку?—пытаем мы.

— Так, — адказвае Ліляна і адмоўна ківае галавой.

Мы крыху збянтэжыліся, але тут жа спахапіліся і весела рагочам. У каторы раз мы забываем, што ў балгар



адмоўным кіўком галавы пацвярджаецца згода, ківок уніз — азначае «не».

Аглядаем будынкі — канюшні, кароўнікі і свірны. Потым развітваемся.

Едзем уздоўж паэтычнай Марыцы па шасэ, па баках якога шырока раскінулася Фракійская нізіна.

Фракія! Прыгожы край! Якая шчодрая твая зямля! Што толькі не расце на ёй! Вінаграднікі змяняюцца рысавымі палямі, тытунёвыя плантацыі, а побач бясконцыя градкі таматаў, перцу...

Мужныя, працавітыя людзі насяляюць Фракію. І можа не выпадкова, што іменна тут доблесцю славіўся партызанскі атрад Васіля Леўскага, што іменна Плоўдзіў—сэрца Фракіі—у нядаўнім мінулым быў цэнтрам рабочага руху і адным з галоўных ачагоў барацьбы супраць манарха-фашысцкай улады, што тут прайшлі апошнія мінуты жыцця бясстрашных дачок народа Ліляны Дзімітравай і мужнай Іарданкі Чанкавай.

...Упадабаўшы зялёную разгалістую яблыню, Пятруша збочвае і спыняе ля яе машыну. Па другі бок шасэ — сакавітыя слівы, крыху далей грушы, згінаюцца вінаградныя лозы... Толькі мы прыселі, як раптам паявіўся нядрэмны аўтаінспектар.

— Чаму спыніліся? — спытаў ён шафёра.

— Машына сапсавалася, — жартаўліва адказаў той.

Напэўна, заўважыўшы нас і пазнаўшы Пятрушу, аўтаінспектар у тон адказвае яму:

— Нешта ў цябе ўсё псуецца на гэтым месцы, — ён зухавата казырнуў і рвануў з месца сваю «Пабеду».

Зноў мы ў дарозе.

Перад намі старажытны і юны Плоўдзіў.

Руплівай рукой новых зодчых збудаваны ля старажытнага рымскага Акропаля сучасны горад, пракладзены шырокія вуліцы і бульвары, узведзены светлыя будынкі. Асабліва многа зроблена за апошнія гады. Кажуць, толькі горы засталіся на месцы, усё астатняе разраслося, пашырылася, змянілася.

З вышыні музейнага квартала, дзе мы знаходзімся, адкрываецца панарама залітай сонцам сталіцы Фракіі з шматпавярховымі будынкамі, з адкрытым летнім тэатрам і новым стадыёнам, з высокімі фабрычнымі трубамі і прыгожымі павільёнамі міжнароднага кірмашу, з перакінутымі цераз раку мастамі...

Адвячоркам ідзем туды, куды адпраўляюцца тысячы гаражан — на пагорак.

Пагорак Свабоды!

Цяжка падабраць яму назву больш удалую. Горда ўзвышаючыся над горадам, узнімаючыся амаль на пяцьсот метраў над яго ўзроўнем, ён уладарнічае над усім наваколлем, падстаўляючы свежым вятрам сваю зялёную вяршыню.

Вяршыню пагорка ўпрыгожвае велічны манументальны помнік, на якім высечаны словы: «Слава на непобедимата Советска Армия — освободителка». Семнаццаціметровая фігура салдата, якая ўстаноўлена на высокім пастаменце, дыхае магутнасцю і спакоем. Яна нібы гаворыць: жыві і працуй спакойны, вольны горад вольнага краю!

Да помніка вядзе крутая сцяжынка, а потым больш ста прыступак, але не было яшчэ чалавека, які не асіліў бы гэтую вышыню. Ля ног салдата вечна ляжаць свежыя кветкі.

А ніжэй, на зялёных тэрасах пагорка, на лаўках адпачываюць людзі, на невялікіх палянках гуляюць дзеці і па дарожках ідуць хлопцы, абняўшыся з дзяўчатамі.

У Плоўдзіве экскурсанты пабывалі на дыванова-ткацкім, потым на кансервавым прадпрыемствах.

Мы ў гасцях у балгарскіх кансерваробаў. Двор застаўлены скрынямі з памідорамі, слівамі, яблыкамі. Усё гэта бесперапынна ідзе ў цэх.

Пакуль мы апранаем халаты, начальнік саладкарскага аддзела стары камуніст Відаў шукае чалавека, які змог бы даць нам тлумачэнні.

**Помнік у гонар рускай арміі-вызвалідельніцы на вяршыні імя Сталетава.**



— А вось інжынер! — задаволена кажа Відаў. — Яна вам усё пакажа.

Стройная дзяўчына, густа чырванеючы, становіцца ля нас і нясмела гаворыць:

— Які яшчэ я інжынер!..

Віялета Караманава вучыцца на трэцім курсе Маскоўскага харчовага інстытута. Яе і яшчэ некалькі дзяўчат, якія выдатна скончылі сярэднюю школу ў Бургасе, урад паслаў у Савецкі Саюз, на вучобу. Віялета праходзіць на камбінаце летнюю практыку.

— Смялей, таварыш інжынер, — падахвочвае Відаў.

Віялета, пераадолеўшы збянтэжанасць, вядзе нас у цэхі. Яна паведамляе, што на камбінаце працуе 800 чалавек, а ў сезонныя месяцы — да сямі тысяч. Самае вялікае аддзяленне — саладкарскае (кандытарскае). Тут выпрацоўваецца да ста дваццаці відаў варэння, кансерваў і сокаў.

— Раней тут была кансервавая фабрыка! — растлумачвае нам пажылы рабочы Кішкімаў. — І належала яна нямецкай кампаніі. Ох, здзірала яна з нас скуру. Ды і нашы правіцелі не лепшыя былі — адна хэўра!..

У чырвоным кутку, дзе нас частавалі сцюдзёнай газіроўкай з пахучым сокам і варэннем, працягваецца размова аб новым жыцці. Мы, напэўна, не першыя з савецкіх грамадзян на гэтым камбінаце, але інтарэс да нашай краіны не меншае, рабочыя цікавяцца ўсялякай драбніцай нашых будняў.

У сваю чаргу яны імкнуцца дапамагчы нам глыбей зразумець характар прамысловасці краіны, шляхі яе развіцця. Відаў гаворыць:

— Я — патрыёт свайго камбіната, шмат гадоў працую тут. Прадукцыю нашу вы хваліце, і яна сапраўды добрая. І выпускаць яе будзем усё больш. Але ўсё ж не яна — галоўная прычына нашай гордасці... Сталь, машыны, станкі — вось наша гордасць!

Гэта зразумела. Балгарыя ж была зусім адсталай, выключна сельскагаспадарчай краінай. Невялікая прамысловасць была прадстаўлена галоўным чынам тэкстыльнымі, тытунёвымі і харчовымі прадпрыемствамі. Таму сапраўды не можа не выклікаць у кожнага балгарына пачуцця гордасці той факт, што народная ўлада за такі кароткі час здолела стварыць магутную цяжкую індустрыю. Па вытворчасці важнейшых прамысловых вырабаў на душу насельніцтва краіна значна абагнала многіх сваіх суседзяў і, у прыватнасці, Грэцыю і Турцыю.

...З Плоўдзіва шлях ляжыць на ўсход, а далей збочвае на поўнач, каб прывесці ў Казанлык.

Казанлык? Знаёмая назва. Вядома, радзіма славутай казанлыкскай ружы, без якой не было б ружавага масла, а, значыць, і выдатных духоў.

Мы едзем далінай руж, якая на многія кіламетры цягнецца між рэкамі Страма і Гунджы, развінуўшы горы Стара Планіна, як тут называюць Балканы, і Срэдна Гора. Ружы даўно адцвілі (яны цвітуць у маі-чэрвені), але, здаецца, і зараз іх водарам напоўнена паветра.

Казанлыкская ружа — надзвычай далікатная расліна. Усе спробы вырасціць яе ў іншых месцах краіны не далі пакуль што станоўчых вынікаў. А тут яна адчувае сябе выдатна. Сама прырода стварыла гэту цудоўную чашу, якая зачынена Старой Планінай ад паўночных вятроў і шчодра паліваецца дажджамі і горнымі водамі ў час цвіцення.

Вырошчванне ружы, збор яе пялёсткаў, перапрацоўка іх — прыгожая, але не лёгкая праца. Каб атрымаць адзін кілаграм масла, спатрэбіцца тры-чатыры тысячы кілаграмаў кветак. Ружавае масла цэніцца ўдвая вышэй за золата. Кааператывы, якія вырошчваюць ружы, атрымліваюць вялікі прыбытак. Балгарыя — самы буйны ў свеце вытворца ружавага масла, на яе долю прыпадае звыш 80 працэнтаў яго экспарту.

За Казанлыкам дарога ізноў ідзе ў горы, то звіваючыся дзівоснай істужкай, то крута дыбячыся ўгору...

— Габрава, цэнтр тэкстыльнай прамысловасці, — аб'яўляе Русіца.

Пасля кароткага перапынку пакідаем утульны гарадок, і наш нястомны гід працягвае апавяданне аб яго выдатнасцях, аб поспехах яго працаўнікоў-тэкстыльшчыкаў.

Неўзабаве Русіца загаварыла некалькі незвычайным для яе ўрачыстым голасам:

— Перад намі сяло Керэка. Яно славутае тым...

Усе выглянулі ў адчыненыя вокны машыны, але нічога там не ўбачылі. Вёска, як вёска, — двухпавярховы мураваны домік народнага Савета, невялікая саладкарніца насупраць яго, удалечыню бяжыць пыльная вуліца з глінабітнымі домікамі.

— Славутае тым, што тут нарадзілася я.

І па-дзіцячаму ўзрадаваная сваім жартам, Русіца праворна саскочыла з прыступка машыны і, як дзяўчынка, пабегла па вуліцы.

Яна вярнулася хутка, памытая, расчырванелая, асцярожна ведучы пад



руку дзядулю — маленькага, рухавага старога з выцвілым, маршчыністым тварам. У руках ён трымаў вялікую пасудзіну з ракіяй і дружалюбна ўсміхаўся нам.

Пакуль Пятруша наліваў у вялікія кілішкі моцнае, як гарэлка, дзядуліна піва са сліў, мы што-кольвечы даведаліся пра бацькоў Русіцы.

Дзядуля Вырман, які нас частаваў, у маладосці меў славу фантазёра. Заўсёды ён задумваў нейкія незвычайныя планы, марыў пра нейкае шчасце. У пошуках яго адправіўся аж у Амерыку і вярнуўся адтуль хворым. Яго багацця хапіла, каб набыць карову і лапінку зямлі. Тады ён рашыў дамагацца шчасця іншым шляхам — аддаў у навуку сына. І хоць сам выбіваўся з апошніх сіл, аддаў усё, што меў, але дамогся свайго — вывучыў сына за настаўніка. Але той навучыўся не толькі арыфметыцы. Сын употай чытаў кніжкі пра свабоду, пра тое, як дамагчыся сапраўднага шчасця. За гэта часта ад стражніка меў шмат непрыемнасцей...

Для дзядулі Вырмана, як і для яго дзяцей і ўнукаў, шчасце прыйшло цяпер, калі ў Балгарыі ўзяў уладу ў свае рукі народ. Яго ўнучка Русіца скончыла Сафійскі ўніверсітэт. Для яе, як і для ўсіх працоўных, для ўсіх жанчын, шырока адкрыты дзверы ў жыццё.

Прыемна было бачыць, як дзядуля Вырман любаваўся сваёю ўнучкай. Здавалася, ягоны позірк гаварыў:

— Глядзіце, другары, якая ў мяне ўнучка! Глядзіце, якія мы шчаслівыя!

Падзякаваўшы гаспадару за ўсё, мы сталі развітвацца. Дзядуля Вырман зняў ваўняную шапку. Русіца пацалавала яго руку. Мы пакланіліся яму і адправіліся ў дарогу, каб завідна трапіць у Тырнава.

Тырнава — старажытная сталіца Балгарыі. Сюды мы прыехалі, калі заходзіла сонца. У гэты час горад асабліва прыгожы. Ён раскінуўся амфітэатрам на чатырох пагорках. Сярод скал цурчыць горная рэчка Янтра. Прыгожыя домікі, якія бачны па абодва бакі Янтры, чаруюць сваім рамантычным хараством.

Шматвяковая гісторыя пакінула глыбокія сляды на ўсім вобліку горада. Тут сутыкаліся палітычныя і эканамічныя інтарэсы магутных еўрапейскіх дзяржаў і рэлігійных дзеячоў. Аб каменныя сцены Тырнава не раз разбівалася амбіцыя розных заваявальнікаў. У гады турэцкага панавання Тырнава было цэнтрам вызваленчай барацьбы. З яго імем звязана адно з першых сялянскіх паўстанняў.

Цяпер Тырнава — буйны адміністрацыйны і эканамічны цэнтр багатага сельскагаспадарчага раёна з развітай тэкстыльнай, скуранай і харчовай прамысловасцю.

З Тырнава мы ад'язджалі на досвітку, маючы намер хутчэй прыбыць на канечны пункт нашага больш як тысячакіламетровага падарожжа. Пятруша, як заўсёды, бадзёры, старанна прычасаны, ужо быў на месцы. Той-сёй з нас яшчэ драмаў, а ён вёў машыну па дарозе і напяваў песню. Аб чым ён спяваў? Звычайная песня захапіла нас. Мы думалі пра яе выканаўцу.

Калі рыхтуе сваю машыну Пятруша? Калі аглядае яе? Мы ж ні разу гэтага не бачылі, а яна ні разу не псавалася на ўсім доўгім шляху. Вечарам? Але калі мы прыязджалі куды-небудзь у канцы дня, ён звычайна браў свой маленькі чамаданчык, ішоў у гасцініцу і неўзабаве выходзіў паголены, у свежай сарочцы і адпрасаваных штанах і далучаўся да нас, добраахвотна дапамагаў нястомнай Русіцы.

Пятруша, аказваецца, выдатна ведае кожны гарадок, любую мясціну, мінулае і сучаснае сваёй краіны, ве-



**Помнік савецкім воінам у Сафіі.**



**«Марскі веласіпед» — любімая забава моладзі ў Варне.**

дае легенды пра багоў і быліны пра герояў працы. Між іншым, мы і не здагадваліся, што ён сам — адзін з герояў працы.

У час другой сусветнай вайны Пятруша Відаў, як і іншыя балгарскія патрыёты, уступіў у атрад супраціўлення.

— У нас тады весялей пайшлі справы, — расказвае Пятруша, — калі савецкія войскі падышлі да граніцы. Вось далі мы пытлю фашыстам і іх паслугачам! Быў я ў артылерыйскім разліку. Вядома, з нас артылерысты былі не хвацкія, бо вопыту ў нас не было. Але аднойчы да нас прыбыў савецкі камандзір, маладзенькі лейтэнант, яго называлі Васіль Васільевіч. Вось майстар быў!

Пятруша з захапленнем прычмокнуў, успамінаючы, як увішна дзейнічаў ля гарматы Васіль Васільевіч — баявы друг і таварыш Пятрушы.

Пасля вызвалення Пятрушу накіравалі на работу кандуктарам аўтобуса. Тады важнай была ўсякая работа, таму што быў час разрухі, а транспарт быў зусім разбураны. Кандуктарам Пятруша праездзіў не доўга, ён падаўся на курсы шафёраў.

Гэта былі першыя гады станаўлення народнай улады. Людзі ўзнімаліся да актыўнай працоўнай дзейнасці, айчынны фронт кінуў кліч аб спаборніцтве. І тады на старонках газет замільгала імя Пятрушы Відава. Ён выступіў адным з ініцыятараў за стотысячны прабег без рамонту. Пятруша распачаў перапіску са знатнымі маскоўскімі вадзіцелямі Цітовым, Арцем'евым і іншымі. Не сто, а сто пяцьдзесят тысяч кіламетраў правёў ён сваю машыну, устанавіўшы ў краіне адзін з першых працоўных рэкордаў.

Пятруша Відаў — Герой Сацыялістычнай Працы, кавалер двух ордэнаў Георгія Дзімітрава, дэпутат Сафійскага народнага Савета, член Нацыянальнага Савета Міру...

Хвалюючым было наша развітанне з Пятрушам. Кожны падараваў яму значкі — яму, яго жонцы і тром яго дзецям. А ён жартаваў, што па калекцыі значкоў, паштовак і адрасаў, якія ўжо ў яго ёсць дома, дзеці выдатна вывучылі геаграфію Савецкага Саюза.

Хвалюючым было наша растанне і з Русіцай — разумнай, жыццерадаснай балгарскай жанчынай. Асабліва былі ўсхваляваны балгарскія сябры, калі мы зацягнулі складзеную ў дарозе песню пра Балгарыю.

* * *

Не ведаем, ці ёсць якая гістарычная сувязь паміж Варнай і нашай Адэсай, але Адэсус — так называлі некалі дасціпныя паэты вялікі сонечны горад, які ахоплівае, нібы цудоўнымі каралямі, вялікую Варнянскую затоку. Заснаваны яшчэ ў VI стагоддзі да нашай эры іанічнымі грэкамі, горад хутка разросся і набыў славутасць. Караблі блізкіх і далёкіх краін заходзілі ў гэты шумлівы гандлёвы порт і нагружаліся купленымі ў жыхароў Мізіні і Дабруджы таварамі. Вяртаючыся на радзіму, яны разносілі славу аб незвычайнай прыгажосці горада і яго ваколіц.

Горад дажыў да нашых дзён з гістарычнай назвай Варна — у гонар кіраўніка антытурэцкага паўстання Уладзіслава Варненшкі, у якім удзельнічалі сыны Польшчы, Венгрыі, Румыніі і Чэхіі.

У наш час горад стаў буйным прамысловым і культурным цэнтрам краіны. У ім развіта суднабудаванне, тэкстыльная, шкляная і іншыя галіны прамысловасці. Тут ёсць оперны і драматычны тэатры, сімфанічны аркестр, эканамічны інстытут. Турысты з вялікай цікавасцю аглядаюць марскі акварыум, дзе сабраны прадстаўнікі ўсіх рыб, што водзяцца ў Чорным моры, археалагічны музей, карцінную галерэю і шматлікія іншыя выдатнасці.

І ўсё ж галоўную славу горада складае яго курорт.

Ён цягнецца на многія кіламетры ўздоўж берага, на якім усцяж — камфартабельныя атэлі, дамы адпачынку, дачы. Тысячы людзей адпачываюць на цудоўных сонечных пляжах...



Варна спрадвеку вядомая як міжнародны курорт. Але ці поўнасцю ён адпавядаў такой назве тады, калі сюды прыязджалі ў асноўным не больш як дзве тысячы багацеяў-таўстасумаў. Іншая справа цяпер, калі курорт наведвае ў год звыш 20 тысяч іншаземцаў, большасць іх, вядома, людзі фізічнай і разумовай працы. Толькі з Чэхаславакіі кожныя два тыдні прыбывае спецыяльным чыгуначным эшалонам чатырыста пяцьдзесят чалавек.

А простыя людзі Балгарыі? Для іх рай Варны быў недасягальны. Цяпер жа ўсюды чытаеш шыльды: «Дом адпачынку будаўнікоў», «Дом адпачынку тэкстыльшчыкаў», «Маладзёжны дом адпачынку» і г. д. У ста трыццаці дамах адпачынку, якія адкрыты народнай уладай, адпачываюць сотні тысяч працоўных.

Будучае курорта — «Златы пясцы», мясціна ў 18 кіламетрах ад горада, куды наведаліся і мы. Нехта з мясцовых таварышаў, якія ехалі з намі, аж сваім вачам не паверыў: зусім нядаўна тут была пустэча, а зараз ля пагоркаў — чарада трохпавярховых атэляў, якія радуюць вока простай, але прывабнай архітэктурай.

У канцы 1955 года ўрад Балгарыі рашыў у раёне «Златых пясцаў» стварыць курортны гарадок для прыёму, пераважна, іншаземцаў. Было вырашана пабудаваць 17 гасцініц, рэстараны, павільёны, гаражы...

І ўсё гэта зроблена за два гады.

Мора, роднае мора! Сядзіш на беразе, на супрацьлеглым ад нашага, і ўсё ж здаецца, што ты — дома, на Каўказскім ўзбярэжжы.

Між іншым, гэтае адчуванне дому нас не пакідала ўвесь час. То пачуеш, як балгарын і немец, каб зразумець адзін другога, пераходзяць на рускую мову... То пабачыш, як людзі перадаюць адзін другому газеты на розных мовах з весткамі аб запуску савецкай міжкантынентальнай ракеты...

І калі людзі ведаюць, што ты з краіны Саветаў — недахопу ў субяседніках не будзе. А ціхі плёскат прыбою, лёгкі подых ветрыку, бязвоблачная сінь неба, — як не трэба лепш настройваюць на мірную гутарку, у якой закранаюцца і тэмы сямейнага жыцця, і праблемы міжнароднага ўпарадкавання.

Джон Прыт, вядомы англійскі грамадскі дзеяч, старшыня Міжнароднай асацыяцыі юрыстаў-дэмакратаў, прысадзісты стары чалавек з паголенай галавой, жартаўліва заўважае:

— У Англіі існуе думка аб тым, што палітыка — не зусім падыходзячая тэма для размовы...

Прыт кідае на нас праніклівы позірк не па гадах жывых вачэй і, смеючыся, дадае:

— Калі гэта так, то ўсё больш англічан забывае аб прыстойнасці. Забудзем на пэўны час аб ёй і мы. Мяне, вядома, цікавіць прырода законаў. Зразумела, што закон — зброя кіруючых класаў. Але ў вашай краіне кіруючы клас — гэта двухсотмільённы народ. Такім чынам, вашы законы — адлюстраванне волі народа, і гэта прыводзіць да вельмі цікавага развіцця ў міжнародным праве... Аб гэтым ішла гаворка і на маладзёжным фестывалі ў Маскве.

Джон Прыт змаўкае і, счакаўшы хвіліну, Ненчо Хранаў, высокі чарнявы малады чалавек, супрацоўнік балгарскай газеты «Народна младзеж», устаўляе:

— А мяне цікавіць праблема кукурузнага сіласу...

Ненчо бянтэжыцца, баючыся, што яго слова не да месца, але заўважыўшы, што яго слухаюць, прадаўжае:

— Кукурузы ў нашых вёсках сеюць многа, а сіласаваць яе не любяць, не маюць звычкі. Вось мы і рашылі, каб моладзь выступіла ініцыятарам. Я надумаў гэтую тэму ўзняць у газеце, учора ездзіў у кааператыўнае земляробчае таварыства і знайшоў добры прыклад...

Так пачынаецца размова аб самых мірных справах — у ёй актыўна ўдзельнічаюць і балгарскі юнак Каменячос Джэм Стойяў, і дырэктар славутага чэхаславацкага піўнога камбіната ў Пільзэне Вацлаў Франк... Да нас далучаюцца ўсе, хто сядзіць побач, нехта пачынае гаварыць пра каханне, нехта кідае дасціпны жарт... І здаецца, вялікая, дружная сям'я сабралася на беразе Чорнага мора пасля працоўнага дня.

Адчуванне, што ты ў вялікай, дружнай сям'і, не пакідала нас і тады, калі наступіла мінута развітання з балгарскай зямлёй. Быў ясны, цёплы вечар. Неба, чорнае і нейкае вельмі высокае, усеяна зоркамі. Ля нашай гасцініцы «Дружба» сабралася шмат людзей. Чуваць надарожныя словы, узнікае песня.

Мы з удзячнасцю глядзім на ўсіх, прыціскаем да грудзей пахучыя букеты, і нам здаецца, што з іх водарам удыхаем цеплыню юнай Балгарыі.

Каменны акунь.



Марлен АРОНАЎ

# З МАСКАЙ І ЛАСТАМІ ПАД ВАДОЙ

## Рыбы набываюць вопыт

Мне ні разу не ўдавалася за адзін дзень падстрэліць больш трох кефаляў, не лічачы зелянушак, у той час як некаторыя падводныя паляўнічыя на працягу чатырох-пяці гадзін упалёўвалі да васьмі вялікіх рыбін, а іншы раз і больш. Даводзілася чуць, што некаторыя ўладальнікі аквалангаў — апаратаў для дыхання пад вадой — даводзілі рэкорд да 12—14 кефаляў за адзін дзень. Я сустракаў рыбаловаў, узброеных толькі пікай, на долю якіх выпадалі вельмі зайздросныя ўдачы. Але гэта часцей за ўсё былі мясцовыя жыхары, якія добра ведаюць мора.

Вопыт паказаў, што звычайна — пры іншых аднолькавых умовах — поспех у многім залежаў ад даўжыні стрэльбы. У доўгай стрэльбы бой дакладнейшы і яе лягчэй падвесці на больш блізкую адлегласць да рыбіны. Гэта дазваляе страляць амаль не цэлячыся, што вельмі важна пры паляванні на такую вельмі рухомую «дзічыну», як рыба.

Пад Херсонам у пачатку мінулага лета палявалі толькі чатыры чалавекі, але неўзабаве рыба ў гэтых мясцінах стала вельмі палахлівай. У вадзе часта можна было сустрэць «старую знаёмую» са шрамам на спіне. Упаляваць такую вопытную рыбіну ўжо куды цяжэй.

У рыб хутка ўтвараюцца ўмоўныя рэфлексы, амаль не горш, чым у жывёл больш высокаарганізаваных. Аднак набыццё «вопыту» рыбамі не залежала ад таго, што рэдкім шчаслііўцам, якім удалося выслізнуць з рук паляўнічага, прыходзілася насіць на целе памятку аб падводнай зброі. Зрок і нюх — вось галоўныя «настаўнікі» рыб. Калі праткнутая стралой рыбіна пачынае біцца, другія рыбы бачаць гэта і вельмі чула рэагуюць на паводзіны свае таварышкі, якая трапіла ў бяду. Нездарма зладжанасць рыбінай стаі вывучаецца ў многіх навуковых лабараторыях.

Але нават калі б рыбам не даводзілася бачыць гібель аднаго з членаў сваёй стаі, яны могуць аб гэтым даведацца па паху, які застаецца ў вадзе гэтак жа, як і ў паветры. Вядома, што пры пашкоджанні скуры рыбы ў ваду выдзяляюцца нейкія асобыя рэчывы, якія палохаюць рыб той жа пароды. Рыбы пачынаюць баяцца незнаёмых істот, з'яўленне якіх звязана са з'яўленнем паху раненай рыбіны. Таму не дзіўна, што французскія паляўнічыя ў Міжземным моры навучылі многіх рыб добра разбірацца не толькі ў відах падводнай зброі, але і ў дальнасці бою розных сістэм стрэльбаў. Некаторыя вялікія рыбы, якія раней спакойна падпускалі да сябе людзей, адплылі на большыя глыбіні і сталі недаступнымі.

Цікуючы пад вадой «дзічыну», я нярэдка праклінаў сябе, калі нехапала паветра, за тое, што не падрыхтаваў своечасова аквалангаў. Толькі падкрадзешся да рыбіны, як табе ўжо нехапае паветра і трэба ўсплываць наверх, пакідаючы і палохаючы «дзічыну». Але як я пазней даведаўся, міжнародны статут падводнага палявання забараняе паляванне з аквалангамі. Дыхаць можна толькі праз кароткую трубку, якая выходзіць на паверхню вады, а поспехі спартсмена будуць залежаць ад яго вынослівасці, умення і спрыту пад вадою. Гэтае правіла міжнароднага статута дае магчымасць не толькі засцерагчы рыбу ад празмернага вынішчэння, але і садзейнічае большай масавасці падводнага спорту. Дастаць дарагі акваланг або зрабіць яго самому пад сілу далёка не кожнаму, у той час як маска і ласты даступны кожнаму. Акрамя таго, акваланг патрабуе яшчэ асобай апаратуры для зарадкі зусім чыстым паветрам. Міжнародны статут дазваляе карыстацца аквалангам толькі для падводных нагляданняў.

Працяг. Пачатак у № 4, 1958 г.



## Небяспечныя рыбы

У Чорным моры няма вялікіх рыб, лёгка даступных кожнаму паляўнічаму. Сустракаюцца, праўда, вялікія асятры, бялугі і гарбылі, здараецца, заходзяць у Чорнае мора тунцы і рыба-меч. Але разлічваць на сустрэчу з імі амаль не прыходзіцца. Самадзейна адкрытая першымі паляўнічымі кефаль і будзе, відаць, самай вялікай паляўнічай рыбай нашага мора, хоць яе даўжыня звычайна не перавышае паўметра. Кефаль — на дзіва смачная рыба.

У Чорным моры куды радзей, чым, скажам, у Міжземным ці ў Чырвоным, можна сустрэць небяспечных рыб. Не чакае тут плыўца рызыкоўная сустрэча з акулай — дастойным супернікам для смельчака, аматара вострых адчуванняў. Чарнаморская акула — катран — дасягае ў даўжыню не больш 1—1,5 метра і небяспечная толькі для рыб.

У шчылінах падводных скал не хаваюцца драпежныя васьміногі — іх зусім няма ў Чорным моры. Чарнаморская вада мае ўдвая меншую салёнасць у параўнанні з міжземнаморскай. і гэта з'яўляецца перашкодай таму, каб тут сяліліся галаваногія малюскі. І хоць Жак Кусто і Фрэдэрык Дзюма — французскія падводныя даследчыкі — пішуць, што васьміногі не з'яўляюцца небяспечнымі, усё ж яны маюць даволі страшны выгляд і маглі б упрыгожыць падводнае царства. Пры гэтым, на ўсякі выпадак, было б пажадана, каб яны не дасягалі вялікіх памераў.

Няма ў Чорным моры такіх істот, якія маглі б разглядаць плыўца, як сваю здабычу. І ўсё ж каго-ні-каго з падводных жыхароў трэба асцерагацца і ў чарнаморскіх водах.

Летам у прыбярэжных мясцінах сустракаецца скат-хвастакол, або марскі кот. Яго пласкаватае зверху, шырокае цела не мае ніякіх выступаў і шыпоў; ззаду — доўгі хвост, які к канцу звужаецца. Гэтая чорна-карычневая рыбіна плыве, варушачы хвалепадобна тонкімі бакавымі краямі цела, што ўяўляюць сабой плаўнікі, якія зрасліся. Здаецца, што скат павольна лятціць у вадзе. На тонкім гнуткім хвасце схавана зброя ската — востры сцілет, якім рыба можа нанесці небяспечныя раны. Атрутная слізь, трапляючы ў рану, выклікае моцны боль, а іншы раз нават і агульнае парушэнне жыццедзейнасці арганізма. Атруту трапічных хвастаколаў індзейцы выкарыстоўваюць для атрутных стрэл. Скат добра маскіруецца на дне, хаваючыся сярод камення і зашываючыся ў шырокія шчыліны. Нярэдка сустракаецца на пяску, у які можа зусім схавацца. Пацэліць гарпуном у яго не цяжка, але трэба сачыць за тым, каб паранены скат не зачапіў паляўнічага сваёй «зброяй». Мяса яго прыгоднае для ежы, калі перад гэтым яго добра вымачыць у марской вадзе.

Асцярожным трэба быць і з марскім яршом — скарпенай. Гэтая галавастая рыбіна, уся нейкая ашчаціненая і ўскудлачаная, часта сядзіць на камені. Скарпена можа доўга сядзець нерухома, але гэта не азначае, што яна абыякавая да акаляючага. Раптам, адным імгненным рухам марскі ёрш хапае рыбіну ці крэветку, якая праплывае ля яго, і зноў застывае ў нерухомасці да з'яўлення наступнай ахвяры. Калі скарпена праглыне даволі вялікую рыбіну, тады яна сапраўды становіцца раўнадушнай да ўсяго, што плавае вакол яе.

Падплысць да скарпены і ўзяць яе на прыцэл надзвычай лёгка. Яна падпускае да сябе даволі блізка, застаючыся нерухомай. Некалькі разоў я спрабаваў нанесці ёй удар кап'ём, падплываючы зверху. Але нават калі я прамахваўся і кап'ё ўпіралася ў камень каля самага боку рыбіны, і тады яна не кранталася з месца. Але як толькі я пачынаў падымаць кап'ё, рыбіна імгненна зрывалася з месца. Калі я працягваў да сядзячай скарпены руку, яна адразу ўцякала, не дазваляючы дакрануцца да сябе.

Іголкі спіннога плаўніка ярша маюць атрутныя залозы, і ўколы іх вельмі балючыя, хоць параўнальна і не небяспечныя. Рыбакі, каб аслабіць боль, змочваюць уколатае месца спіртам або эфірам. Мяса ярша даволі смачнае, ён прыгодны нават для юшкі. Каб не пакалоць рук, чысцячы рыбу, трэба спінны плаўнік і калючкі на жаберных крышках састрыгчы нажніцамі.

Самая небяспечная рыба Чорнага мора — гэта змейка. Называюць яе яшчэ дракончыкам, або скарпіёнам. У вонкавым выглядзе гэтай рыбы няма нічога страшнага: даўгаватае стракатае цела, не больш 30 см у даўжыню, вялікія вочы, косы, крыху задраны ўверх рот. На спіне спераду ёсць невялікі цёмны плаўнічок, а плаўнік ззаду — доўгі, ён ідзе да самага хваста. Як і ў скарпены, іголкі спіннога плаўніка — атрутныя. Ёсць нават атрутныя шыпы на жаберных крышках. Расказваюць, што боль пасля ўколу аб атрутныя іголкі вельмі пакутлівы і расцякаецца далёка вакол раны. Атрута выклікае парушэнне дыхання і сардэчнай дзейнасці. Нярэдка здараюцца і смяротныя выпадкі. Іншы раз можна сустрэць рыбака без аднаго або без двух пальцаў — гэта вынік «знаёмства» з калючымі плаўнікамі змейкі. Можна аслабіць дзеянне атруты ўвядзеннем у акружыню ранкі 2—5-працэнтнага раствору марганцоўкі або 0,1 працэнта раствору хлорыстага золата. Змейка лічыцца самай атрутнай рыбай у Еўропе. Калі яна трапляе ў рыбацкія сеткі, рыбакі спачатку раздушваюць ёй галаву нагой, а потым асцярожна вызваляюць з ячэек і выкідваюць у мора. Але разам з тым мяса змейкі можа ўжывацца ў страву.

Знайсці змейку ў моры вельмі цяжка. Яна ўся зашываецца ў пясок і часам можна разгледзець толькі яе паднятыя над дном вочы і рот. Я стараўся не прапускаць ніводнай пяшчанай праплешыны на дне і старанна іх абмацваў наканечнікам кап'я. Толькі адзін раз мне ўдалося знайсці спалоханую змейку, якая ў той жа момант хутка паплыла прэч.

На вудачку з лодкі змейка ловіцца даволі часта.

### Асцярожны рабчык

Пад Херсанесам амаль з першых жа дзён «хаджэння» пад ваду мне трапілася нейкая рыбіна, якую я не адразу распазнаў.

Першы раз я ўбачыў яе над цыстазіравым полем. Я адразу змяніў курс і «зашлёпаў» па паверхні следам за ёю. Воддаль на дне цягнуўся шырокі пяшчанік, але рыба над ім не паплыла, а схавалася пад камень. Акрамя гэтага каменя, паблізу другіх укрыццяў не было, і я вырашыў паназіраць за незнаёмай рыбінай. Глыбіня ў гэтым месцы была каля пяці метраў.

Нырнуўшы, я разгледзеў галаву рыбіны, якая тырчэла з нейкай дзіркі, прыкрытай кусцікам цыстазіры. Колеру яна была светлакарычневага ў крапінку, сваёй формай нагадвала морду зелянушкі, толькі была намнога большая. «Разумнае», уважлівае вока рыбіны сачыла за мною, і як толькі я падплыў вельмі блізка, галава яе знікла. Не паспеў я ўсплыць на паверхню, як рыбіна з'явілася з другога боку каменя і паглядзела на мяне ўважліва: здавалася, яна разумела, што я за ёю сачу. Потым зноў знікла.

Паводзіны рыбы былі настолькі незвычайныя, што я асмельваюся гаварыць пра выражэнне яе морды, хоць для фізіёлага гэта недаравальны грэх. Разам з тым, іншы раз сапраўды ствараецца ўражанне, што рыбы валодаюць мімікай. Існуе нават артыкул аднаго нямецкага аўтара, у якім гаворыцца аб радасці, гневе і выразе твару ў рыб. Тыя, каму доўга і часта прыходзілася наглядаць розных рыб, могуць пацвердзіць, што морда рыбы сапраўды мяняе свой выраз. Гэта адбываецца пры дапамозе руху вачэй, прыняцця пэўнай позы, манеры разглядаць ежу, рухаць плаўнікамі і г. д. Па паводзінах і па знешняму выгляду нават вельмі падобныя рыбы адрозніваюцца паміж сабою, і многія эксперыментатары, якія вывучаюць рыб, лёгка пазнаюць сваіх паддоследных «па твару». Можна і саміх рыб навучыць пазнаваць адна другую. Перагароджваючы акварыум шклом, прывучалі акунёў і шчупакоў не чапаць пасаджаную па суседству рыбку. Калі ў драпежніка пры разглядванні рыбкі з'яўляўся апетыт, ён з сілай ударауся носам аб шкло. Праз некалькі тыдняў драпежнік пераставаў кідацца на рыбку нават у тым выпадку, калі шкло даставалі з акварыума. У той жа час драпежнікі глыталі другіх рыб, нават вельмі падобных на іх суседак.

Я плаваў вакол каменя каля сямі—дзесяці хвілін, спрабаваў заглянуць пад яго, прасаджваў піку ў адтуліны, але «разумная» рыбіна, умела манеўруючы, уцякала ад небяспекі, хаваючыся ў гэтым невялікім сховішчы. Калі я ўсплыў на паверхню, каб «хапіць» паветра, яна, відаць, уцякла, таму што больш я яе не бачыў.

Другі раз я напаткаў такую ж рыбіну ў больш мелкім месцы, толькі была яна куды цямнейшая — вішнёва-малінавая са шматлікімі залацістымі крапінкамі па ўсім целе. Як вядома, вада змяняе сапраўдную афарбоўку прадметаў, па-рознаму паглынаючы праменні ў розных участках спектра. Таму «даверяць» колеру





**Перад спускам пад ваду.**

прадметаў пад вадой нельга. Але на мелкаводдзі колер змяняецца нязначна.

Рыба далёка не паплыла, а затаілася пад выступам няроўнага дна, зарослага водарaслямі. Можна было разгледзець яе хвост. Я стрэліў у яе, але прамахнуўся, і яна зноў знікла.

Я параіўся з іхтыёлагамі, і ў нас з'явілася думка, што гэта або чорны гарбыль, або рабчык. Праўда, у гарбылёў не бывае крапінак, ды к таму ж я іх пазнаваў без цяжкасці. Хутчэй можна было падумаць, што сустрэтыя мною незнаёмыя рыбы — рабчыкі, тым больш, што яны нечым нагадвалі зелянушак, якім яны даводзяцца родзічамі. Але трэба было здабыць хоць адну такую рыбіну, каб у гэтым пераканацца.

Я пачаў шукаць гэтага падводнага жыхара, і неўзабаве мне пашанцавала ўбачыць яго яшчэ раз. У час аднаго разведачнага праплыву пад навіслай падводнай скалой я заўважыў вялікі цёмны хвост. Пакуль я спрабаваў распазнаць, чый гэта хвост, рыбіна выплыла з-пад прыкрыцця і павольна паплыла пад другі камень. Я падплыў да яго і ўбачыў малінавы крапчаты бок, у які тут жа паспрабаваў пусціць стралу. Страла ўдарылася аб навіслы бок каменя. І бок знік. Перазарадзіўшы стрэльбу, я нырнуў з другога боку і ў нейкай шчыліне ўбачыў хвост. Ён зашавяліўся і схаваўся. Малінавы бок рыбіны зноў быў за каменем. Карыстаючыся ходамі, рыбіна праплывала пад каменем сюды-туды. Часта ныраць было даволі цяжка, таму што трэба было тра-

ціць многа намаганняў, каб змагацца з выштурхоўваючай сілай вады. Пацэліць у рыбіну не ўдавалася, хоць страляў я разоў шэсць. Рыба пад каменем плавала вельмі павольна, але ні мінуты не заставалася на месцы. Здавалася, яна была зачаравана ад стрэл.

І ўсё-такі мне ўдалося здабыць такую рыбіну, хоць і невялікую. Пад вадой, як звычайна, панавалі выпадак і нечаканасць. Каля нейкіх каменняў я наткнуўся на зелянушак, якія адразу расплыліся ў розныя бакі. Сярод іх мільгнуў адзін цёмны цень і хутка паплыў мне наперарэз. Я паспеў стрэліць, і на канцы стралы затрапяталася здабыча.

Сапраўды, гэта быў рабчык. Зменлівасць яго афарбоўкі вялікая — ад светлых да цёмных тонаў. Ён гэтак жа, як і зелянушка, належыць да сям'і губанаў.

Хоць у навуцы рабчык не ўяўляе нічога незвычайнага, але для мяне ён быў сапраўдным адкрыццём.

### Насельнікі прыбярэжжа

Трэба сказаць, што вартыя ўвагі падводнага плыўца не толькі вялікія рыбы, на якіх зручна палюваць, але і тыя, якія не ўяўляюць каштоўнасці для паляўнічага.

Да такіх рыб належыць ласкір — марскі карась. Звычайна ён добра ловіцца на вуду і вельмі смачны. Сустракаецца ён у моры часта. Толькі нязначная велічыня гэтай рыбіны не выклікае ў паляўнічых жадання страляць па ёй.

Сустракаецца ласкір каля падводных каменняў і ў адзіночку і невялікімі групамі, якія, як правіла, не ўтвараюць адзінай стаі. Калі прыглядзецца да гэтых рыб уважліва, то няцяжка заўважыць, што ўзаемаадносіны ў іх паміж сабою зусім не мірныя. Пры сустрэчы два ласкіры абавязкова імкнуцца напасці адзін на другога, прычым кожны хоча зайсці ззаду. Вялікі ласкір заўсёды стараецца пакрыўдзіць меншага. Свой час ласкіры праводзяць ва ўзаемных бойках. Нагляданні ў акварыумах Севастопальскай біялагічнай станцыі паказваюць, што бойкі амаль не сціхаюць ва ўсе сезоны.

Прычыны такіх паводзін не зусім зразумелыя, але, відаць, справа тут у размеркаванні тэрыторыі. Ласкір імкнецца заняць зручнае месца ля якога-небудзь выступу скалы і праганяе адтуль усіх сваіх братоў, калі яны не большыя за яго. За сваё месца ён

трымаецца вельмі ўпарта і сядзіць там да таго часу, пакуль яго не прагоніць больш родзіч. Субардынацыя ў іх развіта даволі моцна, і больш ласкір не сустракае супрацiўлення з боку меншага. У невялікім акварыуме трымаць нават двух ласкіраў амаль немагчыма, таму што адзін з іх абавязкова будзе нападаць на слабейшага да таго часу, пакуль той не перавернецца жыватом уверх ад нейкага парушэння дзейнасці плавальнага пузыра. Але цікава тое, што рот у ласкіра малы, і ён не можа зрабіць ніякай фізічнай шкоды свайму суперніку. Хоць ён і растапырвае калючы спінны плаўнік, але ў бойках ніколі ім не карыстаецца. Ён аказвае толькі «маральнае» ўздзеянне.

Нападае ласкір і на іншых рыб, меншых за сябе, калі тыя не даюць яму адпору. Мне не раз даводзілася бачыць, як ён «атакуе» зелянушак, пасаджаных у акварыум разам з ім. І дрэнныя справы той рыбіны, якая не адказвае контратакай, гэтаму задзіры, а ўцякае ад яго. Ён ёй потым жыцця не дасць. Іншы раз ствараецца ўражанне, што нападае ласкір не толькі тады, калі да яго набліжаецца сусед, — ён нярэдка пакідае «сваё» места і робіць далёкую агрэсіўную вылазку, нібыта для таго, «каб не забывалі», «каб баяліся».

Цікавыя для падводнага назірання і сабачкі. Яны бываюць самай рознай афарбоўкі і велічыні, але не перавышаюць 25—30 см. Некалькі разоў я бачыў яркачырвоных сабачак з карычневай галавой. Іншы раз здавалася наадварот — галава ў іх яркачырвоная, а цела карычневае. Магчыма, што існуюць і тыя і другія. Наогул жа існуе від крывава-чырвоных сабачак. Вялікія сабачкі, як правіла, стракатыя — карычневыя з шэрым. Многія з іх носяць розныя ўпрыгожанні: грабеньчыкі, розныя наросты і г. д. Самцы адрозніваюцца ад самак, і на іх долю, як і ў многіх іншых рыб, выпадаюць клопаты аб патомстве — ахова ікры. Плаваюць яны, звіваючыся, як вугры.

Некалькі разоў даводзілася назіраць, як сабачкі шчыпалі медузу, якая апусцілася на дно. Сярод шчупальцаў медузы нярэдка хаваюцца малькі розных рыб і іншая жыўнасць, але мне здавалася, што сабачкі шчыплюць самую медузу, пры гэтым студзяністы дыск медузы кружыўся, нібы спартыўны снарад, запушчаны рукою спартсмена. Медузамі цікавяцца не адны сабачкі, — нярэдка ніжнюю частку гэтых студзяністых істот шчыпле і вокунь-смарада.



Падводная плыўчыха з кап'ём.

Некаторыя сабачкі здольны іншы раз вылазіць на бераг. Адзін такі сабачка, які жыў у лабараторным акварыуме, выскачыў на падлогу. Гэта было якраз у выхадны дзень, і яго знайшлі толькі праз суткі. Рыбіна была знойдзена пад скрынкай, якая стаяла на падстаўках. Калі я паспрабаваў яе ўзяць, яна выскачыла з-пад укрыцця і, паскакаўшы па падлозе, зноў забілася пад скрынку. Рухалася яна, захоўваючы нармальнае палажэнне цела, абапіраючыся на брушныя плаўнікі. Падлога была вільготная ад праліТай вады, і таму сабачка пражыў на сушы такі доўгі час. Жыла гэтая рыбіна пасля сваёй прыгоды даволі доўга, пакуль зноў не ўцякла, на гэты раз у сточную сістэму марскога вадапravода.

Бычкі, якія даволі часта сустракаюцца ў Севастопальскай бухце, пад Херсанесам і ў другіх месцах ля самага берага, таксама могуць служыць нядрэннай «дзічынай», нягледзячы на тое, што яны невялікія. Прыцэліцца ў нерухомую рыбіну даволі лёгка, толькі зверху ў іх страляць не варта, таму што наканечнік стралы, прабіўшы рыбіну і ўдарыўшыся аб камень, які знаходзіцца пад ёю, не захоплівае яе сваімі лапкамі, і параненая рыбіна можа ўцячы.

У бычкоў ёсць адна цікавая асаблівасць: іх брушныя плаўнікі зросліся, утварыўшы прысоску. Пры дапамозе яе бычок трывала «прымацоўваецца» да каменя, і яго не можа змыць хваля.



Наогул, прыбярэжныя рыбы не баяцца хваляў. Мяне ўвесь час цікавіла, што робяць насельнікі мелкаводдзя ў час шторму. Неяк у Місхоры пры моцным накаце, калі пеністыя хвалі шалёна кідаліся на бераг, а празрыстасць вады была такая, што толькі ледзь можна было разглядзець пальцы выцягнутай рукі, я паспрабаваў паныраць сярод прыбярэжных каменняў. Ля самага дна я ўбачыў некалькі зелянушак, якія плавалі, пагойдваючыся на неспакойнай вадзе. У аднаго рыбака ў гэты час на вуду трапіўся гарбыль. Аднак у сапраўдны шторм, магчыма, гэтыя рыбы адседжваюцца ў шчылінах пад каменнямі.

На дне, сярод пяшчаных прагалін, можна нярэдка сустрэць невялікіх рыб, якія, апусціўшы з-пад «падбародка» два белыя вусы, капаюцца ў пяску і нешта выхопліваюць адтуль. Гэта — султанкі, або, як іх яшчэ называюць, барабулі, што азначае — вусатыя. Вусікі ў іх валодаюць смакавай адчувальнасцю, і пры іх дапамозе гэтыя рыбы знаходзяць чарвякоў і іншую дробную спажыву, якая затаілася ў пульхным грунце дна. Султанка, калі яна сядзіць на дне, часцей за ўсё мае стракатую чырванаватую афарбоўку, але калі ўсплывае, то тут жа ператвараецца ў срабрыстую рыбку з шэрай спінкай. Султанка — вельмі смачная, і можна толькі пашкадаваць, што яна не вырастае хоць бы да памераў кефалі.

Сярод камення іншы раз сустракаецца паласатая рыба з сінявою ў ніжняй частцы жывата. Гэта — каменны вокунь. Цікавы вокунь тым, што ён — двухполы. Кожная рыбіна можа быць і самцом і самкай. Падплываць да яго трэба вельмі асцярожна, бо пры самай найменшай небяспецы ён хаваецца пад каменнямі або ў шчылінах паміж імі.

Усіх рыб, якія могуць трапіць на вочы падводнаму паляўнічаму, пералічыць немагчыма. Але маючы добрую памяць, або яшчэ лепш — надзейны падводны фотаапарат, нядзяжка будзе пазнаёміцца з усім падводным насельніцтвам.

Абавязковымі знаёмымі кожнага падводнага плыўца даволі хутка становяцца крабы. Вялікіх каменных крабаў можна сустрэць сярод каменняў, зарослых цыстазірай. Дно нярэдка ўсыпана іх панцырамі, якія яны скідаюць пры ліньцы. Панцыры раскрываюцца такім чынам, што крабы вылазяць з іх, як з чамадана. Клешні каменных крабаў вялікія, масіўныя і моцныя. Звычайна правая клюшня — большая, але краі яе тупыя. Пры дапамозе яе краб раздушвае ракавіны малюскаў. Левая клюшня мае вострыя краі. Такім чынам, краб «узброены» як «цікамі», так і «ножніцамі».

Краба, які сядзіць на падводным камені, лёгка схапіць за спіну, калі раптоўна да яго паднырнуць. Але трэба яго браць так, каб не падставіць пальцы пад клешні. Краб упіраецца, чапляецца за камень, і не заўсёды ўдаецца яго выцягнуць, асабліва адной рукой. Калі першая спроба была няўдалая, краб паспявае прыняць абарончую позу, і вашу руку сустрэнуць выстаўленыя ўперад, шырока растапыраныя клешні. Жартаваць з гэтай зброяй не рэкамендуецца — можна застацца без пальца. У рукі можна браць толькі мармуровых крабаў і, відаць, травяных. Лавіць крабаў зручна сачком.

Трапіўшы ў бяду, краб даволі лёгка расстаецца са сваёю клюшнёй. Аднойчы мне ўдалося загнаць вялікага каменнага краба ў цесную ямку, дзе ён не мог зусім схавацца, і ўхапіць яго за адзіную клюшню (другую я выпадкова адбіў кап'ём). Я абавязкова хацеў выцягнуць краба наверх, але ён, трохі пазмагаўшыся, на маё здзіўленне, адпусціў і другую клюшню. «Карабок» на васьмі ножках папоўз прэч, а я застаўся з адарванай клюшнёй у руцэ. Можна меркаваць, што гэтыя краб пражыве і без клешняў, пакуль у яго не вырастуць новыя.

На шляху сустрэлася медуза.



У першыя дні падводных плаванняў крабы здаваліся нам сапраўднымі страшылішчамі. Мы не адразу «адкрылі», што скрозь шкло маскі ўсе падводныя прадметы выглядаюць павялічанымі, а вядомых «адкрыццяў» Жака Кусто і Фрэдэрыка Дзюма, дзе апісваецца гэты эфект, мы тады яшчэ не чыталі.

### У моры і ля берага

Аднойчы мне давялося плаваць на даследчым караблі Севастопальскай біялагічнай станцыі Акадэміі навук СССР — «Акадэмік Кавалеўскі». Судна накіроўвалася ў раён Паўднёвага берага Крыма, дзе павінна было праводзіць траленні і браць донныя пробы з розных глыбінь. Пакуль падрыхтоўваліся станцыі і дночарпальнікі, я выкарыстоўваў кожную часіну, каб заглянуць пад ваду.

Празрыстасць вады ў адкрытым моры куды большая, чым ля берага. На вялікай адлегласці можна добра разгледзець плыўца або нават медузу, якая вісіць над глыбінёй. Такая далёкая бачнасць пры адсутнасці рыбы стварала ўражанне пустаты. Толькі некалькі разоў сустракаліся адзінокія чародкі дробнай стаўрыды і, акрамя іх ды адзінокіх медуз, воку не было на чым спыніцца.

Але недзе ў глыбіні, на адлегласці 70—100 метраў ад паверхні, таілася жыццё. Прафесар маскоўскага універсітэта, які плаваў на нашым караблі, увесь час закідваў глыбінную вуду, нажыўленую звычайным салам, і выцягваў з далёкага прыдоння адразу па дзве-тры рыбіны. Гэта там, у вобласці больш нізкіх тэмператур, хадзілі чароды мерлінга — невялікай чарнаморскай траскі.

Калі нашы іхціёлагі правялі траленні непадалёку ад Аю-Дага, на палубу былі выцягнуты разнастайныя насельнікі цёмнага ілістага дна і сярод іх камбалы-калканы і скаты — марскія лісіцы. Гэтыя скаты, у адрозненне ад хвастаколу, пакрыты, асабліва ля хваста, невялікімі шыпамі, але небяспекі яны не ўяўляюць. На дне бадай знайшлося б на што паглядзець, але ў нашым «снаражэнні» дабрацца туды было немагчыма.

Збіраючыся ў экспедыцыю, я разлічваў на сустрэчу з якой-небудзь стаяй вялікай рыбы, за паводзінамі якой паназіраць пад вадою было б вельмі цікава. Праплываючы на кацеры ўздоўж паўднёвага берага Крыма або ля мыса Айя, я не раз бачыў такія стаі рыб — кефалі або стаўрыды. Вада ў такіх мясцінах, здавалася, кіпела. Рыбы пляскаліся, падскокваючы над вадою і паблісківаючы на сонцы сваёю срэбнай луско́ю. Воддаль, як пільныя пастухі, мільгалі тоўстыя дэльфіны. Варта было не пашкадаваць намаганняў, каб убачыць, як дэльфін ганяецца за кефаллю.

Але на гэты раз мне не трапілася ніводнага дэльфіна, не сустрэлася ніводнай стаі рыб. Таму, нагледзеўшыся на марскую безжыццёвасць, я і мой новы спадарожнік, вучань X класа Жэка, пачалі назіраць за прыбярэжнай мелкаводнай зонай мора.

Калі плывеш з мора да берага, то спачатку з туманнага марыва пачынае вырысоўвацца роўнае пяшчанае дно. Бясконцы пясок цягнецца даволі доўга, і працаваць ластамі, не атрымоўваючы ніякіх новых уражанняў, здаецца справай вельмі стамляючай. Нарэшце, непадалёку ад берага пачынаюць трапляцца камені. На іх спачатку відаць асобныя кусцікі цыстазіры, а потым цэлыя зараснікі на каменістай градзе. Тут ужо вочы разбягаюцца ад разнастайнасці жывых істот. Гэты ажыўлены падводны свет цягнецца паласой уздоўж самага пляжа. Усюды снуюць зелянушкі, слаба варушаць плаўнікамі ласкіры, павісшы над дном, звіваюцца марскія сабачкі. Падплыць сюды — як прыйсці з пяшчанай пустыні на ўскраіну зялёнага лесу. І сапраўды, зараснікі цыстазіры, якія звычайна цягнуцца ўздоўж берага паласой, уяўляюць сабой ажыўленую лясную ўскраіну, аблюбаваную стракатай і ўвішнай драбнатою.

У моры, як і на сушы, для кожнага грунту характэрны свае насельнікі, і няцяжка наглядаць змену форм, пачынаючы ад берага і спускаючыся ў марскія глыбіні. На прыбярэжных скалах поўзаюць шматлікія праворныя, вельмі падобныя на нашых макрыц рачкі — лігіі, ля самай вады выпаўзаюць на камение асцярожныя мармуровыя крабы, у зоне прыбою моцна трымаюцца на скалах малюскі патэля — сподачкі. Падводныя камені, не зарослыя цыстазірай, абleплены малюскамі мідыямі. Дзені-дзе можна ўбачыць невялікіх чырванаватых і зеленаватых актыній, якія, калі распускаюць шчупальцы, нагадваюць кветку, за што і атрымалі назву «марскія анемоны». На ракавінах старых мідый сядзяць моцна прымацаваныя марскія жалуды або балянусы — нерухомыя ракападобныя



істоты. Сярод мідзіевых і вустрычных паселішчаў можна знайсці малюска з прыгожай вітой ракавінай. Гэта — рапана, драпежны малюск, які паядае вустрыц і мідый. Маладая рапана прагрызае ў ракавіне сваёй ахвяры адтуліну, праз якую і дабіраецца да спажывы, а старэйшая — атручвае здабычу слізэю і прымушае яе раскрыць створкі. З'явілася рапана ў Чорным моры нядаўна і стала вядомай толькі пасля вайны.

Сваіх шматлікіх насельнікаў маюць таксама зараснікі цыстазіры і марской травы — застэры. Там знаходзяць сабе прытулак крэветкі, бакаплавы, травяныя крабы, разнастайныя дробныя малюскі, марскія конікі і інш. Марскія конікі і марскія іголкі цікавыя не толькі сваім здзіўляючым падабенствам да галінак водарасляў і травінак, але і незвычайным спосабам размнажэння. Самкі гэтых рыб адкладваюць ікру ў асобную складку на жываце самцоў, краі якой пасля гэтага зрастаюцца. Самцы носяць у сваім «жываце» ікру і лічынак і хаваюць іх сваёй крывёю. Як бачым, у свеце рыб сустракаюцца часам дзіўныя рэчы.

Глыбей, там, дзе заканчваюцца цыстазіравыя лясы, пясок і галечнік, дно становіцца ілістым, з вялікай колькасцю занесенай туды хвалямі бітай ракушы. Гэта зона мідзіевага ілу, за якой ідзе фазеалінавы іл, населены ў асноўным дробным малюскам — фазеалінай. А яшчэ далей, пачынаючы з глыбіні 150—200 метраў, бачымае жыццё знікае зусім. Гэта царства атрутнага серавадароду, у прысутнасці якога могуць развівацца толькі шматлікія мікраарганізмы. У Чорным моры няма глыбакаводнай доннай фауны. Усе дыхаючыя кіслародам жывыя істоты сканцэнтраваны ў паверхневым пласце глыбінёй да 200 метраў. І ўсё ж Чорнае мора лічыцца дастаткова багатым морам.

### Ля «морды» Мядзведзь-гары

Самае дзіўнае падводнае відовішча, якое я бачыў, сустрэлася мне ля самай «морды» Мядзведзя, пад самым мысам Аю-Даг.

Мы з Жэкам, плюхнуўшыся з карабля, які ішоў на траленне далей у мора, даплылі да зубчатых скал, якія абрываліся ў мора. Падводны пейзаж тут быў не менш велічны, чым від скалістага мыса Мядзведзь-гары, які адкрываецца з мора. У глыбіню ішлі велізарныя абрывы, з ледзь віднага ў смузе дна падымаліся высокія ўцёсы, скосы іх ад мноства губанчыкаў адсвечвалі ўсімі колерамі вясёлкі.

І аднекуль з туманнага блакіту выплылі нам насустрач прыгожыя рыбы, пласкаватыя з бакоў і круглыя, як талерка, са спінамі, перакрэсленымі вялікімі чорнымі палосамі, з хвастом, які здаваўся падобным на серп. Гэта былі больш буйныя родзічы ласкіра — зубарыкі. Ля Херсанеса мы іх не бачылі.

Па расказах некаторых паляўнічых, зубарыкі круглейшыя, чым ляшчы, уяўляюць сабою зручную мішэнь і блізка падпускаюць да сябе паляўнічага. Але мяне і майго спадарожніка яны не падпусцілі блізка. Ланцужком яны паплылі ўніз і схаваліся за скалою. Адзін зубарык трапіўся мне праз некалькі мінут, але колькі я за ім ні плыў, ён заставаўся на даволі значнай адлегласці. Хто ведае, можа тут пабылі ўжо другія паляўнічыя і навучылі рыбу асцярожнасці. Пазней, каля Місхора, я таксама сустракаў зубарыкаў, і там мне ўдалося падстрэліць адну ікраную самку.

Унізе, ля адной скалы, я разгледзеў стаю чорных гарбылёў. Яны трымаліся галовамі ў адным напрамку і злёгку варушылі плаўнікамі, нібыта стаялі супраць плыні. Я нырнуў, але рыбы адразу ж схаваліся пад скалою. Гарбыль належыць да сцыенавых рыб, вядомых сваёй асаблівасцю пасылаць у прастору гукі. У гэтым у іх нейкую ролю адыгрывае плавальны пузыр. Ёсць меркаванне, што рыба, падобна да лятучай мышы,

**Паляўнічы са сваёй здабычай.**



«абгучвае» прастору для рэхалакацыі — выкарыстоўвае рэхалот. Магчыма, гукі ўжываюцца гэтымі рыбамі і як сродак сігналізацыі.

Сярод гэтых падводных уцёсаў было мноства самай разнастайнай рыбы. Шкада толькі, што нам не давялося пабыць тут больш: хутка вярнуўся наш параход, і мы вымушаны былі пакінуць гэты цудоўны куток прыбярэжжа.

Тут, пад Аю-Дагам, мне прышлося адчуць на сабе, што такое ціск. На далёкім дне слаба бялеў нейкі невялікі прадмет. Мне захацелася яго дастаць, і я нырнуў.

Яшчэ пры першых спробах апускання пад ваду я паспрабаваў нырнуць на глыбіню каля сямі метраў. Першае маё адчуванне — гэта моцны боль у вушах і ў ілбе. Паступова я прывык апускацца на гэтую глыбіню і не адчуваў ужо такога болю. Але ціск на вушы яшчэ адчуваўся, хоць я навучыўся рабіць пад вадой глытальныя рухі, неабходныя для таго, каб выроўніваць ціск у лёгкіх, здаўленых вадой, і ў сярэднім вуху. Больш сціснутае паветра, якое паступова паступала ў поласць вуха, ахоўвала перапонку ад лішняга расцяжэння.

Якімі-небудзь затычкамі для вушэй я не карыстаўся. Той грубы матэрыял, які меўся пад рукой, амаль не аслабляў ціску і мог пашкодзіць вуха. Між іншым, лаўцы рапанаў (на Чорным моры з'явіўся і такі «промысел») карыстаюцца вушнымі затычкамі з ваты і пласціліну.

Пасля некаторай трэніроўкі я мог ныраць на чатыры-пяць метраў шмат разоў і галава ў мяне пасля гэтага не балела. Глыбіню я вызначаў пры дапамозе доўгай пікі, а ў адкрытым моры — паднырваючы пад днішча нашага карабля.

Тут, ля Мядзведзь-гары, я не мог дакладна вызначыць, на колькі метраў апусціўся пад ваду, але ведаю, што маё доўгае кап'ё ўкладвалася ў гэтую адлегласць некалькі разоў. Пасля гэтага ныРца ў мяне з носу моцна пацякла кроў, і на працягу трох-чатырох дзён я не мог апусціцца пад ваду нават на два метры. Зноў пачынала ісці з носу кроў і моцна балела ў вушах. Я зразумеў, якога спачування заслугоўваюць шукальнікі жэмчугу.

Праз тыдзень, калі я добра адпачыў, я зноў апускаўся пад ваду на 7—8 метраў, але цяпер ужо не адчуваў такога болю, як тады, ля Аю-Дага.

Ахвота — горш за няволю, і таму, каго вабіць да сябе чароўная сіла падводнага царства, прыдзецца адчуць не толькі боль у вушах, але і пранізлівы, нібы запаўзаючы ў душу холад, які, хочаш не хочаш, але трэба пераносіць. Ад падводнай прыгажосці не можна адвесці вачэй, заманлівыя, як міфічныя русалкі, рыбы распальваюць паляўнічы азарт; мора моцна трымае плыўца, не пускаючы яго на бераг. І нярэдка, перасседзеўшы ў вадзе, ты дрыжыш нават на гарачым крымскім сонцы.

Амаль уздоўж усяго Крымскага ўзбярэжжа, ад Севастопаля да Карадага, можна сустрэць плыўцоў у масках і ластах. Яны плаваюць у «амуніцыі» самай разнастайнай формы, маюць самую разнастайную зброю, пачынаючы ад пікі і канчаючы стрэльбай са сталёвай спружынай. Па многа гадзін сядзяць яны ў вадзе, нягледзячы на холад і частыя паляўнічыя няўдачы — захапленне любімай справай пераадольвае ўсё. Адзін ленінградскі ўрач, які вывучаў фізіялогію вадалазнай працы, запісваў усіх аматараў падводнага спорту на літару «О» — «одержимые».

Атрад «одержимых» няспынна расце. Пачалося асваенне новага для нас свету, раней недаступнага для чалавека. На гэтым шляху будзе зроблена многа цікавых адкрыццяў. Спалучэнне спартыўнага захаплення з глыбокім вывучэннем мора прынясе несумненную карысць як для саміх спартсменаў, так і для навукі. У адзін рад з падарожжамі, узыходжаннямі на горныя вяршыні, пранікненнем у падземныя пячоры становіцца вывучэнне падводнага свету, якое таксама патрабуе ад даследчыка пэўных спартыўных якасцей і фізічнай вынослівасці.

**г. Севастопаль.**

# Бібліяграфія

## ХАРАСТВО ЧАЛАВЕЧАЙ ДУШЫ

Сярод кніг, якія выдадзены ў апошні час, прыцягвае ўвагу чытача зборнік апавяданняў Івана Мележа «У гарах дажджы». Не ўсё аднолькава добра ўдалося пісьменніку ў гэтай кнізе, але з задавальненнем можна адзначыць, што кожнае апавяданне мае свой «твар», сваю душэўную інтанацыю, у кожным з іх адчуваецца вялікая любоў да людзей і добрае веданне жыцця. І калі спытаць сябе, чым адрозніваецца Іван Мележ ад іншых беларускіх пісьменнікаў, то адказ можна знайсці ў водгуку Кузьмы Чорнага пра раннія апавяданні пісьменніка.

«У вашых апавяданнях правільна дадзен аналіз чалавечай душы і добра нарысавана тыповая абстаноўка, у якой дзейнічаюць вашы персанажы...»

Гэтыя словы датычацца і пазнейшых твораў І. Мележа. Якое б апавяданне мы ні ўзялі, адразу ж можна адчуць цеплыню і шчырасць, з якой пісьменнік ставіцца да сваіх герояў. Гэтая мяккая, надзвычай пранікнёная манера абмалёўкі дасягаецца тым, што аўтар глыбока і ўдумліва падыходзіць да жыцця, усе яго праявы ацэньвае не толькі розумам, але і сэрцам.

Чым хвалюе чытача апавяданне «На скрыжаванні»? Сюжэт яго вельмі просты. Маці прыехала ў Мінск наведаць свайго сына, які да апошняга часу ніяк не мог уладкавацца ў жыцці. Усе звалі яго «шалапутным». А ці трэба гаварыць, як баліць матчына сэрца за сваіх дзяцей, за кожны іх недарэчны крок у жыцці! І вось старэнькая даведваецца, што сын яе служыць у міліцыі. Яна хоча хутчэй пабачыць яго: які ж ён цяпер? І перад яе вачамі разгортваецца такі малюнак: «Пасярэдзіне праспекта, між двух радоў машын, што імчаліся ў абодва бакі няспыннай плынню, стаяў невысокі чалавек. Ён стаяў спіной да старой, быў у белай летняй міліцэйскай форме, у бліскучых ботах, у фуражцы з чырвоным акалышам, з сумкай на баку — нейкі незнаёмы ў новай сваёй вопратцы, але маці па тым, як ён трымаў галаву, па тонкай загарэлай шыі, па сваіх, адной ёй вядомых прыкметах, пазнала, што гэта ён. Сын! Трахім!»

Пісьменнік вельмі дасканала перадае не толькі настрой жанчыны, але і ход яе думак, усю яе псіхалогію:

«Каб ён быў міністрам, яго ўлада, яго аўтарытэт не маглі б уразіць больш. Там права і сіла чалавека выяўляюцца не так яскрава і проста, не з такой нагляднасцю. Тут жа ўсё на віду. Дзесяткі людзей падпарадкоўваліся кожнаму яго руху, выконвалі кожны яго загад».

Маці была так узрушана, што ёй здавалася, быццам і пешаходы, і вокны дамоў, і сіняе высачэзнае неба без хмарынкі — усё глядзіць на яго, на Трахіма. Ад радасці ёй захацелася плакаць.

І чытач разам з маці радуецца за Трахіма, які, нарэшце, знайшоў сваё месца ў жыцці.

А вось другое апавяданне, назва якога дадзена ўсяму зборніку — «У гарах дажджы». Не, нездарма назва гэтая красуецца на вокрадцы! Аб прыгожым, аб цудоўным абліччы савецкага чалавека расказваецца ў гэтым апавяданні.

Нялёгка бывае разгадаць чалавека, не адразу раскрываецца яго характар. Але як дружба пазнаецца ў

Іван Мележ. У гарах дажджы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1957.

бядзе, так і чалавек правяраецца толькі ў выпрабаванні.

Першае знаёмства старшага сяржанта Запары з Макоўчыкам было не ў карысць апошняга. Амаль кожны раз вочы старшага сяржанта з непрыхільнасцю заўважалі, што апошнім з каня злез, апошнім, перавальваючыся, падаўся да гарматы Макоўчык.

І няўцям Запары, што не знешнія, не паказныя ўчынкі характарызуюць чалавека, што нельга па некалькіх знешніх рысах складаць канчатковае меркаванне аб ім. І Запара хутка меў магчымасць упэўніцца ў сваёй памылцы ў дачыненні Макоўчыка. Калі ў часе стыхійнага бедства вада заліла лагер і ў спешцы забыліся пра каня, які быў прывязаны ланцугом да дрэва, не хто іншы, як Макоўчык, кінуўся ратаваць жывёліну ад смерці. Ён не ўмеў плаваць, яму пагражала смяртэльная небяспека, але разуменне абавязку было вышэй за ўсё. Макоўчык скочыў у вір. Пісьменнік умела і пераканаўча малюе стан байца ў барацьбе са стыхіяй: «Сэрца ў яго захлыналася, у роце было поўна вады, але Макоўчык не спыняўся. Усхваляваны, распалены барацьбой, пеpaжытым, ён толькі ашалела агледзеўся, каб вызначыць, дзе адсюль Арол (так звалі каня. — **І. П.**), і кінуўся ў той бок».

Прачытаўшы гэта апавяданне, яшчэ раз пераконваешся, што савецкі чалавек здольны на вялікі подзвіг.

Пісьменнік ставіць сваіх герояў у вельмі складаныя абставіны, з якіх адны выходзяць душэўна моцнымі людзьмі, другія — губляюць сваё чалавечае аблічча. На такіх складаных сітуацыях пабудавана апавяданне «Спатканне за горадам».

Аля, маладая, прыгожая дзяўчына, пакахала жанатага чалавека, на многа год старэйшага за яе. Ён прыняў яе каханне, як нешта само сабой зразумелае, нікольві не задумаўшыся над тым, што можа з гэтага атрымацца. Аля пакахала яго горача, самааддана, усёй душой. Яна лічыла яго геніем... Што ж, юнацтву можна даравацъ памылкі, але яго часам трэба і перасцерагчы. Не было каму перасцерагчы Алю, сказаць ёй, што Леанід не геній, а хлус і баязлівец, які карыстаецца выпадкам браць ад жыцця як мага больш, не даючы яму ўзамен нічога.

Леанід разгубіўся і спалохаўся, даведаўшыся, што Аля чакае ад яго дзіця. Не, толькі не гэта! Ён не можа ажаніцца з ёю: у яго ёсць сын Валодзька і жонка Таня, з якой некалі здарылася тое ж, што з Аляй. Тады, не раздумваючы, ён ажаніўся, але цяпер... І трэба ж так здарыцца: гэта ж было так хораша, радасна, а цяпер... Што рабіць, ён не ведаў, ды і рабіць нічога не хацелася. «Аля перастала плакаць, выцерла незадаволена слёзы, злуючыся на сябе, павольна папpaвіла валасы. Сказала сумна:

— Нам, здаецца, няма чаго больш гаварыць, — Яна заўважыла, што Леанід намерыўся праводзіць яе, і з нянавісцю дадала: — Не трэба!

І пайшла па сцежцы, стомленая, сумная, строгая».

Так, Аля пасталела, яна атрымала жорсткі ўрок. У яе, маладой дзяўчыны, ад перажытага гора — ерэбным павуціннем працяла валасы. Цяпер доўгія гады яна будзе злаваць на жыццё. За што? За тое, што ёй трапіўся на шляху дрэнны чалавек.

І ўсё ж, прачытаўшы гэтае апавяданне, адчуваеш нейкую незадаволенасць. Застаецца незразумелай аўтарская пазіцыя. Малюючы вобраз чалавека лёгкадумнага, агіднага па сваёй сутнасці, пісьменнік сочыць за яго ўчынкамі з прыхільнаю ўсмешкаю, нібы любуецца ім. Такі чалавек, як Леанід, заслугоўвае больш суровага маральнага асуджэння.

Найбольш поўна раскрываецца псіхалогія савецкага чалавека ў апавяданнях «Дом пад сонцам» і «Край, які любіш».

Народ-пераможца, народ-стваральнік праслаўляецца ў гэтых апавяданнях.

Вобраз Васіля Зыбіна з аповесці «Край, які любіш» — гэта сапраўдны помнік душэўнаму хараству камуніста, актыўнага барацьбіта за шчасце чалавецтва.

Іменна такім і паўстае перад чытачом вобраз Васіля Цімафеевіча Зыбіна. Трапіў ён у Беларусь з Урала. Ваяваў супраць нямецкіх захопнікаў на беларускай зямлі, партызаніў у беларускіх лясах і застаўся пасля вайны працаваць у райвыканкоме каля Мінска. Аддаваў усе свае сілы на аднаўленне разбуранай гаспадаркі. І хоць палюбіў ён гэты гасцінны край, хоць ажаніўся з беларускаю, але ірвалася яго сэрца на радзіму, у Тагіл, да станкоў. І часам сумна-сумна рабілася яму, калі ўспамінаў, што бацька памёр, так і не пабачыўшы сына, што і маці таксама бывае вельмі цяжка без яго. Рашыў было прасіцца, каб перавялі на радзіму, але кадры патрабаваліся тут, і партыя распарадзілася інакш — паслала на Мінскі аўтамабільны завод выхоўваць маладых спецыялістаў. І пайшоў Васіль Цімафеевіч на самы цяжкі ўчастак выцягваць яго з прарыву. Толькі недзе ў глыбіні душы затаіў настойлівае жаданне: вось наладжу тут справу — і тады ўжо з чыстым сумленнем паеду ў Тагіл, пакінуўшы сабе добрую замену.

Але не паехаў Зыбін у Тагіл. Цяжка было рашыцца пакінуць гэтае, стаўшае родным, месца, дзе пакладзена гэтулькі сіл і працы. Параднела яму Беларусь. І застаўся ён тут назусім. А каб не балела сэрца па родных мясцінах, каб не дакарала сумленне, прывёз у свае працоўныя харомы і маці — няхай гадуе ўнукаў, старэнькая!..

Апошнія дзесяткі старонак зборніка займаюць дарожныя нататкі пісьменніка аб паездцы ў Чэхаславакію і падарожжы вакол Еўропы на цеплаходзе «Пабеда». Разам з пісьменнікам чытач наведвае Швецыю, Галандыю, Францыю, Італію і іншыя краіны Еўропы. І ўсюды адчувае моцныя поціскі рук, бачыць радасны бляск вачэй, чуе шчырае сардэчнае слова дружбы.

Закрыта апошняя старонка.

Новы зборнік характарызуе Івана Мележа як майстра псіхалагічнага партрэта, як удумлівага мастака.

**І. ПАЎЛЮКОЎСКІ.**

## ПАРТЫЗАНСКАЯ СЛАВА

З часу другой сусветнай вайны Беларусь увайшла ў гісторыю як краіна-партызанка, краіна мацнейшага партызанскага руху. Ва ўсіх кутках зямнога шара пачулі мужны голас беларускага народа, які ўзняўся на барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Працавіты і мірны народ Беларусі ў цяжкую гадзіну стаў народам-змагаром, народам-мсціўцам.

Вечна будуць шумець нашы лясы партызанскаю славаю, вечна застанецца ў гісторыі старонка гераічнай барацьбы беларускага народа з чужаземнымі захопнікамі. Наша літаратура, як люстра жыцця, навечна адлюстравала малюнкі велічных баёў, паказала і праславіла герояў небывалага па сваіх маштабах усенароднага змагання. «Векапомныя дні», «Глыбокая плынь», «Лясныя салдаты», «У агні», «Мінскі напрамак», «Партызанскі край», «Згуртаванасць», «Людзі асобага складу», «Сябры-таварышы» — вось творы, напісаныя нашымі пісьменнікамі пра героіку партызанскай барацьбы.

У шэраг з гэтымі кнігамі стаў яшчэ адзін новы твор — выйшла ў свет кніга Георгія Шчарбатава «Шумелі пушчы». Былы партызан, Г. Шчарбатаў добра ведае жыццё і баявыя будні народных мсціўцаў.

Дзеянне аповесці разгортваецца вакол партызанскага злучэння генерала Бярозіна. Сюжэт просты, узяты непасрэдна з жыцця. У штаб партызанскага злучэння сувязістка з Мінска прыносіць важныя весткі. Гаўляйтэр фон Готберг, які змяніў адпраўленага на той свет Кубэ, даў Гітлеру абяцанне знішчыць паўднёвую групіроўку партызан у раёне Слуцк — Старыя Дарогі.

Штаб партызанскага злучэння прымае хуткія захады, каб прарваць блакаду і вывесці з жалезнага кальца ўсіх партызан і мясцовае насельніцтва, узятае ім пад апеку.

Бамбардзіроўкі, дэсант, блакада і яе прарыў — вось этапы, на якіх спыняе ўвагу пісьменнік. Пабочныя сюжэтныя лініі аповесці — каханне Віктара Таміліна і Ніны Ляльчук, засылка правакатараў Палына і Сяміздрава, фактычнае дэзерцірства камандзіра брыгады Шуста, трагедыя жонкі і дзяцей аднаго з камандзіраў брыгады Дулебы — не атрымалі належнага развіцця і не перараслі ў шматзначныя самастойныя часткі твора, а засталіся як бы дапаможнымі эпізодамі. У першую чаргу, гэта тлумачыцца памерамі твора, які не выходзіць за рамкі аб'ёму сярэдняй аповесці. Але закранутага матэрыялу даволі для таго, каб разгарнуць на яго аснове і больш шырокае палатно. Нажаль, пісьменнік не паспеў ажыццявіць такой задумы. Заўчасная смерць спыніла яго творчую працу амаль у самым пачатку, калі талент Г. Шчарбатава пачынаў раскрывацца і набіраць сілу. Гэта, у прыватнасці, відаць на апавяданнях, змешчаных у названай кнізе, але аб гэтым будзе гутарка ніжэй.

Найбольш яркія вобразы аповесці — гэта камандзір партызанскага злучэння Бярозін, Ніна Ляльчук, камбрыгі Пушча, Палаўчэня, Дулеба. Характары іх даволі выразна індывідуалізаваны. Яны надзелены жывымі рысамі людзей новага пакалення, выхаванага на ідэях камунізма.

---

Георгій Шчарбатаў. Шумелі пушчы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1957.

Ніна Ляльчук, у мінулым студэнтка педагагічнага інстытута, уключаецца ў барацьбу па першаму слову свайго старэйшага таварыша. Яна разумее, што гэта небяспечная барацьба, поўная нечаканасцей і рызыкі, але пачуццё абавязку перад Радзімай яна ставіць вышэй за ўсё. Дзякуючы веданню нямецкай мовы, яна пранікае ў асяроддзе вышэйшага камандавання нямецкіх войск і здабывае важныя звесткі. З вялікімі цяжкасцямі і прыгодамі яна дастаўляе іх у партызанскі атрад і гэтым самым выратоўвае ад гібелі многіх людзей. У цяжкі момант атакі, калі партызаны выбіваліся з сіл, Ніна Ляльчук апошняй гранатай прымушае замоўкнуць варожы кулямёт. Чыстай і вернай застаецца яна і ў каханні. Раз дадзенае слова для яе з'яўляецца законам жыцця, і здрадзіць яму — значыць адрачыся ад усяго святога.

Трагічны лёс у гераіні аповесці Антаніны Мікалаеўны Дулеба. Па дарозе на партызанскі аэрадром яна трапіла ў засаду і разам з малымі дзецьмі апынулася ў лапах ворагаў.

Толькі наш чалавек, выхаваны ў духу абавязку перад грамадствам, можа вынесці тое, што выпала на долю Антаніны Мікалаеўны. Яе прымушаюць паказаць, дзе знаходзіцца штаб партызан, але яна маўчыць. У яе на вачах фашысты закатавалі яе малое дзіця, але і пасля гэтага яна не назвала месца, дзе знаходзіўся атрад.

Г. Шчарбатаў не абмежаваўся паказам сіл аднаго боку. У яго аповесці мы сустрэнем некалькі тыпаў фашысцкіх афіцэраў. Адмоўныя вобразы не пазбаўлены індывідуальных рысаў, характэрных для чалавека буржуазнай маралі. Яны выступаюць як заваёўнікі, для якіх гэты край і яго людзі — іх уласнасць, іх вотчына. Агнём і мячом хочуць вынішчыць яны ўсіх непакорных, устанавіць уладу палкі і штыка.

Готберг, Фогель, Ром — ярыя фашысты, гэтага нельга аспрэчваць. Але тут пісьменнік адыходзіць ад той традыцыі, якая адзін час была ў модзе: паказваць адмоўных персанажаў прастакамі і наіўнымі людзьмі. Нямецкія акупанты паказаны ва ўсім іх непрыглядным выглядзе: у вайну кожны салдат марыў стаць афіцэрам, афіцэр — генералам, а пасля перамогі над бальшавікамі ўсе яны думалі набыць абяцаныя фюрэрам маёнткі на нашай зямлі. У іх былі мары самых звычайных каланізатараў. Жорсткасць і бяздушнасць у адносінах да падначаленых, нізкапаклонства і падлізніцтва перад вышэйшым начальствам, сляпое выкананне ўсіх загадаў — вось крэда гэтых лемаў, таўбе, фогеляў, ромаў і да іх падобных. Для дасягнення сваёй мэты яны не грэбуюць самымі ганебнымі і амаральнымі сродкамі. Яны гатовы, як Фогель, знішчаць жанчын, дзяцей і наогул усё жывое ў гэтай чужой для іх краіне.

Але караючая рука народных мсціўцаў разбіла ўсе іх мары: яны заплацілі сваім жыццём і сваёю чорнаю крывёю за пакуты і здзекі над нашымі людзьмі. Не мінулі расплаты і здраднікі народа Палын і Сяміздраў.

Такім чынам, пісьменнік паказаў, што вораг быў жорсткі і дужы, што з ім нялёгка было змагацца, бо для яго не было ніякіх пісаных і няпісаных маральных законаў, якія стрымлівалі б яго ў імкненні да пастаўленай мэты.

Робячы вывад з усяго вышэйсказанага, трэба адзначыць, што Г. Шчарбатаў стварыў багата насычаную падзеямі аповесць, намаляваў шэраг удалых вобразаў, па-свойму арыгінальна расказаў пра мужнасць нашых людзей.

Кнігу замыкае цыкл «Партызанскіх апавяданняў». Тут асабліва ярка выявілася творчая індывідуальнасць пісьменніка — назіральнасць, лаканічнасць і прастата, уменне адабраць самае характэрнае.

Закончанасцю формы вызначаюцца кароткія апавяданні «Закінуты кацёл», «Аганёк Заслонава», «Таямніца». Тут нельга нічога ні дадаць, ні адняць. «Песня пра Таню Любчанка» пранізана лірычным, элегічным элементам, яна кранае за сэрца. Апавяданне «Перамога над смерцю» — жудасны малюнак расправы фашыстаў над мірнымі людзьмі.

Датаванае сорак трэцім годам апавяданне «Камісар заставы» яшчэ даволі сырое, а яго дзеянне вызначаецца непраўдападобнасцю: стары дзед б'е дубінай немцаў, прарваўшыхся ў іх баявыя парадкі. Гэта хутчэй за ўсё гумарыстычнае апавяданне, толькі з трагічнай канцоўкай. Апавяданні, пісаныя два гады пазней, стаяць намнога вышэй па свайму майстэрству. На іх добра відаць, як вырас аўтар.

У асобе Георгія Шчарбатава мы страцілі здольнага пісьменніка-навеліста, які ішоў прамой дарогай да шырокіх палоцен — да рамана.

**Ул. ДАМАШЭВІЧ.**

# *Так яны жывуць*

Чыкагскія газеты, як і прэса ЗША наогул, поўны так званых шлюбных аб'яў. І вось адзін грамадзянін Чыкага, які начытаўся паведамленняў аб пошуках мужоў, вырашыў адказаць адразу некалькім шукальніцам. Ён пісаў жанчынам, якія далі аб'явы аб жаданні ўступіць у шлюб: «Я вельмі багаты, але вельмі непрыгожы. Аднак, калі вы жадаеце, мы можам сустрэцца». Да гэтага кароткага пісьма дадавалася фатаграфія малпы, апранутай па апошняй модзе, пры гальштуку і ў капелюшы. Трыццаць пяць амерыканак атрымалі такія пісьмы і трыццаць дзве з іх далі згоду выйсці замуж і за такога «жаніха».

* * *

У горадзе Атланта (штат Джорджыя) жонка беспрацоўнага Джорджа Чэмблі ў адным з радзільных дамоў нарадзіла сына. Бацька прышоў яе сустракаць, але маці выйшла без дзіцяці! Як высветлілася, сын зрабіўся заложнікам. За паслугі, якія былі аказаны жанчыне ў радзільным доме, муж павінны быў заплаціць 334 долары. Такіх грошай у яго не было. Уладальнік дома, які быў катэгарычным праціўнікам крэдыту, забараніў аддаваць бацькам дзіця. Ніякія просьбы бацькоў не кранулі сэрца бізнесмена. Каля месяца Чэмблі хадзіў па судах. І толькі адзін з суддзяў вынес рашэнне аб выдачы дзіцяці бацькам з тым, каб запазычанасць была вернута потым.

* * *

Як паведаміла фірма «Амерыкен мотор карпарэйшэн», ёю прынята на сталую работу група свяшчэннікаў. Пастыры павінны будуць спрыяць заключэнню кампаніяй выгадных здзелак... Ці да беднякоў тут, калі трэба тэрмінова рыхтаваць пропаведзь аб дасканаласці матораў, што выпускаюцца на заводах фірмы, ды заадно замаліваць грахі сваіх гаспадароў.

* * *

На сходзе ўрачоў у горадзе Тампэ (штат Фларыда) урач Масон Труп зрабіў паведамленне аб сваім «навуковым адкрыцці». Ён прарабіў вялікую вынаходніцкую работу і прышоў да цвёрдага пераканання, што калі б чалавек меў хвост, якім змог бы круціць, дык ён пазбавіўся б ад галаўных боляў, галавакружэнняў і іншых хвароб...

* * *

У Японіі існуе таварыства астранаўтаў. Генеральны сакратар таварыства Тарайн Кішыда выступіў нядаўна з паведамленнем для друку, дзе падвёў некаторыя вынікі дзейнасці сваёй установы. Гэтае таварыства, не абцяжарваючы сябе распрацоўкай тэорыі пытання аб міжпланетных зносінах, занялася непасрэдна практычнай дзейнасцю. Яно займаецца распрадажай зямельных участкаў... на Марсе (!). Як паведаміў Кішыда, марсіянскімі памешчыкамі стала ўжо каля васьмі тысяч чалавек. Агульная плошча прададзеных участкаў у два разы перавышае тэрыторыю Францыі. Пасля запуску другога савецкага спадарожніка перад канторай таварыства выстраілася чарга ў пяць тысяч чалавек. Цэны на ўчасткі выраслі ў пяць разоў.

Заспакойваючы кліентаў, якія спяшаліся захапіць участкі «самыя лепшыя», Тарайн Кішыда растлумачыў, што для «ўплывовых асоб ён зарэзерваваў некаторы выбар участкаў».

Новы год марсіянскія памешчыкі сустракалі ў адным з буйнейшых атэ-

ляў Токіо. Тут былі ўстаноўлены тэлескопы, у якія яны і спрабавалі разгледзець свае ўладанні на далёкай планеце. Вядома, яны як след нічога не пабачылі, і кіраўнікі таварыства вымушаны былі звярнуць іх увагу на Месяц, «паколькі ён з'яўляецца важнай станцыяй на час іх будучага касмічнага падарожжа».

Нехта з журналістаў спытаў у Кішыда, ці з'яўляецца ён сам уладальнікам нерухомасці на Марсе. «Я лічу за лепшае манапалізаваць Зямлю пасля таго, як усе людзі паедуць на Марс і іншыя планеты»,— адказаў спрытны дзялок.

* * *

Нейкі англійскі інжынер аб'явіў бязлітасную вайну... зданям. Як вядома, цені продкаў усё яшчэ сур'ёзна непакояць шматлікіх жыхароў старажытных брытанскіх замкаў. А жыхары замкаў — уладальнікі не малых грашовых накапленняў. І вось гэты інжынер падаў патэнтную заяўку на радыёлакацыйнае збудаванне, з дапамогаю якога «можна выявіць самую спрытную здань». «Вынаходца» цвёрда разлічвае на тое, што яго рахунак у банку ў самы бліжэйшы час атрымае сур'ёзнае падмацаванне.

* * *

Нехта Фрыдрых Морстэр, жыхар Вены, прадстаў перад судом за мнагажонства. Ён быў у законным шлюбе з чатырма жанчынамі. Якое ж было здзіўленне публікі, калі адвакат патрабаваў апраўдання падабароннага. Адвакат пры гэтым спаслаўся на даведку псіхіятра аб тым, што Фрыдрых Морстэр пакутуе на заняпад памяці... Вось тут і знайдзі: дзе ўрач, дзе юрыст і дзе аферыст!

* * *

У Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі ўрад забараніў фатаграфаваць «выдатных дзеячоў». Каб не было непаразуменняў, федэральны суд растлумачыў: «Выдатныя дзеячы — гэта людзі, якія якім-небудзь чынам праславіліся і атрымалі шырокую вядомасць: палітыкі, артысты, духоўныя асобы і... шматразовыя забойцы».

* * *

У Японіі вырашана «падняць аўтарытэт настаўніка». Спецыяльным цыркулярам міністэрства асветы для настаўнікаў устаноўлены мінімальны рост — 152 см. «Настаўнік павінен быць такога росту,— гаворыцца ў цыркуляры,— каб яго нельга было зблытаць з вучнем».

* * *

Французская мастачка Антуанэта Арыс вырашыла выкарыстаць у якасці матэрыялаў для сваіх прац... пазногці. Яна малюе на іх партрэты кінагерояў.

* * *

З балкона аднаго багатага дома ў Мілане выпала нейкая Ангела Беліні. Высветлілася, што гэта было зроблена без думкі аб самазабойстве, а ў час выканання вядомага «танца» рок-н-рол. «Танцуючы», Ангела Беліні ўвайшла ў такі экстаз, што не заўважыла як перамахнула праз балконную агарожу.

## Гумар і сатыра

Л. ВІРНЯ

# СЛОВА — СВЯТА

**Гумарэска**

— Хто тут сакратар камсамольскай арганізацыі? — пытаецца малады карэспандэнт.

— Я за яго! — з напускной важнасцю адказвае яшчэ маладзейшы за карэспандэнта хлопец.

— Дык можа вы мне скажаце, дзе можна знайсці Нюру Агнёву? Цэлы дзень бегаю і ніяк злавіць не магу.

— Злавіць? Ды што яна за важная птушка такая, што яе лавіць трэба? — усміхаецца хлопец. Але пільна пагледзеўшы на разгубленага наведвальніка, дадае: — Аднак не бядуйце, скончыцца абедзенны перапынак і, будзьце ўпэўнены, прыляціць сюды. Агнёва ў нас дзяўчына такая: на месцы затрымлівацца не любіць.

— О-о, я гэта ўжо добра адчуваю, — жартуе карэспандэнт.

— Дык я ж кажу: лепшыя хлопцы за ёю ўгнацца не могуць...

— А Леанід Стальмахоў? Гэты ўжо, мусіць, ад яе не адстане? Мне аб ім у раённым камітэце камсамола расказалі. Хлопец хоць малады, але такую сілу і спрыт мае!

— Ды што там! Стараецца, як усе іншыя, але... зорак з неба не хапае.

— А ці не зайздрасць у вас загаварыла, малады чалавек? — выразна ўсміхнуўся карэспандэнт.

— Не зайздрасць, а справядлівасць, — сказаў, як адрэзаў, малады чалавек. — Трэба ж быць аб'ектыўным!

— Ну, тады вы, мабыць, дрэнна ведаеце Леаніда Стальмахова.

— Як сваіх пяць пальцаў!

— Сябар значыць?

— Самы блізкі!

— Праўда? Ой, як гэта дарэчы! — узрадаваўся карэспандэнт. — Я аб ім ужо сёе-тое запісаў у сваім блакноце. Вось паслухайце:

«На камсамольскім сходзе Лёня Стальмахоў даў слова камсамольца: «Нюру Агнёву я даганю ды яшчэ і пераганю!» З таго часу і пачалося. Такое змаганне пайшло! Лёня вось-вось даганяе, нават пераганяе дзяўчыну, а Нюра нечакана так вырвецца наперад, што не толькі дагоніць, але і перагоніць Стальмахова. Ён — 150 працэнтаў плана! Агнёва — 175. Пад канец месяца аж дзве нормы выканала. А ён, як ні стараўся, усё ж трошкі недацягнуў... На нейкіх 5 працэнтаў адстаў! Але змаганне не згасла, і ён яе дагнаў». Ці правільна я апісваю ход спаборніцтва?

— Правільна то правільна, — уздыхнуў хлопец, — але ўсё ў вас, таварыш карэспандэнт, неяк лёгка атрымліваецца: «не дагнаў», «адстаў», «дагнаў», «перагнаў!» І сыплюцца ў вас гэтыя працэнты, нібы гарох з дзіравай торбы. Не, браце, дагнаць Агнёву не так ужо лёгка і проста.

— А лічбы выканання плана? — горача заступіўся за Леаніда карэспандэнт. — Я ж з імі пазнаёміўся сам. У вашай бухгалтэрыі праверыў. Усё цюцелька ў цюцельку!

— Зноў лічбы! А вы паспрабавалі б яшчэ заглянуць, як кажуць, у душу. Праўда, тое, што робіцца на душы чала-

века, у бухгалтарскія кнігі не заносіцца. На арыфмометрах яшчэ не навучыліся падлічваць, колькі у каго гэтых самых душэўных якасцей ці які працэнт пачуццяў...

— То-та ж і яно, — уздыхнуў карэспандэнт, — думкі ці, як кажуць, унутраны свет чалавека падліку не паддаецца. І заўважце, якраз тыя людзі, якія добра справу робяць, асабліва словамі не раскідаюцца. Вы думаеце, лёгка мне будзе выцягнуць патрэбныя словы, напрыклад, у той жа Нюры Агнёвай, ці хоць бы ў вашага сябра Стальмахова? Ды як ты другому ў душу залезеш, калі патрэбнае слова часам і абцугамі не выцягнеш? Відаць, давер'я не заслугоўваю. Яшчэ малады. — Сказаўшы гэта, карэспандэнт зноў цяжка ўздыхнуў.

— А Стальмахоў, ведаеце, такі, што мог бы вам усё расказаць, — шчыра прызнаўся хлопец.

— І не дзіва, ён жа, вядома, жывы чалавек.

— Пакуль што жывы, — заспакоіў карэспандэнта хлопец. — А ці можаце вы ўявіць гэтага самага жывога чалавека, які не жывы стаіць перад ёю?

— Магу. Ды з кім гэта, зрэшты, не бывае?

— Дык вось. Стаіць ён, небарака, перад дзяўчынай, нейкі разгублены, нерашуча топчацца на месцы, сарамліва апускае вочы і быццам не сваім голасам пачынае мармытаць нешта накшталт гэтага:

— Слухай, Нюрачка, а ці магу я з табой сустрэцца?

— А чаму ж не? — хітра ўсміхаецца яна.

— Дык калі ж тое свята будзе?

— А яго не так ужо доўга і чакаць. Сачы, хлопча, за календаром. Там усе даты і святы адзначаны.

Хлопец, скажу я вам, проста акрыяў. «Хутка ж Першае мая!» — падумаў ён.

— А вас, мне здаецца, неяк вельмі блізка кранаюць сардэчныя справы Леаніда, — з хітрай усмешкай кажа карэспандэнт.

— А што, я бессардэчны які? Дык вось слухайце: набраўся хлопец смеласці і ўжо зусім натуральным голасам пытаецца:

— Дзе ж мы з табой, Нюрачка, прызначым спатканне?

— Ой, які нясмелы хлопец, — смяецца, аж заліваецца дзяўчына, — недарма ж у хвасце пляцецца.

І от уявіце. Леанід — заўсёды такі ўпэўнены і, у парадку крытыкі скажам, трохі нават самаўпэўнены, тут зусім разгубіўся. А яна, убачыўшы гэта, жыганула сваімі гарэзлівымі вочкамі і сказала, як адсекла:

— Сустрэнемся з вамі (заўважце, перайшла ўжо на «вы») ведаеце дзе? Ву-унь там! — і тыцнула пальцам у той бок, дзе красуецца Дошка гонару.

— Ну, тады трымайцеся, таварыш Агнёва! — перайшоў раптам на «вы» і ён. І ў гэтым «трымайцеся» выразна адчуваўся паграджальны тон.

— Трымаемся! Не турбуйцеся, калі ласка, паважаны таварыш Стальмахоў! Без падпорак абыходзімся. — Дзяўчына спакойна папраўліла сваю стракатую хусцінку, з-пад якой выбіваўся ваяўнічы рыжы чубок, і неспадзеўкі дадала: — А дарогу да «Дошкі гонару» вы хоць ведаеце? Мне здаецца, што вы ні разу там яшчэ не былі.

Хлопец, збіты з тропу, прамармытаў:

— Бывайце, таварыш Агнёва!

— Да хуткага спаткання, Леанід Бацькавіч! — жартаўліва памахала яна ручкай і пасля крыкнула яму наўздагон: — Жадаем поспеху!

— А ўсё-такі здорава вы перажываеце за свайго сябра! — заўважыў карэспандэнт, а сам падумаў: «Ці не закруціла тая Нюрка галаву і гэтаму хлопцу?»

— Хочаце, я вам пакажу гэтае месца спаткання, — прапанаваў хлопец.

— А яно ўсё-такі адбылося? — зацікавіўся карэспандэнт.

— А як жа! Вось якраз там праз нейкіх 5—10 хвілін мы з вамі сустрэнем і Нюру Агнёву...

— А Лёню? Мне ж трэба і з Стальмаховым пагаварыць.

— За гэтым справа не стане. Ён у нас такі гаваркі! Ды вы самі хутка ў гэтым упэўніцеся.

«Дзіўна, то ён яго хваліць, то ганіць», — думае карэспандэнт.

...Ішлі яны па заводскаму двару. Карэспандэнт раз-по-разу спыняўся, запісваў у свой блакнот. Ды, зрэшты, было што запісваць. Пярэдадзень свята. Прыгожа афармленыя дыяграмы расказвалі аб росце завода. Над заводскімі варотамі метровымі літарамі гараць словы: «Паўгадавы план перавыкананы да 1-га Мая!» Першамайскія лозунгі... Сцягі... Транспаранты... Усюды чырвань, як мак цвіце...

— Вунь бачыце? «Дошка гонару»!

— Бачу, — адказвае карэспандэнт. І зноў хуценька запісвае:

«Над Дошкай гонару трапеча мноства маленькіх сцяжкоў. Нібы чырвонымі крыльцамі, яны ветліва махаюць партрэтам праслаўленых перадавікоў і наватараў вытворчасці».

— Даруйце, таварыш карэспандэнт, а вы на спатканне калі-небудзь спяшаліся?

— Даводзілася. Але цяпер я ўжо застрахаваны ад гэтага: нядаўна ажаніўся.

— Ну, дык цяпер вы і ўявіць не можаце, што гэта значыць: час ідзе, — хлопец з нецярпеннем паглядае на гадзіннік, хмурнее і нават злуе...

— І аб гэтым ён з вамі падзяліўся? — усміхаецца карэспандэнт. — А наогул я ад душы спачуваю яму.

— Не спяшайцеся з вашымі спачуваннямі, а слухайце далей. Раптам чуюцца за спіной яе крокі і звініць яе голас:

— На гэты раз, Лёня, вы мяне абагналі!

— Як гэта абагнаў? У вас дзве нормы і ў мяне дзве.

— Не, вы мяне тут перагналі — раней усё ж такі за мяне прышлі, — усміхаецца дзяўчына.

— Дык я ж слова даў. А маё слова..,

— Свята!

— А твае?

— Маё? — яна неяк дзіўна, але зусім ужо не гарэзлівым позіркам паглядзела і...

— Што «і»?

— І... нічога не сказала!

— Ды пакажыце ж мне хоць яе партрэт.

— Партрэт? Дык вось жа яна сама! — радасна ўсклікнуў малады чалавек, паказаўшы на рухавую высокую дзяўчыну, якая набліжалася сюды.

Нюра падышла, не зважаючы на карэспандэнта, са спагадай зірнула сваімі вялікімі быстрымі чорнымі вачыма на хлопца і зусім нечакана залілася смехам.

— Ой, людцы добрыя, паглядзіце на яго, — праз смех кажа яна, — з рання да змяркання стаіць тут і любуецца партрэтам!

— Чыім партрэтам? — запытаўся карэспандэнт.

— Ды мабыць жа сваім... Вось ён, глядзіце: на пярэднім плане красуецца!

Карэспандэнт нібы прырос да «Дошкі гонару». Пільна ўглядаецца ён у партрэт здаецца зусім знаёмага яму маладога чалавека і ўголас чытае: «Леанід Фёдаравіч Стальмахоў».

— Стальмахо-о-оў?! — крыкнуў ён так, быццам адкрыў новую планету. Доўга разглядае ён другі партрэт і яшчэ гучней чытае: «Ганна Іванаўна Агнёва».

— Арыгінальна, вельмі арыгінальна! — шэпча ён. І, паглядзеўшы, нібы толькі што ўбачыў Леаніда, стукнуў сабе па ілбе: — Ой жа і дурань!.. Выбачайце, гэта я ў парадку самакрытыкі. А ты, Лёня (таксама перайшоў на «ты»), аказваецца, і сапраўды арыгінал.

— А вы думалі: копія нейкая? — з гордасцю запыталася Нюра.

— Дык што ж гэта ты мне за «дзень цудоўных падманаў» наладзіў? — наступаў на Леаніда карэспандэнт. — І камсамольскім сакратаром аб'явіўся, самазванец гэтакі, і сябрам Стальмахова назваўся?

— Я ж і сапраўды сёння за сакратара — дзяжурны член бюро ў камітэце камсамола. А тое, што другам Леаніда назваўся, дык я ж яму не вораг.

— Нічога, — ляпнуў па спіне Леаніда карэспандэнт, — затое я цяпер добра засвоіў, што такое «слова—свята»! Праўда, Нюра?

— А як жа? Леанід словы на ўзвей вецер не пускае.

— А ты? — запытаўся Леанід.

— Сам ведаеш...

Пры гэтым карэспандэнт добра бачыў, як у яе вачах бліснулі вясёлыя і разам з тым вельмі пяшчотныя агеньчыкі. Ён не ўтрымаўся і зноў выхапіў блакнот.

«А наколькі вялікае гэта для Лёні і Нюры свята, — пісаў ён, — можна было прачытаць на іх тварах».

## ЗМЕСТ



**Галоўны рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**